# ПАЭЗІЯ

## МАРЫЯ БАРАВІК

*У ТВОРЧЫ ЗАПАВЕТ*

### Тут узыходзіла Радзіма

Дождж зашуміць на ўцеху людзям;
За промні схопіцца трава…
Асвежыць вусны кожны люцік,
Каб сонцу вейкі цалаваць.

На Перадолы еду міма
Прывіднай хаткі і зары.
Тут узыходзіла Радзіма,
І Бог аб гэтым гаварыў

Праз маму, малітоўным словам —
З крынічкі неўміручай мовы —
Устоем таты супраць зла.
Я з іх мелодыі расла.

Шукаю Мазнева прыкмету —
Бяжыць пытальнік па зямлі



**МАРЫЯ БАРАВІК**

Родам з Падсвільшчыны (в. Праабражэнка Глыбоцкага р-на), жыве ў Падсвіллі. Аўтар паэтычных кніжак «Поле долі», «Вір пяшчоты і журбы», «Зорка гасцюе ў месяца», «На вас глядзіць мая душа», «Камень смутку» і інш. Напісала творы для дзяцей у розных жанрах. Перакладала п’есы для Беларускага дзяржаўнага тэатра «Лялька». Вядомая таксама як журналіст, аўтар шматлікіх артыкулаў, эсэ і інш. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Пра нараджэнне мамы летам
У бураках на той раллі…

Прыйшоў — не здарыўся зазімак.
Хутчэй, паэтка, запішы,
Як у табе расла Радзіма
І дух, народжаны ў душы.

## Са спадчыны змагальнай

Дождж зашуміць зямлі на грудзі;
За промні схопіцца трава.
Пра тату раптам думку ўзбудзіць —
Пра дух той, які ў ім трываў.

Успышкай нерва, слова, гуку
Ён ясна з’явіцца ўва мне,
Сардэчным адзавецца стукам
І праўдай розум закране.

Быў на арэшку не міндальным
Яго характару настой.
Увесь са спадчыны змагальнай
І зразумелы мне адной.

Ён — рэха ў баравічным лесе,
Бляск у маланкавым агні,
Легенда Перадол і песня
Мая ў душэўнай глыбіні.

## Душа як поўня

Дождж зашуміць зямлі на грудзі;
За промні схопіцца трава.
Ніколі рук яе не будзе,
Вачэй, каб ласкай саграваць.

А быў жа ўздых балючы мамін:
«Каб так, як доля, расказаць,
Напэўна, раскалоўся б камень,
І выцекла б з яго сляза».

Дык маміна душа як поўня.
Дык ласка сонейкам з яе.

Уся — мелодыя. Як помню:
Шчабеча птушкай і пяе.

Дык слову не хапае сілы:
Дзе ж ёсць адценне — прымяніць,
Заззяць у свет пра вобраз мілы,
Як ейны дух у прамяні?

## Як бы знік з палёту

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава…
Ён думаў: «Як мяне не будзе,
Тады й паспеюць гараваць».

І браў баян, апошняй сілай
Служыць цярпенню прымушаў.
У ім таемна галасіла
Боскамаральная душа.

І ззяла з музыкі святое,
Прысутнае ва ўсіх ладах
І неразмоўнае з бядою,
Што меў ён з сэрца перадаць…

Здаецца, як бы знік з палёту.
У сэрцы плача слова «брат».
Баян маўчыць. Няма яго там.
І чэрвень нібы лістапад.

## З кім мне згадаць?

Дождж зашуміць зямлі на грудзі;
За промні схопіцца трава…
На тым падворку сон разбудзіць,
Дзе ў плыні юнай галава.

І крылы выраслі у мамы,
Хоць, нібы пчолка, ля зямлі:
Яе сынок без тэлеграмы
З’явіўся, сонца запаліў.

Паяльны вогнік сцішыў тата,
Увесь кранууўся, як рака…

І я падскокваю ля брата
У новенькіх чаравіках.

З кім жа цяпер згадаць пра гэта?
Скажы мне, шэрая зіма!..
Жылі-былі жар-птушкі летаў.
Былі ручныя. І няма.

## Па-боску вы перадавалі…

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава…
За сэрца — боль. Пячэ і студзіць;
І ўсё бялее галава.

У думніцы захаладала.
Мароз і снег як на куццю.
Але душа ў сняжынках талых
Даверылася пачуццю.

Як тата ў сумнасці, бывала,
У зарыфмованым лісце
І падсамотненым нямала
Да сына шчырасцю гусцеў.

Раднюткія з заціхлай далі!
Я дзячу сёння адкрыццю:
Па-боску вы перадавалі
Мяне настаўніку-жыццю.

У змесціва не залатое.
Скразнік яго мяне працяў.
Але не выдзьмуў ён святое:
Любоў да вас і да жыцця.

Вы мне не збудавалі замак,
Вясёлкавыя тата, мама,
Дык вырасцілі боскі дух,
Каб не забіў вясёлку Дзьмух.

## Не проста так жылі-былі

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава…
Ніхто мне памяць не астудзіць
Пра родных і любімых вас,

Якія скарб душы пранеслі —
Не проста так жылі-былі:
З вас шчодрыліся словы, песні,
Прыдумкі, жарты, як чмялі.

Вы ззялі колерамі слова,
Вачмі з-пад блікаў акуляр.
Маршчынкі гаварылі, бровы;
Свабодай зіхацеў ваш твар.

І часам зіхацелі слёзы
(А маміны дык найчасцей).
Адкрыты і сігнальны розум
Ляцеў спагадай да людзей.

## ...Аж скача хатка

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава…
У згадку да мяне, у студзень,
Вясну сам Бог накіраваў.

У родны свет, у край мастацкі;
Зірну назад — пабачу сны:
Мне мама лепіць з гліны цацкі
У творчым полымі вясны…

Бярэ гармонік-цацку татка
Ці, як прыедзе, мілы брат,
Дык у вачах аж скача хатка,
Як нашы ногі акурат.

Такі гармонік шле паклікі
У вушы хатаў пушчаўскіх.
Тапырыць іх абшар вялікі —
Растуць душой Баравікі.

Каб не вайна, мы пры гасцінцы
Жылі б і мелі нейкі хлеб.

І быў бы рады той скарынцы —
Зайшоўся б і да нас Язэп.

Бо ён на гукі светлай гамы
Ішоў бы стрыманай хадой;
Ягоны пэндзаль вобраз мамы
Схапіў бы, юнай, маладой.

Якраз такой, як ранак-ружа
У шчабятлівы веснавей:
Як толькі-толькі вока мружыць,
Ужо цяпло страсае з вей.

## Яго апошняя вандроўка

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава…
Язэпаў дух шукальны будзе
І па нашчадках вандраваць.

Во да мяне з'явіўся «дзедам»
Праз Вольск, у знакавым лісце;
Пад Пунькі кіраваўся: ведаў,
Дзе думка пра яго расце.

У неба ж ён пайшоў з Падсвілля —
Язэп на зоркі, угару,
З зямлі ўглядацца абяссілеў —
У жніўна-зорную пару.

Тады апошняя вандроўка
Была між небам і зямлёй…
Ніхто не згорасціў дамоўку,
Душою не ўздыхнуў над ёй.

## Сюды й прыйшлі…

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава.
Паблізу тут — казалі людзі —
Ён з зоркамі вечараваў.

За войнамі, на смутку пожань,
Ён думкай вобразы лавіў.

І мройны сон душы прыгожай
Тут запускаў у краявід.

Быў родным полю госць прахожы
І ўсёй Радзіме не чужы.
Ды ёй паспачуваць не можа,
Бо пад пяском даўно ляжыць.

Сюды й прыйшлі, вядзём гаворку
(Свае, духоўная радня):
Як пад надпунькаўскую зорку
Яго Дзень памяці узняць.

## Натхненне

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава.
І гэты цуд не замарудзіць
Усцешыць позірк з-пад брыва.

І згадка ўсхопіцца — пастушка
Любімых вобразаў і сноў…
Ды й наспявае мне дачушка
Святых мелодый пра любоў.

Яна душу сваю раскрые
Да ззяння, з самай глыбіні.
З прыроднай шчодрасцю Марыя
Усім раздорыць прамяні.

Нястомныя адчую крылы,
Зраблю наперад лёгкі крок.
І хопіць рыфме чэпкай сілы
На кожны ўзважаны радок.

## У творчы запавет

Дождж зашуміць зямлі на грудзі,
За промні схопіцца трава…
Не можа стацца, што не будзе
Жадання кнігу адкрываць!

Што ў беларускія матывы
Ніхто душой не зазірне,

Не стане гэты верш шчаслівым —
Не спадабаецца вясне.

Не можа быць! У слове вечным,
У чалавечым — боскі дух.
Пяю мелодыяй сардэчнай,
На рану сэрца ліст кладу —

Лісток тугі і захаплення,
Што цуд — любімы белы свет.
І мы, як думныя стварэнні,
Ляцім у творчы запавет.

# ГЕНАДЗЬ БАРЫСАЎ

* * *

— Махровыя Махно, хаўрус адзін —
«Зялёны дуб» ці Юркі Монічы…
— О, колькі іх, з сялян,
Што бралі слуцкі чын:
Паўстання веснавы разліў,
Не бачыць вока берагі.
— Маўчы, вакол нас ворагі!

Як бегемотаў тых,
Ды іх не вытурыць з балот,
Насельнікі пустынь…
Заселі ў пушчах і бары.
Ды метад карнікаў — дэвіз
Як мір стары — пачын:
Ты сем'і іх,
Дзяцей малых, жанчын
Хутчэй ў закладнікі бяры.
Навечна будзе ім урок!
У нетрах газамі траві!
Ты камуніст? Узводзь курок!
Ну цымус той,
Не зоркі стынуць уначы,
А знічкамі — антонаўкі…



**ГЕНАДЗЬ БАРЫСАЎ**

Нарадзіўся 11 сакавіка 1949 г. у в. Вострава Крупскага раёна. Скончыў Маскоўскі літаратурны інстытут імя М. Горкага. Аўтар самвыдатаўскага зборніка вершаў «В порыв небесной чистоты». Падрыхтаваў да друку зборнік вершаў «Радзінная памяць». Трэнер-выкладчык СДЮШОР № 8 па шашках. Жыве і працуе ў Віцебску.

# АНТОН БУБАЛА

## На беразе душы

Ў маёй душы прылівы і адлівы:
То паміраю, то ушчэнт шчаслівы,
То сонейка дзянёк праменіць ясна,
То ночка цёмная нашэптвае: «Няшчасны…»
Паверыў бы начы, ды на павекі
Гаючы сон наводзіць свае лекі,
І разам з сонейкам устану зноў шчаслівы,
Каб перажыць прылівы і адлівы.

## * * *

Усё імкнецца да жыцця.
Чапляюцца усе як могуць.
І пад прылівам пачуцця,
Калі й не лёс — сябе б хаця,
Упэўнены, што перамогуць.
Але ж у лёсаў свой расклад:
Мо нехта і вышынь даб'ецца,
Другі ў зямлю б зарыцца рад,
А трэці ў самы зарапад
На ўзбоччы шляху застаецца.



**АНТОН БУБАЛА**

Нарадзіўся 27 кастрычніка 1942 г. у в. Гісялёва былога Асвейскага раёна. Немаўлём прайшоў праз пекла Саласпілскага канцлагера. Скончыў дзве вышэйшыя педагагічныя вучэльні: у Даўгаўпілсе (фізмат) і ў Камсамольску-на-Амуры (геафак). Настаўнічаў у школах Латвіі, у Амурску і ў родным раёне. Актыўны грамадскі дзеяч і апантаны краязнаўца, укладальнік кнігі «Памяць. Верхнядзвінскі раён», аўтар кнігі «Пуцявінамі роднага краю» (2017). Друкавацца пачаў з 1972 г. Найбольш поўна творчасць прадстаўлена ў зборніках «Бяроза над затокай» і «Паехалі!» (2012). Жыве ў Верхнядзвінску.

* * *

Сышлі снягі, а мне раллёй не пахне,
Душа ў чаканні радасці не ахне,
Сам на зямлі — як выпадковы госць.
Адно трымае: Ты на свеце ёсць.
І хоць не плачацца ўжо, не смяецца,
Ды ўспомню — і спакойна сэрца б'ецца.

## Аб'ектыў

*Валеру С.*

У аб'ектыва вока аб'ектыўнае,
Да дробязяў старанна-педантычнае:
Усё: грамадскае, вытворчае, інтымнае —
Фіксуе вынаходка механічная.
Ды трапіць толькі ў рукі закаханыя —
І свет адразу ў цуда пераменіцца,
Лагодай Боскаю зямліца ўскалыханая
Засветліцца, зайграе, запраменіцца.
Як раніцай купальскай наваколіца
Расою асвяжальнаю абмыецца —
Так сэрца радаснай надзеяй напатоліцца,
Яму Сусвет да донейка адкрыецца.
А тое вока непадкупна-механічнае
Узвільгатнее, нібы чалавечае,
Яго фланелькаю маэстра педантычнаю
Пратрэ за гэту слабасць недарэчную…

## Накцюрн

Мой парк стары — алеяў ціхіх шаты
Ды лабірынт маўклівых ручаін, —
Твой кожны кут, мінуўшчынай багаты,
Здавён нясе у сёння успамін.
Пад месяцавым бляскам светлай зданню
Паўстаў палаца сіратлівы гмах,
І сказаныя шэпатам прызнанні
Блукаюць ціхім рэхам па вяках.

## НАТАЛЛЯ ГАЛАВАЧ

*** * ***

Адбіткі вобразаў жыцця майго
Такога марафонскага
Не ведаю
Якой дыстанцыі
Пад ветрам і нахабным
І сцюдзёным
Аблокамі сплываюць мімаволі
Міма мяне самой
У вечнасць
Напэўна вечнасці
Яны патрэбны больш
Чым мне

### Блакітнае
*(з нізкі «Вясёлка»)*

Ну што ж, заходзь…
Не будзем на парозе
З табой маўчаць разгублена.
Вядома, твае змярцвелі рукі на марозе.
Няхай адыдуць.
А тады дадому.

Дый дома у цябе няма, магчыма.
Такім, як ты, належыць жыць у замку.
І хто ты, незнаёмы мне мужчына?
Чаму стаіш разгублена на ганку?



**НАТАЛЛЯ ГАЛАВАЧ**

Скончыла Віцебскае дзяржаўнае музычнае вучылішча і Беларускі ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Працуе ў дзіцячай школе мастацтваў і сярэдняй школе № 2 у г. п. Бешанковічы. Піша вершы, прозу і музыку. Аўтар кнігі «На возеры Белым» (2012). Неаднаразова выходзіла ў фінал рэспубліканскага, а цяпер ужо і міжнароднага літаратурнага конкурсу ў Мінску «Фэст аднаго верша».

Быць можа, я сама цябе з блакіту
Стварыла, як анёла незямнога,
З празрыстага маўклівага нябыту,
На Бога так падобнага замнога?

Мо вып’еш кавы горкай?
Ці гарбаты?
На жаль, вось толькі цукру я не маю.
Хоць і жыву, як бачыш, небагата,
Але ж знаёмым грошы пазычаю.

…Мне ветлівай, руплівай гаспадыняй
Цябе сустрэць хацелася з дарогі.
Калі ж тваёй я сталася рабыняй?
Рабоў не любяць велічныя богі.

* * *

Вецер.
Дождж.
Слота.
Ішоў чалавек па вуліцы.
Наўздагон за ім старасць, туга, адзінота…
А тут яшчэ вецер…
Дождж…
Слота…

## У Венецыі з Бродскім
*(парафраз на тэмы)*

Мае шпацыры з Бродскім па каналах
Венецыі самотнай і туманнай
Так значаць шмат.
І значаць вельмі мала,
Бо сварыцца за нашы стрэчы мама.

Ёй замінае розніца ва ўзросце.
Ну што там нейкіх дваццаць год ці болей?
Затое падыходзім мы па росце
І па заўсёднаму жаданню волі.

Яго і «э-э…», і «а-а…» як гук лагуны,
Як рыскі на прыціхлых водных хвалях.

Гайдаецца на іх старая шхуна,
Друкуюцца адвечныя скрыжалі.

Мне Одэна чытае ён і Фроста
У «Фларыяне».
Дольчы мы не елі.
Плануем яшчэ сёння да пагоста
На улюбёны востраў Сан-Мікеле.

Праз гукі песні тужнай гандальера,
І крыкі-стогны чаек, шоргат качак,
І дух самога Дантэ Аліг’еры,
І звон касцельны — плачам, плачам, плачам…

Што ў свет сплывуць бясконцыя нябёсы
Такім невычарпальным пульхным цудам,
І мы радкамі — вершамі ці прозай —
Гукаць аднекуль іх аднойчы будзем.

І што заўсёдны недзе тут пад горлам
Каляны ком. І ў вечным тым кружэнні
Слядкуе па пятах за намі гора,
І смерць бліжэй ужо, чым нараджэнне.

А мы ў пакутах цешым сябе казкай
Пра нейкага такога дабрадзея,
Жывём са спадзяваннямі на ласку,
На ласку, на жыццё і на надзею.

Нібыта вернуцца і вечны свет, і слава,
Удалы дзень, і будзе ўдосталь хлеба.
Нібы жыццё хіснецца крышку ўправа,
Як перад тым хіснулася улева.

Венецыя не ведае марозу,
Ёй уласціва восеньская просінь.
Але я мерзну ў крушні на парозе,
І паліць, як заўжды, зашмат Іосіф.

## НАТАЛЛЯ ГАПЕЕВА

### Я — мама

Я смотрю и опять удивляюсь,
Я никак не могу осознать…
Я не чувствую, как я меняюсь.
И уже не ребёнок я. Мать.
Да. Я — мама. Нелепая фраза…
Отношенья ко мне не имеет.
Ожидалось: другой стану сразу —
Умной, взрослой и тотчас мудрее…
Я держу на руках свою крошку,
Груз ответственный взяв не шутя.
А сама удивляюсь немножко:
Кто доверил вообще мне дитя?!
Говорят, надо дать воспитанье,
Приодеть, приобуть, прокормить.
Нужно вкладывать много стараний,
Чтобы в жизни всему научить.
Стать должна образцом эталонным —
Ведь с меня будет браться пример.
Жить картинно, но и не шаблонно,
В поддержанье отличных манер.
Только знаете что? Невозможно
Поменяться в один только миг.
Осознанья путь труден и сложен.
Жить иначе. Не так, как привык.
День за днём, шаг за шагом меняясь,
Привыкаю. Учусь и учу.
Не всё сразу. Порой ошибаюсь.
А порой ничего не хочу.



**НАТАЛЛЯ ГАПЕЕВА**

Нарадзілася 4 лютага 1990 г. у г. Віцебску. У 2012 г. скончыла філалагічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрав. Працуе спецыялістам па рабоце з кліентамі ў кампаніі «Метралайн». Вершы друкаваліся ў перыядычных выданнях Віцебскай вобласці, у літаратурных альманахах «Созвучье слов живых», «Ратуша», у зборніку «Придвинские зори», прысвечаным 100-годдзю ВДУ імя Машэрава.

Но уже тесно впаяна в мысли…
Каждый час мой в волненье о ней.
Друг от друга мы очень зависим,
И со временем только сильней.
Я не ставлю давно себе цели
Стать святой и живым образцом.
И ответственность вдруг мы сумели
Поделить пополам: мать с отцом.
В нашей жизни вдруг стало всё прочно,
Хоть намного сложней, может быть.
Ни о чём не жалеть нужно точно.
Ну а главное — просто любить.

* * *

Ты представляешь?
У неё мой взгляд…
Порой укоризненный и настороженный…
Порою лукавый до невозможности…
Порой отрешённый от всех, отгороженный…
Ты представляешь?
А у неё мой смех!
Она смеётся так заразительно…
Её мне слушать всегда упоительно…
Мой детский смех… Так удивительно…
Ты можешь представить?
Она — часть меня!
Пусть я тороплюсь, а она не спеша.
Она — полной грудью. Я еле дыша.
Но одна на двоих у нас с нею душа.

* * *

Рассвело на улице безлюдной.
Мыслей нет, но есть душа.
От тиши тоскливой и абсурдной
Едет крыша тихо, не спеша.
Фонари угрюмой дикой стаей
Заслонили от дождя моё окно.
А душа упрямится святая,
Словно ей ещё не всё равно.
Сигаретный дым опять клубится

Над прозябшим городом тоскливым.
Ничего иного не случится,
И не станет сердце вдруг счастливым.
Серый город медленно стареет,
Слёзы бьются массою бумажной.
И остывший кофе меня вновь не греет.
Мне не больно. Мне уже не важно.

* * *

Не люби меня, я любви не стою.
Не жалей меня, не нужна мне жалость.
В целом мире мы лишь с тобою двое.
На двоих весь мир ведь такая малость.
Я боюсь разбиться, стоя у дороги.
У дороги в бездну, крылья опустив.
Мы почти бессмертны. Жаль, что мы не боги.
Ты меня оставишь, так и не простив.
Я спущусь на землю. Я же не святая.
Ты же ангел. Ты сам пройдёшь весь путь.
Больше я не верю. Больше не мечтаю.
Но тебя увижу, может, как-нибудь.
Я любви не стою. Не люби, не надо.
Я едва дышу, стоя на краю.
Моя жизнь теперь уж где-то возле ада.
Ты же оставайся, как всегда, в раю.
Всё, что было раньше, забросало пылью.
Не печалься, ангел, и жалеть не надо.
Я не заслужила. Я снимаю крылья.

И заплакал ангел, сбросив свои рядом.

## АЛЕНА ГІНЬКО

### Самотная птушка

Дзіўная, незразумелая,
ад палыну ап’янелая,
з вераю, спадзяваннямі,
з вечнымі расчараваннямі.
З золкамі і змяркannямі,
стрэчамі і расстаннямі,
з лекамі і атрутаю,
вольная і закутая.
З ружамі і рамонкамі,
ціхая — надта звонкая,
добрая — і найгоршая,
горкая — найсалодшая.
Птушкаю адзінокаю
лётае і галёкае,
будзіць абшары шэрыя
болем, трывогай, вераю.
…Вечныя супярэчнасці
На раздарожжах вечнасці.

* * *

Усё заблытана…
                                        Загадка
ці нават тайна існуе.
Самота свой узор снуе…
Снуе самота свой узор,
а сэрца просіцца да зор.



**АЛЕНА ГІНЬКО**

Нарадзілася 22 жніўня 1965 г. у в. Тузбіца Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Аўтар паэтычных зборнікаў «Самотная птушка», «Пяшчота пры журбе», «Я думала душой...». Жыве ў Віцебску. Працуе выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Да зор?
Да Зорачкі-заранкі,
да светлай мары-калыханкі,
што вабіць, цешыць і хвалюе,
што ў сэрцы днюе і начуе…
Ці чуюць Зоркі нас, звычайных?
А можа, добра, што ёсць тайна?..
Дзе таямніца — там надзеі
і, дасць Бог, добрыя падзеі.

* * *

Прадчуванне блізкага дажджу —
быццам бы чаканне спавядання.
З ім хачу зацятасці іржу
змыць з душы, каб не было і звання.

Стоенасць прыроды данясе
да цябе патрэбу ачышчэння.
Ад праблем, што ўзычыў фарысей,
хочацца хоць нейкага збавення.

І калі прарве на небе гром
гэтую затоеную роспач,
ты заплачаш ліўням наўздагон,
ты з прыродаю пабудзеш поплеч.

…Вось і дыхаць стала ўжо лягчэй.
Вочы ўжо дабрэйшыя, не тыя.
Хоць на споведзь не хадзіла шчэ —
Мне цяжар з душы залева змые.

# ІРЫНА ГРУМАНДЗЬ

* * *

Белы пялёстак віёлы.
Сонечны сквер. Вясна.
Поўныя прыгаршчы промняў —
Радуецца дачка.

Кветкамі расквітнеем,
Вераю заіскрым,
Поўнае сэрца надзеі
У скверы на Страсным.

* * *

Вясновае спляценне
ўзораў
на галінках дрэў —
дыван зялёны
ў паветры
мастак павесіў,
намаляваўшы траўня
акварэль.

* * *

Горкая рэшта пасля размоў,
Бы недапітая кава…
Звужана кола старых сяброў —
Звыклая часам з’ява.



**ІРЫНА ГРУМАНДЗЬ**

Нарадзілася 29 верасня 1985 г. у Наваполацку. У 2008 г. скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура. Літаратурная работа ў газетах і часопісах», у 2009-м — магістратуру па спецыяльнасці «Літаратуразнаўства». Працавала старшым карэктарам у рэдакцыі віцебскай абласной газеты «Народнае слова», уласным карэспандэнтам абласной газеты «Витебские вести», навуковым супрацоўнікам у Браслаўскім раённым аб’яднанні музеяў. Друкавалася ў абласной і рэспубліканскай перыёдыцы, літаратурным альманаху «Ратуша» і часопісе «Верасень». Аўтар кнігі «Мая душа» (2011).

## У Селішчы

Сыплецца цэгла з касцёла Святой Веранікі…
Сонцам асвечаны вежы —
Хрыстос на зямлі…
А ўначы мармуровы анёл
збірае цаглінкі,
плача дзяўчына,
зёлкі буяюць ля вечнай красы.
У Васілёвых малюнках
і вершах дзядзькі Рыгора —
Плат Веранікі як памяць
жывога Хрыста.
Доўгай дарогай дадому
спатольвае стома.
Сыплецца цэгла з касцёла
над зоркай Рыгора ды Васіля.

## Зіма ў лістападзе

Зіма у лістападзе,
І холад нашых душаў,
Як быццам хтось слязінкі
Па снезе расцярушыў.

Блішчаць яны уночы,
А нам абы сагрэцца —
І не заплакаць вочы,
І не астудзіць сэрца.

Зіма у лістападзе,
Бялютка-снежна-ранняя,
Накінула на восень
Сукенку развітальную.

## Кроплі

Восень збірае
Кроплі дажджам,
Каб асвяціць ваду.
Ёю ўмыю рукі й вочы
Ды ў зіму пабягу.

Кропля жывая
Стане ільдзінкай,
Срэбнаю і маёй.
Хтосьці ў небе
Назваў Ірынкай
І акрапіў вадой.

## Дзісенскае

Там, дзе Дзісенка ўпадае ў Дзвіну,
Гулкай памяці звод.
У роснае раніцы патану
У жнівеньскі хрэсны ход.

І Багародзіца павядзе
Радасцю вечных сіл —
То Адзігітрыя па вадзе
Плыла пад небасхіл.

Богапрысутнасць стрэчы стрэч,
Богаз'яўленне… Шлях…
Веры людской сакральны меч
Смерці разбурыць страх.

## * * *

*Францу Сіўко*

Пах тытуню
і кава, толькі кава…
Размовы ў кулуарах
аб «Маёй душы».
Прароцтвы Вашы
творчасць прадказалі
кароткай фразай:
«Здольная, пішы!»

## ЮЛІЯ ЗАЛАТАЯ

* * *

Обещай не сниться по ночам
Моя любовь ещё не догорела
Расплавилась, как тонкая свеча,
С молитвою воскреснуть не сумела.

Есть много жизней у таких свечей.
Они напоминают о разлуке.
Невидимо пронзают сердце муки,
Прощенье на алтарь возносят с ней.

Душа в порыве страсти оживёт —
И тут же захлебнётся от потери.
Как много слёз таится в этой вере,
Которую любовь в свече несёт…

* * *

Я вернусь к тебе тёплым дождём
Под мелодию грустного лета.
В этом мире с тобою вдвоём,
Наши души любовью согреты.
Подарю тебе нежность любви
И багровые листья рассвета.
Только в сердце меня позови —
Я вернусь к тебе облаком лета.
Будет буря от злости свистеть,
Не боюсь её злого запрета.



**ЮЛІЯ ЗАЛАТАЯ**

Нарадзілася 17 верасня 1989 г. у Віцебску. У 2013 г. скончыла гістарычны факультэт, у 2017-м — філалагічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Удзельнік розных літаратурных конкурсаў, публікавалася ў перыядычных выданнях і калектыўных зборніках «Созвучье слов живых», «Придвинские зори», «Ратуша».

Лишь с тобою в любви умереть…
Я вернусь к тебе капелькой света…

* * *

Мама, я хочу вернуться в детство
И послушать, как поёт Двина.
В дом с вишнёвым садом по соседству —
Место, где всегда была нужна.

Мама, я хочу увидеть море
Так, как в детстве видела его,
И морщинки бабушки от горя,
Ощутить забытое тепло.

Мама, тяжело мне в жизни взрослой.
Я не знаю, как кого любить.
Всё простое кажется мне сложным.
Мама, помоги душе простить…

* * *

Моя душа, не плачь и не печалься,
Всему отмерен свой черёд,
Всё превратится в прах и в одночасье
В мир вечности уйдёт.

Ну сколько можно плакать над утратой?
Да, я любила, но любовь — как лёд —
Растает вмиг от жаркого дыханья
И белоснежным снегом заметёт.

* * *

Прыходзьце да касцёла, калі цяжка
Калі на сэрцы здрады камяні.
Бог веліччу сваёю узнясецца
І забярэ пакуты ў цішыні.

Прыходзьце, калі хочацца спакою,
Калі надзея памірае зноў.
Там знойдзеце вы вечнае, святое,
Ўваскрэсне з хмар сапраўдная любоў.

Пад спеў аргана прашапчу малітву
І на Распяцце з болем пагляджу.
Мая душа для дабрыні адкрыта.
Жыццёвы крыж з падзякаю нясу.

* * *

Зима… Кругом белым-бело…
Мне в эту ночь совсем не спится.
И мысли лезут, как назло, —
Мечты, которым уж не сбыться…

Зима… Какой чудной узор
Мороз рисует на окошке…
И слышен чей-то разговор,
А в тишине мурлычет кошка…

Зима… Святое Рождество…
Звезда на небе как спасенье…
Я чувствую души тепло,
Любимых рук прикосновенье.

* * *

Им никогда не быть вдвоём,
Такой урок жизнь подарила…
Но их сердца горят огнём.
Любовь — неведомая сила…
И в тайне крест любви несут
Два одиночества — их души,
Не смогут обрести приют,
Препятствий стены не разрушив.
Их встречи словно миражи,
Но счастье на земле так тленно.
Спасаясь от людской молвы,
Два сердца плачут во Вселенной.

## СВЯТЛАНА ЗАЛЕСКАЯ

* * *

Адкуль яно, маё натхненне,
Смак найвышэйшай асалоды,
Падобны на Хрыста з'яўленне,
На сонца, на глыток свабоды?
Яго прыход заўжды раптоўны,
Як землятрус, як цуд кахання,
Патрабавальны, безумоўны,
Нібы крывавы смерч паўстання.
Адкуль яно, маё натхненне?
Ці не з дзіцячых зыбкіх сноў,
Сатканых з зорнага прамення?
А можа, з восеньскіх кастроў?
А можа, з праблiскаў світання
Альбо з віроў ляснога хмелю,
З трывогі першага спаткання?..
Адкуль яно, маё натхненне?

* * *

Ой, як хацелася ўчапіцца і трымаць
З усяе сілы цуда-птушку Слова!
Ляцець за ёй, а не узводзіць гаць
Цераз дрыгву жыцця ліхога.
Ды гоніць кон ўсё чыста бездарожжам,
Няўмольна дражнячы дзіватай міражоў.
Няўжо калісьці паўнаважкім збожжам
Збяру я словы з ніў сваіх гадоў?



**СВЯТЛАНА ЗАЛЕСКАЯ**

Пасля заканчэння Віцебскага педінстытута працавала настаўніцай у школе, потым вярнулася да любімай з дзяцінства журналістыкі. У розныя гады працавала ў «Беларускай ніве» (зараз «Сельская газета»), «Віцебскім рабочым», «Жыцці Прыдзвіння», «Кімаўцы», «Дняпроўскай праўдзе». Больш за 13 гадоў супрацоўнічае з «Транспартным веснікам».

Няўжо знайду між іх адно такое,
Што узляціць жар-птушкай да нябёс,
Сваё, адзінае, наўпраўду залатое,
Цаной ў знявечаны, бясконцы лёс?

* * *

Душа мая між небам і зямлёй
У лёгкім танцы кружыцца павольна.
Не замінайце, Богам прашу, ёй:
Яна у гэты міг на цуды здольна.
Душа ў віхуры музыкі нясецца,
Не баючыся крылы абпаліць,
Увысь. І мне, сябры, здаецца:
Дзеля такіх імгненняў трэба жыць.

* * *

Не адракаюцца… Дык то, калі кахаюць,
Калі жыццё, а не пярсцёнак ў падарунак,
Калі сябе ў імя другога забываюць…
А колькі твой каштуе пацалунак?

* * *

А я не верыла у цуды,
Ў зімовы посвіст салаўёў,
У тое, што змушае люты
Квітнець сумёты між гаёў,
Што карацейшыя за міг
Здараюцца узімку ночы,
Што свет стварыўся для дваіх…
Пакуль ты не зірнуў у вочы.

* * *

Было ўсяго тры словы ў тэлеграме —
Даволі, каб памчацца дя цябе.
Застыла маці за акенцам, нібы ў раме,
І толькі вочы сведчаць аб журбе.
Пад колаў стук яна шаптала штосьці,

З адчаем углядаючыся ўслед.
Хіба было да жалю ў маладосці,
Калі наперад клікаў цэлы свет?
Ты выйшаў з лёсу на чужым паўстанку,
А мне не развітацца з цягнікам,
Услед якому калісь на світанку
Мая матуля плакала цішком.
Прайшлі гады, размылася аблічча
Таго, хто тэлеграму адбіваў,
А голас маці аж дагэтуль кліча
Цераз завею часу, твараў, спраў…

* * *

Калісь і я скажу зямлі сваёй: бывай.
Пунсовым вогнішчам нябёс над роднай хатай,
Ў якой не надта часта было свята,
Гаям празрыстым, паплавам духмяным,
Шляхам нялёгкім, ночкам закаханым…
Ну што ж, няхай сабе зямля зусім не рай
І дюдзі тут далёка не анёлы,
Галінцы кожнай я, даверлівай і кволай,
Скажу: дабром мяне, будзь ласка, памінай.

## Сыну

І як прыйдзе пара назаўжды развітацца,
Не хачу, каб ты плакаў над маёю трунай,
Не хачу, каб паверыў, што мне не падняцца,
Калі здарыцца ліха раптоўна з табой,
Калі нават агорнуць адчай і самота,
Калі здрадзяць сябры і пакіне любоў…
Я прыйду, каб растала твая адзінота.
Ведай: маці ніколі не кідаюць сыноў.

# АЛЕСЬ ЗАМКОЎСКІ

* * *

пішу ўпэўнена:
у нірвану скрозь сансару.
андроід рэдагуе:
нармальная мансарда.
адчуваеш патаемны сэнс?

* * *

скончыўся травень. яму надышла finita.
я думаю, як гэта — быць траўнем.
адчуваць, што табе канец
праз кожныя дванаццаць месяцаў.
вядома, травень больш за мяне разумее,
што такое сансара, божае ўратаванне,
ведае, як гэта — жадаць нірваны на крыжы.
усё жывое ў траўні гэта разумее.
першы лісток пад ветрам варушыцца —
усе разам яны размаўляюць
толькі ім патрэбнай тэхнікай жэстаў.
броўнаўскі рух галубы ствараюць
у пагоні за хлебам і самкамі.
у розных кірунках і ўзроўнях плывуць
і пераплятаюцца статкі аблокаў.
мне гульні гэтыя не ўсвядоміць.
мне траўнем не атруціцца,



**АЛЕСЬ ЗАМКОЎСКІ**

Нарадзіўся ў Полацку ў 1984 г. Скончыў факультэт беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Працуе кіраўніком літаратурна-драматычнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Піша вершы, прозу. Друкаваўся ў калектыўных зборніках, у часопісах «Маладосць», «Дзеяслоў», у газеце «Новы час» (дадатак «Літаратурная Беларусь»). Лаўрэат першага конкурсу маладых пісьменнікаў «Экслібрыс», арганізаванага Саюзам беларускіх пісьменнікаў (2012), фіналіст фестывалю аўтарскай песні і паэзіі «Віцебскі лістапад» (2017), лаўрэат прэміі III ступені Міжнароднай славянскай паэтычнай прэміі (2017), удзельнік V Міжнароднага паэтычнага фестывалю памяці Міхася Стральцова «Вершы на асфальце» (2016), неаднаразовы фіналіст Фэсту аднаго верша.

а значыць не вытрываць
вясенняга
апакаліпсісу.

* * *

туманнае мора нас расплавіць
змяшаныя з мікракроплямі холаду паплывуць
над горадам пустым
нашыя позіркі
скрозь апошнія сны
скрозь непатрэбны ліхтарны бляск
да скверу дзе нічога
не адбылося
ля сухога фантана
залітага цёмна-барвовай старой крывёй лісця
адзінкавыя птушыныя галасы прачытаюць
над намі
унутры нас
між намі
скрозь нас
рэп
верасня кастрычніка лістапада
адсутнасць ветру адгукнецца джазавым зляднелым стогнам
богам не будзе сонца
адтулінай нябеснага даху
які не жадае нас
а толькі маўклівых зрэнак
сэрцаў у руках
слядоў на камянях

* * *

выцягні
ўсё што было ў табе
выцягні
і аддай
мокры асфальт, які пераламанымі кавалкамі
ляжыць каля сметніцы
рудога сабаку хутчэй за ўсё сучку (здалёк не бачна)
з перабітай задняй левай лапай
«ліхтар» пад вокам 40-гадовай п’янчужкі

лямпачку з пад’езда, дзе сотні мошак
штовечар ладзяць маўклівую вечарыну
заплеценую ў начное лісце поўню
дзве маленькія разынкі
раніцай выкалупаныя з булачкі
аддай
калі ёсць чым усё гэта замяніць

* * *

у «хуткіх дапамогах» якія жарсна гудуць
у аўтобусах якія супыняюцца і мінаюць
у задушлівых маршрутках
у трамваях што ззяюць іскрамі
у жоўта-чорных саламандрах-таксі
ды іншых назаўжды незнаёмых аўто
бачу сваё люстраванне
мігценне памкненне нараджэнне
і скон
бачу крыва і крыху крывава
спакойна і тужліва
бачу і пазнаю
не хачу пазнаваць але бачу
тысячы (не)сваіх жыццяў
подыхаў-позіркаў
невылічальную колькасць рухаў
я жадаў дакрануцца да аднаго
а мне закрычалі куды ты прэш
ідыёт
здаецца так
не памятаю не паспеў занатаваць
бо прачнуўся ад шэпту
твой прыпынак
наступны

* * *

не збягай
нават не спрабуй збягаць
нават не думай што можаш збегчы
як бы хутка ні змяняліся дрэвы вакол
як бы хутка ні мільгалі камяні пад нагамі

не вер
усё што павінна адбыцца
так ці інакш
будзе
дагоніць цябе
і набытыя квіткі стануць попелам
і новыя кеды сатруць падэшвы
ты будзеш сустракаць наканаванае
стомленым збітым зняважаным збянтэжаным
не збягай
вастры меч

*** * ***

зямля
на якой гараць храмы
зямля
у якой ляжаць чарапы прабітыя крыжамі
зямля
на якой дзеляць адвечнае
але не здольныя праспяваць пачутае
зямля
з якой выціскалі ваду
і частку ўсё ж выціснулі
зямля
дзе нулі ёсць нечым
і мала для каго нічым
зямля
на якой завостраныя іклы
не перакрываюцца цнатлівымі ўсмешкамі
зямля
якая заўжды парываецца стаць новай
нават пад уладай наўя

## ЯЎГЕНІЯ КАЗЛОВА

### Шлях да свабоды

Шлях да свабоды ідзе праз пакуты.
Вецер калючы балюча б'е ў твар.
Жвірам усланыя тыя маршруты.
Грудзі прымаюць варожы удар.
Можна звярнуць, можна збочыць з дарогі,
Перамяніць накірунак ураз.
Ды ці пазбавіцца сэрца трывогі
І ці наблізіцца зорны той час?
Цьмянае сонца, у цені сцяжына.
А пад нагамі бясконца слата.
Драпаюць цела калючкі ажынаў.
Змружвае вочы, як сон, слепата.
Не, лепей пойдзем мы люднай дарогай,
Хай сабе буры і хай камяні.
Бо ў нас наперадзе ёсць перамога.
Ты, дальназоркі, удаль зазірні.

* * *

Незваротнае шчымліва
Сэрца чуйнае кранае.
А гады бягуць імкліва.
І праз іх іду адна я.
Муж даўно сышоў у вечнасць.
Піў, але быў чалавечны.
Дзеці ёсць, мае сыночкі.
Мая кроў і мае гены.



**ЯЎГЕНІЯ КАЗЛОВА**

Нарадзілася 6 мая 1949 г. у Вільні. Жыве ў Оршы. Скончыла Віцебскае медвучылішча. Працавала ў Аршанскім гарадскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. З вершамі ў друку ўпершыню выступіла ў 1999 г. у «Аршанскай газеце». Аўтар зборнікаў паэзіі «Спеў флейты» і «Мора любові».

Ненароджаныя дочкі
Не прыдуць ужо на змену.
Каюся, было, грашыла,
Бо не ўсіх я нарадзіла.
І усе мае нашчадкі — мужычкі,
Няма дзяўчатак.
Нарадзіліся унукі,
Гушкалі мае іх рукі.
А унучачкі ніводнай
У бабулі няма роднай.
Ды мой род не перарваўся, —
Парастак угору ўзняўся.
Маё дрэва радавое
Не усохлася, жывое.

## Стаўры–Орша

Беларуская ўтульная хата
Цеплынёю сардэчнай багата.
Тут збіраюцца добрыя людзі —
Зноў імпрэза цікавая будзе.
Гаспадар сімпатычны і статны,
Да сустрэч адмысловых прыдатны.
Далікатны ён і адэкватны.
Тут гучаць беларускія песні
Ўзімку, восенню і напрадвесні.
Ды і летам руплівым, бывае,
Беларушчына наша спявае.
Вось і вершы таксама ў эфіры
У Стаўроўскім пачуліся шчыра.
Слава Богу, што ёсць гэта хатка
І яе гаспадар Ігар-братка.
У супольнасці доўга трымацца,
Справай добраю дбайна займацца!

## ВАЛЯНЦІНА КАРУНАС

### Беларусі

Беларусь прасторная мая!
Прыгажуня, любая старонка.
Беларусь, блакітная мая!
Хай ніколі не патухне зорка.

Беларусь пявучая мая,
Хай цвітуць заўжды лугі у росах,
І смяецца ўся дзятва твая,
І кладуцца травы у пракосах.

Беларусь азёрная мая!
Ты ў блакітнай ільняной сукенцы.
Беларусь пяшчотная мая!
Хай гарыць святло ў тваім акенцы.

Любы шум бярозавых гаёў,
Белы бусел, што над хатай ўецца,
Хараство квітнеючых лугоў
І пралесак, што кранаюць сэрца.

Ты у працы з ранку да цямна,
Подзвігамі слаўная старонка,
Каб заўжды, радзімая, цвіла,
Каб вякамі палымнела зорка.

З чым цябе магу я параўнаць?
Ў свеце не знайсці такога дзіва.
Я ускіну рукі, каб сказаць:
Слаўся і квітней, мая Радзіма!



**ВАЛЯНЦІНА КАРУНАС**

Нарадзілася на Гродзеншчыне. Скончыла Мінскі паліграфічны каледж. Піша для дзяцей і дарослых на рускай і беларускай мовах. Друкавала свае творы ў калектыўных зборніках, перыядычным друку.

## Зайздрасць

Даганяе зайздрасць, рве,
Як моль, раз'ядае,
І пячэ яна агнём,
Кіпнем аблівае.

Працінае, нібы цвік,
Ржавы і калючы,
І да болю, нібы крык,
Унутры равучы.

І чаму зайздросціць тут?
Адказу не маю…
Адганіце зайздрасць прэч,
Жыццё атраўляе.

## Сны

У снах цябе бачу, матуля,
З табою размову вяду,
У хустцы бялюткай па росах
Я разам з табою бягу.

Я ад сцюж цябе ў снах засланяю,
Ад пакут я цябе берагу,
Як ў дзяцінстве, з табой засынаю
І ніколі табе я не лгу.

Ты пірог з печы хутка дастала,
Аж разносіцца пах па сяле,
Пад ручнік беражліва паклала:
Пачастуеш дзятву і мяне.

Ты уранні на восілках вёдры
Нясеш на худзенькіх плячах.
Я бачу цябе маладою,
Прыгожай прыходзіш у снах.

Я чую, як звонка спяваеш,
Мелодыя льецца наўкол,
Як ніткай абрус вышываеш,
Кладзеш васільковы ўзор.

Як токам пранізвае зранку,
Калі разумею, што сон.
Ты больш не прытуліш, як змалку,
Пусцюткі зрабіўся наш дом.

А сосны шумяць за пагоркам,
І кружаць буслы над сялом,
А сэрца ірвуць успаміны
Пад летнім бясконцым дажджом.

## ВАСІЛЬ КАЛТУНОЎ

* * *

Ночует дождь на крыше.
Деревья словно тени.
Войдёт рассвет неслышно,
Куда себя мы денем…
Сердец согретых звуки,
Гроза вздыхает трубно.
Чужие завтра руки,
Чужие после губы.
Подкрался луч рассветный,
Исчез, стесняясь будто.
И только птица где-то
Привычно будит утро.
Лишь дождь на мокрой крыше
На день остался с нами,
Невыспавшийся, чистый,
Он гасит наше пламя.

* * *

Свернув куда-то без оглядки,
Средь ив растаял хмурый день.
Ночь навела свои порядки,
Развесив тени на плетень.

Сверкал забористо и ярко
Большой Медведицы чертог.
Луна пузатым самоваром
Меняла запад на восток.



**ВАСІЛЬ КАЛТУНОЎ**

Нарадзіўся ў 1955 г. у г. Горкі Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт фізічнага выхавання Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар трох зборнікаў вершаў: «Под созвездием Большой Медведицы» (2015), «По ту сторону счастья» (2016), «Последняя четверть луны» (2017). Жыве ў Віцебску.

Кукушка ветреной повесой,
Не зная меры на веку,
Врала с особым интересом,
Всем повторив сто раз «ку-ку».

А за околицей гуляя,
Куда-то вдаль сквозь ночь звала,
Свои страдания играя,
Одна гармонь на три села.

* * *

В обрамленье плит река,
Чёрные ступени.
Дождь пришёл издалека,
Преклонив колени.
И задумчиво глядит
Серым небосводом,
На истоптанный гранит
Положив ладони.
Холод выветренных плит…
Всё само собою…
Память сердца говорит
С прошлою войною.
Здесь взрывалась тишина,
Лязгала металлом.
Здесь хозяйкою война
Судьбы разделяла.
У могил букетов гроздь
И салют набатом.
Замолчал, сняв шапку, дождь,
Словно был солдатом.

* * *

Пригоршней слёз вниз падал дождь
На стоптанный асфальт.
Я всё не верил в то, что ждёшь.
Не верилось никак.
Висели звёзды-фонари,
И словно время вспять
Себе всё время говорил:
«Нельзя ведь столько ждать».

Мой поезд нёс меня сквозь ночь.
Я всё назад спешил.
Туда, где могут мне помочь,
Где я когда-то был.
Потоком город захлестнул
Прохожих и машин.
И я, набравшись сил, шагнул.
Я для себя решил.
Пил с упоением вино
И пел знакомый мне куплет
Из старого кино.
И шёл, не зная сам куда,
Чтоб снова всё начать.
Я — вновь вернувшийся назад,
Где перестали ждать.

* * *

Счастье бывает разным,
Трудным бывает, горьким…
Только ещё ни разу
Не было счастье лёгким.
Только таким бывало,
Будет и в новом веке.
Счастье бывает малым,
Но не бывает мелким…

* * *

Тихий плеск вечернего прибоя.
Отблески солёного заката.
Чайки словно вечные изгои,
Осени разбросанные пятна.
По бегущим прямо к морю склонам,
На причёсках дремлющих платанов
Жёлтые в зелёном море волны,
Октября сжигающее пламя.
Влажный ветер трогает ресницы,
Дразнит неизведанным простором.
И спешит куда-то синей птицей
Между небом, осенью и морем.

## ТАЦЦЯНА КУРЛОВІЧ

* * *

Куе зязюля паміж елак і кустоў,
бярозка мне махае на узлессі,
і гоман пушчы, маладых дуброў.
Цябе кахаю я, мой родны кут Палессе.

Дзе крочыць бусел па балотах, як важак,
Ў чырвоных ботах на сняданак жаб збірае,
Пяе салоўка у зялёных у кустах,
Дае каханню знак і ранак сустракае.

Сівы туман засцеле коўдру на палях,
І вецер пяе песню на узлессі,
Не перайначу сваю долю аніяк
Жыву далёка ад цябе, маё Палессе.

Сваё каханне і любоў да тых мясцін,
Дзе у жыцці зрабіла крок свой першы,
Я пранясу у сэрцы па жыцці,
І я Палессю прысвячаю свае вершы.

* * *

Гартае цішыня жыцця майго старонкі
І ясным сокалам у неба узляціць.
А жаваранак песню пяе звонка,
Душу кране, і сэрца зашчыміць.



**ТАЦЦЯНА КУРЛОВІЧ**

Нарадзілася ў 1959 г. у в. Красынічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Вучылася ў тэхнічным вучылішчы электронікі ў г. Мінску. Друкавалася ў газетах «Савецкае Палессе», «Ганцавіцкі час», «Лепельскі край». Зараз жыве ў Лепелі. З’яўляецца ўдзельніцай народнага літаратурна-музычнага клуба «Выток».

Не павярнуць назад гады нам маладыя,
На сконе дня замёў зноў сцежкі лістапад,
І толькі успамін гады былыя
На адно імгненне павярне назад.

* * *

І не ў тым мая віна, што жыву далёка,
Помню цябе, рэчка Цна, як блакітным вокам
Ты акінула зямлю нашага Палесся,
Як вітала усіх нас на краі узлесся.
Помню я бацькоўскі кут і каханне сваё першае,
Дзе дубы гамоняць тут, прысвячаю ўсяму вершы я.
Помню кожну дробязь я, чую сэрца трапятанне,
Беларусь — любоў мая, мая маці і прызванне.

## МАРЫНА МАНАКА

* * *

Вчерашний разговор вернуть,
Перемотать, исправить,
Переписать, перечеркнуть,
Несказанным оставить.
Не дать родиться злым словам,
Растящим сожаленья,
И не позволить мне и вам
Крепить свои сомненья.
Не исказить обидой суть,
Не избегать — от боли.
По острию ножа шагнуть —
И победить без боя.

* * *

За аккуратность и чувство такта,
За терпеливость и выбор слов,
Поступков бережность, властность правды,
Открытый, искренний диалог.
За допустимость моей свободы,
За сокровенное «просто будь».
За позволяемость непогоды —
Для настроений простор и путь…
За извинение «тёмных пятен»,
За непопытку меня менять,
Распахнутость и теплоту объятий,
Всегда готовность понять, принять…



**МАРЫНА МАНАКА**

Нарадзілася ў 1994 г. у Наваполацку. Скончыла мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Друкавалася ў калектыўных зборніках паэзіі «Строки души», «Новое слово», альманахах «Поэзия земной души», «Ратуша».

За необыденность — ежедневно,
За незатягиванье в петлю,
За постоянство, что неизменно,
За непросящее «я люблю»
Спасибо.

* * *

Запах осени. Дух листвы.
Тихий, гаснущий лета шёпот.
Шелест жолклой, усталой травы.
Подвывающий ветра ропот…
Холодеющий небосвод
С каждым днём всё бледней и кольче.
Календарный круговорот
Мчит под лозунгом «Дальше — больше».
В редких проблесках тёплых дней
Жадно, хватко питаю душу…
Недостаток тебя острей
Ощущается в дождь и стужу.

* * *

Если вдруг мне захочется выехать в отпуск,
Чтоб развеять рабочей усталости хмарь,
Я не стану искать в море маленький остров
Или мчать в зарубежную южную даль.
Я поеду туда, где над домиком сосны
Шепчут сказки свои от зари до зари,
Ароматами садик манит плодоносный
И покой первозданный царит.
Я поеду туда, где встречают душевно,
Греют чай и пекут пироги,
Где в деталях знакомых, простых, повседневных
Легче мысли, спокойней шаги…
Там родные глаза, и любимые руки,
И отечески мудрый совет…
Приезжаю домой после долгой разлуки —
И в душе зажигается свет!

* * *

Начиная с чего-то простого,
Развиваясь, тянуться ввысь.
В этом жизненно важная школа:
Каждым шагом своим — учись.
По крупице, по крохе малой.
Постоянство — к успеху ключ.
Не гонясь за мгновенной славой,
Стань душой столь велик, могуч,
Чтобы враз зажигать стремленье,
Силу, веру в себя, в успех,
В тех, кто где-то растратил рвенье
И поверил, что хуже всех…
Протянуть, помогая, руку,
Поддержать и приободрить…
Это ли не успех, заслуга,
Если ты вдохновляешь жить?

## АЛЕНА МАТУЗАВА

### Жыццё пісьменніка

Спакой мой тоіцца ў шкарлупцы, ў алоўку зіхаціць жыццё.
Словы трашчаць, нібыта дровы ў грубцы, чаруючы дзівосным
забыццём.
Хапае ліхаманка сэрца, рукі, як я бяруся за пяро.
Пішу пра родныя валокі, пра непамернае святло.

Ў запек тужліва ўцісну скарбы маёй нястомленай душы,
Паварушу у мроях фарбы, каб маляваць абраз чужы.
Кпіны кідаюць ў твар з зайздросцю, ды енчыць сорам…
ўзяць цяжар,
Але ж ружанец — вераў росціць, як самастойны уладар!

Вузельчык быццам слоў атрамант!
Пацёрка — бакшт майго пісьма,
А творы нібы гвалт у краме. У іх усе і ўсё, і нават я!
Ад пылу граматы пісьменнай пакіне рэшткі слоў сакрэт,
І мой спакой ракой натхнення разгортвае жыцця сюжэт.

У ім падзеі мовай льюцца, у ім павагі шмат знайдзеш.
Каханне, шчасце ў змест вярнуцца, сваёй пацёркай зробяць
верш.
І хай карбач страгае сорам, кідае люд урвішча хмар,
Праз хвалі часу свет падорыць нам рахманы пісьменных чар.

Тады змагу я пабязуліць ў сваіх кучолістых размовах.
Змагу сябе на словах здоліць, застацца у сваіх умовах,
Знайсці адказы на пытанні, каму ды як сароміць дол,
Кім запраўляе выхаванне, хто голы сэрцам, як сакол.



**АЛЕНА МАТУЗАВА**

Нарадзілася ў 1978 г. у Лепелі. З 2015 г. працуе ў Бароўскім цэнтры культуры і адпачынку. Вучыцца ў Віцебскім дзяржаўным каледжы культуры і мастацтва па профілі «рэжысура народнай творчасці». З'яўляецца ўдзельніцай народнага літаратурна-музычнага клуба «Выток» (г. Лепель).

Дык хай журботна і цяжліва шлях крочыць наўздагон пяру.
Яго нясу спакусай мклівай, яго пішу, ім гавару.
Жыццё пісьменніка складана, калі адзін ты на мяжы,
Калі лёс вершамі сатканы на паўсядзённым рубяжы.

## Прывітанне

Прывітанне мой кастрычнік, прывітанне!
Ў сівізну апранутае ранне, прывітанне!
Не кранутае бадзёрасцю натхненне
У асенняе пажоўклае адзенне, прывітанне!

Гэта ўсё — мая цудоўная Радзіма,
І яна дзеля мяне заўжды адзіна!

Ветрык з'едлівы над пацямнелым полем
Зноў нясецца ўдалячынь, за новай роляй.
Спяць у небе далікатныя аблокі,
Сны гартаючы у кнізе Божай волі.

Гэта ўсё — мая цудоўная Радзіма,
І яна дзеля мяне заўжды адзіна!

* * *

Аднойчы ў цяжкую часіну
Йшоў дождж, кідаючы слязу,
Рваў вецер чысціню з карціны,
Нёс у сабе яшчэ гразу…
І неяк ціснуць стала сэрца,
Ў мінулым думкі усплылі…
Так захацелася сагрэцца —
Каханы, вуглі распалі,
Каб затрашчалі дровы ў грубцы,
Запеў гарачы вугалёк,
Каб цёпла нават стала ў грудцах,
Каб свет відаць быў аж здалёк!
Тады і дожджык той не страшны,
І навальніца так сабе!
Я з табой разам, вось што важна,
Я у жыцці тваім! Ў табе!

## ЛЯВОН НЕЎДАХ

*СУГУЧНА З ДУШОЮ*

* * *

За аўтобусным акном дождж сцяною льецца.
Аб акно ў аўтобусе пчолка тупа б'ецца.
Пасажыркай ля акна панна маладая.
А ў мяне даўным-даўно галава сівая.
Я ў каханні пасыпаў голаў густа попелам —
Прарасце палын цяпер над маім некропалем.
Шпарка мчыць аўтобус мой па бліскучай ртуці.
Маладая прыгажуня на маім маршруце.
Аб аўтобуснае шкло пчолка тупа б'ецца.
За аўтобусным акном дождж сцяною льецца.

* * *

Ад Заходняй Дзвіны да Буга ды Сожа,
Дзе прастора любові маёй, прыгожа!
Ды цябе тут няма, ты — недзе.
Не знайсці па астылым следзе.

Я ў тваім недзе для цябе дзесьці,
І твая любоў туды — грузам «дзвесце».
Гэта праўда: час душу лечыць,
Невядома як, але нечым.

Цяжка казаць, як губляюць сэнс словы.
Ды застаецца прастора любові.



**ЛЯВОН НЕЎДАХ**

Нарадзіўся 7 жніўня 1947 г. Жыве ў Наваполацку. Аўтар кніг: прозы – «Формула дабрыні», «Бумеранг»; паэзіі – «Чорнае святло», «Каханак восені», «Дарожная карта лёсу». Суаўтар выданняў «Першыя сцежкі», «Ад ніў прыдзвінскіх», «Там, дзе званы Сафіі», «Белой вежи свет» і іншых калектыўных зборнікаў паэзіі і прозы. Перакладаўся на славацкую і рускую мовы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Там, дзе мая, прыгожа:
Ад Заходняй Дзвіны да Буга ды Сожа.

* * *

І смяяўся я, і плакаў я,
Парадніцца хацеў з зямлёю.
Ах, любоў мая, роду знатнага
Са сцяжынаю палявою!

Думаў я, як жыць, думаў, як мне быць.
Бачыў зоркі я, бачыў сонца…
Ах, мой час кахаць, ах, мой час любіць, —
Ты пачатак мой і бясконцасць.

Длань ласкавая, длань суровая!
Гожа сынам быць, гожа й братам.
А з каханнем я, ды з любоўю я,
Стаўшы бацькам, стаў багаты.

* * *

Спякотнае лета дзве тысячы пятнаццатага года —
Маё выпрабаванне як для часцінкі народа,
Які вынослiва трывае жыццёвы крыз,
Пакорліва йдучы светлай дарогай з сацыялізму ў капіталізм.
Адсюль мае думкі цягучыя, млосныя, ліпкія,
А ў целе душа — бы ў футарале змоўклая скрыпка.
Адзін паратунак — лес, дый той цяпер куродымны, палёны;
Над ім паджарага гругана ганяюць дзве таўстыя вароны —
Каторы дзень йдзе бойка за векавую яліну.
А сонца на поўдні жоўтым давескам да сіні…
Мне кажуць геніі, што я непатрыятычны дальтонік.
А думкі таксама пацеюць, іхні пот таксама салёны.

* * *

Колькі каштуе неба,
Ўзважыць калі планеты?
А нарыхтоўшчык Лейба
Ведаў дакладна гэта.

Край мы тады любілі,
Попельны ад паняверкі.
Лейба сюды вёз мыла,
Перкаль, пудру, цукеркі.

З вераю ў лепшыя змены
Златам звінела слова.
Лейба сваёю менай
Край адраджаў нанова.

Быццам з нябёсаў чуйна
Сонца па шэрых хатах:
«Едзе, едзе анучнік!..» —
Лейба прывозіў свята.

* * *

Дзесьці даўно ўзбоч ненавісных
Звадак, сварак ды іншых з гэтага шэрагу ісцін
Засталося святло ласкавых вачэй,
І яно праз адлегласць гадоў ярчэй і ярчэй.
І сапраўды: чаго хоча жанчына — таго хочацца Богу.
Толькі на сёмым дзясятку ў гэтым упэўніцца змог я.
Чаго хоча мужчына — таго хочацца д’яблу.
Панадкусіў і я спакуслівы яблык.

* * *

Маладое чаканне лета,
Бы ў апошняй школьнай чвэрці.
Больш не буду дарыць букеты —
Не жадаю кветкам смерці.

А дарыць — дык цалкам травень:
І з чаромхай, і з салаўямі.
У кахання, як слодыч, памяць
Шакаладнымі слаямі.

Пасля раніцы перад ноччу
Будзе поўдзень, будзе вечар.
І душа заўсёды хоча
Пацалункаў пры сустрэчах.

Цалавацца — дык доўга, многа,
І ад шчасця станеш п'яны.
…Зноў пралескі ля дарогі,
Расцвітаюць зноў цюльпаны.

* * *

Я прыдумаю дзень і як будзе пражыты.
Гэта толькі наш свет, для другіх ён закрыты.
Там нашае лета, там нашая восень.
Безумоўна, фантазіі для зімы засталося.
А яшчэ ёсць вясна як эмблема кахання…
Хай яна будзе нам для нашых спатканняў!
Бачыш, людзі навокал. А яны як кахаюць?
Ты не ведаеш гэтага? Я таксама не знаю.
Я прыдумаю дзень, заставайся са мною,
Бо каханне маё даўно незямное.

## МАРЫЯ НОВІКАВА

### * * *

Нашы дарогі росныя —
Стужкамі. Стужкамі...
Мары у неба — проста так —
Птушкамі. Птушкамі...

Хіба пяшчота мерыцца
Метрамі? Метрамі...
Толькі чаму на сэрцы так
Ветрана? Ветрана...

Нашы дарогі розныя —
Стрэлкамі гострымі.
Цэляць у сэрца проста так —
Розумам...
Розумам.

### * * *

Ад гарызонту рванецца вецер,
Як сто раз'юшаных кабыліц.
І дрэвы роспачна ўскінуць вецце
І ў жаху схіляцца да зямлі.

Счарнее неба ў адну хвіліну
І сонца дыск захіне сабой.
І хмара хмары пальчатку кіне
І гулка выкліча на двубой.



**МАРЫЯ НОВІКАВА**

Нарадзілася ў 1979 г. у мястэчку Падсвілле Глыбоцкага р-на. Музыкант паводле адукацыі, магістр педагагічных навук. Працуе настаўнікам музыкі ў Самахвалавіцкай школе (Мінскі р-н), арганіст касцёла Св. Сымона і Св. Алены ў Мінску (Чырвоны касцёл). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. З 1991 г. друкавалася ў перыядычных выданнях з вершамі і гумарыстычнымі апавяданнямі. Аўтар паэтычнага зборніка «Паверу ў цуды» (2015).

Літаўра грому раптоўна ўдарыць,
І з неба хлыне «дзявяты вал».
І бліскавіца прарэжа хмару
Над хваляй збожжа, нібы кінжал.

Калі ж аслабнуць у ветру крылы
І грозны сцішыцца гул літаўр,
Праб'ецца промень — адновіць сілы,
І сонца выйдзе з вязніцы хмар.

* * *

За краем неба, за сіняй хмарай
Пагасне сонца апошні блік.
І калыханню струны гітарнай
Адкажа рэхам начны цягнік.

Сплятуцца песень жывыя нізкі
На скрыжаванні лясных сцяжын.
І раптам стане надзвычай блізкім,
Хто быў учора амаль чужым.

А ноч нябачна наладзіць кросны,
Каб ткаць туманны над рэчкай пас.
І дзесьці ў высі, над шапкай соснаў,
Збяруцца зоркі паслухаць нас.

Над краем неба, як водблеск мары,
Успыхне сонца світальны блік.
І зноў бяссоннай струне гітарнай
Адкажа рэхам першы цягнік.

* * *

Сонца знізіць штодзённы маршрут.
Будзе ў небе гусей пераклічка.
Шустры вецер свавольнай рукой
Прыгажосць па лістах пералічыць.

Будзе рэха свабодна гуляць
У лістоце асінавай гулкай.
І ля брамы ўспаміну стаяць
Будзе зноўку знаёмая думка…

І, як дзеці наўкола стала,
Што ім Восень лістамі накрые,
Пад апошнія промні цяпла
Выйдуць грэцца апенькі малыя.

І ў прыцішаным сонным бары
Пад апенькавае разгалоссе
Будзе мне пра цябе гаварыць
Лістападная шчодрая восень.

* * *

Нешта сёння мне сонца замала.
Не стае мне чамусьці цяпла.
Проста восень раптоўна настала.
У жыццё маё Восень прыйшла.

Дні — у вырай, як клін жураўліны…
Сёння вецер дрыготкай рукой
Развітальна калыша галіны,
Навяваючы мне неспакой.

І ніяк не магу я сагрэцца
У журботнай хвіліне такой.
Смутак мне затуманьвае сэрца,
Як слата над асенняй ракой.

Аддаляюцца летнія крокі,
Застаюцца ў Краіне Святла.
…Сеюць сяйва сівыя аблокі —
Гэта Восень нарэшце прыйшла.

## НАТАЛЛЯ НОВІКАВА

* * *

Дзіўны горад!
Горад чараў,
Мрояў, нібы сны.
Зноў легендай усплываеш
З берагоў Дзвіны.

Слыхі, казкі, распавяды
Пра цябе заўжды
Пабуджаюць да вандроўкі,
Класці зноў сляды.

Па правулках, закуточках,
Вуліцах ізноў —
Адшукаць нанова тайну,
Скарб сівых вякоў.

* * *

Каханне, наогул, не мае сэнсу.
Яно надае сэнс усяму!

* * *

Роснаю сцяжынкай
Я бягу удалеч.
Пазаві знянацку,
Затрымай мяне.



**НАТАЛЛЯ НОВІКАВА**

Нарадзілася 20 лютага 1974 г. у Віцебску. Скончыла філфак Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Працуе кансультантам па продажы касметыкі. Публікавалася ў гарадскіх газетах, часопісах «Першацвет» і «Беларусь».

У блакітнай высі
Думкі ўсе знікаюць,
Пазаві раптоўна,
Зберажы мяне…

* * *

Скінуць пыльны абутак
І прайсціся рамонкавым лугам,
Дакранацца рукой да галовак
Даверлівых кветак.
Гэта шчасце, паверце, —
Апынуцца зноў дома!

* * *

Сцякае верасень павольна
Са спелых гронак арабін.
Па скошанай атаве колка
Ісці, а ў сэрцы успамін:
У хаце паліць печку бабка,
Вяргіні нікнуць па-над плотам,
Як недавершаная казка,
Як вобраз на старэнькім фота.

## ТАЦЦЯНА НЯДБАЙ

*РЫБЫ ЧУЮЦЬ ТВАЁ МАЎЧАННЕ*

* * *

Горад, дзе
Вызначаў маяк
Кірункі і арыенціры

Горад, дзе
Ты казаў мне «мая»,
Забаўляючыся ў ціры

Горы дзеляць,
Стаяць сцяной,
Не ссунуць іх, што б ні рабілі мы

Горкі прысмак
Сваіх надзей
Заядаю рабінамі

Восень імжыць
І спявае блюз
У лахманах рыжых

Там, дзе я
Цябе не люблю,
Я не змагу выжыць



**ТАЦЦЯНА НЯДБАЙ**

Нарадзілася ў Полацку. Скончыла філалагічны факультэт БДУ ў Мінску, магістратуру ў Вільні і аспірантуру ў Любліне. Фіналістка конкурсу Беларускага ПЭН-цэнтра да 75-годдзя У. Караткевіча (2005). Пераможца літаратурнай прэміі «Дэбют» (2015). З англійскай мовы пераклала кнігу Эвы Томпсан «Песняры імперыі: Руская літаратура і каланіялізм» (2010), з польскай супольна з іншымі перакладчыкамі — кнігі Лешка Калакоўскага «Наш вясёлы апакаліпсіс», Анны Бужыньскай і Міхала Паўла Маркоўскага «Тэорыі літаратуры ХХ ст.».

* * *

паміж вечарам і вечнасцю розніцы асабліва няма —
яны стаяць цяпер за тваёй спінай,
па-панібрацку паляпваючы па плячы,
таму разняволься і ўсё ў абдымкі прымай,
не ўнікаючы — кулі ці кулічы
ты рыхтуешся заўтра без допінгу здзейсніць скачок,
таму што трыпутнік не прыкладзеш да горычы без падставаў,
таму што чакаеш, што хтосьці прыйдзе падставіць плячо,
а потым употай дзякуеш, што не падставіў
у сутонні асабліва востра адчуваеш мяжу ўсяго,
лінія жыцця супадае, таючы, з лініяй далягляду,
штосьці вярэдзіць, нібыта блізкая прысутнасць Яго,
таго, хто небакрай адхінае на Дзяды і Каляды
паміж вечарам і вечнасцю выбару асабліва няма,
паміж выбарам і выраем, наадварот, пралегла вечнасць,
рыбы чуюць тваё маўчанне, і можаш рашаць сама,
калі класціся спаць, калі пакідаць веча

* * *

калі ты гаворыш, што горы,
як коткі,
акругліўшы спіны,
пілі мора,
не баючыся вады,
а яно было ласкавым, туманным, парным, як сырадой,
то намагаешся не абмовіцца,
як трымаў мяне за руку
калі ты распавядаеш,
што найлепшая кава ў тым месце — за гатэлем прынцэсы Луізы,
то намагаешся не згадаць уголас,
як п'янкое віно з келіха перацякала ў заход сонца,
а потым — назад у келіх,
каб захмяліць нас і застацца слядамі на вуснах
усе слухаюць раскрыўшы раты
(і я таксама),
як выдмы, перацякаючы, мяняюць формы,
застаючыся з намі — у нашых кішэнях,
на зубах,
у сэрцах,
але і ў майстэрскім пазбяганні займеннікаў

першай асобы множнага ліку —
як сцяжкоў на аўтадроме,
як буйкоў на вадзе
калі ты глядзіш на мяне, я часам баюся,
што табе і сапраўды ўдалося —
забыць

* * *

сцішаны шоргат мая
лісцік мяты ў махіта
цябе і мяне прымае
маўклівая глыб блакіту
дзе след самалёта паволі
рыбіным тае шкілетам.
затухаюць магноліі
распаляецца лета

## УЛАДЗІМІР ПАПКОВІЧ

### Навагодняе

Дачакаюся Новага года,
Каб з пачатку жыццё пачаць,
Каб тварыць з усіх сіл для народа
І аб тым яго апавяшчаць.

Каб даведаўся люд неразумны,
Хто з ім побач — няпрОсты! — жыве,
То зашумны, а то і задумны,
З планам хітрасным у галаве….

Буду жыць і паволі прывыкну
Нічагусенькі не рабіць…
Потым ціха, як Бэндэр, знікну,
Як адчую, што будуць біць…

### * * *

*Змітру Казакевічу*

У цішыні ёсць сэнс — свой асаблівы.
Яна заўжды па-рознаму гучыць.
Маўчыць няшчасны і маўчыць шчаслівы.
Каб ціха адпачыць. Альбо злаўчыць.

Але і ў гомане — свае адценні:
У ім ёсць і ўзрушэнне і спакой.



**УЛАДЗІМІР ПАПКОВІЧ**

Нарадзіўся 25 сакавіка 1935 г. у в. Дварэц Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Працаваў выкладчыкам нямецкай мовы. Жыве ў Віцебску. Аўтар зборнікаў вершаў «На досвітку», «Зерне», «Самы кароткі дзень» і інш., а таксама шэрагу перакладаў твораў нямецкіх пісьменнікаў. Лаўрэат прэміі «Сузор’е муз» імя У. Караткевіча. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Бываюць гукі змрочныя, як цені,
Ёсць перазовы юных над ракой.

Ёсць паміж словаў паўзы, каб спыніцца,
Паразважаць, куды вядзе працяг,
Паслухаць моўчкі, як цурчыць крыніца…
І зноў падацца ў неспакойны шлях…

* * *

Глядзіць на мяне скасавурана, збоку,
Мужчына сур'ёзны (бываюць жанчыны),
Як на бандыта, хто можа з наскоку
Раптам ударыць — без жаднай прычыны.

І я занервуюся і спахмурнею,
Пужліва пачну навакол азірацца.
Тайком пашкадую, што біцца не ўмею.
Ды й звычкі не маю ні з кім задзірацца.

Хутка пайду з неадступнай трывогай,
Занепакоены змрочнай загадкай.
Хоць і пакрочу знаёмай дарогай,
Але ўвесь час з баязлівай аглядкай.

* * *

*Кастусю Шыталю*

Змрочным думкам скажыце: «Пайшлі вы!»
Не пускайце лухту ў галаву.
Прашапчыце сабе: «Я шчаслівы,
Я сумленна, адкрыта жыву…

Я на Бога ані не крыўдую,
Што прыкметай адзначыў мяне:
Прастадушны я і не шкадую…
Тых шкада, што пагрузлі ў мане…»

Смела крочце… Жывіце… Тварыце…
Шчасце ў міры, а не ў барацьбе.
Непасільнае не бярыце.
Беражыце, любіце сябе.

* * *

Увесь скаланууся… Запозна. Дарма.
Даўно адышоў мой цягнік.
Білетаў няма, ды і мэты няма.
І сон каляровы знік.

Імкнуцца, нібы матылі, на агні —
Чаму яны — людзі — не спяць?
Што вабіць у дальняй далечыні,
Чаго ім карціць дапяць?

Увесь скалануся. Душа затрымціць.
Яе утрапёнасць кране.
Цягнік адышоў. Ён нястрымна ляціць.
Толькі, на жаль, без мяне.

* * *

Студзень — смаркач нецвярозы
Слёзы няшчырыя лье.
Дзе калядоўка, марозы?
Куцця на скаромным стале?

Холадна. Мокра. Няўтульна…
Студэнт прамаўляе: «П…амбец».
Чокаемся ўсеагульна,
Пад селядзец-халадзец.

Авангардыстка смяецца,
Падмешвае ў цукар шкло.
«Бачыце, неба плюецца
На ўсё, што да нас было…»

* * *

Дайце кожнаму дагаварыць
Тое, што з душы яго ірвецца.
Думка з часам, можа, і згарыць,
Але струп балючы застанецца..

І калі яго крануць ледзь-ледзь,
Ненаўмысна ці з ліхім намерам,
Доўга будзе ён яшчэ смылець,
Заражаць пужлівым недаверам.

Не знішчайце слова, бо яно
Усё роўна вырвецца на волю,
Так прамень маленькі праз акно
Пырсне ў вочы з часам, аж да болю.

## НАТАЛЛЯ САЛАЎЁВА

*ВРЕМЕНА ГОДА*

### Рождество

Рождество — торжество от сияния света,
Ожидание лучших январских чудес,
И в полнеба горит золотая комета,
Прорисован тончайшею кисточкой лес.

Торжество — и в глазах придобавлено масла,
В уголках нежных губ — молодая надежда.
Вход в пещеру волхвов, Вифлеемские ясли —
И поют серафимы о белых одеждах.

Рождество. Ночь светла, как душа человека.
Рождество — и скульптуры в холодном саду
Приукрашены шляпками чистого снега,
Бюсты в нишах цветных разговоры ведут.

Фонари и огни иллюстраций к театру —
Всё зажглось от сияния радостных глаз.
Так давай же счастливыми станем не завтра —
Без оглядки, безумно, сегодня, сейчас…



**НАТАЛЛЯ САЛАЎЁВА**

Нарадзілася ў в. Клён Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла філфак БДУ. Працавала настаўніцай у СШ № 14 г. Віцебска, у каледжы мастацтваў, цяпер — загадчыца Кіраўскай бібліятэкі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Не любить нельзя» (1997), «Осень ставит спектакли» (2010), «На перекрёстке звёзд и судеб» (2013). Аўтар песняў, якія выконваюцца ў Беларусі, Ізраілі, Расіі.

## Я небывалых жду пророчеств в марте!

Мой путь не белый и не чёрный,
А просто очень-очень смуглый:
Вонзаю в чернозём я корни
И время превращаю в угли.

Я начинаю жизнь с абзаца:
Становится страница новой!
Дерзить, дерзать, дразнить, терзаться
И покоряться только Слову?

И гены смуглой моей бабки
Из всех надменных неприятий,
И роз души моей охапки
Не перестанут удивляться:

Мне каждый день журавль снится,
Я небывалых жду пророчеств —
И запоёт в руке синица
И быть журавликом захочет!

И становлюсь я сильной, новой,
И наполняю мёдом соты,
И музыкою длится Слово,
И Дух готовится к полёту!

## Июньские цветы

Голубая стрекоза —
Это радость в сотни свеч!
Загораются глаза,
Как от самых ярких встреч!

Синекрылый мотылёк
Посетил «анютин глаз» —
Это мне такой урок
Ото всех, влюблённых, вас…

Как шиповник яркий ал,
Словно бабочки цветки!
Лето — смена покрывал!
Лето — лекарь от тоски!

Красных маков лепестки…
Пряный запах медуниц…

И бегут с горы вьюнки,
Точно стайки белых птиц…

Нежно-розовый пион
И чернильный ирис-цвет,
А над ними стройный клён
Льёт-струит зелёный свет…

Лето — звуков карнавал:
Всюду щебет, песни, свист!
Птичий хор короновал
И меня на этот фист…

## Июль… Жара…

Тёмно-багровый шар. Июль. Жара и… сумерки.
От мамы еду в электричке. Людей как птиц в лесу.
Поклажа у меня — тяжёлые две сумочки.
Мне принц — не датский, пожилой: «Я сумки понесу!»

Я расплылась в улыбке: «Благодарю за помощь». —
«Я, может, передумаю ещё», — сказал мне Он.
«Спасибо, — говорю. — А передумать мне знакомо…»
Но смотрит принц недатский, как будто бы влюблён.

Всплыл эпизод из мной любимой «Зимней вишни»:
«Мужчина передумывать не может. А леди — да».
Предстал и Беликов: «Как бы чего не вышло…»
О Боже добрый мой! Гори, гори, моя звезда.

Но как-то скользко мне. И сомневаться есть причина.
Борьбы борьбливо борются: идёт война в душе:
Кто он? Что он? Прикольненький такой мужчина.
«Позвольте телефон?» —
«Я передумала уже!»

## Сентябрь… Жёлтый лист, как сон, мне в руку…

Жёлтый лист, как сон, мне в руку, —
Неизбежная разлука:
Значит, встретиться нельзя
В чаще бисерной дождя?!

Листья цвета апельсина.
Все рябины — из кармина.
Янтарём цветёт лоза.
А глаза как бирюза.

Небо в солнечной лазури,
Тихой, ласковой, небурной,
Изумрудная трава,
Пахнут мятой рукава…

Чуть краснеет облепиха,
И стоят деревья тихо.
Лета бабьего уют —
И цветы ещё цветут…

Далеко ещё морозы.
Зелены, стройны берёзы.
Дух трепещет на ветру.
— Без тебя я не умру…

Жёлтый лист, как сон, мне в руку, —
Неизбежная разлука:
Значит, встретиться нельзя
В чаще бисерной дождя?!

Фото, если что, моё…

## АНАТОЛЬ СЕРГІЁНАК

### Я так хацеў бы…

Дзе ні глянеш — на плошчах, завулках —
Ўсё адно мільгацяць у вачах
То дзяўчынкі ў суровых кашулях,
То кабеты ў мужчынскіх штанах.

А хацелася б бачыць каханых,
Каб як лебедзь плылі вы з бакоў
У сукенках з ільну даматканых
І у скіндачках, што з ручнікоў.

Хай пад світкаю міла б схаваўся
Таямніча прывабны ваш стан,
А ад поясу морам зліваўся
Паласата-блакітны саян.

Я б тады вам маліўся сардэчна
За прадвечча жыцця вашых душ
Ды на радасць здымаў пры сустрэчы
Саламяненькі свой капялюш.

### * * *

Дрэмле лес у цішыні,
Ціха вёска засынае,
Месяц-сябар з вышыні
Шчодра срэбра рассыпае.



**АНАТОЛЬ СЕРГІЁНАК**

Нарадзіўся ў 1963 г. у в. Замошша Лепельскага раёна. Скончыў тэхнічнае вучылішча № 121 г. Барысава па спецыяльнасці «Прамысловая электроніка». Працаваў на розных прадпрыемствах Беларусі і Расіі. Вершы пачаў пісаць з юнацкага ўзросту. З'яўляецца ўдзельнікам народнага літаратурна-музычнага клуба «Выток» (г. Лепель).

Дастаецца ўсім па жменьцы:
Дрэвам, сажалцы і хаткам,
А у люльках ля акенцаў
І маленечкім дзіцяткам…

## Сон

Вы на радасць па вясне
Напаткалі нечакана,
Ды цалуеце мяне
Неяк прагна і жадана.

Перад вамі я стаю
Пад святлом якімсьці белым,
Ды чамусьці не злаўлю
Вашы вусны, ачмурэлы.

Вось спрабую, каб абняць,
Падтрымаць вашу ахвоту…
Пачалі вы уцякаць,
Рукі валяцца ў пустоту.

І каб толькі дакрануцца,
Я імкнуся наўздагон…
Але выпала прачнуцца…
Да чаго мне такі сон?!.

## СТАНІСЛАЎ СІВАЛОБАЎ

### О весёлом огоньке

Когда угрюм и сер денёк
И путь наш в сумерках далёк,
Порою сквозь сырую мглу
Нас манит дальний огонёк
К желанным встречам и теплу.

Так есть и люди среди нас,
В которых свет ума и глаз
Зовёт к себе сквозь тьму невзгод,
Как огонёк весёлый тот.

### Старая деревня

По тропинке удравшего детства
К материнскому дому иду,
К небольшому её королевству,
Затонувшему в старом саду.

…Жёлтый берег, вода голубая.
Рыжий свет уходящего дня.
Словно добрая сказка земная,
Снова манит деревня меня.

Дремлют лодки на камешках древних,
Спит Двина меж крутых берегов,
Разбежались избушки деревни
И пасутся на склонах холмов,



**СТАНІСЛАЎ СІВАЛОБАЎ**

Нарадзіўся ў 1955 г. у Віцебску. Працаваў на заводах «Вистан», «Витязь», на ААТ «КІМ». Аўтар зборнікаў паэзіі «К исцелению словом», «У поля жизни».

И глядят на меня, как старушки,
Из-под выцветших серых платков…
И зовёт взглядом окон радушно
Домик милых моих стариков.

## Заскучавшему товарищу

…Ты не понимаешь, как ты счастлив,
Обозвав тоскою тишину,
Когда видишь сонно, безучастно
Лишь по телевизору войну…

## От внуков — пленников ноутбуков

«…Как чуден в сенокос за рощею рассвет,
Где клевер заблестит в росинках на поляне,
Как в бриллиантах весь!» — рассказывал наш дед, —
Он видел это всё не только на экране!..

## Свет сентября

Умчались вдаль мгновенья лета
В своих зелёных поездах,
Нам оставляя жёлтым светом
Жары автографы в лесах.

Хоть ярко-огненной листвою
Свет сентября в них заалел,
В нём нет тепла для грешных тел,
Он больше властвует душою…

И я о большем не молю,
Пусть осень греет только взгляды,
Пусть в ней я тихо утолю
Желанье чувственной прохлады.

## Под грустным взглядом

Снова ветер под нашим окошком
Начал рыжие листья гонять,
Во дворе засоряя дорожку.
Видеть это мне грустно немножко:
Видно, дворник в запое опять…

## Экспромт у окна

Стало грустно мне немножко —
Подошёл взглянуть в окошко.
Ты гуляешь за окном
Со своим домашним псом.

Ты идёшь, легко ступаешь,
Плавно бёдрами качаешь,
Поводок в твоей руке…
Ты меня не замечаешь,
Только взгляд мой увлекаешь,
Словно пса на поводке.

## Почтенный второгодник…

Мой прадед жил более века.
О нём говорили: «Калека —
От жизни отстал человек…»
В ответ старичок не сердился:
«Да, видно, я плохо учился —
Остался вот на второй век».

## Плата за остроумие

Как за ласковое слово
Ты ласкать меня готова!
А за острое словцо
Мне грозишь избить лицо!

Почему, любя, с опаской
Над тобою я шучу?
Потому что больше ласки
Я экстримчика хочу!..

## ЛЮДМІЛА СІМАНЁНАК

* * *

Ад зямлі да неба блізка:
Дрэва, што між іх жыве,
Дамавінай ці калыскай
Рупны майстра назаве.

Сон то сумны, то вясёлы
Па-за кратамі павек
Між жывёлаў і анёлаў
Бачыць грэшны чалавек.

* * *

Калі да цела сон прыходзіць,
У вечаровы свой дазор
Бліжэй да птушак і да зор
Душа бадзяжная ўзыходзіць.

Пакуль не час яшчэ прачнуцца,
Драбіны хісткія — нішто.
Паверхаў дзесяць альбо сто —
Абы хапіла сіл вярнуцца.



**ЛЮДМІЛА СІМАНЁНАК**

Гадавалася ў г. Паставы. Скончыла факультэт беларускай мовы і літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала настаўніцай беларускай мовы ў Лужаснянскай гімназіі для здольных і таленавітых дзяцей, метадыстам аддзела беларусазнаўства і краязнаўства Віцебскага абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай працы з дзецьмі і падлеткамі. Цяпер — кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі Беларускага тэатра «Лялька». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг вершаў «У люстэрку» (1996), «Разгорнуты сусвет» (1999), «Незабыты шлях» (2011).

## Віцебск

Ў пякельна-гістарычныя віры
Так месту акунуцца давялося,
Што ў Гаспадыні Замкавай гары
Ні замкаў, ні гары не засталося.

Бязлітаснасць чужынскае рукі
Шматкроць на шыях месцічы спазналі.
Чужых паданняў збродныя радкі
На попеле жытла свайго чыталі.

Хоць да спазнання роднай глыбіні
Пакуль нам — як да Месяца па шпалах,
Збіраюцца у храмы камяні,
Калісьці раскіданыя нядбала.

Ад ненадзейна-кволае вясны
Чакае сонца пад зямлёй насенне.
З-пад сутарэнняў просяцца у сны
Паданняў родных згубленыя цені…

## * * *

*Давіду Сімановічу*

Так у Віцебску і вядзецца:
Адганяючы прэч нуду,
Супраць ратушы геній месца
Пасміхаецца ў бараду.

Пасля сэлфі для нарачоных
З лёгкай зайздрасцю ім услед
Пазірае маленькі, чорны
Пералётны расейскі паэт.

Надвячоркам згасаюць крокі.
Падміргнуўшы цішком наўкол,
Саступае на дах з аблокаў —
Каб у скрыпку зайграць — анёл.

Адвярнуўшыся нечакана,
Караткевіч ў руку дыхне:
Як, паводле найноўшых планаў,
Быць пад дрэвам яму ці не?

Так у Віцебску і вядзецца:
Варухнуўшы край барады,
Запрашае вас геній месца
На экскурсію праз гады.

* * *

*Памяці Уладзіміра Плешчанкі*

Не сціраюцца з дыска фантомы —
Дома ў Віцебску ты ці ў гасцях:
Ля народнага Сіняга дома
Беларускі хвалюецца сцяг.

Белы сцяг з паласою чырвонай —
Бачны ў самай бяззорнай начы —
У надзейных руках, што й па сконе
Не пакінуць яго берагчы.

Вежы замкаў і вершнікі ў полі
Нерэальней за мройныя сны.
Толькі цішыцца крок мімаволі
Ля жалобна збялелай сцяны.

Непадлеглы ні страху, ні стоме —
Не ўцячэ да чужых берагоў.
Ля шматлюднага Сіняга дома
Сцяг чакае народу свайго.

* * *

На юбілей і проста без нагоды
Каменным ботам па жывой траве
Ідуць на горад помнікі з усходу —
Плацдарм заняць у нашай галаве.

Каб у хвіліну роспачы ці страху,
Раней за распачатую вайну,
Маглі, чарговы раз не даўшы маху,
Нож увагнаць падступна у спіну.

* * *

Не люляе святлом і ласкай
Праўды плямістай шлях-дарога.
Смоўж паўзе цераз лес пастаўскі,
Везучы напамін былога.

Вечна помніць не стане сілы,
За стагоддзі зямля зраўняе
Пад чарнічнікамі магілы
Партызанаў і паліцаяў.

Ну а тым, хто палёг бязвінна,
Не хапаўшы у рукі зброю,
Не здабыць і радка ўспаміну —
Долі здраднікаў ды герояў.

Родны край што мішэнь у ціры:
То штыкуюць, а то страляюць.
Лёгка трапіць у дэзерціры,
Не абраўшы па сэрцы зграю.

Кат дазволіў з вялікай ласкі
Целы ўзяць з гушчару ляснога…
Узыходзяць і вянуць краскі.
Смоўж вязе — колькі хопіць змогі.

* * *

А колцы завіваюцца ў тунэль,
І залаты цяжар сцінае скроні.
Мне б лепей дажджавую акварэль —
Не сонечнасць, што дастае сягоння.

Карункі крылаў — выцінанка сноў —
Схавалі твар ад прамянёў нагрэтых,
І тая птушка заспявала зноў
Пра бліжні свет, нябачны мне дагэтуль.

## ГАЛІНА СІНЯКОВА

### Мая доля

Не, на долю не крыўдую:
Лепшай, можа, і няма:
Бачу сонца, птушак чую,
Ды яшчэ спяю сама.

Так, спяю — пра лес і пашу,
Пра мурожныя лугі,
Пра зямлю-матулю нашу,
Любы край і дарагі.

Я спяю, няхай парою
Слёзы горкія лію,
Ўсё ж шчаслівая: са мною
Тыя ўсе, каго люблю!

### Вёсцы Мяклава прысвячаецца…

Зноў і зноў ў любові я прызнаюся
Вёсачцы, дзе ўсе мне так знаёма,
А з любых шляхоў заўжды вяртаюся
Да парога бацькавага дома…

Кожны дзень у вернасці клянуся
Я табе, бацькоўскі родны кут,
Любая часцінка Беларусі,
І жыццё, і радасць мае тут!

Тут ярчэй гараць на небе зоркі,
І вясёлка зіхаціць ярчэй,



**ГАЛІНА СІНЯКОВА**

Нарадзілася 1 кастрычніка 1963 г. у в. Мяклава Віцебскага раёна. Закончыла Смалянскі сельскагаспадарчы тэхнікум і юрфак Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Працуе галоўным тэхнічным інспектарам працы Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў гандлю. Аўтар зборнікаў вершаў «Монолог» і «Я люблю».

Самыя цікавыя вячоркі,
Больш нідзе няма такіх людзей!

Кожную хвіліну лашчыць вока
Елачак, бярозак стромкіх рад,
І гняздо буслоў непадалёку
Радуе і сэрца, і пагляд.

Радуюць душу у садзе кветкі
І язміну водар, пах густы,
Ад рамонкаў белыя палеткі…
Край бацькоўскі светлы і святы!

## Жнівень, жнівень

Апусцела гняздо буслоў,
Дзень ліе слёзы моцны лівень,
Так сумуе і плача жнівень:
Птушак вырай паклікаў зноў!

Жнівень, жнівень, ты не тужы:
Буслы вернуцца ўжо вясною,
Па-над гэтай святой зямлёю,
Як анёлы, будуць кружыць!

Кветкі ўсе амаль адцвілі,
Фарбаў яркіх вакол так мала,
Нават зелень імгла схавала,
Жоўты ліст ляжыць на раллі!

Жнівень, жнівень, сум прэч гані:
Збажына мае колер сонца,
Дождж не будзе ісці бясконца,
Хутка пройдуць хмурныя дні!

Дзень становіцца карацей,
Дождж слязьмі зараз мне здаецца…
Ён — жыццём — на зямлю ліецца:
Урадлівей зямля, чысцей!

Жнівень, жнівень, забудзь адчай:
Зоркі ж падаюць так прыгожа,
Дождж насеннейку дапаможа…
Жнівень, жнівень, вясну гукай!

# ГЕОРГІЙ СТАНКЕВІЧ

* * *

Ў прыдарожнай карчме
ў час паўночны згушчаюцца цені,
і іртутна блішчыць пад акном
загусцелая гразь.
Змружыш вочы — адразу плывеш
у свае летуценні,
выпадкова расплюшчыш —
сядзіць насупроць з мечам князь.

На даспехах гарыць свечак бляск —
князь прыехаў не з веча.
З панадворку галас —
начлягуецца воінаў раць.
«Ты скуль будзеш,
з далёкай якой стараны, чалавеча?» —
«Бешанковіцкі, княжа.
Мо вам чымсьці паслугаваць?» —

«Паслугач не патрэбны. Хаця…
Бешанковіцкі, кажаш?
Зможаш ты маім воям
брады паказаць праз Дзвіну?»
Не адразу да думкі дапаў:
«Як жа, здолею, княжа.
Тут радзіма мая».
І зляцелі з мяне рэшткі сну.

«Плата будзе дастойнай», —
маўчанне забіў суразмоўца.



**ГЕОРГІЙ СТАНКЕВІЧ**

Нарадзіўся ў 1962 г. у в. Курэйшына Сенненскага раёна. Жыве ў вёсцы Старыя Ранчыцы блізу Бешанковіч. Працуе настаўнікам нямецкай мовы. Паэт і бард. Аўтар паэтычных кніг «Званы» (2003), «Мая зорка» (2009), «Сцяжынамі памяці» (2011), «Зорны воз» (2014), «Як слязінка дажджу» (2016). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

«Княжа мой, з нараджэння свайго
я не быў срэбралюб».
У вачах заіскрылася ўсмешка,
мы крочылі моўчкі.
Месяцовая ноч
серабром калыхала зямлю.

Пошчак неба будзіў,
і Дзвіны дзіваваліся хвалі,
калі шыхт за шыхтом
разразаў хуткакрылую плынь.
У празрыстай смузе
пры Дзвіне хмызнякі патаналі,
і трымала нябёсы
на дзідах лясоў далячынь.

І на беразе дзвінскім,
дзе вечнасцю мроіць світанне,
дзе шторанне на кожным паркане
вісяць туманы,
князь каня запыніў
і руку падаў на адвітанне:
«Калі трэба — прымчуся,
твае патурбую зноў сны».

Статны, скроены моцна.
З ягоных аброшаных латаў
усміхалася сонца —
браты яны будуць няўжо?!
«Будзе цяжка — прыходзь», —
з закранутых ялінавых лапак,
нібы слёзы з нябёсаў,
раса абляцела дажджом.

Час імкне, як страла.
Сёння ў Краі маім вецер свішча,
шэры дзень правіць баль
і зямля хоча ўся паміраць.
Конча трэба ісці клікаць князя
на дзвінскае ўзвышша.
Ён прымчыцца, ён слова
не можа свайго не стрымаць.

* * *

Снег у паветры кружыць, а таму
гатовы мы паверыць, што нарэшце
да нас прышлюць сапраўдную зіму
ў звычайным чорна-бела-шубным шэсці.

І мы за столькі год упершыню
ад шэрасці, што нас вось-вось прыдушыць,
сплывём і акунёмся ў чысціню,
ачысціўшы ад бруду нашы душы.

Так хочацца, каб і ў глухой турме,
дзе ў вокнах золак нават не бярэцца,
дзе столькі год чакаюць перамен,
з сапраўднаю зімой у твар сустрэцца.

І нават, калі Богу закарціць
за снег, што ён пашле для Беларусі,
па ўсіх рахунках оптам заплаціць,
я на любую плату пагаджуся.

За кожную сняжынку, што вядзе
гекзаметрам свабодна-непаўторным
да нас доўгачаканы светлы дзень,
каб белы свет не быў больш светам чорным.

Каб урачыста-белая зіма
заснежыла маю зямлю паволі,
каб і ў турме, дзе перамен няма,
запахла снежнай свежасцю і воляй.

Я тое ў снах сваіх няспынна сню
і прысвячаю ёй свае рамансы.
За белы танец снежнага агню
аддам ўсе ганарары і авансы.

* * *

Як шкада, што жыцця пасля смерці няма,
што за бабіным летам прыходзіць зіма,
што на неба не вернецца знічка ізноў,
што чаромхавы цвет ападае вясной.

Як шкада, што наш лес — тэрыторыя дроў,
што, здараецца, ворагаў больш, чым сяброў,

што бяда не прыходзіць, а мчыцца заўжды,
што ў Сусвеце бракуе жывое вады.

Як шкада, што так ціха гучыць шчыры смех,
што з сяброўскіх вачэй часам сыплецца снег,
што зярняты ў раллі паміраюць вясной,
што калісьці адбудзецца тое ж са мной.

* * *

Кастрычнік. Ноч. У вокнах ні агню.
У 37-м годзе ў ноч такую
ўзвялі на эшафот будучыню,
прыгожую, як сон, і маладую.

Крывавым золкам дыхала зямля,
і сонца захлыналася на ўсходзе:
«Калі народа мову расстраляць,
што застанецца ад таго народа?!»

Кастрычніцкая ноч плыве на злом,
і золкі вецер думак ройва студзіць…
Ніколі каб яно не ажыло,
стралялі слову кожнаму — у грудзі.

Каб больш не прагучала анідзе —
ад Берасця да ўзвышшаў на Валдаі —
ні смелае раскацістае «дзе»,
ні ціхае пяшчотнае «кахаю».

Забойцы надыходзячых вякоў,
прызваныя з нябыту чорнай сілай,
шпурлялі ненапісаных радкоў —
мільёны — у глыбокія магілы.

Закопвалі, спяшаючыся, каб
яны сказаць не здолелі народу,
што слава яго слынная ў вяках,
што зорка яго светлая ўзыходзіць.

Кастрычнік. Ноч. І вусцішная ціш.
Не сплю, бо сэрцам скрушным адчуваю,
што куля з 37-га ляціць,
ўсё забівае нас,
ўсё забівае.

* * *

Калі боль у грудзях
пачынае гастролі раптоўныя
і вандроўкаю гэтай
свядомасць крыху перапуджвае,
мая памяць паціху
імёнаў рады выбрукоўвае
і з рачулкі ўспамінаў
падзеі і факты вывуджвае.

Хоць здаецца, што цьмянеюць
нашы ўспаміны з гадамі ўсе,
адлятаюць да зор
ці ў вірах тонуць кволымі трэскамі,
ды складаюцца пазлы,
якія даўно не складаліся,
і размовы вядуцца
з маімі сябрамі ўваскрэслымі.

І тады адпаўзаюць
нясцерпнага болю вужакі ўсе,
я раблю першы крок
і здзіўляюся сонцу вясноваму,
і расплюшчваю вочы —
на свет гэты зноў нараджаюся,
і жыццё крочыць побач
з усмешкай нязнанаю,
новаю.

## МАРЫЯ ЮЧКАВІЧ

* * *

Белая прастора.
Белае бяссонне.
Белае учора
І белае сёння.

Белыя карункі
Снегавой пасцелі.
Граюць згодна струны
Белае мяцелі.

Белае бязмежжа.
Белае бяссонне.
Пуста. Глуха. Снежна.
Снег залёг на скронях.

* * *

«За сеньмі, сеньмі
Вінны калодзеж…» —
Песняй вясельнай
Душу ўстрывожыш —

Такой народнай,
Такой душэўнай,
Знаёмай зроду
Песняй вясельнай.



**МАРЫЯ ЮЧКАВІЧ (ДЗЮБАК)**

Нарадзілася 24 лютага 1955 г. у в. Парэчча Докшыцкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала настаўніцай, а потым дырэктарам Лісавіцкай базавай школы, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце Сітцаўскай сярэдняй школы. Аўтар паэтычных зборнікаў «Светлыя ростані» (2004), «Мой таямнічы востраў» (2014), «Дарога да касцёла» (2015), «Незабыўнае» (2016).

«Млода Галінка
Віно чарпала…» —
Песня з журбінкай
Пасябравала.

«Дзевачкі, піце,
Не разлівайце.
Маёй матульцы
Не дакучайце…»

Матыў той просты.
Голас прыемны
Пяе пра ростань,
Пра лёс таемны,

Што маладую
Заўтра чакае.
Долю якую
Ёй прадракае?..

* * *

Адкруціць бы назад дзён імклівых
Такі згодны і плыткі танок
Ды сказаць бы сабе: «Я — шчаслівая!»,
Пад нагамі адчуць шаранок,
Па якім бегла шпарка праз поле
Напрасткі. Так хутчэй, карацей.
І святло. Звыклы гоман у школе
Дарагіх майму сэрцу дзяцей.
А у хаце прыспешвае раніца:
«Ды збірайся ўжо, каб не спазніцца»,
А люстэрка гарэзна ўсміхаецца:
«Ну нішто сабе маладзіца!..»
Так і крочу адна я па шэрані.
Не адна, бо са мною ўспаміны,
Што расквецяць мае будні шэрыя,
Што ніколі мяне не пакінуць.

* * *

Калі Божая моц
        стане моцным маім абярэгам,
Калі вецер трывог
        стане раптам надзеі начлегам,
Маёй веры прамень
        уліецца ў святло Ўваскрашэння,
Значыць, гэта мой дзень —
        дзень майго нараджэння.

Калі Божы святы супакой
        мяне цалкам агорне,
Вершы ў поўнач цішком
        прабяруцца ў бяссонне,
Заспявае душа
        распазнаўшы былое натхненне, —
Значыць, гэта мой час —
        час майго нараджэння.

Найвышэйшы мой Бог,
        навучы мяне шчыра маліцца,
Прычасціцца душой
        да прасветлай Тваёй таямніцы
І прасіць за грахі,
        на каленях прасіць прабачэння.
Дзень сягоння які!.. —
        Дзень майго нараджэння!

* * *

Слаўны касцёл.
Ты — помнік дойлідства —
Месца паломніцтва.
Месца паломніцтва.

Здалёк або зблізку
Спяшае дарога
Да вечнага Бога,
Ўсявышняга Бога.

І кліча душа,
Кліча светла і прама
Да Божага храма,
Да Божага храма.

Нясуць беды, думкі,
Што ў сэрцах таілі,
Да Дзевы Марыі,
Да Дзевы Марыі.

Ахвяры кладуць,
Дзе абраз светлалікі.
Натоўп шматлікі.
Натоўп шматлікі…

У веры, малітве,
У грэху адпусце
Яднае нас Будслаў,
Яднае нас Будслаў.

* * *

Званы зазванілі,
Нібы ў свет акно адчынілі —
У свет новай, чароўнай вясны.
Званіце чыста, званы!

Званы зазванілі —
Маладым шлях супольны адкрылі:
Муж і жонка зараз яны.
Званіце ўрачыста, званы!

Званы зазванілі —
Славіць Бога ўсіх запрасілі,
Каб нас выбавіць з грэху, віны.
Званіце хвалебна, званы!

Званы зазванілі —
Свет нябёсаў камусь адчынілі.
Нечы скончыўся шлях зямны…
Званіце жалобна, званы…

# ПРОЗА

## ЛЮДМІЛА АНДЗІЛЕЎКА

### «То не вецер»

Ад самай раніцы Сеньку круціла. Так бывала, калі вечарам чакалася гулянка. Зараз другое. Чалавека аж распірала знутры. То накаціць жаль, сум здушыць болем, то лагодная хваля прыплыве, зробіцца светла, хораша, цікаўна, лёгка. Потым ні з таго ні з сяго зноў заные душа, злосць нападзе, бы звер драпежны зубамі склыгае. Нават смех разбіраў — рагатаў бы сам-сабою, каб дапусціўся.

На рабоце здача аб'екта. Казалі ў брыгадзе, нібы за новабудоўлю будуць прастаўляцца. Аліна-брыгадзірка аб'явіла: просяць вечарам за сталом пасядзець, хто жадае. Мальцы бачылі: яна пераняла з рук дырэктара школы чамадан — крывы, вялікі чахол ад акардэона, у ім звабліва пабразгвала шкло непустой тары — раскашэліцца, мусіць, прыйшлося. Паспрабуй — не! Паўгода ледзь не кожны работнік брыгады хоць і жартам, ды намякаў: не грэх бы вуглы замачыць. Аліна дацягнула чахол да каморы, прымкнула на ключ.

Увесь дзень без толку адбоўталіся: там — коп, тут — цоп… Не толькі Сеня, хваляваліся і хлопцы, хацелася хутчэй сесці за стол. Ледзь дачакаліся вечара. Прынеслі габляваных дошак, прыладзі-



**ЛЮДМІЛА АНДЗІЛЕЎКА**

Нарадзілася ў Глыбокім. Скончыла Наваполацкае музычнае вучылішча, Мінскі дзяржаўны інстытут культуры. Працавала дырэктарам, выкладчыкам, кіраўніком аркестра баянаў. З 1994 г. друкуецца ў рэспубліканскіх літаратурных выданнях. Аўтар кніг прозы «Проста ноч на дварэ», "Гэта ты», «Паляванне на музу», «Ключ у боціку». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

лі на козлы, заслалі газетай. Дасталі, у каго што засталося ад абеду, — засталося ўсё. Не абедалася. У Сенькі торгала шчаку. Ён прысеў на рагу, нібы хаваючыся за шырокую спіну Васі-маляра, каб дужа не фігураваць у кампаніі.

Пачыналася нудна, нялоўка, хоць дырэктарка старалася за сталом трымацца проста. Як тут запанібрацтвуеш, ці адважышся на брудэршафт — многа хто з работнікаў вадзіў дзяцей у музыкальную школу. Але слова за слова, налілі па другой — каб дах не цёк! Камандавала Аліна. Шчокі і ў яе паружавелі, і пасля трэцяй жанчына нібы мімаходзь, ды з застарэлай крыўдай упікнула, што яе дачцэ не далі пасведчанне аб заканчэнні школы, бо блату не было.

— Аліна Янаўна, ваша дачушка зусім не хадзіла на заняткі. На кожны ўрок прыходзілася цягнуць, як цялушку на прывязі. Хадзілі па яе на дом, ці ж гэта работа? За кожным вучнем не находзішся.

— Але ж грошы плацілі.

— Вось і стала шкада вашых грошай — адлічылі са спіса навучэнцаў.

— Што, Алінка, захацела дачцэ лёгкага хлеба прыдбаць? — каб закругліць па-добраму размову, пажартаваў хтосьці з брыгады.

Аліна, спакойная жанчына, міралюбная, ніколі б не пачала такой гамонкі, але часта ў брыгадзе і на прадпрыемстве заводзілі гутарку, як прыстроіліся музыканты: цёпла, чыста, нічога не трэба рабіць — сядзі, слухай музыку ў задавальненне. Зайздросцілі лёгкаму хлебу. Ды лёгкі хлеб чамусьці не даваўся іх дзецям. Не хапала цярпення, стараннасці, таленту, працы. Бацькі паслухаюць звяглівае рыпанне першых заняткаў сваіх музыкаў ды пакідаюць мару пра лёгкі хлеб. Забіраюць вучня са школы, каб дарэмна грошы не траціць.

Сеньку таксама карцела падтрымаць брыгадзіра, хацелася тут жа ўсчыніць вэрхал. Ды сваіх дзяцей не вадзіў у музыкалку і не ўлавіў, пра што гаворка.

— Які тут блат?! Любога з панадворку ўпрошваем, абы вучыўся. Па тры разы прымаем: пакінуць школу — вяртаюцца, пакінуць — вяртаюцца…

— Няхай бы дакумент быў.

— Навошта вам тая папера здалася? Каму паказваць будзеце? Дакумент з музыкантаў пытаюць ці музыку?

— Музыку, музыку! Пайграйце нам. Паспяваем, — загаманілі за сталом.

Кагосьці выправілі па акардэон. Прынеслі бліскучы, чорнага колеру інструмент з бляшанымі літарамі на ўвесь фасад — WELTMEISTER. У калідорчыку, які ўжылі за сталовую, раптам успеніліся гукі. У пустым пакоі ад новых сцен адбілася рэха, моцнае, звонкае. Застолле ажыло, хлопцы павесялелі. Дзве маладзіцы, з новенькіх рознарабочых, паўскоквалі з лавы, кінуліся танчыць.

— «Цыганачку» можаце? Сыграйце «Цыганачку»!

Яны са смехам матлялі шырокімі штанінамі камбінезонаў, нібы цыганскімі спадніцамі, ускідвалі худыя рукі да столі. Распусціўшы валасы, фарбаваныя аж да сіні ў чорны колер, нязграбна трэслі плячмі, выдаючы «прысутнасць бюсту».

Сенька ўпотай мацюкнуўся. Яму зусім не падабалася, як выглядае зараз цяперашняя моладзь. Дзеўкі палілі, пілі на ўзроўні з брыгаднымі хлопцамі, валасы фарбавалі пад белабрысых снягурак альбо пад кітаек. Яны прылізвалі чубы набок, нібы ў Гітлера. Мода — адна пад адну — сухарэбрыя жардзіны! Вочы нахабныя, глядзяць ва ўпор без сораму. Прытым нейкае раўнадушша ў твары, бы лялька — не жывы чалавек.

Застолле зварухнулася, пайшло проста, весела. Жартаваць пачалі, вальней трымаліся хлопцы. Потым, як паселі танцоркі, загучала сумная старадаўняя песня.

То не ветер ветку клонит,
Не дубравушка шумит.
То моё сердечко стонет,
Как осенний лист, дрожит.

У Сенькі аж запякло ў грудзях. Успомніў, як гэта музыкантка маладой дзеўчынёшкай з’явілася ў іх мястэчку. Сеня закахаўся адразу, хоць быў маладзейшым гады на чатыры. Тады Сеньку яшчэ і на танцы не пускалі. Праўвецца неяк падманам, у кутку сядзе, схаваецца за дарослых і назірае за ёй. Проста следам хадзіў, але ўсё ўпотай. Раптам у цэнтры пасёлка ці на базарчыку выпадала сустрэцца з дзяўчынай вачмі — заліваўся чырваннём, быццам яна штось пра яго ўведае. Цягнулася б таемная закаханасць, ды раз такое нарабілася, што сам Сеня не здольны патлумачыць, бы навалач якая на яго ўспала. І не думаў, і не збіраўся, само сабой выйшла. Ён ужо працаваць пасля школы ўладкаваўся на будоўлю. Напярэдадні мальцы запатрабавалі першую палучку адзначыць. Ішоў на работу з нясвежай галавой, пераходзіў вуліцу цэнтральную — яна насустрач. Зіма, снег у твар, слізка, машыны наўкола снуюць, а Сенька схапіў музыкантку за руку:

— Люблю цябе… Выходзь за мяне — усё жыццё кахаць буду.

Яна разгубілася, узіраецца здзіўлена ў вочы — ці не жартуе хлопец. Зусім ад парты, халасты. У яе ў руцэ пачэпачка ад санак, у санках двое малых.

— Ну што вы? — апамяталася. Ласкава так, па сяброўску загаварыла: — Не трэба. Што вы? У вас усё яшчэ наперадзе, сустрэнеце сваё.

А машыны па абодва бакі сігналяць, прытарможваюць, знаёмыя шафёры ў форткі торкаюцца, насміхаюцца:

— Ну, Сенька!

— Ого — куды махануў!

— Іш, дадумаўся!

— У качагары да музыкантак нанімаешся?

Мелодыя паласавала сэрца. Сеня рашыўся выглянуць з-за пляча Васі. Ён ухапіўся дзвюма рукамі за лаву, прыгнуў шыю, быццам балючы ўспамін той хтосьці зараз здолее разгадаць, прылюдна выкрыць. Плакала мелодыя, плакала душа Сені, а потым штосьці пайшло не так. Зайграла варыяцыі! Толькі пачне прыслухоўвацца Сеня, пазнае матыў — як яго кудысьці заводзіць не

ў той бок. Зноў выплыве знаёмая мелодыя, вось-вось словы прыпомняцца з песні — ды музыка робіць паварот: непрыемны, нечаканы. Пальцы музыканткі пырхалі над клавішамі, нібы камары мак таўклі, у вузлы вязаліся і палівалі-палівалі, а музыкі няма! Яна не грэла: замест прыгожага матыву гучала штосьці лішняе, груваскае, надуманае, быццам кузлы пляце. Так перапатрушыць песню! Ды акордамі — жах, жах па вуху! Варыяцыі-вар'яцыі! Бляха-муха! Абражае яна! Здзекуецца з іх наўмысна!

Заскрабло Сеньку нястрымна! Захацелася ўстаць з-за стала, перакуліць лавы, ірвануць на грудзях кашулю. Вучаць іх, вучаць іх там, у горадзе, а яны вяртаюцца такімі важнымі, ганарлівымі, нібы з іншага цеста лепленыя! Не любіў Сенька вучаных. Ён і сам мог вывучыцца, галава хваткая, задачкі што семечкі лузгаў, ды не было каму яго вучыць.

Сенька паўглядаўся ў твары брыгадных — хлопцы таксама не слухалі, пачалі гаманіць, падымаць чаркі, закусваць, але гатоўнасці на бунт ні ў кім не адшукаў. Праглынуў сваю чарку і Сеня, не чакаючы здравіц. І адважыўся зноў выглянуць з-за пляча Васі-маляра — твар музыканткі быў ветлівы, светлы, ні кроплі наўмыснага здзеку ў ім не было, ясна — сама зразумела, што нікому тут яе варыяцыі не па душы. Нават шкада Сеню стала яе і крыху сорамна за свой намер. Можа, і праўда, чагосьці не разумее ён у той музыцы?

Сеня дацёгся дадому без памяці. Жонка Таня хваляваецца пачала, выйшла ў панадворак, паўглядалася ў ноч, прыслухалася, ці не чутно дзе галасоў, і ледзь не звалілася ля варотцаў. Проста на зямлі, на халодным цэментаваным ходнічку ляжаў муж.

— Сеня! Сеня, што ты? — яна дапамагла падняцца, завалакла ў дом, сцягнула робу, паклала мужа ў ложак.

Сеньку трудзіла.

— Ці ж можна так набірацца? Праз меру, — яна папраўляла коўдру і прыгаворвала: — Ты ж мог і на дарозе заваліцца. Ну як жа так, Сеня? Машыны лётаюць. Пераедзе каторы і не азірнецца. А як мы без цябе? Ты што, малы, Сеня? Як тады нам без цябе?

І ўрэшце Сеньку прарвала. Ён загаласіў па-дзіцячы, наўзрыд, жаласна, доўга, са слязьмі і сапылямі.

— Ну што ты, Сеня? — гладзіла Таня яго шурпатыя рукі, сухі, абветраны твар, ускалмачаныя валасы. — Нічога, нічога. Усё абыдзецца. Паспі, паспі. Паедзем вось з табой у нядзелю ў горад, купім табе куртку новую. Гэта ж зусім абтрапалася. Не шкадуеш ты сябе, Сеня. І чаравікі я нагледзела, толькі прымерыць трэба. Нельга ў мокрым абутку восенню.

Сеня задрамаў лёгка, салодка, неяк у паветры, хоць доўга яшчэ чмыхаў носам і ўсхліпваў. Ён увачавідкі заўважыў, як боль і сум паплылі вунь у той дальні кутох, зачапіліся за цвік і павіслі пучком засушанага палыну. Няхай вісяць, дачынення да яго яны цяпер зусім не мелі.

А Таня гладзіла яго галаву і прыгаворвала:

— Паспі, паспі, аддыхнеш — усё наладзіцца. Што ты, Сеня, нам без цябе няма як.

## Самастойны чалавек

— Усю ноч гуло. Чулі? Дзесьці вяселле гуляюць?
— Гэта ж Толя дачку аддае.
— Толя? Той самы?
— Анягож.
— Той, што трактарыстам робіць?
— Трактарыст.
— Ці не ТУЮ?
— Тую самую.

Толя — высокі ростам, светлавалосы, моцны, цяглы да работы чалавек. Пабачыўшы яго ідучы, падасца, быццам моцны вецер дзьме яму ў твар, так па-асабліваму рухаліся яго рукі, ногі, тулава. Усім корпусам налягаў, нібы змагаўся са стыхіяй. Сам маўклівы, калі не зачэпіш; запытаюць — засмяецца, неяк з хітрынкой, нібы бярэ ход, абдумае, зірне ў вочы — ці не з падкавырам пытанне, ці не дурнем узяліся рабіць яго? Потым усім целам нязграбна павернецца, рукі доўгія раскіне, бы певень крылы, адтапырыўшыся крыху, а загаворыць добра, без злосці, не дзёрзка, без падтэксту. Любяць Толю многія, як любяць людзей, якія не выдзяляюцца, не выпінаюцца, якія жывуць па-людску, стараюцца, як могуць, — ЯК УСЕ.

Ён не тутэйшы, кавалерам прыехаў з чарнобыльскай зоны выселкамі, з бацькамі. Жылі спачатку ў інтэрнаце, потым атрымалі кватэру.

Толеву маці хутка прызналі безнадзейна хворай, хоць і не давалі дактары прычынай радыяцыю, ды што гадаць. Сапраўдны дыягназ агучыць нікому не дазвалялася: памерла жанчына — і няхай, быццам невядома з чаго, як многія з перасяленцаў у тыя, пасляаварыйныя гады. Бацька хутка пайшоў за ёй.

Толя застаўся адзін, без апірышча. Знайшоў вясковую дзяўчыну, прывёў жонкай. Волечка круценькая, бойкая, Толю слухалася ва ўсім, не пярэчыла. Аднаго за адным нарадзіла трое дзяцей: апранутыя, накормленыя, не дуроныя, не передкуюць і не з апошніх. Так і зажылі паціху: не ў раскошы-багацці, але і не бедавалі. Год за годам, год за годам. Каб не ліха — газіфікацыя вобласці…

Панаехала мужчын спрытных, снаровістых, упэўненых. Спецыялісты! Грошы поўныя кішэні, лішкі ў кафэ, рэстаран нясуць. На выгляд прыгожыя ўсе, сучасныя, бывалыя, бойкія, смелыя, далікатныя.Той перыяд значна палепшыў дэмаграфію мясцін!

Вось у бытоўцы аднойчы і прыпыніў Волечку адзін з такіх: за руку ўзяў, па валасах пагладзіў, дакрануўся да вуха — быццам завушніцу паправіў, зірнуў у самыя вочы. Волечка ажно затрапятала. Нязвычна, туманна, бы ў маладым ранішнім сне… Няма ў чым папракнуць Волечцы мужа: старанны і ў ложку, працавіты, не ленаваўся — удзяляў жонцы ўвагу. Але ні пяшчоты, ні ласкі не праяўляў, ніякіх іншых забаў не ведаў, фантазіі таксама не дапускаў і не адчуваў патрэбы. Турботы-клопаты, работа ад ранку да начы за капейкі, не

прапіваў — на сям'ю разлічваў. Ва ўсе дробязі ўнікаў, хоць дужа не данімаў кантролем, але на самадум нічога не пускаў. Надта сямейны лад для Волечкі даваўся не проста…

А тут! Зусім іншы імпэт — быццам на экране ў кінатэатры. Жанчыну ажно ў паветра падняло, ад клопатаў адарвала: ні табе гаспадарка ў галаве, ні цябе якія турботы хвалююць. Закруціла Волечку віхурай.

Людзі заўважылі, высачылі, не зразумелі, пазайздросцілі, данеслі Толю.

Біў… Жорстка, не шкадуючы. Волечка прыняла навуку як належнае: без крыўды, без спрэчак — заслужана. Толькі пасля сваркі яна неяк зусім знікла, зрабілася ціхай, змрочнай, нібы завяла. Пачала паўнець, прызналася праз паўгода: цяжарная. Толя грозна, дзіка заключыў, прыпячатаў — на-гу-ля-ла! Але на гэты раз не біў і гвалту дужа не ўсчыняў. Затаіўся.

За гародамі, гектарамі, соткамі, за сенам, грыбамі, нарыхтоўкамі не было часу разважаць, разбірацца, прыкідваць: «Гыр-гыр, бур-бур, гаў-гаў» — так між імі прайшлі наступныя месяцы, і вось — пара прыспела. Паехала Волечка адна ў раддом (як, між іншым, і першыя разы — не цукровая!), лёгка нарадзіла дзяўчынку і назаўтра ж вярнулася дамоў… вольная. Клопаты чакаюць.

— А-а-яй! Чулі? Пакінула. Выраклася.

Ніхто б Толю не асудзіў, не папракнуў, даравалі б з цягам часу і Волечцы, пагаманілі, папляткарылі б крыху і будзе. З кім не бывае? Усе не без граху.

Ды спазніліся плёткі. Прывёз Толя малое. Паехаў, забраў дачку дамоў. Гадуе, з рук не спускае, няньчыць, цалуе-пестуе.

Сапраўды, ні аднаго са старэйшых дзяцей Толя так не шкадаваў, не хінуўся, як да гэтай кволай маленькай бялявенькай малышачкі. І чамусьці ні адзін з яго ранейшых дзяцей не паходзіў на бацьку так, як яна: кропля ў кроплю — рыхтык! Ва ўсім падобнай удалася, не толькі тварыкам, валоскамі, постаццю — увабрала ўсе яго выхадкі і звычкі. Тая ж, толькі па-дзіцячы мілая, нязграбная пастава. Верабейкай зваў яе Толя. Менавіта праз дачушку, паскробыша, найбольш, найгарачэй праявілася яго бацькоўскае пачуццё, душэўная цеплыня, любоў. Штодзень, тонкай ручкай ахапіўшы шыю, малая едзе на бацьку «дзеды-бабы», ці проста на закорках у садок, у магазін, у госці, куды наладзілася апошнім часам хадзіць уся Толева сям'я, да новых знаёмых, прыезджых з вёскі людзей. Сядуць, пагамоняць, вып'юць, заспяваюць, пасмяюцца і дружным шнурочкам дамоў вяртаюцца.

Выбіраючы дачцэ-нявесце строі, Толя рашыў: і бацькам трэба належны выгляд мець. Купіў новы касцюм сабе. Жонка прыбірацца любіла: некалькі сукенак пад парады цікаўных жанчын на базары перамерала, а выбрала даражэйшую, такую, як у намесніцы начальніка цэха.

Пад час урачыстай цырымоніі ў святочна прыбраным палацы падвялі на паклон да бацькоў маладых. Толя ледзь трымаўся, вусны дрыжэлі, ражкамі паўзлі ўніз, ён сілай расцягнуў іх ва ўсмешку. У вачах закалола, заказытала, але Толя торгнуў плячамі, як звычайна рабіў, хвалюючыся, павярнуўся няз-

грабна, раскінуў рукі, кіўнуў галавой, і буйныя слязіны неўпрыкмет скаціліся на новы пінжак, ніхто нічога не заўважыў, абышлося.

Адбалявалі: з музыкантамі ўдалося нядорага дамовіцца, тамада папаўся харошы, сваты важныя былі, аўтобус заказаў, «цем болі» — лялька з кольцамі на капоце сядзела… Ды ўсё як у людзей, не горш!

Самастойны чалавек Толя.

## АЛЕСЬ АРКУШ

### «Фальшывая» даведка

*(Урыўкі з рамана «Спадчына»)*

Адзінае, чаго не магу зразумець, чаму бацька не распавёў гэтую гісторыю раней. Не лічыў яе вартай увагі? Ці проста забыўся на тыя даўнія падзеі? А можа, не хацеў мяне ўблытваць няхай сабе ў даўнюю, але цьмяную крымінальную справу? Маўляў, лепш не чапаць ліха.

У той год, калі я наведаў бацьку на лецішчы, ён ужо быў зусім кволы. Твар яго пачаў высыхаць — шчокі ўваліліся, вочы згубілі знаёмае мне з маленства ззянне. Раней, прынамсі мне так здавалася, яны ўвесь час пасміхаліся і нястомна выпраменьвалі жыццярадаснасць і аптымізм. Я нават і не памятаю, ці бачыў калі-кольвечы бацьку ў нейкай зацятай, доўгатэрміновай роспачы або нават разгубленасці.

Цяпер вочы былі ніякія. Нібыта яны перасталі падпарадкоўвацца бацьку. І адчувалася, што ў яго не было ўжо ўнутраных сілаў, каб вярнуць над імі кантроль.

Аднак ён не збіраўся сядзець склаўшы рукі, утаропіўшыся ў тэлевізар. Бацька па-ранейшаму корпаўся ў бульбяных разорах, палівaў грады, збіраў каларадскіх жукоў, абкошваў газон электракасілкай і рабіў шмат чаго іншага. Як і летась. Як і пазалетась. Толькі трэба было бачыць, як цяпер гэта ўсё яму давалася. Здаецца, зусім нядаўна я мог сабе дазволіць лекцыю перад бацькамі на тэму: каму гэта трэба і ці акупаецца эканамічна такая праца? Сёлета ўсё было інакш. Гэта было зацятае змаганне за жыццё. І нават калі я пачаў яму дапамагаць, ён усё адно знаходзіў што рабіць, чым заняцца яшчэ.

Калі на двары стала зусім горача, маці загнала нас у хату і загадала бацьку паляжаць на канапе. Не сказаць, каб ён узрадаваўся гэ-



**АЛЕСЬ АРКУШ**

Нарадзіўся 28 мая 1960 г. у Жодзіне. Скончыў Жодзінскі політэхнічны тэхнікум і Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. З 1987 г. жыве ў Полацку. Выдаваў літаратурны альманах «Ксэракс Беларускі» і літаратурны часопіс «Калосьсе». Ініцыятар стварэння стварыў Таварыства вольных літаратараў і заснавальнік выдавецкай суполкі «Полацкае ляда». Старшыня арганізацыйнага камітэта літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Выдаў 15 кніг паэзіі і прозы.

тай камандзе, але падпарадкаваўся, зняў у калідорчыку абутак і працоўную спяцоўку, апрануў спартовыя штаны і пасунуўся да канапы.

Я ўзняўся на другі паверх, лёг на ложак і пачаў чытаць новы нумар «Дзеяслова», які прыхапіў з сабой у дарогу. Ад спёкі галава кепска цяміла, і мне надаралася асобныя сказы чытаць па некалькі разоў, каб дапяць да сэнсу. Калі б я заснуў, мне быў бы гарантаваны цяжкі галаўны боль да самага вечара.

Праз гадзіну я спусціўся на першы паверх. Бацька ляжаў на канапе тварам да столі. Яго вочы былі расплюшчаны. «Відаць, не спіць», — падумаў я. Тады я зноў узняўся на другі паверх і знайшоў у сваім заплечніку дыктафон. Некалькі разоў, у ранейшыя гады, я спрабаваў запісаць бацькавы ўспаміны, але ўсё нешта ў мяне не атрымлівалася. Аднойчы пачаў пісаць, але падвяла батарэйка. «Ужо трэба спяшацца, каб не спазніцца», — і я нервова пацепнуў плечукамі ад такой думкі.

Падсунуў крэсла да канапы і сеў насупраць бацькавай галавы. Але ён ніяк не рэагаваў на маю прысутнасць.

— Не спіш? — спытаў я яго.

— А… што? — замармытаў ён, нібыта вынырнуў з нейкіх сваіх думак.

— Кажу, не спіш? — паўтарыў я сваё пытанне гучней, бо ведаў, што апошнім часам і слых пачаў падводзіць бацьку.

— Не сплю, — адказаў ён ужо ўпэўненым голасам.

— Памятаеш, я спрабаваў запісаць твае ўспаміны. Можа, зараз паўторым? — мае словы прагучалі максімальна дыпламатычна, нібыта зварот доктара, які спрабуе штосьці патлумачыць хвораму.

— Што там згадваць, нават і не ведаю, пра што табе расказаць, — бацькавы вусны паспрабавалі пасміхнуцца, але гэта не зусім атрымалася.

— Жыццё пражыць — не поле перайсці, — паспрабаваў я пажартаваць.

— Сапраўды, — пагадзіўся бацька.

Мы пару хвілін памаўчалі.

— Ну што, пачынаем? — парушыў я маўчанне.

Бацька павярнуў галаву ў мой бок, зноў паспрабаваў усміхнуцца, пачаў прыўзнімацца, і я дапамог яму сесці.

— І пра што ты хочаш пачуць? — бацькаў голас гучаў стомлена і крыху разгублена.

— Ну нешта такое, пра што ты мне раней не расказваў. Што-небудзь цікавае, — сказаў я, уключаючы дыктафон.

Мы зноў памаўчалі пару хвілін.

— Ну слухай, — пачаў бацька свой расповед. — Пра гэта сапраўды ніколі табе не расказваў. У нас у Жодзіне жыў адзін вельмі разумны, спрытны і адукаваны чалавек. Прозвішча яго было Шагойка. Ён падчас вайны быў у партызанах. Добра ведаў нямецкую мову і сабраў вакол сябе хлопцаў, якія таксама яе ведалі. Падрабляў дакументы і атрымліваў на нямецкіх складах у Смалявічах не толькі прадукты і вопратку, але і зброю. Вось такі быў смелы і ўмелы. Скончылася вайна. Але ён не забыўся на свой промысел. Зноў арганізаваў каманду, і пачалі яны падрабляць ужо савецкія дакумен-

ты. І не толькі складскія накладныя, але і розныя даведкі і нават дыпломы. У яго была процьма грошай. Як у банку. Але хтосьці яго прадаў, Шагойку злавілі і саслалі ў лагер. Там недзе ён і загінуў. Але гэта не ўся гісторыя. Як ты ведаеш, спачатку ў Жодзіне пабудавалі завод «Дармаш», на якім рабілі дарожныя машыны. Гэта ўжо затым «Дармаш» стаў Беларускім аўтамабільным заводам. У нас у сям'і было шасцёра дзяцей. Я старэйшы. У шаснаццаць гадоў кінуў школу і пайшоў вучнем токара на той завод. Трэба было дапамагаць бацькам утрымліваць сям'ю. Маім настаўнікам стаў нехта Сіманчык. Ён якраз уваходзіў у тую славутую банду падробшчыкаў. Падвучыў мяне крыху, а затым увогуле не хадзіў на працу. Атрымае заданне, а я за яго раблю. З мяне някепскі токар атрымаўся. Сіманчыка таксама арыштавалі. І больш яго ў Жодзіне ніхто не бачыў.

Бацька замаўчаў, утаропіўся ў акно і затым нейкім сцішаным голасам дадаў:

— У саўгасе ёсць такі цагляны клуб. Напэўна, ён яшчэ захаваўся. Ну, той, што за ракой. У іх там схоў быў. Хтосьці з падробшчыкаў у тым клубе працаваў. Неяк я падслухаў размову Сіманчыка з невядомым мне чалавекам. Вось такая гісторыя.

Бацька зноў замаўчаў і прылёг. Гэтыя некалькі хвілін размовы, відаць, яго стамілі. Я паправіў падушку і выключыў дыктафон.

Зрабіў некалькі крокаў, каб сысці, але спыніўся, павярнуўся да бацькі і спытаў:

— Не паверу, што ты не шукаў той схоў.

— Шукаў, але нічога не знайшоў, — адказаў ён з абыякавасцю ў голасе і не павярнуўшы галавы ў мой бок.

(…)

«Прыязджай, зваджу цябе на тое месца, куды ты хацеў патрапіць». Гэтага званка брата мне было дастаткова, каб у той самы вечар выправіцца ў дарогу.

Ехаў начным цягнікомда Менска, а там маршруткай.

Па дарозе ўзнікалі ў маёй галаве розныя версіі адносна таямнічага запрашэння. Самая простая — брат раздабыў ключ ад зарэчнага клуба, і цяпер мы можам у яго патрапіць.

Самая фантастычная — брат сам усё абследаваў і нешта істотнае знайшоў. Але ў гэта не вельмі верылася. Зрэшты, якіх толькі цудаў не бывае на свеце.

Трэба прызнаць, што версія, якая супала б з рэальнасцю, у маёй галаве дакладна не ўзнікала.

Насамрэч клуб перадалі мясцовай пратэстанцкай абшчыне, якая пачала рамант будынка, каб пераабсталяваць яго ў малельню.

Калі мы прыехалі, на клубе поўнай хадою ішлі падрыхтоўчыя працы. На сцяне занядбанага будынка з'явілася дошка «Пашпарт аб'екта», з якога

вынікала, што тут адбываецца мадэрнізацыя гэтай спаруды па вуліцы Зялёная, 5, і што будоўля вядзецца гаспадарчым чынам.

Вакол былога клуба некалькі мужчынаў збівалі з дошак рыштаванні. Частку шыферу з даху ўжо паспелі зняць. Уваходныя дзверы былі адчыненыя.

Віктар падышоў да мужчынаў, якія завіхаліся каля рыштаванняў, і спытаў дазволу ўвайсці ў клуб. Будаўнікі не мелі нічога супраць.

Усярэдзіне нас сустрэлі бязладдзе, запусценне і будаўнічы вэрхал. У адным з кутоў галоўнай залі будаўнікі трымалі свой рыштунак, а таксама дошкі і нейкія металічныя трубы. Усё было пакрыта вялікім слоем пылу, як быццам бы тут ён збіраўся стагоддзямі. Калі мы выйшлі ў цэнтр залы, то за намі засталіся сляды, як на снезе. Пра былое прызначэнне будынка нагадвалі некалькі зламаных крэслаў, якія за савецкім часам выкарыстоўваліся ў кіназалах, рэшткі нейкіх плакатаў і афішаў на падлозе, скасабочаны партрэт даўно забытага актора з падмаляванымі вусамі, які невядома як, з апошніх сілаў, трымаўся на сцяне.

— Культура гэты будынак пакінула ўжо даўно, — аглядаючыся па баках, прамовіў брат.

— Але актор трымаецца з апошніх сілаў, — пажартаваў я, кінуўшы галавой у бок партрэта на сцяне.

Брат падышоў да партрэта і паправіў яго.

І што ў гэтым вэрхале можна было адшукаць, і што тут магло захавацца? Мы зазірнулі ў некаторыя іншыя пакоі і, акрамя смецця з мінулага стагоддзя, а таксама засохлых экскрэментаў, відавочна ўжо з нашага стагоддзя, нічога не пабачылі.

— Ты думаў, што тут стаіць нейкая шафа, а ў ёй тое, што схавалі «шагойкаўцы»? — У брата з'явілася добрая нагода з мяне пажартаваць і пацвеліць.

— Не, проста мусіў сюды патрапіць, — пачаў я апраўдвацца перад братам. — Бо гэтая гісторыя павінна набыць нейкі лагічны канец, бо, адчуваю, яна звязаная з лёсам нашай сям'і. Часам легенда пра скарб больш істотная за сам скарб. Скарб знайшлі, скарысталі — і ўсё. А легенда жыве стагоддзямі. Нават пра той скарб, які не знайшлі. Разумееш?

— Разумею? Скарб мы не знайшлі, і легенду таксама. — Брат не збіраўся так лёгка адмовіцца ад крытыкі марнага візіту.

— Легенду ствараюць людзі. Спачатку тыя, пра каго гэтая легенда. А затым тыя, каму яна цікавая і патрэбная.

— А нам яна цікавая ці патрэбная?

— Нам яна важная, каб зразумець свой уласны лёс і каб быць удзячнымі тым людзям, якія не дазволілі нашаму сямейнаму лёсу абарвацца, каб мы з табой увогуле з'явіліся на свет.

— Штосьці я цябе не зусім разумею, — пацiснуў плячыма брат.

— Увечары патлумачу.

Брат выйшаў на вуліцу, а я пачаў яшчэ раз уважліва аглядаць пакой за пакоем. Нічога істотнага не заўважыў. Я шукаў любое прыдатнае месца, з

якога можна было б зрабіць схованку. Але ў пакоях былі толькі голыя сцены, дзе-нідзе з адбітай тынкоўкай. Нарэшце ўвайшоў у невялічкае памяшканне, адкуль некалі кінамеханік пускаў фільмы. У ім было цёмна, і толькі дзве палоскі святла пранікалі ў пакойчык праз адтуліны для кінапраектараў. У гэтым цьмяным святле, як штосьці халоднае, мёртвае, касмічнае, клубіўся пыл.

Я прамацаў сцены рукамі. Звычайныя сцены. На гарышча ўзнімацца не было ніякага сэнсу. З даху прыбралі шыфер, і гарышча ўжо практычна не існавала.

* * *

Увечары на пляцыку перад уласным домам брат гатаваў свой фірмовы плоў у сваім фірмовым казане.

Мы сядзелі за сталом на верандзе, глядзелі на тое, як вечаровае сонца залаціла вершаліны хвояў. Лес пачынаўся практычна за плотам братавай сядзібы.

— І што ты мне збіраўся патлумачыць? — першым парушыў маўчанне брат.

Мне хацелася гэта распавесці з пэўнай прэамбулай, неяк цікава, каб брату тое запомнілася надоўга. Але без усялякай прэамбулы выпаліў:

— Думаю, што Шагойка моцна дапамог сям'і нашай мамы. Прыктычна выратаваў яе ад страшнай галадухі.

— У сэнсе? З чаго ты гэта ўзяў?

— А ты калі-небудзь гартаў кнігу «Памяць» Смалявіцкага раёна? Там усё падрабязна напісана пра мінулую вайну. Спісы тых, хто быў у партызанах, хто быў на фронце, хто загінуў на вайне, хто з мірных жыхароў быў закатаваны фашыстамі. Прычым спісы складзеныя па вёсках. Дык вось, у тых спісах зусім няма нашага дзеда Захара. Зусім. Ні ў партызанах, ні на фронце, ні забіты на вайне, ні закатаваны фашыстамі як мірны жыхар. Яго зусім няма. І можна лёгка здагадацца, у якіх ён апынуўся спісах.

— У якіх?

— У спісах ворагаў народа. Як стараста вёскі Бабін Лес.

На некалькі хвілін усталявалася цішыня. Было нават чутна, як выкіпала апошняя вада з плову. Я перапыніў маўчанне і пачаў тлумачыць свае здагадкі, якія не давалі мне супакою апошнія некалькі тыдняў.

— Ты, відаць, не раз чуў ад мамы гісторыю пра тое, як пасля вызвалення Беларусі, калі нашая бабуля Наста засталася адна з васьмю дзецьмі, наступілі жахліва галодныя часіны, горшыя, чым пад акупацыяй. Мама любіла тут абавязкова прыгадаць, што яна ўдосталь не ела хлеба да пачатку пяцідзясятых гадоў. І тут пачынаецца самае цікавае месца гэтай важнай для нас з табой гісторыі. Паводле мамінага расповеду, нейкія былыя партызанскія камандзіры выпісалі бабулі даведку на дзеда як на партызана-змагара, які быў закатаваны немцамі. З гэтай даведкай бабуля едзе ў Менск і атрымлівае некалькі мяхоў гуманітарнай дапамогі — харчы і адзенне. А потым гэ-

тая выратавальная даведка дзіўным чынам некуды знікае. І неўзабаве дзед перастае быць партызанам-змагаром, а яго дзеці губляюць усе належныя ім прывілеі. Як ты лічыш, хто мог выпісаць гэтую даведку нашай бабулі?

— Ты думаеш, сам Шагойка?! — уражана ўсклікнуў Віктар.

— Не думаю, а ўпэўнены. Больш ніхто гэтага не мог зрабіць. Сапраўдныя партызанскія камандзіры былі ўжо або далёка на франтах, або самі знаходзіліся пад пільным разборам палётаў, якія ладзілі ім нкусаўцы. Пісаць даведку былому старасце, хоць ён насамрэч працаваў на партызанаў, ніхто б не насмеліўся. За камандзірамі было шмат іншых грахоў. Навошта рызыкаваць? Толькі Шагойка. Хто-хто, а ён добра ведаў, якія заданні насамрэч выконваў дзед, прычым няцяжка здагадацца, што гэта былі суперсакрэтныя заданні, пра якія ведалі лічаныя людзі ў брыгадзе. Напрыклад, менавіта наш дзед прывозіў са Смалявічаў партызанам чыстыя бланкі і накладныя. І Шагойка павінен быў гэта ведаць.

— Сапраўды, досыць лагічна атрымліваецца. Асабліва калі ўлічыць, што ў кнізе «Памяць» дзеда няма.

— Во-во. І пра тую даведку ведалі толькі сам Шагойка і бабуля. Знікла тая паперка на дзіва хутка і затым нідзе не фігуравала. Бо калі б яна выпісвалася ў афіцыйных структурах, дык яе можна было б аднавіць. Але бабуля не рабіла ніякіх спробаў па аднаўленні, хоць тая даведка яшчэ ой як спатрэбілася б.

Хвоі за плотам ужо гарэлі ў апошніх промнях знікаючага за даляглядам сонца. Кіламетраў за дзесяць адсюль пачыналася партызанская зона брыгады «Смерць фашызму». Недзе па гэтых лясах блукалі нашыя дзяды. У пошуках сваёй долі. І нашай таксама. Кніга «Памяць» — гэта толькі кніга. Нашая памяць — гэта нашая памяць. Гэта тое, што мы павінны аднавіць і захаваць.

Неяк так мне тады падумалася.

— Напэўна, твой плоў ужо гатовы, — сказаў я брату, які таксама сядзеў у задуменні.

— Напэўна.

Брат устаў і пасунуўся ў бок свайго фірмовага казана. Зрабіўшы колькі крокаў, спыніўся, павярнуўся да мяне і сказаў:

— Шкада, што Шагойка ўжо не жыве.

— Ну так, — пагадзіўся я. — Інакш бы мы яго пачаставалі пловам.

І мы з братам разам засмяяліся, здымаючы з сябе напружанне, радуючыся і за бабулю Насту, і за дзядоў, і за Шагойку, і за саміх сябе.

# АНДРЭЙ БУРЭЦ

## Трапятанне сэрца

> Ну вось чаму стрэлы Амура, патрапіўшы ў наша сэрца, заўсёды ператвараюцца ў стрэмкі?!!
>
> *З афарызмаў Пацяробкіна*

…Ён заставаўся самотнікам на бязлюдным востраве, яна пакідала яго, адплываючы на караблі. Зляканы перспектывамі адзіноты, ён падскочыў, замахаў рукамі, спрабуючы прывабіць увагу. «Гэй! паглядзі на мяне, паглядзі, які я разумны, таленавіты, які я… жартаўлівы! Ты яшчэ пашкадуеш, што кінула мяне, чуеш? Пашкадуеш!!!» У адчаі ён затупаў нагамі так моцна, што, здаецца, зямля затрэслася пад ім. Карабель з ёй безуважна да яго крыкаў, павольна адплываў усё далей і далей. Беззваротна. Ён сеў на зямлю, закрыў твар далонямі і заплакаў…

— Што ў вас? — спытала медсястра ў акенцы рэгістратуры.

— Што?.. — я ачуняў ад мроі, якая апанавала мяне падчас чакання ў чарзе, і цяпер няўцямна глядзеў на стомленую і абыякавую жанчыну ў белым халаце. А сапраўды, што ў мяне? Як гэта можна патлумачыць? Я разгублена маўчаў.

— Ну давайце хутчэй, людзі чакаюць, — раздражнёна прыспешыла яна.

— Не ведаю нават, да каго звярнуцца, —замямліў я. — Разумееце, у мяне непрыемнасці… з сэрцам.

— Ну, тады вам да кардыёлага трэба, — чмыхнула яна носам і працягнула мне кавалачак паперы.

Я адшукаў патрэбны кабінет, спытаў, хто апошні ў чарзе, усеўся ў крэсла чакаць. Ну й што я скажу гэтаму кардыёлагу? Непрыемнасці з сэрцам… ха-ха-ха. Смешна. Па праўдзе, я згубіў над ім кантроль. Я закахаўся. Ну і цудоўна, скажаце вы, радыя за цябе. На



**АНДРЭЙ БУРЭЦ**

Нарадзіўся ў Брэсце, потым пераехаў у Наваполацк, дзяцінства прайшло ў Расіі, потым з бацькамі вярнуўся ў Наваполацк, дзе скончыў школу. Скончыў факультэт беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Цяпер жыве ў г. п. Шаркаўшчына, працуе ў раённай газеце «Кліч Радзімы».

якую ж халеру ты прыпёрся ў бальніцу? Спачатку і сапраўды ўсё было цудоўна. Так цудоўна, што я, згубіўшы ўсялякую асцярогу, даў сэрцу згоду — кахай! Але прайшоў пэўны час — і па яе вачах, па дотыках, у якіх больш не было пяшчоты, я зразумеў, што яна не кахае мяне. Тады я ў поўнай меры адчуў дзеянне гэтага дзіўнага закона: калі ў аднаго з закаханых знікае каханне, то другі па законах захавання пачынае кахаць удвая мацней. Ну і халера на яе, падумаў я спачатку і загадаў свайму сэрцу: не кахай! А яно, гэты ўпарты кавалак мяса, працягвала правіць сваё і з кожным тахканнем выкідвала і гнала ў кроў атрутнае рэчыва замілаванасці да іншага. Мой мозг тысячу разоў прыводзіў тысячы аргументаў, што не трэба мне яе кахаць, што няма там каго кахаць. Як толькі не лаяў я яе, я падвяргаў яе найаб'ектыўнейшаму аналізу, бачыў яе падступную сутнасць наскрозь. І ўсё адно працягваў кахаць гэтую пагарджаную істоту. Як такое магчыма?

Я і не ведаў, што адчай можа драпежнікам так бязлітасна драць душу на кавалкі. Я глядзеў на свет, і нічога ў ім не мела значэння, вясновая зялёная трава згубіла сваю яскравасць, паблякла сонца, усе блізкія раней людзі здаваліся чужымі і нязначнымі. Мне хацелася бегчы ад самога сябе, ад сваіх нуды і адчаю. Але куды? Нават ува сне мучыла яна мяне. Надоечы мне снілася, што мы ляжым з ёй у адным ложку. Я павярнуўся да яе спінай, ведаючы, што, варта мне дакрануцца да яе — пабудаваныя мною з такой цяжкасцю бар'еры нелюбові імгненна абрынуцца. Яна абняла мяне і дакранулася вуснамі да пляча. Я не мог болей стрымліваць сябе і, павярнуўшыся, абняў яе і пачаў шукаць ейных вуснаў, прыпаў да іх у вострым шчымлівым шчасці. Я ведаў, што гэтае хвіліннае шчасце будзе каштаваць мне гадзінаў болю і пакут. Галоўнае — не расплюшчваць вачэй, думаў я, прагна п'ючы з яе вуснаў, бо калі пагляджу ў ейныя вочы, то прападу ў іх навекі. І ўсё ж расплюшчыў, і дзіўным чынам, як гэта часта бывае ў снах, убачыў сябе збоку. Побач са мною нікога не было, я круціўся на ложку адзін і ўвесь час зяпаў ротам, падобна да раз'ятранага сабакі, які, ірвучыся на ланцугу, вырывае ашчэранымі ікламі кавалкі з паветра.

Шторанку я прачынаўся з агідным адчуваннем неабходнасці пражыць яшчэ адзін непатрэбны беспрытульны дзень, у якім трэба было прадзірацца праз хвіліны і гадзіны бязрадасных роздумаў, пераржоўвання збрыдлых думак і перажывання апрыкрых пачуццяў.

Колькі разоў смяяўся я з кахання, колькі разоў кпіў з нешчаслівых каханкаў. Я — той, хто заўсёды пасміхаўся з сумнавокіх, якія нудзіліся пакутамі кахання. Недарэкі, хіба вам больш няма чым заняцца?!! І вось пакаранне! Я сам апынуўся ў гэтай пастцы.

Я глядзеў уважліва ў самога сябе і разумеў, што ў маім каханні мала ўжо заставалася кахання, а болей — абражанага самалюбства і гонару, распаленых адмовай крыўды і роспачы, скнарлівага нежадання адпускаць чалавека, які быў некалі так блізкі.

Я ўсё разумеў, а нічога не мог зрабіць. Побач са мною прысеў змізарнелы чалавечак. Вось і ён! Яшчэ не здох, аказваецца! Я памятаю, як ён упершыню

з’явіўся на маім парозе адразу пасля нашага расстання з ёй. Тады ён яшчэ быў пухлявы, чырвоненькі, як парсючок.

— Добры дзень, майстар па рамонце адносін, — прэзентаваў ён сябе і без запрашэння праціснуўся ў дзверы.

О! каб ведаў я тады, што гэта за тыпус, як дасца ён мне ў знакі, сунуў бы яму кулаком у ружовы лыч, аблаяў, скінуў з лесвіцы і наказаў ніколі больш не паказвацца на маім парозе.

— Бачу, вы ў роспачы, — загаварыў ён, бадзёра ўсміхаючыся. — Не трэба адчайвацца, хачу запэўніць вас: усё яшчэ можна паправіць.

— Праўда? — з надзеяй спытаўся я.

— Безумоўна! — усеўся ён за стол і пачаў выцягваць са свайго пульхнага чамаданчыка розныя паперкі. — Вось хаця б успомніце, як яна сказала гэта загадкавае: «Калі б…» Што, вы думаеце, яна мела на ўвазе? А вось тое самае. Сумняваецца дзяўчына, вагаецца. А значыць, шанцы ў нас ёсць. А паглядзіце сюды, — працягнуў ён мне фатаграфію. — Знята неўзабаве пасля вашага расстання. Вы думаеце, яна была б тут такая сумная, каб нічога да вас не адчувала?

Памятаецца, я прыслухаўся да яго і нават быў наважыўся набраць ейны нумар. Але, пачуўшы абыякавае «прывітанне», адразу зразумеў, што ўсё, што нагаварыў мне гэны прайдзісвет, было лухтою лухцяною. Але пазбавіцца ад яго не было ніякай магчымасці, аказалася, надзея, што цябе ўсё яшчэ кахаюць, ці не самая трывалая з усіх надзеяў. Вось і цяпер, усеўшыся побач са мною, майстар звыкла, але без ранейшай нахабнасці і ўпэўненасці, нарыхтаваўся мазоліць мне вушы абрыдлымі ўжо да ванітаў меркаваннямі. Вытрымаць гэтага я не мог, таму падскочыў з крэсла і без чаргі заскочыў у кабінет, зачыніўшы дзверы перад самым носам назолы, які памкнуўся быў за мною. Тут я даў нясмелага дабрыдня пажылому мужчыне, які сустрэў мяне поглядам жывых вясёлых вачэй.

— Заходзь, казак, заходзь! Ну што ты, такі малады, а ўжо сэрца непакоіць?

Я, блытаючыся, адчуваючы няёмкасць, пачаў тлумачыць яму сваю бяду.

— Ну, казак, — перапыніў ён мой аповед, — калі б кожны, у каго з гэтай прычыны баліць сэрца, прыходзіў да мяне, тут ведаеш якая б чарга стаяла.

— Доктар, — жаласліва адказаў я. — Гэта ж вельмі моцна баліць, што аж нельга трываць, жыць не хочацца, свет нямілы стаў. Калі так далей пойдзе, то хай яно лепей спыніцца, сэрца тое.

— Ну а чым я магу табе дапамагчы? — у яго вясёлых вачах з’явілася троху спачування. — Тваё выразаць і чужое ўставіць? Прабач, шаноўны, але медыцына пакуль такім не займаецца. — І дадаў у адказ на маё нямое пакутлівае пытанне: — Ты мо да псіхолага лепей звярніся, гэтыя знаўцы загадак чалавечае душы табе параяць што.

Спроба не хвароба, хай ужо ў вар’ятню кладуць, я быў гатовы на ўсё, абы пазбыцца гэтага невыноснага гнёту. Псіхолаг — прыемная з выгляду жанчына сярэдніх гадоў, пакуль я расказваў ёй сваю гісторыю, глядзела на мяне са шчырым спачуваннем.

— Не саромцеся, малады чалавек, — супакоіла яна мяне, адчуўшы, маю ніякаватасць і разгубленасць. — Каханне — гэта і сапраўды ў нейкім сэнсе псіхічная хвароба, ці назавём яго лепей расстройствам. Як лячыцца ад няўдалага кахання? Найперш трэба абмежаваць усе сувязі з тым чалавекам, якога вы кахалі. Ніякіх сустрэч, ніякіх тэлефанаванняў, забудзьце пра яе. Схавайце ўсе фотаздымкі, усе рэчы, якія могуць нагадаць. Каханне — гэта амаль наркатычная залежнасць ад іншага чалавека як на фізіялагічным узроўні, так і на псіхалагічным. У каханні многа самаўнушэння. Мы самі на падсвядомым узроўні пераконваем сябе, што не можам жыць без пэўнага чалавека. Ведаеце, малады чалавек, сучасныя даследчыкі сцвярджаюць, што вера ў каханне ў жыцці людзей ніяк не меншая, а можа ў цяперашнія часы мацнейшая за веру ў Бога. Нават самы закаранелы цынік і атэіст у глыбіні душы верыць у сваю здольнасць кахаць. Па дзіўнай чалавечай упэўненасці ў сваёй выключнасці, кожны верыць, што яго каханне — наймацнейшае, самае вернае. І, закахаўшыся, ён проста не можа імгненна раскахаць, бо гэта будзе для яго прызнаннем нявартаснасці свайго кахання. Не думайце, што ваша каханне выключнае. Не рабіце са свайго кахання ідала. Мільёны людзей кахалі да вас, пакутавалі не меней за вас і заставаліся жывыя. Гэта не смяротная хвароба, яна пройдзе. І паверце, праз некаторы час вы будзеце ўзгадваць пра свае пакуты з усмешкай. А пакуль абавязкова займіцеся якой-небудзь дзейнасцю, якая магла б захапіць вас. І ўвогуле, азірніцеся: вакол вас сотні прыгожых дзяўчат і сотні магчымасцяў для новага кахання, якое на гэты раз можа аказацца шчаслівым.

«Не, дзякуй, — падумаў я сам сабе. — Мне хапіла аднаго».

Так, я разумеў усё, што казала гэта душэўная, ветлівая жанчына. Хіба і сам я не думаў пра гэта? Але разуменне сутнасці хваробы, на жаль, не вылечвала ад яе. На развітанне дактарка напісала мне на аркушыку нейкія вітаміны для павышэння тонусу.

Нарэшце, бачачы мой гаротны стан, адзін мой добры сябар параіў наведаць бабку-шаптуху. Сярод яе паслуг, як ён чуў, было і зняцце любоўных чараў. Вядома, вам падасца смешным, што я, адукаваны чалавек, мог паспадзявацца на дапамогу нейкіх старадаўніх забабонаў. Але калі навука і розум мне нічым не дапамаглі, а з кожным днём я ўсё больш і больш вар'яцеў, абыякавеў да навакольнага жыцця… Таму аднаго ранку старэнькі з'езджаны аўтобусік павёз мяне ў пошуках жаданага ратунку. Вёска аказалася настолькі забытая людзьмі і светам, што аўтобус да яе нават і не даехаў, і мне давялося ісці пехам кіламетраў дзесяць, дзе па грунтовых дарогах, дзе па сцежках. На шчасце, якраз быў пагодны травеньскі дзянёк з тых, калі сонца пячэ не менш, чым улетку. Так што вандроўка, можна сказаць, была прыемная. Калі не ўлічваць той факт, што ў мяне быў такі стан, што, хоць пасыпся на мяне дождж з жаб і змей, я гэта не надта б заўважыў. Зануораны ў свае гаротныя думкі, я нарэшце ўбачыў наперадзе шыльдачку з надпісам «Кажаны». Вёсачка была не багатая на хаты, палова з іх стаялі пустыя, падворкі густа параслі травою. Сцежка прывяла мяне да невялічкай, пахіленай на адзін бок хат-

кі, на гародчыку відаліся пазнакі чалавечай дзейнасці, на палянцы паслася козачка, якая пры маім набліжэнні трывожна мэкнула, узбрыкнула заднімі ножкамі і ўцякла. Я пагрукаў у дзверы, потым яшчэ і яшчэ, з кожным разам мацней. Ніякага адказу. «Мо не чуе бабуля, глухаватая», — падумаў я і зайшоў у хатку. У сенцах прыемна пахла зёлкамі, якія пучкамі былі развешаны па сценах. Я з асалодай, на поўныя грудзі ўдыхнуў водар, падобны на пах свежага духмянага сена.

— Дабрыдзень вам, — пачуў я ціхі голас за спінай, павярнуўся і ўбачыў невысокую, ростам з дзяўчыну-падлетка, бабулю з букетам палявых кветак у руках.

— Прабачце, — мне стала сорамна за сваё бесцырымоннае ўварванне. — Я думаў, у хаце нехта ёсць.

Але бабуля зусім не злавала, анікольki не збаялася маладога незнаёмага чалавека, нібыта з першага погляду адчуўшы, што я не маю ніякіх злых намераў, і лагодна запрасіла мяне зайсці ў хату.

Унутры было прыбрана, чыста падмецена, і зноў жа ўсё было ўвешана зёлкамі. Бабуля спачатку напаіла мяне вадою, потым усадзіла за стол, на якім хутка з’явіліся вараныя бульбіны і кубак з малаком. Ці то на мой апетыт так падзейнічаў прыемны пах зёлак, ці доўгая дарога, але еў я гэтую простую ежу з вялікім смакам. Паціху завіхаючыся па хаце, бабуля распытвала пра мяне, прычыны з’яўлення ў Кажанах. Я неяк і забыўся спытаць, ці тая яна знахарка, якую я шукаю, а проста і шчыра пачаў расказваць ёй сваю гісторыю. Цікава, колькі ёй гадоў. Можа, восемдзесят? Уся сухенькая, здаецца, скура толькі абцягвала косці, яна заставалася надзіва рухавай. Яе выцвілыя, як старыя фотаздымкі на сценах, вочы глядзелі з дабрынёй і лагодай.

— Так, унучак, так. Дзіўная гэтая любоў. Колькі пражыла я, а ўсё дзіўлюся, што яно робіць з чалавекам. І радасць прыносіць, і гора. Славяць яго людзі і клянуць, прагнуць і ўцякаюць ад яго. Вось ты пра сваё каханне расказаў, а я табе пра іншае. Даўно, як яшчэ ў дзеўках я была, сябравала з суседкай. Ганка дзяўчына была спрытная, але бедная, бацька ў іх памёр, дзяцей многа малых засталося. Злюбілася яна з Базыльком. На ўсіх вечарынах разам, праводзіў яе па вечарах, казаў, што ажэніцца з ёй. А матка ягоная іншую сабе нявестку нагледзела, багацейшую. Прыйшоў Базылёк увечары да Ганкі, плача, кажа: кахаю цябе, але супраць матчынай волі пайсці не магу. Так і рассталіся яны. Ажаніўся ён з Мартай. А ў той якая ж паскудная натура! Як вяселле згулялі, стала з сяброўкамі ў Ганкі пад акном і расказвае, як яны з Базыльком мілуюцца. Не дзіва, што як толькі пасватаўся да Ганкі хлопец з іншай вёскі, яна не раздумваючы згадзілася. Галоўнае, казала, што тая вёска далёкая, падалей адсюль хачу з’ехаць. Многа гадоў мінула, а як сустрэне мяне Ганна, то абавязкова спытае, як Базыль пажывае, ці ладзіць ён з Мартай. А ты паспрабуй зладзь з той Мартай, мала што характар злы, дык яшчэ й нялюбая. А вось Ганне добры чалавек трапіў… Памёр Базылёк, пахавалі яго. Неяк адведвала нас Ганна, папрасіла мяне, каб адвяла на ягоную магілку. Доўга стаяла там, быццам размаўляла з ім. Бачыш, унучак, як бывае… — Бабуля паглядзела на

мяне сваімі разумнымі вачамі. —На ўсё доўгае жыццё любоў рану пакінула, ні росстань яе не загаіла, ні час. Чым жа табе неадукаваная бабка можа дапамагчы?

Я разгублена маўчаў. Гэтак усё жыццё мне цяпер пакутаваць?

— Але ж паспрабую. Трэба ж нешта рабіць з табою, бедаком? — яна ўсміхнулася, узнялася з-за стала і паднесла мне кубак. — Вось выпі, унучак, спачатку ўзвару. А тады кладзіся на ложак, а я пашапчу табе трошку.

Напой аказаўся гаркавым на смак. Без асаблівай ахвоты я выпіў яго дарэшты і ўладкаваўся на засланы стракатай капай ложак. Бабуля прысела побач, паклала мне на лоб сваю далонь і пачала сваё шаптанне:

— Вадзіца-царыца, марская крыніца, ішла ты з-пад крутых гор, з-пад ясных зор, тонкімі жыламі, марскімі сіламі, падмывала ты крутыя берагі, мыла ты жоўтыя пяскі, умывала ты сырое карэнне, белае каменне, калоды валяныя, шоўкаву траву…

Суцішна і супакойна было мне адчуваць шурпатую сухенькую далоньку на лбе. У патыліцы прыемна заказытала, як быццам нехта там унутры вадзіў лёгкім пёркам.

— …Прашу цябе, вадзіца-царыца, абмый жа ты ў хлопца-малойца ўсю яго балезь, калюшчую, і гарушчую, і ветраную, і часінную, і зарынную, і паўдзённую, і вячэрнюю, і паўношную; і ўмывай з яго раціва сэрца, з буйныя галавы і з русага воласу, громкага голасу, і з ясных вачэй, і з гаручых слёз, і з румянага твару. І ўсёй гэтай балезні ў хлопца-малойца не бываць на гэты час, на гэты раз і на мой прыгавор. Ідзі з хлопца-малойца на мхі, на балоты, на гнілыя калоды…

Пад гукі ціхага, меладычнага голасу я незаўважна задрамаў, а калі расплюшчыў вочы — убачыў дзіўную карціну. Бабуля трымала на далоні маё сэрца. Страшна выглядала яно, быццам невылечны калека ў апошнія свае пакутныя хвіліны: пакрытае закарэлымі струпамі, заплылае чырвона-чорнай густой вадкасцю ўперамешку з агідным жоўтым гноем, сэрца цяжка ўздрыгвала.

— Бачыш, якое хворае стала тваё сэрца. Набрыняла яно адчаем, рэўнасцю, злосцю, абражаным гонарам.

Дзверы нячутна адчыніліся, і ў пакой зайшоў вялізны сабака. Не! Ці не воўк?! Столькі гонару і самавітасці, якіх не сустрэнеш у звычайнага сабакі, было ў позірку ягоных зялёных вачэй. Ён асцярожна ўзяў маё сэрца з бабулінай далоні сваімі вострымі ікламі, павярнуўся і пайшоў вонкі.

— Бяжы за ваўком, — прашаптала бабуля мне на вуха, —бяжы. Не губляй з вока сваё сэрца.

Я ўзняўся, зрабіў некалькі крокаў і здзівіўся: якім жа лёгкім зрабілася маё цела без сэрца. Я імкліва выйшаў з хаты і толькі ўбачыў, як у лясным гушчары мільгатнуў ваўчыны хвост. Памятаючы бабулін наказ, я кінуўся за ім. «Хіба ўганюся за хутканогім шэрым? — падумалася мне. — Апошні раз на доўгія дыстанцыі бегаў ці то ў школе, ці ва ўніверсітэце». Але дарма я хваляваўся, мае ногі незалежна ад маёй волі пабеглі-панеслі мяне, мае крокі

рабіліся ўсё шырэйшыя і шырэйшыя, я спрытна абмінаў дрэвы, пераскокваў струхлелыя камлі і зараснікі кустоўя. І вось ужо бег побач з воўкам, мы разам несліся праз лясы і палі, пакідаючы ўбаку дарогі і людскія селішчы.

Не ведаю, колькі працягваўся наш шалёны бег. Час знік для мяне. А можа, мы былі хутчэйшыя за час? Я забыў пра ўсе свае згрызоты і нуду, адчуваючы толькі радасць ад нястрымнага бегу, ад посвісту ветру ў вушах, ад мільгацення фарбаў.

Мы апынуліся на беразе. Мора? Акіяна? Перад намі распасціралася бязмежная блакітная роўнядзь, якую песцілі сваімі дотыкамі тысячы сонечных промняў. Мой спадарожнік у гэтай дзіўнай вандроўцы ўвайшоў у ваду і аддаў маё сэрца хвалі, якая падхапіла і імкліва панесла яго ад берага. Воўк зірнуў на мяне сваімі разумнымі вачамі, у якіх бачыўся загад: за сэрцам! Я кінуўся ў ваду, нырнуў і хутка паплыў, быццам усё жыццё правёў у вадзе. Хоць плыў я хутка, але ўсё адно не паспяваў за імклівай хваляй. Неўзабаве я заўважыў, што побач са мною імчыць, паблісківаючы мокрай спінай, дэльфін. Я схапіўся за яго, абняў за бліскучую шыю, і вось ён ужо нёс мяне па водных прасторах. Я адчуваў такую лёгкасць, здольнасць зрабіць усё немагчымае, што, не баючыся згубіць раўнавагу, стаў дэльфіну на спіну і цяпер нёсся па вадзе падобна да гэтых шчасных спартоўцаў, якія ўсё жыццё гойсаюць па хвалях на адмысловых дошках. Але і гэта мне хутка надакучыла, і я пераскочыў на спіну суседняга дэльфіна — а гэтых гарэзнікаў, якія раз-пораз падскоквалі з вады, тут была цэлая плойма. Потым на іншага, потым на яшчэ аднаго… Атрымлівалася, што цяпер я бег па вадзе неверагодна хутка. Дэльфіны не былі супраць маёй забаўкі і толькі радасна гергеталі па-свойму. Але вось, пераскокваючы чарговы раз, я паслізнуўся і боўтнуў у ваду. Толькі я вынырнуў і паспеў глынуць паветра ў грудзі, як мяне нешта ўхапіла за нагу і пацягнула ўглыб. Калі я нарэшце разгледзеўся ў вадзе, то ўбачыў, што за нагу мяне трымае страшная пашча, а вакол кружляюць вялізныя акулы. Надзіва, я ані не баяўся іх, у мяне нават не ўзнікала думкі, што яны могуць зрабіць мне нешта благое. Мне здавалася, што яны шчэрацць свае зубастыя пашчы ва ўсмешках, нібыта згулялі са мною вельмі смешны жарт.

— Сэрца! — закрычаў я адной з іх, што якраз падплыла да мяне. — Мне нельга згубіць сваё сэрца!

Але замест слоў з майго роту выбухнулі дзясяткі бурбалак. Не паспелі яны расплысціся і знікнуць, як мяне ўжо зноў некуды цягнула. Вакол майго пояса абкруцілася нейкая тоўстая ружовая вяроўка. Але вельмі хутка я зразумеў, чым гэта было насамрэч. Шчупальцам гіганцкага васьмінога, які, ухапіўшы мяне, прыцягнуў да сябе і цяпер уважліва разглядаў сваім вялікім вокам. Калі раней акулы падаліся мне дурнаватымі блазнюкамі, то ў сінечы васьміногавай зрэнкі, прыгожа абведзенай залатым кольцам, мне ўбачылася філасафічная глыбіня. «Дык гэта, пэўна, цэлы падводны мысляр!» Я з вялікай цікавасцю даведаўся б ягоныя погляды на наш сусвет, але, на жаль, часу ў мяне не было. Я паказаў сабе на грудзі, потым торкнуў пальцам туды, дзе, здаецца, знаходзіўся надводны свет, і пастараўся тварам выразіць усю піль-

ніцу майго вяртання туды. Не ведаю, што зразумеў васьміног з маіх мігаў, але вось, усё гэтак жа абшчапіўшы мяне шчупальцам, ён пачаў раскручвацца, набіраючы ўсё большую і большую хуткасць. Такім чынам я апынуўся прымацаваным да жывой каруселі. І калі, дасягнуўшы максімальнай хуткасці вярчэння, васьміног аслабаніў мяне, то я ракетай працяў водную тоўшчу і высока ўзляцеў у паветра. На вышыні вакол мяне адразу залёталі чайкі. Як быццам моцна абураныя маім нечаканым з'яўленнем, яны зласліва закігікалі-заенчылі: «Ну вы паглядзіце, паглядзіце на такі цуд! Цяпер гэты пачварны боўдзіла яшчэ і лятае!» Але яны памыляліся: узляцеўшы ажно ў белую пярыну аблокаў, я імкліва пачаў падаць і, без сумневу, неўзабаве зноў бы апынуўся на гасцінах у акул, васьмінога і іншых насельнікаў падводнага свету, калі б мяне ў гэты момант не падхапіў вялізны птах.

Я адчуў, што знаходжуся ў надзейных кіпцях, але сэрца… Дзе маё сэрца? Я пачаў угледацца на далёкую водную роўнядзь у марных спробах убачыць там такую дробязь, як маё сэрца. Адзінае, што я заўважыў, дык гэта вялізную кітовую спіну, з якой вымкнула беласнежная бруйвіна. Яна была такая моцная, што дасягнула нас, і на яе вяршыні я — о дзіва! — убачыў сваё сэрца, якое адразу ж і падхапіў.

— Дзякуй, дружа! — удзячна замахаў я кіту.

А птах тым часам ужо нёс мяне кудысьці. Прыціснуўшы адной рукой сэрца да грудзей, другую я адкінуў убок. Я лячу! Якая асалода была ў гэтым палёце! Мы рассякалі прыемна-прахалоднае паветра, якое выдзьмувала з мяне ўсю поскудзь. Я пачаў з цікавасцю ўглядацца долу. Пад намі праплывалі палеткі, што мелі самыя неверагодныя геаметрычныя формы і каляровыя адценні, як на карцінах мастакоў-абстракцыяністаў; іх акаймлялі, перасякалі хвалістымі стужкамі дарогі і рэкі; дрэвы дзесьці былі раскіданыя невялікімі купкамі, як шчэць на неахайна паголеным абліччы зямлі, а дзесьці пакрывалі вялізныя прасторы, як густа-зялёныя кудзеркі на нейчай галаве; акуратныя домікі, сабраныя купкамі ў вёсках і невялікіх мястэчках, і вялізныя плямы цывілізацыі, уторканыя незлічонымі ікламі высозных будынкаў і шчыльна забудаваныя скрынямі-шматпавярховікамі.

Пралятаючы над адным з гарадоў, я заўважыў у яго рысах нешта знаёмае. Птах, быццам адчуўшы гэта, закружляў нізка над вуліцамі. Так, я добра ведаю гэтую вуліцу і вунь той дом. Мы падляцелі да аднаго з вокнаў, і я змог зазірнуць у яго. У кватэры быў відаць ложак, на якім ляжала яна. Я адразу зразумеў, што гэта менавіта яна, нават не бачачы твару, і, прагнучы разгледзець лепей, прыціснуўся да шкла. Я ўзіраўся ў абрысы так любага мне цела, якое, здаецца, толькі нядаўна сціскаў, жадаючы, як і кожны закаханы, зліцца назаўсёды. Але цяпер яе абдымаў іншы: спачатку я заўважыў нейчую руку на ейным плячы, потым ён прыўзняўся і схіліўся над ёй, нешта нашэптваючы на вуха і цалуючы. Я адчуў у далоні сваё сэрца. Яно сутаргава скаланалася, ягоныя раны, якія, здавалася, цалкам загаіліся, зноў закрывавілі. Заплюшчыўшы ад невымоўнага шкадавання вочы, я прыціснуў яго да сваіх грудзей.

— Божа, як жа балюча!

— Ціха, унучак, ціха… Хутка боль пройдзе, — пачуў я над сабою ціхі голас і расплюшчыў вочы.

У прыцемках нада мною сядзела бабуля і спагадліва глядзела на мяне.

— Спі, унучак, спі. Позна ўжо. А заўтра прачнешся і паедзеш дадому.

Я ляжаў з мокрымі ад слёз вачамі і адчуваў унутры сябе гэтую пякучую рану. Дзе яна знаходзіцца? Сапраўды ў сэрцы? А ці не прыдумваем мы гэта ўсё? Але што тады гэтак моцна баліць? Што?

А раніцай мне стала лягчэй. Не тое каб боль цалкам знік, але ён ужо не быў такі шчымлівы. Перад маім адыходам бабуля запрасіла мяне за стол паснедаць.

— Ну ўсё, бабуля, каб я каго болей пакахаў! Крый мяне Божа! — усміхаючыся, але не жартуючы, сказаў я, калі бабуля праводзіла мяне ў дарогу.

— Не тое ты гаворыш. Як можна без любові? На тое ж яно й сэрца, каб любіць. Любоў у кожным сэрцы ёсць, толькі не кожны чалавек яе ў свет аддае. Можа, думаюць, што скарб гэта такі вялікі, каб яго марнаваць, ці саромеюцца, ці баяцца, што іх прастачкамі палічаць. І вось так збірае ў сваім сэрцы ён любоў, збірае, а потым як абрыне яе раптоўна на аднаго чалавека. А таго не разумее, што хоць гэта і прыемны цяжар, але не кожны згодзіцца ўзяць яго. І тады апынецца самае святое, што ёсць у ім, на зямлі ў брудзе. Тады затоіць ён злосць на свет, на людзей. Таму, кажу, не аднаго-адзінага чалавека ў цэлым свеце трэба любіць, а ўвесь свет і любімага чалавека ў ім. Часта яшчэ бывае: палюбяць хлопец з дзяўчынаю адно аднога і закрыюцца ад усяго свету, як дзве палавінкі ракавінкі. І гэта няправільна, задыхнуцца яны самі сабой…

Вось табе і бабуля, думаў я, ідучы па лясной сцежцы. Лепш за любога філосафа гаворыць. А ці ўмее яна хоць чытаць, у школу ці хадзіла? Як там казала? Любіць увесь свет і людзей у ім. Я азірнуўся і ўпершыню заўважыў, як жа прыгожа вакол мяне. Увогуле, ці можна адшукаць штосьць больш жыццесцвярджальнае, чым веснавы сонечны ранак? Калі прырода выглядае вабнай маладзіцай у сваіх зырка-зялёных уборах, калі ўсе насельнікі зямлі, ад самых дробных да вялікіх, радуюцца жыццю і занятыя прыемнымі клопатамі яго-нага працягу. Любіць той свет, які быў цяпер вакол мяне, было зусім проста.

Во! Заўважыў я на сцежцы проста ў сябе пад нагамі любоўную парачку: адна жаба ўскараскалася на другую і шчыльна абшчапіла яе лапамі. Прызнацца шчыра, спачатку ў мяне ўзнікла моцнае жаданне штурхануць па гэтых каханках мыском чаравіка, каб не сядзелі тут пад нагамі, не перашкаджалі падарожным. Але я стрымаў сябе і прысеў каля іх. Як і казала бабуля, куды ні зірнеш — усюды гэтая любоў. Чакайце, чакайце, дык іх тут болей! На вялікшай памерамі жабе сядзелі два меншыя жабёнкі. Во і тутака, аказваецца, у лясной засені разыгрываюцца такія ж любоўныя драмы, як і ў людзей.

— Э, сябра, ты куды ўзлез? — злёгку штурхануў я галінкай верхняга. — Трэці лішні.

Але ён не звярнуў на мяне аніякае ўвагі.

## МІХАСЬ КОНАН

### Ахвяра

Кірмаш у Малінаве гудзеў людскімі галасамі ўжо з раніцы. Павозкі ці простыя сялянскія калёсы стаялі бліжэй да агароджы ў два рады з абодвух бакоў вузкага праходу. Хто прадаваў драўляныя бочкі і цабэркі, хто парасят, хто самаробныя алюмініевыя гаршкі, хто конскую вупраж, хто яблыкі. З розных куткоў кірмашу чуліся крыкі прадаўцоў, смех, жаночыя галасы, дзіцячы плач. Хтосьці іграў на гармоніку, іржалі коні, вішчэлі свінні, недзе ашалела спяваў певень — ішоў торг.

Сымонка, пакінуўшы на калёсах звязаную па нагах авечку, каб тая не збегла з воза, і рыжую Жульку, якая заставалася за вартаўніка, пайшоў па радах, каб купіць дамоў са два «люміневыя» гаршкі, як прасіла жонка Ануля. Грошай, што выручыў за прададзенага яшчэ з раніцы маладога баранчыка, было мала, але Сымонка рызыкнуў усё ж купіць сынам па самаробнай цукерчыне. Тут, ля ўвахода на кірмаш, стаяла яшчэ даваенная мураванка з чырвонай цэглы, дзе прадавалі і ласункі, і вэнджаныя каўбасы, і нават малдаване прывозілі сюды іншы раз сваё віно.

Сымонку так карцела каўтануць хоць кілішак, але ён стрымаў сябе: яшчэ ж і авечку прадаць трэба, і гаршкі Ганулі купіць, і хлопцам цукерак знайсці. І раптам яго думкі зблытаў адчайны брэх Жулькі. Ён пачуў яго здалёк, амаль з другога канца кірмашу, і адразу, распіхваючы людзей, кінуўся да свайго воза. Сымонка ведаў: сучачка не будзе дарэмна брахаць. Значыць, нехта чужы лезе.

Яшчэ здалёк Сымонка ўбачыў, як побач з яго калёсамі таўкуцца двое, спрабуючы нечым падлашчыць Жульку, каб тая не брахала. А яна аж залівалася. Вядома, невялічкага сабачку двое дарослых дзядзькаў не баяліся, але ж, відаць, такі вэрхал ім быў непатрэб-



**МІХАСЬ КОНАН**

Нарадзіўся 27 жніўня 1941 г. у Заходняй Беларусі на Докшыччыне. Жыве ў Віцебску. Як празаік дэбютаваў у 1976 г. з апавяданнем «Дзясятая ступень», надрукаванай у рэспубліканскай газеце «Знамя юности». Скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у абласной газеце «Віцебскі рабочы» і гарадской газеце «Віцьбічы». Член Саюза журналістаў СССР і Рэспублікі Беларусь. Друкаваўся ў часопісе «ЛіМ», газетах «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», альманаху «Дзвіна» і іншых выданнях. Аўтар кніг прозы «Ради истины и справедливости», «Летняе рэха», рамана «Юргінія».

ны. У калёсах, пад сенам, Сымонка схаваў некалькі самаробных драўляных лыжак, палонікаў і свістулек, якія прывёз на продаж. Там ляжалі і купленыя на кірмашы паношаныя чаравікі для старэйшага сына Сцяпана, які ў той год павінен быў скончыць сёмы клас і пайсці ў самастойнае жыццё. «А меншыя? Нічога, — разважаў Сымонка, — хадзілі дагэтуль ад зімы да зімы басанож, то паходзяць і яшчэ. А дзе на іх, пяцярых, абутку набярэшся?» Дзеці ж да вайны нараджаліся ў яго адзін за адным.

Сымонка, невялічкі, вастраносы, з добра бачным ужо гарбом мужчынка, быў уроўні са сваёй Гануляй. Тая, паўнаватая, чырванашчокая кабета, іншы раз ласкава прыціскаючы да высокіх грудзей Сымонку, усё казала суседкам, якія раілі ёй займець дзяўчынку:

— Вось сходзім у царкву, Сымонка ахвяруе колькі грошай Хрысту, мо тады і дзяўчынка ў нас атрымаецца.

Але ніякая ахвяра не дапамагала. Сымонка і сам чырванеў, калі яго падсмейвалі вясковыя мужыкі за пяцярых сыноў. Маўляў, не майстар ты, Сымонка. Дзяўчынка ж — гэта тонкая работа. Тут умець трэба. А можа, ты, Сымонка, і нам ахвяруеш які рубель, то тады мы дапаможам. Во гэта і будзе сапраўдная ахвяра.

Сымонка злаваўся на мужыкоў, адыходзіў убок ці рабіў выгляд, што заняты сваімі клопатамі і нічога не чуе. А вяскоўцы тады далі яму мянушку — Ахвяра. Адзін раз падманіўшы гарбаценькага самагонкай, вясковыя мужыкі ўсё ж сумелі ўрваць ад Сымонкі ахвяру — цэлыя два рублі. Дома Гануля не дужа ўскінулася на мужыка, але ж і не пахваліла.

— Ты з кім гэта так набраўся? — укладваючы яго на канапу ў чыстай палове хаты, ушчувала жонка. — Якое такое свята ў цябе сёння, пытаюся?

— Я, г-гэта. Я ахвяру ім даў. Вось яны і…

Вялікая сям'я Сымонкі жыла вельмі бедна. Ён рэзаў з дрэва лыжкі ды чарпакі, свістулькі і шкатулкі, прадаваў іх суседзям і на кірмаш вазіў. Пакуль у іх вёсцы, як і ўсюды ў Заходняй Беларусі, не пачалася калектывізацыя, Сымонка меў кабылку Мусю, гадаваў скаціну, араў, сеяў жыта. Але дастатку ў іх доме так і не было.

Таму ў той кірмашовы дзень у Малінаве ён вельмі спужаўся, што яго воз абкрадуць, могуць забраць нават і апошнюю авечку. Пасля вайны ўсялякай басуры хапала. Напрыклад, у суседняй Сасноўцы, у Антося, зладзеі ціхенька вывелі ноччу з незамкнёнага хлява карову, якая карміла ўсю сям'ю.

Прапажу так і не знайшлі. Гаварылі людзі, што не было ў Антося добрага сабакі, ды хаця б якога, каб толькі брахаў. Вось і пакваліліся зладзеі на апошняе ў сям'і.

Калі Сымонка, захакаўшыся, прыбег да свайго воза, мужчыны ўжо адышлі, зрабіўшы выгляд, што разглядаюць цэбры і драўляныя бочкі, якія прадаваліся на суседніх калёсах. Жулька, убачыўшы гаспадара, колькі разоў яшчэ гаўкнула для адбытку на чужых людзей і стала лашчыцца да гаспадара. Дзякуй Богу, і авечка, і ўсё астатняе было цэлым.

З тае пары Сымонка стаў вельмі паважаць сваю Жульку. Ён і знайшоў яе маленькім шчанём тут жа, на кірмашы ў Малінаве. У той раз яны ездзілі на сваёй кабылцы ўдваіх з жонкай. Ужо збіраліся надвячоркам ехаць дадому, ужо Сымонка запрог Мусю ў калёсы, а Ганулю села на перадок воза, як збоку ад плота, дзе з раніцы прадавалі парасят, пачуўся жаласлівы плач нейкага шчаняці. Сымонка аддаў лейцы жонцы, кінуў на хаду:

— Пачакай. Я зараз. Толькі гляну.

І праз колькі хвілін прынёс на калёсы замерзлае шчанё, закруціў яго ў пасцілку, што ляжала зверху на саломе, адшчыкнуў яму крыху хлеба, які астаўся ад абеду.

— Ты што гэта, Сымонка, — ускінула поўныя рукі жонка, — тут дзяцей няма чым карміць, а ты са сваім шчанём. Яшчэ адзін рот! Хапіла нам твайго Лялюся, які летась здох.

— Ну, што ты, Ганулька. Не здох, а памёр. Стары ён быў. А гэты ж, бачыш, які маленькі. Ён жа многа не з'есць. Ну, хай жыве. І сынам прыемна будзе, і вартаўнік ля хаты патрэбны.

Ганулю і сама любіла ўсё жывое, што было ў іх двары: і кабылку, і авечак, і курэй. Трохі пабурчэўшы дзеля адбытку, жонка больш не дакарала Сымонку за сабачанё. А яно было такое хітрае і жвавае, любіла гуляць, як кацянё, з паперынай, што ўсе дзеці і Сымонка ў адзін голас назвалі сучачку Жулькай. Падросшы праз год з добрае лісянё, яна ўсё ж ніяк не хацела сядзець ля сабачай будкі на ланцугу: енчыла, вырывалася ці проста выла.

Шкадуючы яе, Сымонка або дзеці адшчаплялі ланцуг і пускалі рыжую на свабоду.

Часцей за ўсё Жулька хадзіла следам за Сымонкам. Той у хлеў — і яна ззаду, ён у агарод — і Жулька следам бяжыць. Яна заўсёды па слядах гаспадара адшуквала.

Адзін раз, калі Сымонка пайшоў за раку ў лес, каб выбраць каржакаватых, як сам казаў, карэльскіх бярэзін на свае лыжкі, ён (сабе на дзіва!) заблудзіўся. Гадзіны са дзве блукаў па балаціне і ўсё ніяк не мог знайсці сцежку на пагурак, а адтуль — на дарогу. А ўжо вечарэла. Балелі ногі, ныла і так нездаровая спіна, але кідаць нарэзаныя бярозавыя чурбаны было шкада. Сымонка прысеў у адчаі на купіну, каб рашыць, што ж рабіць і куды ісці. Жулька, уся мокрая і з наліплым на спіне лісцем, лашчылася да гаспадара, наравіўшы лізнуць яго ў твар.

— Ты лепш скажы, куды ісці дамоў, — скідваючы са спіны сучачкі лістоту, гладзіў ён сабачанё.

Тая толькі віляла хвастом, як бы супакойваючы Сымонку, лізала яму рукі.

— Ну, што, малая, — устаў ён з купіны і ўскінуў на плечы бярэма каржакаватых бярэзін, — пайшлі, ці што? Ну, вядзі дамоў, ты ж у мяне разумная. Нябось, у двары сляды добра чытала.

Быццам разумеючы просьбу гаспадара, Жулька павярнула ў другі бок, куды гаспадар не хацеў сам ісці, і, мінаючы лужы і дрыгву, пабегла наперад. Сымонка праходзіў ужо тут адзін раз, бо пазнаў гэта месца па заламаным у

некаторых месцах галлі, але рашыў: што здарыцца, тое хай і будзе. Сучачка бегла шпарка, а калі гаспадар адставаў, садзілася на мох і чакала, пакуль той не падыдзе.

Нарэшце яны дайшлі да былых партызанскіх зямлянак, на пясчаны пагурак. Сымонка ўздыхнуў з палёгкай: адсюль ён дарогу ведаў добра. Яшчэ ў вайну прыносіў сюды партызанам здабытыя недзе сувязнымі лякарствы для параненых, нейкія запіскі, якія яму строга забаранялася не тое што чытаць, дык нават і даставаць з пакетаў. Ды й чытаць ён мог з цяжкасцю.

А каб не трапіць немцам у падазрэнне, Сымонка заўсёды прыносіў з лесу то колькі плашак асіны, то чорнай вольхі, то карэльскай бярозы. Рэзаў ён лыжкі і для немцаў: а што зробіш, неяк жа трэба было заваяваць іх давер. А салдаты, асабліва старэйшага ўзросту, давалі за гэта Сымонку крыху солі ці зношаную бялізну. Затое ён мог смела бываць у цэнтры вёскі, ва ўправе, дзе яго ўсе лічылі сваім. Ціхі, спакойны, з выгляду крыху недацёпісты з-за свайго горба, Сымонка, аднак, усё бачыў, запамінаў, а потым расказваў аб гэтым партызанам. Хатка, дзе ён жыў з сынамі і сваёй Ганусяй, стаяла на ўскрайку вёскі, бліжэй да лесу, і партызаны іншы раз самі наведваліся сюды, бо занадта часта хадзіць у лес Сымонку яны не раілі.

Пасля вайны партызанскія зямлянкі абсыпаліся, адтуль тырчалі толькі парослыя мохам і напалову згніўшыя бярвёны, валяліся нейкія бляшанкі, дзе-нідзе захаваліся нават калы і агароджа з калючага дроту. А вярсты са тры ад зямлянак ішла гравійка, што звязвала іх вёску з райцэнтрам, да якога з паўтара дзясятка кіламетраў. Яна разразае вялізныя лясныя абшары і балота, па якім цячэ павольная рачулка Буйка.

Ля райцэнтра, у прыгарадзе, у Сымонкі жыве старэйшы брат. Дзяцей у таго толькі двое, хлопец і дзяўчынка, і ён часцяком даваў Сымонку то мяшок бульбы, то скварчыну, то якую паношаную адзежыну для пляменнікаў. А тут надоечы сам прывёз сапраўдны шынель, які насілі нямецкія юнкеры. Трафей гэты брат прынёс яшчэ з вайны, і яго старэйшы сын ужо вырас з шыняля. Дома гэту абнову па чарзе прымерылі ўсе Сымонкавы сыны, нават самы меншы Алёшка. Але, вядома ж, падарунак дастаўся старэйшаму Сцяпану. Таму ўжо ішоў чатырнаццаты год. А шынель быў і сапраўды цудоўны: колеру абмытай дажджом руні, ды такі яркі, што вачэй не адвесці. Захаваліся нават блішчастыя жалезныя гузікі на дарагім, хаця і добра пацёртым сукне.

Аддаючы падарунак, старэйшы брат зазначыў:

— Ты ўжо, Сымонка, прабач, што не змог табе нічога на гэты раз з харчоў прывезці. Ты ж помніш, трымалі мы авечку, навязвалі на лагу за пуняй. Было ў яе двое ягнят. К восені яны ўжо добра падраслі, большыя за тваю Жульку былі. Ды вось бяда: мы недагледзелі, як ваўкі ягнят загрызлі. Я сам не бачыў, людзі казалі, што прыйшлі яны днём, утраіх. Цэлая сям'я з маладым ваўчанём. І давай за ягнятамі ганяцца. Асабліва ж старалася ваўчанё. Адбілі яны ягнят ад авечкі і там жа, ля кустоў, і задушылі іх. Наогул, паказалі маладому ваўчаняці, як трэба на авечак паляваць. А маладога баранчыка я хацеў аддаць табе…

Тады, адразу пасля вайны, ваўкоў і сапраўды развялося шмат. Казалі, што германцы, адступаючы, спецыяльна пакідалі ў лясах абучаных нямецкіх аўчарак, якія, будучы вельмі агрэсіўнымі, асабліва не баяліся людзей. Аўчаркі ў час воўчых «вяселляў» перамяшаліся з ваўкамі, і маладое патомства таксама было смелым. Так гэта ці не, Сымонка добра не ведаў. Ды надта і не цікавіўся: не да таго было, тым больш што Гануля зноў зацяжарала.

— То, можа, Ганулька, схадзіла б ты да Хвядоры, яна такую «хваробу», кажуць, добра лечыць. Куды ж нам яшчэ і шосты рот? — гладзіў Сымонка яшчэ зусім не падрослы жончын жывот.

— Ты што?! — адкінула Ганулька ў роспачы коўдру. — Ніколі гэтага не рабіла і цяпер не буду. Грэх гэта. Вялікі грэх. Крый Божа! Няможна так.

Сымонка і сам баяўся гэтага, чуў ад людзей, што аборт з'яўляецца забойствам. І цяпер нават шкадаваў, што ляпнуў жонцы такое. Дый, па праўдзе кажучы, ён недзе ў глыбіні душы спадзяваўся, што ўжо на гэты раз будзе ў іх сям'і дзяўчынка. І братам уцеха, і маці памочніца. А дасць Бог, калі будуць сілы і сродкі, пашлём яе ў горад, вывучым на вучыцельку ці доктарку. Сыны ўсё больш па бацькавай сцежцы пайшлі. Вунь старэйшы, Сцяпан, ужо сам зэдлік змайстраваў. Цяпер маці, калі чысціць бульбу ці што іншае робіць, садзіцца на яго ля прыпечку: і нізка, і спрытна, і ўтульна.

Калі жывот у Ганулькі ўжо добра падрос і выпер з-пад фартуха, ужо надышла зіма. Жонка падлічыла, ды й Хвядора казала, што дзіцё павінна з'явіцца дзесьці ў Піліпаўку, у канцы студзеня. Сымонка шкадаваў Ганульку, не даваў ёй рабіць цяжкую работу па гаспадарцы: хадзіць за скацінай, насіць дровы, падымаць на прыпечак гаршкі. Усё браў на сябе, ды й сыны старэйшыя яму дапамагалі. Сымонка стараўся дабыць для жонкі нейкіх прысмакаў, але грошай, выручаных ад продажу лыжак, нават на хлеб не заўсёды хапала. І таму часцяком, запрогшы ў санкі Мусю, ён цераз увесь лес, кіламетраў за дванаццаць, ехаў у райцэнтр да брата, каб пазычыць у таго нейкага харчу.

У той раз ён узяў аж два мяшкі: адзін — жыта, другі — ячменю. Жонка брата дала свіных ног для квашаніны. Дома, праўда, заставалася крыху бульбы, але яе, асабліва насенную, бераглі да вясны. Сымонка меркаваў, што ячмень ён змеле сам на сваіх жорнах на крупы, а жыта, калі пашчасціць, на муку ў Сасноўцы, дзе быў на рэчцы млын.

Пакуль укінулі мяшкі ў сані, пакуль кульнулі па чарцы самагонкі, наступіў полудзень. Сонца, акружанае нейкім вялікім кругам, свяціла скрозь зімовую смугу сціпла, як бы нехаця.

— Глядзі, Сымонка, не баўся, — наказваў брат на дарогу. — Бачыш круг? Значыць, яшчэ большы мароз будзе. Спяшайся.

Муська бегла хутка. Сані, толькі на мінулым тыдні падкаваныя новымі палазамі, слізгацелі па ўтаптаным снезе амаль бясшумна. Ад выпітай чаркі, ад таго, што вязе дамоў столькі дабра, ад думак пра цяжарную Ганульку ў Сымонкі на душы стала лагодна. Ён прываліўся да мяхоў з зернем і, не выпускаючы лейцы з рук, паступова задрамаў. Муська, адчуўшы поўную свабоду, перастала бегчы і ледзь клыпала па дарозе. Бок у Сымонкі грэла

яшчэ і Жулька, якая і на гэты раз паехала ў дарогу з гаспадаром: ускочыла на сані і лізнула яго руку, значыць, папрасілася.

Калі Сымонка прачнуўся, ужо цямнела. Ён паматаў галавой, атрос з вачэй сон, паглядзеў на заснежаную балаціну, што ляжала па баках дарогі, зразумеў: толькі што пераехаў па мосце рэчку. Дадому было яшчэ вёрст пяць, і трэба было спяшацца. Густы лес, які пайшоў потым, быў маўклівы і нейкі чужы.

Тузануўшы лейцы, Сымонка пусціў Муську наўскач. Здавалася, усё добра. Праехалі два павароты, але тут нешта стала вурчэць і вастрыць вушы Жулька. Яна прыўзнялася на лапкі і павярнулася назад. Ужо добра сцямнела, і што яна там магла ўбачыць, Сымонка не разумеў.

— Сядзь! Чаго вурчыш? Скора будзем дома, — і прыгарнуў Жульку да сябе.

Але тая не супакойвалася. Як толькі Муся павярнула на чарговае калена дарогі, наперадзе, якраз там, дзе была сцежка, што вяла да партызанскіх зямлянак, Сымонка заўважыў нейкія агеньчыкі. Яны то мільгалі, то прападалі, але ад дарогі не аддаляліся, быццам прывязаныя.

«Няўжо ваўкі?» — мільганула ў Сымонкі ў галаве. Ён ведаў, што ў Піліпаўку, калі іх вядзе ваўчыца, яны, галодныя і агрэсіўныя, збіваюцца ў зграі і тады смела могуць нападаць нават і на чалавека. Павярнуць назад? Не, гэта не выйсце. Ехаць уперад? Але зграя, відаць, раздзялілася, бо агеньчыкі сталі бліскаць ужо і з другога боку дарогі. Што рабіць?!

Сымонка з усяе сілы лупіў лейцамі ўзмакрэлыя бакі Муські, тая з апошніх сіл імчала галопам, але ваўкі, прапусціўшы вазок уперад на чарговым павароце, кінуліся наўздагон. Жулька ўжо больш не вурчэла, а толькі, паглядваючы назад на дарогу, скаліла зубы і бліжэй прыціскалася да гаспадара. А той, намацаўшы пад сенам торбу са свінымі нагамі, стаў па адной кідаць іх галодным ваўкам. На нейкі момант яны, збіўшыся ў чорны клубок, з віскам і скавытаннем біліся за косткі. Тады Сымонка яшчэ дужэй сцябаў бакі Муські і лейцамі, і пугай, але кабылка ўжо амаль выбілася з сіл.

Сымонка прыкідваў, што дадому заставаўся нейкі кіламетр, усяго адзін паварот, і згінуць тут самому ці згубіць кабылку было б недарэчным. Ён бачыў, як гаруюць у іх вёсцы дзеці, бацькі якіх не прыйшлі з вайны, і ведаў, што і для сыноў, і для Ганулькі ён — адзіная апора. Дый без кабылкі яго сям'я не пражыве: і гарод араць, і па сена ехаць, і па дровы…

Кабылка ўжо колькі разоў спатыкалася, кідаючы з-пад капытоў у твар мерзлыя камякі снегу, і Сымонка ў думках падрыхтаваўся да горшага. Праўда, былі ў яго ў кішэні запалкі ды самаробны нож на сырамятным раменьчыку. Але ж гэтым не абаронішся: пры такім галопе паліць сена і кідаць яго з саней было позна ўжо. Рукі дрыжэлі і без гэтага, а сэрца калацілася так, быццам не Муська, а ён сам бег галопам з санямі.

— Жулька, міленькая, — паклаў ён руку на цёплую галаву сучачкі, — выручай. Ну не паміраць жа мне тут у лесе. Ну Жулечка… Ахвяруй сябе. Ты ж мая заступніца…

А тая, дрыжучы ўсім сваім дробным сабачым целам, толькі ціснулася бліжэй да Сымонкі. Гаспадару да камяка ў горле было шкада сабачанё, але нічога іншага не заставалася, як піхнуць Жульку з саней і аддаць яе ваўкам. Ад гэтай думкі Сымонка аж сам жахнуўся, быццам гэта яго ўжо цапнуў шэры разбойнік, і зняў руку з сучачкі. Але ваўкі былі ўжо амаль за дваццаць крокаў ад саней. Двое большых з іх імкнуліся забегчы наперад, каб адным кідком зваліць кабылку, учапіўшыся ёй у горла. Сымонка ведаў, што ваўкі менавіта так, сабраўшыся ў зграю, рэжуць коней ці хворых старых ласёў.

Глытаючы слёзы, ён у апошні раз пагладзіў дрыжачымі рукамі Жульку па загрыўку, адчуў, як натапырылася там поўсць, і, сціснуўшы зубы, усхліпваючы, усё ж спіхнуў яе з саней, як яна ні ўпіралася лапкамі.

Быццам адчуўшы нейкую палёгку, Муська рванула наперад з новай сілай.

Сымонка не азіраўся назад — не мог. Ён чуў толькі рык і віск воўчай зграі, якая, накінуўшыся на Сымонкаву ахвяру, нарэшце адстала ад саней.

Наперадзе паказаліся агні вёскі. Там ва ўсю брахалі сабакі, відаць, здалёк чулі ваўкоў.

А дома яго сустрэў Сцяпан, які выбег з хаты, каб дапамагчы распрэгчы мокрую, як мыш, Мусю.

— А мама нам радзіла дзяўчынку, — ні аб чым не здагадваючыся, з радасцю паведаміў сын. — Я сам па Хвядору бегаў.

Сымонка, не распранаючыся, кінуўся ў хату і паваліўся жонцы ў ногі.

*2008*

## АЛЕНА ЛУК'ЯНАВА

# Маски Чёрного Пастыря

На крыше главного городского собора, у одной из пяти башен, увенчанных золотыми куполами, сидели два удивительных существа. Их одеяние было такой ослепительной белизны, что походило на перистое облачко. За спиной у обоих трепетали лёгкие крылья. Это, пожалуй, единственные общие черты. А в остальном они были очень разными. Тот, что постарше, устало опустил потрёпанные ветрами Вселенной крылья. Он внимательно смотрел вниз, на площадь перед храмом, где гуляли горожане. Его молодой друг беспечно болтал ножкой, свесив её с высоты, и наблюдал, как ветер гоняет облака.

— Камиэль, что ты там высматриваешь? — обратился он к старшему ангелу.

— Боюсь, как бы снова не пришёл Чёрный Пастырь со своим сундуком. Это наш враг.

— Пастырь? Почему чёрный? И почему враг? — беззаботно спросил ангел-юноша.

— Будь серьёзнее, Амалиэль! Тебе бы тоже не мешало сосредоточиться. Ты ведь знаешь, что означает твоё имя?

— Да, знаю: защитник слабых*, — ответил тот.

— А зачем ты послан сюда, на землю?

— Защищать людей.

— Вот именно, ибо они слабы. Немногие могут устоять перед масками, которыми Пастырь их соблазняет. А-а-а, вот и он! Смотри!

Амалиэль глянул вниз и увидел стоящего за территорией храма человека в чёрном плаще с капюшоном. Он был среднего роста,

---

* Амалиэль — защитник слабых, Камиэль — тот, кто видит Бога (др.-евр.).



**АЛЕНА ЛУК'ЯНАВА**

Нарадзілася ў 1972 г. у Віцебску. Скончыла філалагічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Друкавалася ў гарадской, абласной і рэспубліканскай прэсе, у дзіцячым пазнавальным часопісе «Кважды ква» (Мінск), літаратурных альманахах «Родная сторона» Смаленскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі і «Творческое содружество» (Вялікабрытанія). Стваральніца альманаха «Прыдзвінскі вянок» (2007). Дыпламант Міжнароднага кніжнага форуму ў Лондане «Open Eurasia and central Azia book forum — 2015» і II Усерасійскага конкурсу «Герои Великой Победы».

коренаст и как будто прозрачен — сквозь его одеяние просвечивалась городская улица. Рядом с ним на земле стоял массивный деревянный сундук, обтянутый железными обручами и украшенный затейливой резьбой. Спиной ощутив взгляд, таинственный незнакомец обернулся, и юного ангела обжёг его пронзительный взор. Неприятен был этот Пастырь на вид: массивные челюсти, вытянутый череп, чёрные, будто приклеенные ко лбу волосы, тонкие сжатые губы…

— За мной — скомандовал Камиэль и ринулся вниз, успев предупредить друга: — Смотри, без меня за территорию храма не выходи — молод ещё с таким тягаться. Я просто покажу тебе, что нужно будет делать. А работы непочатый край! Но ты полон сил, справишься.

— Конечно, справлюсь! — кивнул тот.

Через мгновение они стояли возле владельца сундука. Их разделяла лишь решётка ограды.

— А-а-а, это ты! — проскрипел Чёрный Пастырь, увидев Камиэля. — Всё надеешься мне помешать? И подмогу взял? — кивнул он на молодого ангела и презрительно хмыкнул в его сторону: — Воробушек, крылья ещё в пуху — кто ты в сравнении со мной!

— Исчезни! Это наша территория! Хватит мучить людей! — храбро ответил старший ангел.

— Не заговаривайся! Ваша вотчина за оградой, а здесь хочу — стою, хочу — спляшу. Да и люди ваши сами выбор делают. А раз сами — я тут ни при чем! Да и товар мой нарасхват. Смотри!

— Нет! — закричал Камиэль, но Пастырь уже открыл свой сундук. В нём, сияя и переливаясь всеми цветами радуги, лежали маски. Амалиэль ахнул в изумлении — чем-то они напоминали изящные карнавальные штучки, прикрывавшие только глаза, которые он видел на балу в одном из дворцов Венеции.

Но то, что произошло в следующее мгновение, вызвало сначала недоумение, потом страх, потом желание сразить Чёрного Пастыря в честном бою.

Мимо шли люди. Они, конечно, не видели человека в капюшоне, однако почти каждый брал из его сундука маску, надевал на глаза. Она тут же сливалась с лицом и становилась незаметной для окружающих — только ангелы могли её видеть! Как видели и кандалы, которые тут же оказывались на ногах прельстившихся красотой масок — само собой, их несчастные жертвы также не замечали.

— Что это значит? Что это за чудовищные маски? — Амалиэль обхватил голову руками.

Да, такое зрелище непросто было выдержать!

Отойдя в сторону, старший ангел вздохнул:

— Маски — это лёгкие решения проблем: с помощью грехов. Это они виснут кандалами на ногах и не пускают людей к Свету. Чёрный пастырь этим и соблазняет: надел маску — и нет проблемы. А грехи вроде как в до-

весок идут. Так и таскают их всю жизнь — только те, кто к нам приходит, от них избавляются.

— Негодяй! И не предъявишь ему ничего — люди ведь и правда сами разбирают эти проклятые маски! Но ведь это обман! Одна проблема решается — десять следом появляются! Они что, этого не замечают? Зачем снова к сундуку тянутся?! Некоторые уж еле ноги волокут — как только могут передвигаться с таким грузом! Глупые! Глупые!

— Не все, мой друг. Обманчивая красота этих дьявольских масок не прельщает тех, на ком печать Света стоит, кто тропинку в храм не забывает и живёт по ЕГО, — Камиэль посмотрел вверх, — законам. Вот наша с тобой миссия в том и состоит — как можно больше таких кандалов снять. Пора! Время не ждёт! Пойдём, я покажу тебе, что нужно делать.

Легко взмахнув крыльями, они растворились в небесной сини и через некоторое время очутились возле одной из школ. Там, на скамеечке, которая стояла под раскидистой ивой, сидели две женщины. На ногах одной из них уже болтались не одни увесистые кандалы.

— Знакомься, это постоянная клиентка Чёрного Пастыря, за каждой мелочью к нему бегает. А уж как мать умерла — каждый день по паре масок брала, а то и больше, — вздохнул Камиэль.

Его молодой друг принялся разглядывать женщину. Внутренним взором он увидел, какой красавицей она была в юности — длиннокосой, стройной, румянощёкой. Однако постоянное общение с Чёрным Пастырем сделало своё дело: теперь её вовсе не красили редкие волосы в оправе короткой стрижки, двойной подбородок, тонкие губы, нелепо очерченные ярко-красной помадой, лоб, разделённый пополам двумя злыми продольными морщинами от неизменно сдвинутых к переносице бровей. Маленькие пуговки глаз, утонувшие в складках верхнего века, были прикрыты маской, а в руках она держала вторую.

— Ну же, перестань! — уговаривала она собеседницу. — Они не заслужили ни гроша! Да и если делить на троих, ничего не останется. Таких родственничков и знать не хочется! Мама никогда их не любила!

— Но ведь нехорошо, Саня ухаживал за ней всю жизнь — мы-то далеко были! — ещё противилась вторая.

— Вот ещё! Он просто выполнял свой долг! Разве ты не заботилась бы о матери, если бы жила с ней в одном городе? Всё, у меня урок начинается! Решайся! Мне недвижимость, тебе — так и быть — часть денег, — заторопилась первая и буквально силой приложила к глазам сестры маску.

— Что ты делаешь? Сними! Сними! — кричал ей в ухо Амалиэль. Но та его не слышала. Наоборот, повеселела и согласилась:

— Да, ты права! Мы с тобой люди интеллигентные, учителя всё же — мы найдём лучшее применение наследству. А они… Дворники — или пропьют, или своим детям непутёвым спустят. Да, нам деньги нужнее!

— Умница, сестрица! А я о чём! — возликовала соблазнительница и, попрощавшись, тяжело понесла своё грузное тело в здание школы.

Камиэль, глядя ей вслед, начал свой рассказ:

— Внешне, как видишь, весьма приличная дама: учитель литературы, должна бы учить детей доброму и светлому, но из-за гнилого нутра это у неё плохо получается. Правда, о двуличии учителя никто и не задумывается — она ведь аккуратно ходит на работу, ведёт уроки — значит, всё хорошо. А о том, что она частенько решает свои проблемы с помощью маски клеветы, никому и не известно. В своё время Чёрный Пастырь умело всучил ей и жадность. А дальше, путём оговоров и сплетен, она ещё при жизни убедила свою мать сделать её своей единственной наследницей. В ней не проснулось даже чувство благодарности к брату и его жене за то, что всю жизнь они помогали матери, ухаживали за ней, немощной, в старости. Продала дачу, квартиру и всё заграбастала себе. Сестрицу тоже обхитрила: дала какую-то мелочишку, и то лишь потому, что живёт та в курортном городе — будет к кому приезжать на солнце греться. А брат спорить не стал — он человек хоть суровый, но искренний и досматривал мать исключительно из любви, а не из корысти. Хотя поступком сестрицы, её жестокостью был очень оскорблён. Я утешил его, снял камень обиды с души. Сейчас он в порядке — окружён любовью детей и внуков, ни в чём не нуждается. Нужно убедить снять маски и его сестёр. Младшую, клеветницу и жадину, я беру на себя — это задача слишком сложная. Ведь на ней висят ещё тщеславие, эгоизм, злобность, ненависть. Ты же возьмись за старшую, которую она соблазнила. Попытайся открыть ей глаза, и тогда она сама снимет маску.

Призывно махнув рукой, Камиэль пригласил товарища следовать дальше. Пролетев над городом, они приземлились на один из балконов и сели на перила, свесив ноги. Старший ангел жестом указал на окно. Там, за стеклом, прихорашивалась перед зеркалом молодая женщина. Её причёска чем-то напоминала причёску самого Чёрного Пастыря — короткий чёрный ёжик волос поразил Амалиэля. Яркий макияж, узкие брюки и обтягивающая блузка дополняли образ. Маска гордыни прикрывала её глаза.

— Внешняя сторона жизни этой нашей подопечной так же красива, как конфетная обёртка: когда-то у неё был свой бизнес, она почувствовала вкус денег, и Чёрный Пастырь в подходящий момент всучил ей маску. Нашептал, что она одна такая во Вселенной — успешная, красивая и достойна большего: мир обязан работать на неё, а она должна себя холить и лелеять. С тех пор так и повелось — бизнес она оставила, соблазнила доброго простоватого мужчину и начала вытягивать из него деньги. Господь милостив — дал ей шанс одуматься и подарил ребёнка. Отец от сына без ума — для него в нём весь смысл жизни! Наша же прелестница по-прежнему занимается только собой, выполняя завет Пастыря — тратит деньги лишь на украшательство себя любимой да внешний лоск быта. Дома холодно и пусто — не пахнет пирогами, нет уюта. А живёт гордячка за счёт того, что шантажирует отца ребёнка запретом видеться с малышом, вытягивает из него, как вампир, и деньги, и силы, и время. Но, как ты понимаешь, ещё не всё потеряно — если

тебе удастся убедить её снять маску, она ещё может подарить тепло близким и спасти свою душу.

И снова ветер затрепетал в крыльях ангелов. На этот раз путь был неблизким — за город, на берег реки. Там горел костёр, над ним булькала в котелке уха, вокруг расположились весёлые туристы. Наши легкокрылые друзья присели на ветку сосны и стали наблюдать за происходящим. Амалиэль уже увидел клиентов Пастыря: это был высокий худощавый мужчина с гордо устремившимся вверх длинным носом. Он сидел у костра и бренчал на гитаре, в его руку выше локтя вцепилась крашеная блондинка. Глаза обоих были прикрыты масками.

— Видишь эту пару? — спросил Камиэль товарища. — Он женат, у него дети. Самый младший только что родился. Жена одна растит их, а он сбегает от забот сюда, с любовницей. Да ещё клевещет на жену — оправдать себя перед друзьями-туристами так легче всего. Забота, любовь и терпение оказались слишком тяжелы для него. Скажу тебе более: они замышляют избавиться от бедной женщины, разные способы внушает им Пастырь. Наша задача — не лишить детей матери. А маски… Слишком приросли они к лицам этих бесстыдников. Но всё же нужно попытаться сделать так, чтобы они их сняли, — нам дорога каждая душа.

Следующей остановкой было городское кафе — там, за столиком, сидела раздувшаяся, как воздушный шарик, женщина неопределённых лет. Перед ней на фарфоровой тарелке лежало штук пять пирожных, которые она с аппетитом поедала.

— Ну, а эта решает свои проблемы с помощью маски чревоугодия. Живот натолкала — и легче стало. Сам понимаешь, вся эта лёгкость — мираж. Посмотри, в кого она себя превратила! Кажется, дотронешься — и лопнет. А ведь она очень молода! Ей просто необходимо снять маску, привести себя в порядок! Тогда в будущем у неё будет большая дружная семья: любящий муж и четверо детей.

Внезапно их слух поразил истошный женский крик. Они поспешили на помощь и оказались в кирпичном домике. На столе стояла недопитая бутылка вина. В другой комнате пьяный мужчина избивал свою жену. К его глазам намертво прилипла маска, из-под которой выглядывала ещё одна, отличная по цвету. Женщина плакала, а её мучитель только входил от этого в раж.

— Вот тебе, дрянь! Где тапочки должны стоять, я тебя спрашиваю! Почему не подала?!

Рядом испуганно кричала их дочь-подросток. Камиэль подошёл и что было силы толкнул мучителя в бок. Тот, отшатнувшись, упал на диван и тут же забылся пьяным сном.

Девочка плакала, Амалиэль гладил её по головке своей невидимой рукой.

— Мама, сколько можно мучиться! Я не хочу с ним жить! Давай уйдём, — прорывались сквозь слёзы её слова.

— Ну что ты — он не виноват, он болен. Нужно потерпеть, — говорила мать. её глаза прикрывали маски самоедства и виноватости…

— Ты видишь, что здесь также нужна неотложная помощь, — скорбно проговорил старший ангел своему помощнику.

На закате друзья оказались в маленьком деревянном доме. Там лежала у окна старушка. Перед ней с тарелкой манной каши сидела дочь и пыталась накормить её из ложечки.

— Нет! — отворачивала та голову. — Что ты мне кашу суёшь? Я картошки хочу!

— Хорошо, мама, сейчас.

Через некоторое время дочь уже держала перед носом старушки тарелку с картофельным пюре.

— Сама это ешь! — сердито отвернулась та к окну. — А мне пельменей отвари!

— Мама, ты меня совсем измучила! Нельзя же так! — глотала слёзы дочка.

— Что-о-о-о? — возмутилась старушка. — У меня рак, ты поняла? Я твои пелёнки стирала, в коляске катала. Теперь твой черёд! Утку мне подай!

Дочь терпеливо сносила все выходки родительницы и не замечала, что к глазам той приросли маски эгоизма и слабоволия.

— Начнёшь, пожалуй, с неё — слишком мало времени осталось, — сказал Камиэль. — Через неделю она умрёт, нужно успеть снять с неё кандалы, по сути своей она неплохой человек и жизнь прожила честную.

Переведя дух, они снова поднялись ввысь и через некоторое время приземлились на речной камушек. Позволив воде ласкать ноги, они сидели, погружённые в свои мысли, несколько минут. Молчание нарушил Амалиэль.

— Как же живут все эти люди с таким грузом? Это же немыслимо тяжело! — спросил он в недоумении.

— А они его не замечают. Так устроен мир, что это бремя, надетое на себя добровольно, даёт о себе знать лишь в посмертии. Бывают, правда, исключения, когда, пытаясь образумить заблудшее чадо, через страдания самых дорогих людей грешникам показывают истинную цену, заплаченную за маску Чёрного Пастыря. На некоторых это действует — они начинают копаться в себе, находят ответ и искренне раскаиваются. Многие из них потом и в храм приходят, где мы их с радостью встречаем. С другими сложнее. Как правило, маска эгоизма, одетая изначально, действует как магнит для других пороков. Но самое неприятное, что такой человек искренне уверен в своей правоте! Вот как первая наша подопечная — богатая наследница. Уж по-разному на неё пытались действовать — у обеих её дочерей жизнь не складывается, внуки растут без отцовской заботы, а она продолжает винить в своих бедах кого угодно, только не себя!

— Что ж мы сидим? — воскликнул Амалиэль. — Пора торопиться!

— Да, ты прав! За работу! Встречаемся здесь же спустя три дня! Если потребуется моя помощь — потри свой нимб, и я приду к тебе! — ответил Камиэль.

И крылатые спасители душ человеческих растворились в белизне облаков.

В назначенное время они снова сидели на речном валуне, позволив воде смыть с ног всю усталость прошедших дней. От беззаботности младшего ангела не осталось и следа — пушок на его крыльях превратился в жёсткие перья, глаза впитали в себя скорбь и страдания его подопечных, а на плечи давила котомка, набитая масками Чёрного Пастыря.

— Я вижу, потрудился ты на славу, чем полностью оправдал данное тебе имя! — обнял Камиэль приятеля.

— Я старался, — ответил тот, вздохнув.

— Я в тебе и не сомневался. Ну, рассказывай, как все прошло.

— Самой первой сняла маску умирающая бабушка. Как ни странно, она меня увидела, а когда я стал ласково говорить с нею, восхищаясь терпением её дочери, она и вовсе расплакалась. «Сама не знаю, что со мною!» — твердила она и молила через меня Господа о прощении. Потом позвала дочь и долго говорила ей о своей любви. От такого искреннего раскаяния маска сама сползла с её лица — мне лишь оставалось бросить её в рюкзак. Потом я направился в семью алкоголика. Тот всё ещё спал, а бедная женщина сидела и плакала. Я укрыл её крылом и успокоил: «Ты ни в чём не виновата! Это ведь его сознательный выбор — это распущенность, а не болезнь. Прощая, принимая оскорбления мужа как должное, ты служишь ему плохую службу. Он не может трезво взглянуть на себя — напротив, всё время ищет причину для того, чтобы удовлетворить свою страсть к спиртному. Ты — живая причина: то тапочки не подала, то суп недосолила, то платье не то надела. Хочешь спасти его — уходи! Он должен остаться один на один с собой, чтобы не мог найти оправдания своему пороку!» Она сняла маску, собрала вещи и уехала вместе с дочерью в другой город, к близкой подруге. Её мужа я навестил утром. По привычке он стал молотить по полу ботинком, требуя горячего чая. Но когда понял, что впервые проснулся один, увидел пустые шкафы и прощальную записку, обхватил голову руками. Я сел рядом и показал ему вчерашний вечер: как он в припадке ярости душил жену за то, что та не подала ему тапочки, как плакала дочь, пытаясь прикрыть собою мать. Он увидел своё отражение в зеркале. За спиной его стоял Чёрный Пастырь — вот это была дуэль так дуэль! Он уговаривал его: «Выпей, всё станет на свои места, станет легче!» Я твёрдо внушал: «А повод? Повода нет! Больше не на ком срывать зло! Больше нечем оправдать своё пьянство! Взгляни на себя и выйди в мир — там тебе помогут!» Маска всё ещё держалась на его лице. Он взял недопитую бутылку, включил телевизор, но я успел сказать ему с экрана адрес общества анонимных алкоголиков. «Там такие же, как ты, они тебе помогут!» — сказал я голосом диктора. Чёрный Пастырь был в бешенстве, когда его подопечный пошёл по указанному мной адресу! Маска ещё была на нём. Она упала, когда от одного из алкоголиков он услышал историю… про тапочки. Да-да, такую же историю, которую мог рассказать и он сам! Вот тогда маска упала с его глаз, и он твёрдо решил измениться и вернуть свою семью.

С той бритоголовой гордячкой мне тоже пришлось нелегко. Я решил действовать через отца её ребёнка. Он, уставший и обречённый, возвращался домой с работы, когда я сел с ним рядом в троллейбусе и показал ему его одинокую старость. «Пойми, друг, ведь она тебя совсем не ценит! Что ты для неё? Только бесплатная нянька для сына и денежный кошелёк. И сына за пять лет его жизни ты успел избаловать — если так дальше пойдёт, он однажды скопирует свою мать — наденет маски гордыни и эгоизма. Разве их носителям есть дело до нужд и страданий других, пусть эти другие и посвятили им жизнь? Ты — отец, и твоя обязанность — воспитать из сына достойного человека. А для этого нужно воспитать его мать. Оставь ей необходимую сумму денег на малыша, поставь условие, что вернёшься только в уютный дом, наполненный любовью, где будет ждать ласковая жена, а не мисс Вселенная, боящаяся замарать руки тестом. Сделай это, дай ей шанс!» — «Но ведь я не буду видеться с сыном…» — возражал он мне мысленно. «Да, нужно потерпеть! Но зато ты удивишься результату!» — пообещал я. Там же, в троллейбусе, мой несчастный подопечный и принял твёрдое мужское решение. Глянув на часы, понял, что его подруга успевает сама забрать ребёнка из детского сада. Поэтому пришёл домой, увидел, что она смотрит любимый сериал, обрабатывая пилочкой свои хищные когти, и положил перед ней несколько крупных купюр.

— Почему ты один? Где ребёнок? — не отрываясь от экрана, промолвила она.

— Ты ещё успеешь забрать малыша — до закрытия садика ещё целый час, — ответил тот.

— Что-о-о-о? Да я весь день кручусь как белка в колесе, а тебе ребёнка забрать сложно? Мне что, специально одеваться для этого? — взбесилась она.

— Я ухожу. Эти деньги — немного более того, что я обязан уплачивать на содержание сына по закону. Но я хочу жить в уютном доме с женой, которой буду более интересен, чем герои мыльных опер. Когда ты захочешь нормальную семью, где сможешь выполнять роль хранительницы домашнего очага, разыщешь меня.

Затем он открыл форточку, выбросил в неё свой мобильный телефон и растворился в ночи.

О, мне долго пришлось лечить душу этой женщины! Слишком приросла к ней проклятая маска. Слуга исчез, и ей самой пришлось отводить ребёнка в детский сад, забирать его, посвящать время играм с ним, а не телефонным разговорам с гламурными подругами. Пришлось научиться готовить. Я помогал, чем мог, и она очень радовалась первому удачному пирогу. По правде сказать, Чёрный Пастырь старался сбить её с пути, подстрекая снова побрить голову, зайти на сайт знакомств и поискать там новую жертву. Но ребёнок плакал без отца, и его плач заставил её сделать правильный выбор. Я помог ей выбрать красивый кухонный передник и милую косынку, вместе мы выбросили в мусоропровод все её откровенные наряды и купили пару скромных платьев. Когда она надела одно из них и повязала косынку, я не

узнал прежней стервы! Волосы стали отрастать, и как ни бился наш враг, маска сползла с её глаз. Я лишь бросил её в рюкзак и засобирался в дорогу. А ей на прощание шепнул: «Он ждёт тебя на даче. Береги его. И повенчайтесь обязательно — уже ребёнка растите, а не венчаны, не женаты» Она лишь грустно улыбнулась. Но я-то знаю: без маски она совсем другая, и всё теперь будет хорошо.

С чревоугодницей было проще. Я устроил так, чтобы она случайно услышала разговор парня, который ей нравится, с приятелем. «Из всех наших сотрудниц только Эмма вызывает во мне уважение! — сказал он. — Не будь она такой толстой, я бы на ней женился. Она была бы заботливой женой и матерью, да ещё карьеру успевала бы делать — сколько в ней энергии, и мне так нравятся её кудрявые рыжие волосы!» Маска сползла мгновенно — она даже не доела пирожное! С этого дня для неё началась новая жизнь, в которой она ежедневно одерживает над собой маленькие победы. И я уже вижу, какой красивой невестой она будет через год, какую очаровательную девочку родит и как будет бегать с нею по утрам, когда та станет взрослой. Муж на руках её будет носить и в их доме всегда будет царить счастье!

Ну вот, пожалуй, это все мои полные победы. В случае с отцом троих детей и его любовницей мне удалось лишь уберечь его жену от неминуемой гибели — у негодяев созрел коварный план, который почти удался! Я вовремя подоспел на помощь и открыл бедной женщине глаза. Она сделала смелый шаг: забрала детей и ушла от мужа, который её тиранил в последнее время. Теперь у неё всё хорошо: сбросив ненужное, она похорошела и встретила замечательного человека, который полюбил и её, и детей. Правда, им тесновато в маленькой квартирке, но я позабочусь, чтобы у них появился просторный светлый дом. Главное, я вижу, что под его крышей будет жить любовь — а это для нас самое важное. К лицам бывшего мужа и любовницы маски приросли намертво — думаю, тут не обошлось без колдовства, которым сладострастная кумушка и разбила эту семью.

С сестрой богатой наследницы подвижки есть: иногда её сердце гложет тоска, ей становится стыдно, но она ещё не созрела для того, чтобы снять проклятую маску: деньги разошлись по мелочам, но проку не принесли. А признаться детям и внукам, да и самой себе в том, что совершила подлость, она не в силах. Но я не оставлю её — буду стараться. А как твои дела с её сестрицей?

— Я пытался, брат, — вздохнул Камиэль. — Но даже моего опыта не хватило, чтобы пробудить в ней желание сбросить кандалы — она привыкла к ним и постоянно пользуется масками, считая, что облегчает себе жизнь. Единственный лекарь здесь — время. Я вижу, что раскается она лишь на закате жизни, когда будет лежать уже при смерти. Даст Бог, я успею снять вместе с проклятыми масками камни с её души, чтобы они не мешали ей подняться ввысь. Я постарался нашептать ей, что если она снимет маски, то дочери её ещё успеют познать настоящее женское счастье. Но она отмахнулась от меня, как от назойливой мухи. К сожалению, Чёрный Пастырь для

неё — более приятный собеседник. Ну что ж, терпение и время — так тому и быть!

Солнце садилось за горизонтом. По речной глади пополз сизый туман. Два усталых ангела поднялись на мягкое пушистое облако и, взбив его, словно перину, закрыли глаза.

— Света любви, Камиэль! — сказал младший ангел.

— Света любви, брат! Спи, завтра снова трудный день. Как видишь, работы на земле хватает.

— А мне понравилось защищать людей и дарить им огонь любви! Перед ним не устоят никакие маски!

— Это точно, Амалиель!

Через мгновение оба спасителя уже гуляли по дивному царству светлых ангельских снов. А там, на земле, ещё в нескольких сердцах зажглись огоньки любви, нежности, сострадания, надежды и веры. И пусть их обладатели не видели своих защитников. Но они чувствовали их дыхание всякий раз, когда смотрели на неспешно плывущие белые облака.

## УЛАДЗІМІР МАРУДАЎ

### Дзень у сярэдзіне лета

Шаша бегла насустрач роўнай шырокай стужкай, нібыта ўплеценай у зяляніну старых таполяў. У гэты будзённы дзень аўтобус быў запоўнены крыху больш чым напалову і сям-там віднеліся свабодныя месцы, але Мікола, ехаўшы ўлегцы, ад самага горада ўладкаваўся, стоячы ля кабіны шафёра. Раз-пораз аўтобус прыпыняўся, выпускаў разамлелых ад спёкі і клункаў пасажыраў, набіраў новых, якія чамусьці вельмі паходзілі на тых, што выйшлі, зачыняў дзверы і, узняўшы пыл у салоне, зноў імчаў па дарозе.

Апошнім разам па гэтай, такой знаёмай з дзяцінства, дарозе Мікола прыязджаў у родную вёску ўвосень на пахаванне бацькі. Калі чатыры гады таму памерла маці, Мікола ўгаворваў бацьку пераехаць да яго ў горад. І хоць бацька абяцаў, што калі-небудзь наважыцца, але за гэтыя чатыры гады так і не прыехаў да яго…

* * *

Мікола прачнуўся раней звычайнага. Па звычцы павярнуў галаву ў той бок, дзе на невялікай самаробнай паліцы разам з падручнікамі, па якіх ён выкладаў гісторыю ў старэйшых класах, заўсёды стаяў будзільнік. Было яшчэ рана, але спаць Міколу болей не хацелася. Ён прыўстаў з ложка, нагамі адшукаў на падлозе тапачкі і выйшаў у кухню. На падаконніку ляжаў прываблівы пачак цыгарэт, які Мікола, як і ўсе ранейшыя, купіў учора «ў апошні раз». Крыху павагаўшыся, ён дастаў цыгарэту і закурыў. І толькі зараз, нібы з тытунёвага дыму, аднекуль з падсвядомасці паволі выплывала думанае-передуманае яшчэ ўчора ўвечары: сёння не трэба ісці на работу, сёння — першы дзень адпачынку. Ці то ад зробленай зацяжкі, ці ад усведамлення таго, што праз пару дзён яго будуць



**УЛАДЗІМІР МАРУДАЎ**

Нарадзіўся 4 лютага 1950 г. у г. п. Зэльва на Гродзеншчыне. Скончыў Ленінградскае пажарна-тэхнічнае вучылішча, завочна — факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў ва ўпраўленні пажарнай аховы Гродзенскага аблвыканкама. У 1975 г. пераехаў у Віцебск. Вершы друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах, часопісах «Маладосць», «Полымя», «Беларусь», альманахах «Дзень паэзіі», «Дзвіна», «Ратуша», у перакладзе на рускую мову – у часопісе «Нёман», альманаху «Истоки» (Масква). Выдаў кнігі вершаў «Памяць» (у калектыўным зборніку «Нашчадкі», 1979), «Пад небам родным» (1993). Аўтар тэкстаў песень, якія гучаць у выкананні вядомых беларускіх салістаў. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

лёгка пагойдваць хвалі паўднёвага мора, па ўсім целе разлілася прыемная цеплыня. Міколу раптам захацелася закрычаць, як тым школьнікам, якія ў апошні дзень заняткаў, не зважаючы ні на яго, ні на строгага завуча, які стаяў побач, гарланілі на ўвесь калідор: «Ура! Канікулы!»

У такі дзень Міколу заўсёды апаноўваў чамаданавы настрой, і ён загадзя ведаў, што акрамя таго, як купіць папярэдне білет, на большае сёння можна не разлічваць. Таму вырашыў лёгка паснедаць і схадзіць на ранішні сеанс у кіно, дзе не быў ужо больш як месяц. Пасля кіно падсілкавацца ў якім-небудзь кафэ, ну а потым хай куды ногі завядуць, бо ўсюды не быў даўно. Пакуль у чайніку закіпала вада, Мікола адшукаў чыстую блакітную, пад колер вачэй, кашулю, прычасаў кучаравую, з рэдкімі ніткамі ранняй сівізны, чупрыну, якая непаслухмяна спадала на лоб. Нарабіўшы бутэрбродаў, стаў шукаць вачыма газету, якую ўчора, калі ў думках быў ужо далёка ад дому, нават не разгарнуў. Чытаць за ежай ён пачаў яшчэ калі вучыўся ў школе, за што атрымліваў ад маці ў патыліцу. Але ці то маці мала ўшчувала, ці то гэта вельмі ўедлівая звычка, — толькі глытаў Мікола разам з гарачым пахучым баршчом «Рабінзона Круза» альбо «Трох мушкецёраў». З гадамі цікавыя юнацкія кніжкі саступілі месца іншым, больш сур'ёзным, але звычка чытаць за ежай засталася. Газета ляжала на халадзільніку, і Мікола, не ўстаючы з табурэта, пацягнуў яе да сябе. Нешта цвёрдае перагнула край газеты, і на падлогу выпаў паштовы канверт. Пісьмо? Мікола здзівіўся: ад каго? Ледзь толькі ўбачыў зваротны адрас, як усярэдзіне нешта ўздрыганулася, сіратліва зашчымела. Ён адчуў, як кожны мускул напружыўся, нібы змагаўся з нейкім цяжарам. Раптоўна нахлынуўшы, далёкі боль сухім камяком падступіў да горла. Пісьмо было ад дзядзькі Цімоха, старога калгаснага конюха, хата якога стаяла цераз дарогу якраз насупраць іхняй. Мікола ведаў, што бацька і дзядзька Цімох усе апошнія гады вельмі сябравалі, хоць і не мог ніяк зразумець, што магло звязваць двух такіх розных чалавек: мажнага, няспешнага ў гаворцы і паводзінах бацьку, які ўвесь свой час аддаваў вясковай школе, і хударлявага, крыху сутулаватага дзядзьку Цімоха — малапісьменнага конюха, нязменнага веселуна, без якога не абыходзілася ніводная вясёлая гаворка, ніводзін кур'ёзны выпадак. Але калі справа тычылася якога-небудзь сур'ёзнага пытання, то лепшага памочніка і дарадцу не трэба было і шукаць. Вось і зараз дзядзька Цімох, напрасіўшы некага са школьнікаў, паведамляў, што аб'явіўся пакупнік на бацькаву хату, і прасіў Міколу абавязкова прыехаць.

Такі паварот справы Мікола ніяк не прадбачыў, і гэта неяк збянтэжыла яго. Калі б хто-небудзь увайшоў у пакой, то па ягоным разгубленым твары адразу распазнаў бы чалавека, гатовага прыняць любую параду. Але хвіліна нерашучасці адступіла гэтаксама хутка, як і прыйшла. Канечне, Мікола мог бы з'ездзіць у вёску і ў канцы адпачынку, прыехаўшы з Поўдня, але ён ведаў, што ад незавершанасці якой бы то ні было справы поўнага маральнага заспакаення ён не атрымае.

І таму вырашыў, што ад'езд на мора на два-тры дні пазней нічога не зменіць, тым больш што ў адпачынак ён ехаў не па пуцёўцы, а «дзікуном». Пасля

такога рашэння ўсе раней намечаныя паходы ўжо не мелі ніякага сэнсу. Заставалася толькі ўзяць білет і ператрываць спёку ў прыгарадным аўтобусе нейкіх дваццаць кіламетраў. Але, каб не страціць святочнасці першага дня адпачынку і неяк зноў настроіць сябе на хуткую сустрэчу з морам, Мікола спярша заняў чаргу ў касу папярэдняга продажу білетаў.

* * *

Дваццаць кіламетраў, якія раз'ядноўвалі яго і вёску, як два розныя вымярэнні часу, прамільгнулі непрыкметна, і Мікола толькі падумаў, што раней вельмі рэдка пераадольваў гэты шлях. На прыпынку ён сышоў адзін, што Міколу зусім не здзівіла, бо ён ужо даўно разглядзеў пасажыраў, вышукваючы аднавяскоўцаў. Спадарожнікаў не было, і Мікола ўздыхнуў з палёгкай: гэта пазбаўляла яго ад непрыемных пытанняў і распытванняў. Ды і ніякіх размоў наогул Міколу зараз не хацелася весці.

Ад шашы дарога вяла праз невялікі лес, які не вельмі ахвотна падступаў да яе з абодвух бакоў, сям-там пакідаючы ля дарогі паляны. Некалі Мікола бегаў сюды па суніцы, якіх заўсёды было багата. А потым маці налівала ў міску малака, высыпала туды ягады, і Мікола чэрпаў іх драўлянай лыжкай.

Да вёскі было больш як кіламетр, але з першага ж пагорка яна ўся была як на далоні. Мікола ўгледзеў бацькаву хату, якая амаль патанала ў зяляніне, але нават адсюль, ці, можа, Міколу толькі здалося, яна выглядала неяк сіратліва. Чаго не сказаў бы ён пра хату дзядзькі Цімоха, хоць на падворку нікога не было бачна. Іхнія хаты стаялі на ўскрайку самыя першыя, і Мікола падумаў, што гэта лепш: не трэба ісці праз усю вёску. І ён пакрочыў шпарчэй.

На падворку сядзеў усё той жа стары кудлаты Шарык, якога дзядзька Цімох не столькі для аховы («людзі ж усе свае, вяскоўцы, а воўка сюды і калом не загоніш»), колькі дзеля даўно заведзенага парадку: «без сабакі і хата не хата, і падворак сірацее». Убачыўшы Міколу, Шарык нібы нехаця прыўстаў на ногі, гаўкнуў некалькі разоў і, відаць пазнаўшы, завіляў рыжым хвастом. Было чутно, як бразнула клямка хатніх дзвярэй і ў сенцах пачуліся тарапкія шоргаючыя крокі. Праз хвіліну дзверы сенцаў расчыніліся і на парозе ў сваёй нязменнай шэрай кепцы і кірзавых ботах паявіўся дзядзька Цімох. Яго некалі прыгожы твар увесь аж засвяціўся ў прыветлівай непадробнай усмешцы.

— Ганна, паглядзі, які госць да нас! — не паварочваючы галавы, гукнуў ён у хату жонцы і працягнуў Міколу шурпатую цёплую далонь.

— То ты хоць з парога, Цімоша, сыдзі, дай чалавеку ў хату зайсці, — адразу азвалася маленькая, крыху паўнаватая жанчына, вынырнуўшы, відаць, з кухні і выціраючы рукі аб лінялы, некалі квяцісты фартух.

— Добры дзень, Мікалай Пятровіч. А мы вас не сёння-заўтра чакалі, асабліва Цімох Кандратавіч, ён вунь усе вочы праглядзеў. Усё кажа, што не можа такога быць, Мікалай Пятровіч у родную хату абавязкова прыедзе. А я ж ве-

даю: вы чалавек заняты, там, у горадзе, спраў розных хапае, не тое, што ў нас. Можа, чалавек і запозніцца. Ой, ды што гэта я сама на парозе вас трымаю, праходзьце, калі ласка, у хату.

І цётка Ганна, узяўшыся за клямку, расхінула насцеж напалову адчыненыя дзверы.

Мікола звыкся з тым, што ў школе яго клічуць па бацьку, але зараз, калі цётка Ганна з павагі да яго вучонасці і гарадскога выгляду назвала Міколу па бацьку, тая самая цётка Ганна, якую ён калісьці разам з хлапчукамі абзываў Ганніхай і ад якой ледзь паспяваў сігануць праз плот з агародчыка, дзе кожны год раслі вялікія салодкія клубніцы, — Міколу стала неяк няёмка, і, адчуваючы, што пачынае чырванець, ён ступіў у хату. Мікола разумеў, што цётка Ганна проста не запамінала ні ягонае свавольства, ні свавольства другіх падлеткаў. Але ў ягонай памяці (а напэўна, і ў памяці тых хлапчукоў) гэта засталося назаўсёды, як адзін з маленькіх куточкаў дзяцінства. І Міколу чамусьці падумалася, што калі б ён жыў у вёсцы, то і ён, напэўна, ганяў бы самых заўзятых «садавікоў», а потым адразу б забываў. І памяталі б пра гэта толькі самі свавольнікі.

Дзядзька Цімох уключыў тэлевізар, але ўдзень добрай перадачы чакаць не прыходзілася, і таму Мікола глядзеў на экран, нават не прыслухоўваючыся, пра што там расказвалі.

На кухні засквірчэла ў патэльні, смачна запахла смажаным. Цётка Ганна тупала то да пліты, то да стала, то хуценька выскоквала па нешта ў сенцы. Мікола дакараў сябе ў думках за тое, што не здагадаўся прывезці штонебудзь з горада. Толькі цяпер ён успомніў пра вялікую бляшанку селядцоў, што засталася ў халадзільніку, якую яму прывёз з Прыбалтыкі адзін знаёмы. А то неяк няёмка атрымалася: хоць і ехаў па справе, але ж усё роўна патрапіў у госці, ды з пустымі рукамі.

Дзядзька Цімох, пакорпаўшыся ў старым, немаведама калі купленым серванце, адшукаў белы льняны абрус і заслаў ім круглы стол, які стаяў пасярэдзіне залы.

— Во зараз паабедаем, а то ты, мабыць, прагаладаўся з дарогі, а тады і справы рабіць весялей. — І, быццам прачытаўшы Міколавы думкі, працягваў: — Дзякуй Богу, усяго хапае. Ёсць, як кажуць, і хлеб, і да хлеба, так што на гэта скардзіцца не прыходзіцца. Бабам вунь для хуткасці нават газ паставілі. Гэта каб як у горадзе: чыркануў запалкай — і яечня гатова. А я табе так скажу, што прыгатаванае ў печы і есца смачней. Я праз печ і ў горад ніколі б не паехаў.

Мікола згодна ківаў галавой, не рашаючыся ніводным словам перабіць дзядзьку Цімоха. З кожнай хвілінай ён адчуваў усё большую павагу да гэтага, здавалася б, чужога яму чалавека.

— Цімоша, падзі сюды, — пазвала з кухні цётка Ганна. — Мо ты скокнуў бы да Антосіхі, пазычыў у яе бутэльку гарэлкі? Вечарам пайду ў краму, тады і аддамо.

Ад гэтых слоў твар дзядзькі Цімоха так скрывіла, нібыта яго чакала сустрэча не з суседкай Антосіхай, а з зубным урачом. Цётка Ганна, відаць нешта ўспомніўшы, толькі махнула рукой і, нічога не сказаўшы, выбегла на вуліцу.

Вярталася цётка Ганна, несучы перад сабой бутэльку, таропкімі, крыху падскокваючымі крокамі, але спяшалася настолькі, каб усе з акон маглі ўгледзець, што і да яе завітаў чаканы госць (дзядзьку Цімоха ў будзень яна не песціла).

З таго часу, як адзіная дачка Кацярына выйшла замуж і засталася жыць у горадзе, цётка Ганна зусім перастала чакаць гасцей. Раней, калі дачка вучылася ў інстытуце, яна хоць калі-нікалі прыязджала, каб узяць грошай ды таго-сяго з харчу. Падчас у свята прывозіла з сабой каго-небудзь з сябровак, часцей за ўсё гарадскіх. І тады цётка Ганна нечакана ўся змянялася, выглядала больш рухавай, непаседлівай, хада рабілася лёгкай, прытанцоўваючай, а маленькія вочы свяціліся пяшчотай і дабрынёй да ўсіх. Увесь выхадны з яе маршчыністага твару не сыходзіла адкрытая, шчырая ўсмешка, нібыта не было за спінаю перажытага ліхалецця і гора, доўгіх гадоў голаду і нястачы, а былі толькі вельмі ўжо кароткія гады радасці і спакою, простага жаночага шчасця.

Цётка Ганна накрыла стол, нібы на якое свята, усярэдзіне паставіла бутэльку гарэлкі і побач з бутэлькай дзве звычайныя гранёныя чаркі. Дзядзька Цімох маўчаком адсунуў табурэт і прынёс з кухні яшчэ адну. І хоць цётка Ганна ўсяляк адгаворвалася, нават успомніла пра свае хваробы, але прыгубіць чарку ёй усё ж прыйшлося.

Мікола адчуў, як прыемная цеплыня разлілася па целе, рухі сталі крыху запаволенымі. Зусім нечакана захацелася пагутарыць з дзядзькам Цімохам на вясковыя тэмы, але чамусьці спытаў пра сваё:

— Хто хоча купіць хату?

Дзядзька Цімох, нібы не пачуўшы пытання, не спяшаючыся дахрумстаў шкварку, паклаў на стол відэлец.

— Можа, ты і ведаеш Сяргея Федчанку з Загацця. Ён яшчэ Антосісе, суседцы нашай, пляменнікам даводзіцца.

— Дык мы ж з ім у паралельных класах вучыліся. Ён яшчэ ў ваеннае вучылішча паступаць хацеў, танкістам марыў стаць. Значыць, усё ж у калгасе застаўся?

— Танкістам не танкістам, а трактарыстам ён стаў выдатным, на ўсе сто, — нібы заступаючыся за Сяргея, пасур'ёзнеў дзядзька Цімох. — І зарабляе нямала, вунь «Масквіча» пазалетась купіў, і выпівае ў меру, а не склалася сямейнае жыццё. Разышліся. Вось ён і вырашыў вашу хату купіць ды ў нашу вёску пераехаць, а сваю хату жонцы з дзецьмі пакінуў. Ён яшчэ ўвесну да нас прыходзіў, але мы не хацелі цябе непакоіць. Хай час міне. Канечне, мы маглі б і самі прадаць, але ж ты гаспадар, табе і вырашаць.

І дзядзька Цімох неяк па-змоўніцку пагдядзеў спярша на Міколу, а затым на цётку Ганну, быццам патрабуючы ад яе поўнага ўзаемаразумення. Але

цётка Ганна, крыху расчырванелая ад прыгубленай чаркі, ці мо набегаўшыся па хаце, не звяртала на мужа ніякай увагі. Раптам узніклае маўчанне, якое Мікола не вельмі спяшаўся парушыць, толькі падахвоціла яе.

— Хату што — хату ён купіць, не гэтую, дык іншую. А вось тое, што двое дзетак пры жывым бацьку амаль сіротамі застаюцца, гэта ўжо зусім дрэнная справа. Хіба ж чужы будзе лепшы за роднага бацьку?

— А чаму яны разышліся? — пацікавіўся Мікола.

Цётка Ганна перавяла дых, нібы толькі й чакала пытання:

— А хто іх ведае. Здаецца, жылі, як усе людзі. Ну, бывае, пасварацца калі, не без гэтага. Але каб скандал які шумны, ці, крый божа, бойка, — такога чуваць не было. Антосіха казала, што ў дакуменце пісалі «не сышліся характерамі». Што ж у іх за характеры такія, што сысціся не могуць? Вунь у Цімоха Кандратавіча раней па маладосці таксама «характар» быў, бывала, і ў чарку залішне заглядаў, а як сышліся, дык і атруту гэтую пакінуў.

— Але ж, — азваўся дзядзька Цімох, — пілiш, як тая піла без разводу.

— Во-во, і слова якое мудрагелістае прыдумалі: «развод». І адкуль яно толькі ўзялося? Хіба мы раней ведалі, што гэта такое? Жылі сабе, жыццю радаваліся, дзяцей гадавалі. І каб не вайна тая, хіба было б у нас тады столькі сіротаў? А цяпер і бацькі жывыя, і дзеці сіротамі гадуюцца. А мы вунь сваю Кацярынку замуж аддавалі, думалі, унукаў паняньчым. А яны тры гады пражылі, а дзяцей яшчэ няма. Усё гавораць: «Паспеецца. Трэба спачатку для сябе пажыць». А мы што, хіба для сябе жылі?

Вочы цёткі Ганны зрабіліся вільготнымі, і толькі цяпер Мікола разгледзеў, колькі многа вакол іх маршчынак — глыбокіх жыццёвых баразнаў, якія дагэтуль неяк хаваліся пад добразычлівым паглядам.

— Зноў ты пра сваё, — нібы нехаця буркнуў дзядзька Цімох. Было зразумела, што ў гэтым пытанні ён цалкам на яе баку і толькі мужчынскае становішча абавязвае яго не даць жонцы пусціць слязіну. — Што ім, нямашака каго песціць? Вунь машыну, як тую лялльку, даглядаюць, ніяк не нацешацца.

— То ж ты сам, Цімоша, хацеў купіць ім гэтую «Жыгулю».

— Сам, сам, — злуючыся, запярэчыў дзядзька Цімох, дастаючы з кішэні пачак папяросаў. — А хто падбухторваў мяне? Хто казаў, што на ўласнай машыне яны часцей па тое-сёе прыедуць, га? Цяпер вось чакай, як тых міністраў, са сталіцы.

— А яно і міністраў дадому цягне, — не здавалася цётка Ганна. — Вось Мікалай Пятровіч вучоным, зусім гарадскім чалавекам стаў, а ўсё роўна да роднай хаты прыехаў. І Кацярынка наша з Анатолем хутка прыедуць, праўда, Мікалай Пятровіч? — І цётка Ганна, шукаючы суперажывання і падтрымкі, з надзеяй паглядзела на Міколу.

Ён згодна кіўнуў галавой:

— Канешне, прыедуць, абавязкова. Улетку ў горадзе цяжэй пайсці ў адпачынак, — і тут жа падумаў, што і ў вёсцы зараз не менай напружаная пара. — А вы, значыць, сваёй Кацярыне машыну купілі?

— От, можна сказаць, і купілі, і не, — расчаравана махнуў рукой дзядзька Цімох. — Глядзі не глядзі, а рубель пакладзі. — І, памяўшы ў пальцах папяросу, закурыў.

Цётка Ганна, бачачы, што Мікола мала што з гэтага зразумеў, узялася тлумачыць:

— Селі мы неяк летась адвячоркам з Цімохам Кандратавічам за стол, якраз толькі з лазні прыйшлі, пагаманілі, параіліся і вырашылі Кацярынцы нашай з Анатолем у падарунак машыну гэтую купіць, толькі каб яны пра гэта не ведалі. Нам жа лягчэй з грашыма, у краму вунь толькі па хлеб ды цукар і ходзім. А яны маладыя, там у горадзе і апрануцца трэба прыгажэй, ды і ў тэатру тую схадзіць. Сабралі мы трохі грошай, а тут і старшыня калгаса якраз паабяцаў Цімоху Кандратавічу, што з тыдня на тыдзень прыбудзе машына. Увесь вечар мы цешыліся ў здагадках, якога колеру яна будзе. Цімоху Кандратавічу падабаецца вішнёвы, а я так люблю сіні, як наш калгасны лён, што цвіце за ўзлескам: і колер прыгожы, светлы, вока радуе, і пра родныя мясціны нагадвае. Пагаманілі мы так, паспрачаліся і сышліся на тым, што якая будзе, такую і прыйдзецца браць. Агледзіны ж не наладзіш, адна машына. А раніцою Кацярынка з Анатолем прыехалі, усхваляваныя, радасныя, вочы ў абаіх так і свецяцца. Аказалася, што Анатоль там у горадзе на чарзе стаяў на атрыманне машыны, а тут нехта яму сваю чаргу саступіў, а грошай не хапае, вось і прыехалі папрасіць пазычыць. Марылін сын некалі, як прыязджаў з горада, казаў, што за гэтую чаргу немалыя грошы трэба аддаць. А калі б спытацца: за што? Ды хіба ж я не перапускаю ў краме тую самую Марылю, калі яна на ферму спяшаецца? Што ж мне, грошы з яе браць за гэта?

— Ды не, Ганна Трафімаўна, — усміхнуўся ад цётчыных слоў Мікола, — гэта і ў нас выключныя выпадкі. На такое толькі несумленныя людзі здольныя. Ды і Анатолю вашаму не трэба было згаджацца, ён жа сам такім людзям і дапамог.

— А хіба ж я не разумею, Мікалай Пятровіч? — як спахапілася цётка Ганна. — Толькі ці скажаш пра ўсё гэта Анатолю? Ён жа чалавек вучоны, інстытут на «выдатна» скончыў, у начальстве ходзіць. Вунь Кацярынка хвалілася, што ён цяпер не проста інжынер, а нейкі ведучы.

— Ды не ведучы, а вядучы, — не ўтрываў, паправіў дзядзька Цімох, невядома на што больш злы: нв жончыну памылку ці на зяцеву пасаду.

— Вось я і кажу — вядучы, значыцца, усіх за сабою павінен весці. Кацярынка хвалілася, што яму за гэта і аклад вышэйшы далі. «Мы, — кажа, — мама, за пару год вам аддамо». Далі мы гэтыя тры тысячы, што ім не хапала. Вось і выходзіць: і падарунка не зрабілі, яны ж лічаць, што ў доўг пазычылі. Не будзем жа мы ад дзяцей сваіх назад гэтыя грошы браць, ды і навошта яны нам?

Дзядзька Цімох, не рашаючыся перапыніць жонку, павесялеў, убачыўшы што яе расказ падыходзіць да канца:

— Ну хопіць табе ўжо, Ганна, пра сваё. Зусім госця замарыла. Што з таго, будзе гэта лічыцца падарункам ці не? Хай толькі жывуць добра, у згодзе,

можа, калі і ўнукаў нам прывязуць. А мы вось за гэта з Мікалаем Пятровічам яшчэ па адной і вып'ем, — і дзядзька Цімох пацягнуўся за бутэлькай.

— Мікалай Пятровіч вось адпачне, а табе, Цімоша, можа, ужо і хопіць, а то твае коні цябе не прызнаюць.

— Чаму ж гэта яны мяне не прызнаюць? Я ж з імі як з роднымі, а людзі не дарма кажуць, што ў добрага гаспадара і конь дабрэе.

* * *

Пад вечар гарачыня спала, нават Шарык вылез са сваёй будкі, дзе адсядзеў увесь дзень, не зважаючы ўвагі на тое, што куры з нагамі залазілі ў ягоную міску.

Дзядзька Цімох пайшоў на канюшню, і Мікола, узяўшы ў цёткі Ганны ключ, падаўся да сваёй хаты. Яму даўно карцела схадзіць туды, нейкая невядомая сіла цягнула яго, але не хацелася, каб хто-небудзь пайшоў разам, хацелася пабыць аднаму.

Вароты, крыху абвіслыя на ржавых завесах, жаласліва зарыпелі. На падворку ўсё было, як і раней, нібыта нічога не змянілася. Толькі адзіны вулей, які бацька калісьці паставіў пад слівай, зараз без пчолаў нагадваў тую казачную маленькую хатку на курыных ножках. Мікола адчыніў хату. Падумалася: «Бацькаву». — «А чаму бацькаву? — тут жа запярэчыў сабе. — Я ж тут нарадзіўся, тут рабіў свае першыя крокі. А вось аб гэты парог колькі разоў спатыкаўся, і цёплая ліпкая кроў ручаём бегла з носа».

Усе рэчы стаялі на сваіх месцах і з кожнай з іх Мікола мог прыгадаць той ці іншы дзень з вясёлага, бесклапотнага дзяцінства, якое чамусьці падалося не такім ужо і далёкім. Усюды было чыста, прыбрана, нават на вялікіх самаробных рамках, якія ўпрыгожвалі мноства фотакартак, не было пылу. Відаць, цётка Ганна часта заглядвала сюды, прыбірала. Раптам Мікола пачуў ледзь чутнае ціканне. Ён хутка павярнуў у той бок галаву і застыў у здзіўленні: стары, у драўляным корпусе і з размаляваным цыферблатам гадзіннік, што вісеў на сцяне, звесіўшы на ланцужках дзве чорныя шышкі-грузілы, адлічваў гадзіны. Цётка Ганна кожны дзень заводзіла яго! Хата жыла сваім ранейшым жыццём. Мікола падцягнуў ланцужок і выйшаў у двор. Абапершыся на агароджу, закурыў. З боку шашы нехта рухаўся да вёскі, толькі прайшоў апошні аўтобус. Мікола доўга ўглядаўся, але толькі калі заставалася некалькі метраў, пазнаў старога Будрэвіча, былога брыгадзіра, які здаў свой пост толькі калі пайшоў на пенсію.

— Добры вечар, Лявон Рыгоравіч. Ніяк у горад ездзілі?

— А, Міколка, вечар добры. У горад, хай яго, да дачкі. Усё ўгаворвалі застацца, ледзь на апошні паспеў. А ты, значыцца, дадому прыехаў? Вось і добра. А я гляджу здалёк і думаю: хто гэта на Пётравым падворку стаіць? Ганна, здаецца, так позна не ходзіць. Аказваецца, гэта ты прыехаў. А наш дырэктар школы, як твой бацька памёр, сам за яго гісторыю выкладаў, нікога з раёна прасіць не схацеў. Ты, Міколка, не глядзі, што ў нас толькі васьмігодка. Хутка

новую школу будаваць будзем. Ды і людзі тут свае, калі трэба — дапамогуць заўсёды.

Мікола глядзеў услед Будрэвічу і адчуваў, што ад гэтых простых, шчырых слоў неяк цяплей стала на сэрцы. Незнаёмае пачуццё авалодала ім, зрабіўшы такімі нязначнымі і непатрэбнымі ўсе ранейшыя трывогі і сумненні. Захацелася сказаць усім: «Дзякуй вам, людзі!»

Мікола засынаў і думаў, якім цудоўным можа быць адзін звычайны, будзённы дзень. Дзень у сярэдзіне лета. Нечакана ўспомніў, што хацеў папрасіць дзядзьку Цімоха напаліць лазню, але тут жа падумаў: «Яшчэ паспеецца».

На сцяне мерна цікаў гадзіннік.

## СТАСЯ НАРКЕВІЧ

### Брат

«Брат, добры дзень, а мо вечар. Я ж не ведаю, калі ты адчыніш паштовую скрынку і дастанеш сіні канверт. Зірнеш і здзівішся: бо цяпер ужо бадай ніхто не піша лісты. Зараз у пашане эсэмэскі, электронная пошта ці скайп. Блакітнымі вачыма прабяжыш па маёй пісаніне і ў нейкі момант нават спытаеш сябе: «Божухна, якая муха ўкусіла сястру, што яна ўзяла асадку і на паперы пачала ажыўляць застылыя думкі, якія так надзейна схавала ў галаве і толькі час ад часу выкідвае ў суправаджэнні спрадвечных пытанняў: хто ты? адкуль ты? якія твае карані?»

Дык вось, адкажу адразу. Падштурхнуў мяне да такога цікавага занятку мой пацыент, даволі пажылы мужчына, які прынёс з сабою пажоўклы ад часу ліст сваёй сястры, якой, на жаль, ужо няма на гэтым свеце, і амаль прымусіў прачытаць яго. Аркуш паперы быў рыхлы. Я баялася, што ў маіх руках ён рассыплецца на невялічкія кавалачкі, а скразняк падхопіць іх і раскідае па кабінеце. На шчасце, гэтага не здарылася: навіны, якімі быў нашпігаваны кожны абзац, мацней за магніт трымаліся за тлустыя лінейкі, быццам бы хацелі, каб я, доктар, які лечыць душы людзей, даведалася пра яго сям'ю, родных яму людзей, іх жахлівыя адносіны паміж сабою, што, як мне падалося, сталі прычынай глыбокай дэпрэсіі чалавека.

Я чытала ліст даволі марудна, асэнсоўваючы кожнае слова, і раптам злавіла сябе на думцы, што гэты аркуш мне не пацыент даў, а я сама вырвала з яго рук і тым самым вераломна ўварвалася ў чужое жыццё, поўнае драматызму, — і ледзь не расплакалася ад сораму. Я нават некалькі разоў парывалася вярнуць пасланне адрасату, але ж мусіла дачытаць усё да канца, каб знайсці тую адзіную шпульку, на якую пачалі накручвацца, падобна да нітак,



**СТАСЯ НАРКЕВІЧ (АНАСТАСІЯ ЛАЗЕБНАЯ)**

Нарадзілася 28 чэрвеня 1952 г. у в. Куляшы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала галоўным рэдактарам газет «Кімавец», «Планета адкрыццяў», «Анастасія», рэдактарам газеты «Мы і час» ВДУ імя П. М. Машэрава. Выдала тры зборнікі апавяданняў, кнігу вершаў, тры казкі-размалёўкі. З 2013 г. — старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

крыўды, зайздрасць, кпіны, ды разабрацца ў іх і хоць трошкі дапамагчы чалавеку жыць далей, не азіраючыся назад. Я асіліла апошні сказ з такім пачуццём, быццам паднялася на крутую гару з каменем на спіне, які адцягваў і адцягваў назад…

Ліст лістом, але ж мне трэба было яшчэ і выслухаць наведвальніка, пачуць яго праўду, прааналізаваць, а ўжо потым прызначыць хвораму лекі, як і прапанаваць наведваць нашы аўтатрэнінгі. І стары пачаў свой аповед. За першыя хвіліны размовы мужчына выціснуў з сябе толькі некалькі слоў. Потым маланкава зірнуў на мяне, і яго панесла. Ён расказаў усё, бадай, ад самай калыскі. Успамінаў далёкае дзяцінства і сваю сястру, якая і напісала яму гэтае пісьмо. Спярша ён гаварыў так, быццам чытаў малітву — ціха і працяжна. Па яго шчоках каціліся вялікія слёзы, якіх ён не саромеўся. Чалавек расказваў пра вясковае жыццё сваёй сям'і, амаль што галоднае і голае. А калі пачынаў гаварыць пра самыя крыўдныя моманты з дзяцінства, то ціхая і спакойная малітва перарастала ў дзікі крык, падобны да рову загнанага ў пастку звера. Бывала, што тыя словы, якія вымаўляў, быццам камяні, валіліся і на мяне. Спытаеш, чаму? Не паверыш: іх дзяцінства было так падобным да нашага з табою.

Ведаеш, за што ён не любіў сваю сястру? За тое, што яна была трошкі хітрэйшай і шустрэйшай за яго. Яшчэ тады гэта прыгнятала яго, а цяпер, асабліва ў апошні час, пры ўспамінах ён ад злосці аж задыхаўся. Не мог па жыцці ісці лёгка ды без турбот.

Я разабралася ва ўсім. Я дапамагу яму скінуць цяжар мінулага часу, хоць давядзецца папрацаваць шмат і сур'ёзна. Скірую яго думкі да таго, што жыць трэба сённяшнім днём. Радавацца кожнаму ўсходу сонейка, спеву салоўкі і дзякаваць Богу, што ты прачнуўся. Па магчымасці сустракацца з роднымі людзьмі, а не капацца на руінах гадоў, адшукваючы брудныя хусцінкі, а потым імі трэсці перад тварам чалавека, які калісьці цябе ненарокам пакрыўдзіў ці ў чымсьці абышоў.

Чаму ён да сённяшняга часу ёй не прабачыў, не ведаю. Відаць, не змог пераасэнсаваць пражытае, таму і патануў у балотнай ціне праблем, і чым далей жыў, тым больш гэтыя праблемы цягнулі яго на дно.

Калі мой пацыент зачыніў дзверы, я яшчэ зрабіла некалькі запісаў у яго картцы і пачала збірацца дадому. Прыём хворых закончыўся. Прыбіраючы лішнія паперы са стала, я наткнулася на часопіс, які прынесла ў кабінет, каб дачытаць артыкул, пра тое, як адна смяротна хворая кабета паставіла сябе на ногі, і чамусьці ўспомніла цябе. Якая сувязь паміж ёй і табой, не ведаю. Хаця чаму не ведаю… Твая хвароба, якую ты ад мяне схаваў.

Вось толькі не магу ўцяміць: чаму ты не адкрыўся, не расказаў? Не хацеў, каб я павучала ды давала парады? Ну што ж, як кажуць, твая воля. Я даўно ўжо нічога не ведаю пра тваё жыццё, па якім ты бяжыш галопам. Што цябе рухае, каго ты хочаш дагнаць ці абысці? Калі тэлефаную, цябе няма дома. А сотавы заўжды недаступны. А ўсё гэтыя чуткі, чуткі… Нядаўна пачула, што ты ўсё прадаеш і ў хуткім часе выедзеш з краіны. Няўжо гэта так? На-

вошта ты сабраўся за мяжу? Ты тут зорка футбола, выдатны трэнер. Хіба ў цябе няма ўмоў для працы ці ад цябе збеглі дзеці? Хто цябе ведае там, за бугром? Пяць аматараў футбола? Да невядомага трэнера ніхто не прывядзе сваё дзіцятка. Гэта наконт работы.

А ўсё ж адкажы, якая ў цябе хвароба? З лёгкімі штосьці? А цяпер раскінь мазгамі. Каму ты патрэбен на чужбіне хворым? А раптам табе стане зусім дрэнна, хто дапаможа? Нават не будзе каму падаць кубак вады. На што ты спадзяешся? На сяброў, былую жонку і сына? Ты ім здаровы не быў патрэбен, не гаворачы пра сённяшняе тваё становішча. Канешне, у тым, што ў цябе няма сваёй сям'і, сам вінаваты. Думаю, у гэтым ты даўно разабраўся і зарубіў сабе на носе, што для кожнага чалавека галоўнае — гэта яго сям'я, а не сябрукі ды п'янкі. Ды што цяпер пра гэта гаварыць, што пераліваць з пустога ў парожняе? У тваім узросце (а табе, дзякуй богу, пад шэсцьдзясят бярэцца) трэба бліжэй да родных пад'язджаць. Кінь ты тое замежжа! Лепш да мяне падайся. У нас цудоўны дом, які стаіць амаль на беразе возера. А колькі ў ім рыбы! Такое багацце ты нават у сне не бачыў. Чыстае паветра. А якімі колерамі пераліваюцца раніцою росы, калі першыя праменні сонца пачынаюць іх песціць. А крынічка… Такой вады няма нідзе, хоць зямлю ўсю абыдзі. Каб не сумаваў, на работу ўладкую. Масажыстам. Твае рукі здолеюць падняць на ногі самага разбітага чалавека. Без працы нельга. Праца мудрэйшая за лекі самыя дарагія. Ці ты думаеш, пакінуўшы радзіму, збяжыш ад сябе і сваіх праблем? Дарэмна. Праблемы патрэбна рашаць па меры іх узнікнення, а не запіхваць у скрыню. Само сабой нічога не вырашыцца. Табе больш патрэбны станоўчыя эмоцыі. Ведаеш, як табою ганарацца ўсе сваякі! А кожны хлопчык марыць забіць столькі галоў, колькі забіў ты. Тваё прозвішча пішуць на футболках. Павер, такое чалавека ўзвышае.

Я ведаю, з табою будзе не вельмі лёгка. Ты ўпарты, а часам і раздражнёны, злы. Можаш пакрыўдзіць, а потым не знаходзіць сабе месца, як і не можаш адразу прызнаць сваю віну. Бываюць моманты, калі ты сябе лічыш за ўсіх разумнейшым. Але гэта ўсё можна дараваць, бо ты ж мой брат. Прыедзь, раскажы, хто ў тваё сэрца так глыбока загнаў кол, які не дае табе дыхаць на поўныя грудзі. Новая твая пасія? Спадзяюся, пра ўсё мне раскажаш пры сустрэчы. Дарэчы, пра сустрэчу… Памятаеш нашу з табой сустрэчу? Выпадковую. У Санкт-Пецярбургу. Ты тады вучыўся ў фізкультурным інстытуце, а я прыехала на экскурсію і два дні не магла цябе знайсці, каб перадаць адзенне і грошы, якія мы з бацькам зложылі ў складчыну: ён тыя мізэрныя рублі адлушчыў ад сваёй пенсіі, а я зэканоміла на абедах. Дык вось, я трымала ў сумачцы грошы і чакала цябе. На вахце. Доўга стаяла, але дарэмна. Панурая, адышла ад будынка і пайшла да групы, табе ж пакінула запіску, дзе мяне можна знайсці вечарам. Ды толькі ты не знайшоў мяне, відаць, загуляўся. У мяне нават прапала надзея, што мы пабачымся, хаця кожны дзень я шукала тваё аблічча ў натоўпе, прыглядалася да кожнага юнака. І раптам заўважыла цябе… Божа, колькі было радасці ў маіх вачах! Я падбегла да самага прыгожага хлопца, майго брата, і тузанула за рукаў. Ад нечаканасці ты схамянуўся

і, як мне падалося, нават спужаўся: відаць, падумаў, што нейкая ненармальная дзяўчына ў сівым парыку чапляецца… Потым мы з табою гулялі па праспектах, а вечарам развіталіся. Наш турыстычны цягнік адышоў ад перона, а ты застаўся, ахутаны цёмнай вуаллю ночы. Стаяў такі сумны. Мне было цябе так шкада, што я заплакала.

Я часта плакала, калі ты быў малым, шкадавала. Асабліва пасля тваёй няўдалай гульні з патронамі, якія ты з хлопчыкамі кідаў у касцёр, і тады, калі настаўніца ставіла цябе ў куток на калені, цягала за вушы за тое, што ты падказваў сябру, як правільна рашыць задачку. Ты стаяў у кутку і ўсхліпваў. Твае тонкія пальчыкі былі ў кулачках, і ты іх больш і больш сціскаў… Маё сэрца разрывалася, слёзы-градзіны каціліся на парту і разбіваліся на маленькія друзачкі, якія пакідалі мокрыя салёныя плямкі…

Тады мы з табою жылі дружна. Калі з пачатковай школы, дзе два класы вучыліся разам, я перайшла ў васьмігодку, мы з табою дзялілі пяцьдзясят капеек папалам, каб купіць трошачкі прысмакаў. А вось ровар дастаўся мне. У той час як ты адмяраў пяць кіламетраў сваімі ножкамі, я пераадольвала шлях у дванаццаць кіламетраў, круцячы педалі, не спыняючыся. А набыць другую веламашыну бацькі не маглі. Беднота была і галота…

Ведаю, што крыўда на мяне з-за ровара жыве ў тваёй памяці і сёння. Я куплю табе жалезнага сябра, і ён будзе больш карысным, чым твой «джып», калі ты пераедзеш да мяне. Ровар дасць табе радасці больш, чым твой аўтамабіль. Кіламетр шляху ад нашага дома да пансіяната, дзе ты будзеш працаваць, я ўсё ж спадзяюся, прынясе табе столькі бадзёрасці і натхнення, што ты зноў на свет зірнеш іншымі вачыма.

Выкінь з душы тое, што перашкаджае жыць. Збярыся з духам. Жыццё ж такое кароткае. Атрымлівай асалоду ад усяго, што цябе акружае. Зачыні сэрца для суму. Не ўспамінай і не шкадуй аб тым, што нельга вярнуць ці паправіць. Жыві зараз.

Я доўга яшчэ магу гаварыць, але ж больш хачу табе сказаць, гледзячы ў вочы. Прыязджай. Я цябе вельмі чакаю. Няхай у тваёй душы будзе вера, будзе Бог. Усяго табе найлепшага. Да сустрэчы, брат!

Твая старэйшая сястра».

## Дзівак з вакзала

Мужчына гадоў сарака, а мо і трошкі старэйшы, шпаркім крокам зайшоў у памяшканне, дзе знаходзіліся прыгарадныя касы. Ён адразу на сябе звярнуў увагу не чыста-сакавітай беларускай мовай і аксамітава-саладкаватым голасам, а хутчэй за ўсё вычварным касцюмам. Зрэшты, тое, што хавала яго худыя ногі, пакрытыя шчаціннем, якое выгарала на спякотным для гэтага года сонцам, нельга было назваць адзеннем: падраныя кашулі, а іх было, відаць, штук пяць-шэсць, абхаплівалі сцёгны, вылазілі адна з-пад адной, а іх рукавы, якія былі завязаны на жываце, утваралі гузакі, тырчэлі наперадзе, быццам бы нарывы. Споднягa ў яго не было.

Грудзі з рэбрамі-граблямі хаваліся пад кашуляй, зашпіленай на адзін гузік. Галаву гэты дзівак накрыў анучкай, якая была калісьці, відаць, хусцінкай белага колеру. Зараз жа нагадвала адымалку, на якой гулялі чорныя рагі. Каб кавалак матэрыі не зваліўся з галавы, чалавек абвязаў яе танюсенькай вяровачкай.

У адной руцэ былі дзве торбачкі з пажыткамі, у другой — кіёчак, на канцы якога матухна-прырода вылепіла нейкага дзіўнага звярка, што да бляску адшліфавалі яго ахайныя рукі з доўгімі, быццам у музыкі, пальцамі, якімі ён раз за разам дакранаўся да шчок, ілба. А вось вочы, блакітна-шэрыя, ліхаманкава стралялі па жанчынах, што з цікаўнасцю назіралі за ім. Чалавек гэта бачыў. І таму больш стаў «працаваць» на публіку: чытаць на памяць вершы рускіх і беларускіх класікаў. Рабіў гэта з такім замілаваннем, з такім акцёрскім майстэрствам, пагладжваючы шыкоўную сівую бараду, што можна было толькі пазайздросціць. А то і спяваў, у асноўным песні 80-х, і вельмі добра, трапляючы ў кожную ноту. Калі адну з іх даспяваў да канца, падышоў да касы і працягнуў грошы. Назваў выразна станцыю, на якой меўся выйсці з электрычкі, узяў рэшту і вельмі міла ўсміхнуўся касірцы. І маё падазрэнне, што спадарожнік бомж ці псіхічна хворы, развеялася.

Ад касы да лаўкі пасажыр не ішоў, а з прытупам набліжаўся. Прысеў. Закасаў рукаў і амаль крыкнуў:

— А мяне нават наркотыкі не бяруць. Вось зірніце.

І я зірнула, бо сядзела не вельмі далёка ад незнаёмца. На жылістай руцэ не было слядоў ад уколаў.

«І навошта на сябе такое нагаворваць? — падумала. — Лепш далей бы спяваў ды тымі спевамі вяртаў у юнацкія гады». Але чалавек больш не зацягваў рамансы, а стаў абурацца на сваіх суайчыннікаў, якія не любяць беларускую мову, не хочуць на ёй размаўляць, як і не ведаюць сваіх каранёў. Затое як ён усхваляў жанчын (у памяшканні былі адны кабеты). Мужчына гаварыў, што жанчыны яго абагаўляюць, узносяць, узбагачаюць, бо ў іх найтайнчэйшая душа і добрае сэрца.

Амаль гадзіну мы назіралі за яго паводзінамі, а хутчэй, за тонкай гульнёй акцёра.

«Толькі навошта ён ламае камедыю? — міжволі прабегла думка. — Навошта? Мабыць, ужываецца ў новую ролю. Трэба зрабіць на памяць фоtаздымак». І, гледзячы яму ў вочы, пачала расшпіляць сумку, каб дастаць фотаапарат. Не паспела зрабіць і рух, як чалавек падхапіўся і на ўсю залу крыкнуў: «Папарацы!»

«Ага, значыць, ты не дурны, калі ведаеш, што такое папарацы»,— ціха сказала. Але крык усё ж спыніў мяне, а мае намеры прымусілі пасажыра больш пільна пазіраць у мой бок і глядзець вочы ў вочы. Напэўна, ад такога пільнага погляду мяне разабраў смех, які так і рассыпаўся, што пясок-цукар па падлозе, раставараўся ад гарачыні і салодкім водарам напаўняў памяшканне, пранікаў у кожную клетачку людзей. Думаю, смяшынак нахапаўся і наш дзівак, які стварыў вобраз дурня, і, як малое дзіця, стаў яшчэ актыўней

весяліць публіку. Пацешыўшы пасажыраў (але, як мне здалося, больш сябе), ён пакінуў залу. Перш чым зачыніць дзверы, «акцёр» шматзначна зірнуў на мяне, быццам спытаў: «Ну, як я табе?»

Замест адказу я ўсміхнулася. Праз некалькі хвілін я таксама накіравалася да выхаду: аб'явілі пасадку. Да вагона ішла марудна і раптам адчула чыйсьці позірк. Азірнулася. Мяне свідравалі вясёлыя вочы нядаўняга суседа па лаўцы. І я пачула:

— Мо вам дапамагчы? Тады пачакайце. Я падыду і ўскулю ваш хатуль у электрычку.

— Дзякую. Не трэба. Сумка ў мяне лёгкая, хоць з выгляду груваcткая, — строга адказала і пакрочыла далей. Падышла да вагона, падняла сваю паклажу і паставіла спярша на адну, потым на другую прыступку.

— Аднак вы ганарлівая і дужая жанчына, — данеслася збоку, — але ж і нейкая дзіўная, адмовілася ад дапамогі.

Я прамаўчала, толькі падумала: «Цікава, хто з нас большы дзівак…» Хаця праз колькі часу пашкадавала, што адмовілася ад дапамогі чалавека, які такім чынам хацеў наладзіць кантакт. І я б праз колькі часу даведалася пра яго шмат. Тым больш, што падарожнік уладкаваўся ў вагоне, у якім была і я. Ды толькі было позна. Як кажуць, цягнік адышоў…

# ФРАНЦ СІЎКО

## Выправа
*Апавяданне*

Ужо колькі хвілін мінула, як тралейбус знік за паваротам, а Ходзюшы ўсё ніяк не наважацца пайсці з прыпынка. Стаяць на краі ходніка ды раз-пораз пазіраюць адзін на аднаго ў чаканні, хто ж першы зробіць нарэшце крок насустрач невядомасці.

Што гэты аддалены ад цэнтра горада раён зусім не шыкоўны, яны зразумелі адразу, як толькі выйшлі з тралейбуса. Абсаджаная кволымі дубчыкамі клёнаў вулка, дарма што назву мае даволі гучную — Юбілейная, — нагадвае беднаватыя на цікавосткі закуткі на ўскраіне іх роднага гарпасёлка. І калі б не некалькі адносна новых дзевяціпавярховікаў наўзбоч купкі нехлямяжых хрушчовак уздоўж яе, дык, мабыць, і воку тут, на гэтым чатырнаццатым прыпынку ад чыгуначнай станцыі, запыніцца не было б на чым.

Асабліва псуе ўражанне ад мясціны густы шараваты налёт на ўсім. І не дзіва: крокаў за сто ад прыпынка вольна, бы прытомлены касец рукамі-нагамі падчас адпачынку на пожні паміж пракосамі, раскінуўся карпусамі гаспадарчых ды розных іншых пабудоваў хлебазавод. І хоць ужо даволі позна і працоўны дзень на іншых прадпрыемствах даўно скончыўся, ён усё шуміць, шуміць, ды поўніць паветра пахам ці то гарэлае рошчыны, ці то скарынкі, ды нястомна цярусіць на прылеглыя дрэвы крупкамі драбнюткага, амаль нябачнага мучнога пылу. Пыл гэты так чэпка ўеўся ва ўсё навокал, што без яго ўжо тутэйшы краявід і ўявіць немагчыма.

Васіль Зыгмунтавіч, які ад гадоў студэнцтва памятае закуткі абласнога цэнтра куды весялейшымі, чым яны вымкнуліся насустрач яму і ягонай жонцы Алене Сяргееўне цяпер, у гэты цьмя-



**ФРАНЦ СІЎКО**

Нарадзіўся 3 траўня 1953 г. у в. Вята Міёрскага раёна. Празаік, публіцыст. Настаўнічаў у школах Верхнядзвінска і Віцебска, выкладаў мову ў тэхналагічным універсітэце. У 1999–2009 гг. старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар адзінаццаці кніг прозы, шматлікіх публікацый у літаратурна-мастацкіх выданнях. Жыве ў Віцебску.

ны трывожны надвячорак, похапліва кідаецца да акенца ведамаснай крамкі з надпісам «Гарачы хлеб» акурат у сцяне вытворчага корпуса.

— Два боханы! — гукае энергічна, быццам жадае гэткім чынам хаця б збольшага падсаладзіць ураджанне ад убогасці мясціны ды разам суняць неспакой, што ўсё больш з кожнаю хвілінай ім авалодвае.

— Ажно два! — ахае Алена Сяргееўна. — Вася, навошта, ну навошта табе гэтулькі хлеба? Ці не запасы ты надумаўся рабіць з тутэйшай прадукцыі?

— А калі і запасы? — адказвае ён хуткагаворкаю і пхае яшчэ цёплыя боханы ў сумку. — Ты ўпэўненая, што там… што… што яны нас пакормяць?

— Не пакормяць — сваім абыдземся. Вунь колькі чаго яшчэ ў валізе засталося, што ў цягніку не даелі. Як-небудзь будзе, з голаду не памром. А табе нервы, Вася, няйначай, трэба лячыць. Вазьмі сябе нарэшце ў рукі, будзь жа мужчынам.

— Во-во, як-небудзь, — не зважаючы на жончыну параду наконт лячэння нерваў ды брання сябе ў рукі, працягвае Васіль Зыгмунтавіч. — Святыя словы. А во і ці не іхні дом… Ага, ён, здаецца: Юбілейная, 26…

— Бач, і нумар дома памятаеш… — дзівіцца Алена Сяргееўна. — Звычайна і ўвагі на такія дробязі не звяртаеш, а тут… Як адмыслова загадзя запамінаў. А хваліўся надоечы, што ўсё абыякава, што і валасіна з галавы, маўляў, з-за гэткае драбязы не ўпадзе…

Васіль Зыгмунтавіч моўчкі, з выразам няёмкасці на твары, быццам заспеты за чымсьці саромным школьнік, пасоўваецца ўбок, падаючы тым самым жонцы знак, каб ішла наперад. Ён заўсёды так робіць у хвіліны разгубленасці, а якраз у гэты не па-летняму прахалодны апошні дзень чэрвеня разгубленасці што яму самому, што Алене Сяргееўне, хоць яна выгляду пра тое і не падае, хапае з каптуром.

У абласны цэнтр Ходзюшаў, дыспетчарку і начальніка аўтабазы раённага гарадка Н., людзей зусім не авантурных і да вандровак не надта ахвотных, паклікала справа неадкладная і сур’ёзная. Такая тэрміновая, такая неспадзеўная завіхурыла гэтых прыстойных, звыклых да размеранага ладу жыцця людзей справа, што тэрміновей ды неспадзеўней наўрад ужо і бывае.

Тры дні таму іх адзіная дачка Света, студэнтка-чацверакурсніца, аб’явіла бацькам, што цяжарная. Прыехаўшы пасля летняй экзаменацыйнай сесіі дадому, з тыдзень употай па кутках катэджа штосьці румзала, пакуль не набралася смеласці ва ўсім прызнацца. Прызналася, вядома, толькі маці, а тая ўжо выбрала зручны момант, асцярожна, як толькі магла і ўмела, падзялілася навіною з мужам.

Першым памкненнем Васіля Зыгмунтавіча, чалавека эмацыйнага і, у адрозненне ад жонкі, даволі ўспыхлівага, было адразу ж сарвацца з месца ды ляцець у горад, каб збіць крыўдзіцеля дачкі на горкі яблык. Збіць, стаптаць нягодніка нагамі, скрывавіць, змянташыць таго незнаёмага Каханчыка (і прозвішча ж якое, бы знарок, Бог даў вылюдку!) так, каб да скону зарокся крыўдзіць безабаронных дзяўчат.

Што іхняя з Аленай Сяргееўнай дачка Света, колішняя школьная выдатніца, ды і ва ўніверсітэце студэнтка не апошняя, з катэгорыі дзяўчат менавіта такіх, безабаронных, Васіль Зыгмунтавіч не сумняваўся ніколі. Таму так і пераняўся прыкраю гісторыяй ды расквяліў сябе злосцю і прагаю справядлівае помсты мярзотніку Каханчыку, што Алене Сяргееўне давялося нямала прыкласці намаганняў, каб давесці мужу, што дурнымі эмоцыямі сітуацыі не выправіш, а наадварот, толькі яшчэ больш сапсуеш. І што калі нешта ўжо рабіць — дык рабіць грунтоўна, як след пралічыўшы ўсе хады ды абдумаўшы магчымыя наступствы.

Злосць галавы сям'і пратрывала паўсутак і затым пачала неяк вачавідзь мізарнець. Бо справа са Свецінай цяжарнасцю аказалася не такой простай, як здалося бацькам напачатку. Дзяўчына, як высветлілася падчас далейшых роспытаў, сама выявілася яшчэ тою цацай: так заблыталася, дурніца, у адначасовых стасунках з двума сваімі каханкамі, што нават не магла цяпер дакладна сказаць, ад каторага носіць у чэраве дзіця.

Збіты з панталыку гэткім нечаканым паваротам справы Васіль Зыгмунтавіч увобміг палагаднеў ды і, як гэта заўсёды рабіў у слізкіх сямейных сітуацыях, аддаў ініцыятыву яе ўладкавання ў жончыны рукі. Калі так, то хай, маўляў, самі кабеткі, сталая і маладая, цяпер разбіраюцца, хай даюць неяк усёй гэтай дурноце рады.

Алена Сяргееўна ўзялася за справу энергічна, па-дзелавому. Распытала дачку падрабязней, што ды як, намацала ў ланцугу падзей найбольш слабае звяно, зняла з рахунка ў банку пэўную суму грошай для ваяжу ў горад ды выправіла Васіля Зыгмунтавіча ў той жа вечар на станцыю па квіткі. «Паедзем да гэных Каханчыкаў», — сказала коратка, але цвёрда. Васіль Зыгмунтавіч прапанаваў ехаць на службовым аўто, але яна не згадзілася. «Вазьмі вадзіцеля, дык толькі потым лішні сведка будзе. А дзе сведка, там, вядома, і плёткі. А нам гэта трэба?» — сказала як адрэзала, і на тым справа і вырашылася.

* * *

У пад'ездзе дома Каханчыкаў пануе ўласцівая гэткай пары сутак ціша. Людзі, відаць, толькі што павярталіся з працы і цяпер, перш чым разбрыдацца па кутках, займаюцца на кухнях прыгатаваннем перакусу або проста адпачываюць пры тэлевізарах ды камп'ютарах, скідваюць з плячэй цяжар абрыдлых працоўных абавязкаў. Выключэнне складаюць двое выпівох, што шубуршацца ў куце пры сходах, не маючы сіл зрабіць апошняе намаганне на шляху да парога ўласнае кватэры, то хістаюцца бязладнымі кулямі ад сцяны да сцяны, то ў марным памкненні не ўпасці чапляюцца рукамі за стыканы недакуркамі драўляны вазон з чэзлай кітайскай ружаю наўзбоч смеццеправода.

Дзверы адчыняе Алене Сяргееўне і Васілю Зыгмунтавічу даўгалыгі хлопец гадоў дваццаці пяці. Ледзь паспяваюць госці сказаць, хто яны, ды стаць сведкамі зніякавеласці маладзёна, як з другога пакоя выходзіць у калідор жанчына з дзіцем на руках.

— Лёша, хто тут? — пытаецца і перадае дзіця хлопцу. Той пераймае немаўля з рук жанчыны, моўчкі нясе зноў у пакой, з якога яна толькі што выйшла. Дзіця керхае, мэкае, і голас яго, крыху сіпаты, быццам прастуджаны, падаецца Ходзюшам нейкім занадта, як для такога малога чалавечка, дарослым.

— Мы Ходзюшы… — як мага больш гучна, быццам імкнучыся збіць тым самым градус собскае няўпэўненасці, пачынае Алена Сяргееўна. — А вы…

— А, Ходзюшы, вось што! Вельмі, вельмі прыемна, — імгненна, нават неяк занадта ўжо паспешліва, як для такой двухсэнсоўнай сітуацыі, рэагуе на словы госці жанчына. — Я Марыя… Марыя Ігараўна, гаспадыня… Лёшава маці.

Алена Сяргееўна і Васіль Зыгмунтавіч уздыхаюць з палёгкаю: па-першае, іх Свету тут, у гэтым доме, безумоўна, ведаюць, па-другое, ставяцца да дзяўчыны, як вынікае з рэакцыі жанчыны на іхняе прозвішча, усё-такі даволі прыязна. Ва ўсялякім разе, ніякае злосці ні аднаму, ні другому, што ў голасе Марыі Ігараўны, што перад гэтым у голасе хлопца, не чуецца.

Жанчына аказваецца маткаю і дзіцяці. Цяпер, калі яна сядзіць на канапе тварам да акна насупраць Ходзюшаў, выглядае яна далёка не так молада, як толькі што падалося ім у прыцемку калідора. Прытомлены, без каліва макіяжу, твар, звычайная прычоска з рэдкімі паскамі сівізны дзе-нідзе на скронях, крыху панылыя, але разам з тым не сказаць каб дарэшты маркотныя вочы. Апранутая Марыя Ігараўна проста, без прэтэнзіі на элеганцкасць, але ахайна.

— Такая вялікая розніца ва ўзросце ў вашых дзяцей, — перш чым перайсці да галоўнай тэмы, дыпламатычна зазначае Алена Сяргееўна. — Бач, як бывае…

— А гэта вам так здалося, што вялікая, — не пагаджаецца гаспадыня. — Гэта з-за Лілеччынай хваробы вам здалося. Ёй ужо пятнаццаць, а выглядае, як бачыце, на двухгадовую… Зусім, зусім дзеўка не расце. Паляруш, ведаеце…

— А, паляруш, тады канечне, зразумела… А хадзіць жа хоць умее вашае дзяўчо? — надаючы твару як мага больш выразу зацікаўленасці, пытаецца па невялікім перапынку Алена Сяргееўна.

— Ні хадзіць, ні гаварыць не ўмее… Можа толькі поўзаць. І мычаць. Кормім з лыжкі. Ну, і ўсё пад сябе, вядома, робіць… Таму і пах такі ў кватэры невыводна… Мы самі, канечне, прывыклі, а старонняму чалавеку, відаць, не вельмі прыемна. Ужо прабачце, нікуды ад гэтага не дзецца. Малая была — спрабавалі лячыць, але потым перасталі… Двойчы памірала ўжо, выратавалі дактары, ачуняла… Думалі, падрасце — стане на ногі, аж не…

— Цяжка вам, — уздыхае Алена Сяргееўна і шморгае далонню па мужавым плячы, каб урэшце раскатурхаць яго ды прымусіць узяць удзел у размове. Звычайна марудлівы, не хуткі ў такіх сітуацыях на пад'ём Васіль Зыгмунтавіч, на дзіва, гэтым разам намёк адразу ж разумее.

— Але ж кажуць, такія хворыя дзеці часам доўга жывуць, — кажа пад няўхвальны пагляд жонкі. — Вунь у суседзяў нашых, у Лясовічаў…

— Пры чым тут Лясовічы, Вася? — ужо шкадуючы, што зачапіла яго ды справакавала тым самым відавочную нетактоўнасць, умешваецца Алена Сяргееўна. — Быццам гэта так ужо некаму цікава. Чым пра тых Лясовічаў згадваць, лепш пра сваё, пра надзённае пагаварыць. І што за гаману ты заводзіш: доўга жывуць… Колькі Бог дае, гэтулькі і жывуць.

— Гэта праўда: колькі Бог дае, — падтрымлівае госцю гаспадыня. — Але што мы ўсё пра хваробы ды пра хваробы. Калі ласка, пойдземце ў кухню, там і працягнем размову.

Размова ў кухні праходзіць гладка, без ускладненняў. Даведаўшыся пра мэту прыезду Ходзюшаў, гаспадыня кліча ў кампанію і сына.

Нягледзячы на высачэзны свой рост і занадта суворы, як для такога маладога чалавека, выраз твару, Аляксей аказваецца хлопцам даволі згаворлівым, калі не сказаць — мяккім. Яго рэакцыя на паведамленне пра Свеціну цяжарнасць хоць і стрыманая, але ж зусім, насуперак перасцярозе Ходзюшаў, не адмоўная. Алене Сяргееўне нават падаецца, што ён ужо і дагэтуль пра яе ведаў і адно толькі і чакаў пацвярджэння факта. Хаця Света ні словам пра тое, што ён можа ўсё ведаць, ні ёй, ні бацьку не абмовілася.

— Ну, дык і што будзем рабіць, сыне? — пытаецца напрыканцы гаспадыня.

— Што? Мабыць, жаніцца… — усміхнуўшыся, перасмыкае плячом Аляксей і ўстае, каб ісці ў пакой да дзіцяці, якое акурат у гэты момант падае голас — гучна мычыць.

— Вось толькі жыць павінны будуць маладыя тут, — як толькі зачыняюцца за Аляксеем дзверы, спяшаецца ўдакладніць Марыя Ігараўна. — Я, ведаеце, без Лёшкі як без рук. На капейкі, што атрымліваем на ўтрыманне Лілечкі, не пражывеш. Трэба працаваць, а як? Праца блізка, на хлебазаводзе тэхнолагам раблю, а ўсё адно ж без догляду дзяўчыну не кінеш. Вось і памагае хлопец. Калі-нікалі і ў выходны ўначы на прахадной падзяжурыць, каб вольны дзень пасярод тыдня зарабіць, і памяняецца з кім. А ці згодзіцца на такое ваша дачка? Штодня быць побач з такім дзіцем, як Ліля, — мала хто такое вытрывае… Дык хай ужо сама глядзіць…

— Згодзіцца, недзе дзенецца, — рады, што так лёгка ўсё ды палюбоўна ўладзілася ды што надарылася ўрэшце магчымасць і яму зрабіць важкі ўнёсак у справу, спяшаецца ўставіць слова Васіль Зыгмунтавіч. — Хай прывыкае да цяжкасцяў.

Зноў, быццам жадаючы нагадаць пра сябе, енчыць у пакоі дзіця. Гаспадыня бяжыць да яго, і Ходзюшы застаюцца ў кухні адны.

Васіль Зыгмунтавіч прыкладае палец да вуснаў, дэманструючы задавальненне ходам перамоваў з новымі сваякамі, але Алена Сяргееўна тут жа яго асаджвае.

— Ну, ты, бацька, неяк зусім ужо расслабіўся, хоць да раны цябе прыкладай, — папікае шэптам. — Сур'ёзней, цвярдзей трэба быць. Знайшоў што

сказаць: хай прывыкае да цяжкасцяў… Нельга так чужым паддавацца. Не будзем марку трымаць — увобміг на голаў уссядуць. І вокам не паспееш міргнуць, як забрытаюць.

Яшчэ праз гадзіну справа вырашана канчаткова. І Алена Сяргееўна, не выходзячы з кухні, пачынае тэлефанаваць з мабільніка дачцэ. Гаворыць са Светаю пару хвілін, затым паказвае на мігі Аляксею, дзеля якога гэтае тэлефанаванне, папраўдзе, і замысліла, што можа перадаць тэлефон яму. Хлопец ад прапановы пагаварыць з дзяўчынаю не адмаўляецца, але кажа, што сам ёй патэлефануе са свайго, і ідзе ў пакой, дзе знаходзіцца Лілечка. «Далікатны, бач», — адзначае пра сябе Алена Сяргееўна і падміргвае мужу.

Як адбываецца размова паміж маладымі, Ходзюшы не чуюць. Алена Сяргееўна пабойваецца, што Света знячэўку скажа Аляксею што-небудзь рэзкае або нават злое, але дарэмна. Калі маладзён вяртаецца ў кухню, па выразе ягонага твару можна зразумець, што ўсё абышлося добра.

Яшчэ праз паўгадзіны госці пачынаюць збірацца на апошні цягнік. Але тут гаспадыня рашуча пратэстуе.

— Заставайцеся ўнаначкі, — кажа і падлівае Васілю Зыгмунтавічу ў чарку пітва. — Мы ўтраіх з Лёшкам і Ліляй у маім пакоі ляжам, вы ў Лёшкавым размесціцеся. Здарожыліся ж, напэўна, дык што так спяшацца.

І дадае, прыслухоўваючыся да дзіцяці:

— Як-ніяк, ужо мы з вамі свае. Пераначуеце, а ўранні паедзеце сабе. Паснедаеце і паедзеце. А захочаце — і надаўжэй у нас застанецеся, пагасцюеце. А там, можа, Лёшку ўдасца як-небудзь адпрасіцца з працы — дык і разам потым паедзеце ў свой Н.

— Разам — гэта было б добра, — вымыкаецца наперад Васіль Зыгмунтавіч, але тут жа і змаўкае, адчуўшы жончын шчыпок у рабрыну.

Ноч выдаецца неспакойная, асабліва для Алены Сяргееўны. Лежачы побач з мужам на нязвыкла вузкай, як для дваіх, да таго ж і даволі мулкай канапе, яна спачатку доўга не можа заснуць з-за нейкай валтузні за сцяною, на лесвічнай пляцоўцы. Затым, ледзь паспявае тая дурная валтузня скончыцца, раптам штосьці ўсходжваецца, пачынае тузацца ў суседнім пакоі Лілечка. Потым, чуваць, гаспадыня ідзе ў кухню па пітво для калекі, а вяртаючыся, не зачыняе як след за сабою дзвярэй пакоя, і рэзкі пах мачы імгненна расплываецца ў паветры, лезе ў нос, у горла…

Так, не зможыўшы ні на хвіліну павек ды давячыся млосцю, і качаецца Алена Сяргееўна да дасвецця на ложку. А раніцой, ледзь паспявае Васіль Зыгмунтавіч прадзерці вочы, пачынае збірацца дахаты. Ды так рашуча, энергічна гэта робіць, што гаспадыня і муж слова насуперак сказаць ёй не наважваюцца. Пра тое ж, каб дачакацца са змены Аляксея, і размовы быць не можа.

Марыя Ігараўна тэлефануе на станцыю, каб даведацца, у колькі будзе першы цягнік, але няўдала. Цягнікі па няцотных днях на Н. наогул не ходзяць, дык трэба ехаць аўтобусам ці маршруткаю. Гэта не надта зручна, бо

аўтобус выпраўляецца толькі праз чатыры гадзіны. Ды Алену Сяргееўну, якая штохвіліны мяняць собскія планы не любіць, ужо не спыніць.

Ужо адолелі Ходзюшы ледзь не палову шляху да Н., як раптам Васілю Зыгмунтавічу, які дагэтуль ціхамірна драмаў на сядзенні побач з жонкаю, закарцела пагаманіць. Ён бачыў перад адыходам з кватэры на прыпынак тралейбуса, як жанчыны, жонка і Марыя Ігараўна, штосьці сакрэтнічалі ў кухні, і цяпер вырашае абавязкова пра змест тых іхніх сакрэтаў даведацца.

Алена Сяргееўна, якая ведае асаблівасці мужавага характару не горш за яго самога, а значыць і ведае, што яму ў гэты момант найбольш абыходзіць, каб доўга не цягнуць ката за хвост, пачынае гаману першая.

— Ну, вось, пра грошы тыя… Не хацела браць іх Марыйка, аднеквалася. Але я настояла: падарунак жа ад нас з нагоды знаёмства, маўляў, нельга адмаўляцца. Нічога, памулялася крыху ды і ўзяла.

— І шмат дала ты ёй? — навострывае вушы Васіль Зыгмунтавіч. — Ой, глядзі, гэтак як пачнеш раскідвацца, кожнаму як пачнеш даваць — самім на зуб ці застанецца што пакласці…

— А, бач, затурбаваўся. То конча давай, а то во — самім трэба. Учора зусім іншае казаў. Ці памятаеш хоць, што з дому выходзячы баіў?

— Не пра тое кажу, каб зусім нічога не даць, а толькі пра тое… каб гэта… не занадта ўжо было, — удакладняе Васіль Зыгмунтавіч. Ён усё жыццё зарабляе значна больш за жонку, але, што праўда, да таго, каб папікаць яе гэтым, ніколі не апускаецца. Лічыць, што і належнай інтанацыі, каб даць зразумець, хто ў доме гаспадар, дастаткова. Балазе і сама Алена Сяргееўна, жанчына разважлівая, такія правілы гульні ўспрымае ахвотна, як належнае, і ніколі ім не працівіцца. Гэтым разам усё, аднак, крыху іначай, як заўсёды.

— Ага, глядзі — занадта… Скажаш! Траціну ад таго, што з дому бралі, дала — і даволі. Шчодрасць шчодрасцю, рэпутацыя рэпутацыяй, а і разявакаю быць не выпадае. Тым больш, што вунь як сустрэлі яны нас. Я думала, адбрыквацца будуць, аднеквацца… Аж не, наадварот, — быццам чакалі.

— Ну, то магла б і… — быццам наўмысна пярэчачы ўласнай папярэдняй рэпліцы, пачынае здалёку Васіль Зыгмунтавіч.

— Во, зноў… Гэта ты, напэўна мог бы, а я — не. З якой гэта такой радасці? Ды і невядома яшчэ, чым усё скончыцца. Ты бачыў калечку, Лілю гэтую іхнюю? Колькі Светка там, у той іхняй прапахлай гаршком гамэрні, вытрымае? А потым… Паляруш гэты — гэта ж спадчынная хваробіна, а не так сабе. Дык, можа, і лепш яно — асабліва не разлічваць. Менш рызыкі…

— Што значыць — менш, калі ўжо цяжарная Светка?

— А ад каго цяжарная — дакладна мы ведаем? — ідзе ў наступ Алена Сяргееўна. — Не? Дык уключы мазгі…

— Пры чым тут мае мазгі, не разумею? І пра якую рызыку ты кажаш?

— Пра тую, што паўстане, калі яшчэ потым, праз год там, ці праз два, ці праз дзесяць, раптам зноў раджаць Света надумаецца. Толькі ўжо не невя-

дома ад каго, як цяпер, а канкрэтна ад Лёшкі гэтага… Якое дзіця пры такіх ягоных генах народзіцца? Падумаў ты пра гэта?

— Не разумею… А экспертыза навошта? Тэст на ДНК, ці як там яго… Не каменны ж век, дзякуй Богу. Не якое-небудзь сярэднявечча…

— Ай, што з табой гаварыць! Яму пра адно, ён пра іншае зусім, — пачынае злаваць Алена Сяргееўна і адварочваецца тварам да акна. Прыхінаецца шчакою да прахалоднае, спярэшчанае кроплямі дажджу шыбіны, смачна пазяхае. — Экспертыза, ДНК — пры чым тут гэта? Жывуць людзі з кулька ў рагожку, дзіця хворае — нам вельмі трэба гэткае сваяцтва? Не абыдземся мы без яго?

— Вось ты пра што, — датумквае нарэшце Васіль Зыгмунтавіч і глыбока задумваецца. Што жонка — кабеціна не промах, ён ведае даўно. Але што ажно гэтак умее яна ўсё прадугледзець ды раскласці па палічках, належным чынам ацэньвае толькі зараз.

— Нарэшце дайшло-такі, — выгуквае Алена Сяргееўна і адкідваецца плячыма на спінку сядзення.

Калі праз колькі хвілін Васіль Зыгмунтавіч спрабуе ўзнавіць размову, гэта яму не ўдаецца. Задаволеная, мабыць, што гэтак удала ўсё ўладзілася з дачкою, жанчына спіць і ахвяраваць хаця б хвілінаю сну дзеля нейкай там пустой балбатні, нават калі б і прачнулася, хутчэй за ўсё, патрэбным не палічыць.

— Ну, спі, спі, — паблажліва, як малому дзіцяці, кажа Васіль Зыгмунтавіч і перасядае на вольнае сядзенне насупраць.

# АРКАДЗЬ ШУЛЬМАН

## Поход в кино

Стал писать очерк про отца и почему-то сразу вспомнил эту историю. Когда мы с братом были ещё маленькими, очень любили ходить в кино. В то время это считалось главным развлечением. Телевидения не было, не говоря уже о компьютерах и прочих новшествах. Слушали по радио концерты, передачу «Театр у микрофона». Отец, предварительно закрыв форточки, крутил радиолу «Москва» и настраивался на «вражеские голоса», которые прорывались сквозь треск глушилок. Правда, гораздо чаще, чем теперь, ходили в гости друг к другу: пили чай с вареньем, во всяком случае, те компании, что собирались у нас дома, редко переходили к горячительным напиткам, играли в шахматы. Батя был любителем преферанса, у него собирались друзья, и они могли на кухне или летом на веранде (мы жили в большом деревянном доме) всю ночь расписывать пульку. Помню, как однажды мама сделала целый таз блинчиков, треугольных, такой формы блинчиков я давно не видел, с ливером, яйцом, луком, а к утру таз был пустой. Преферансисты в перерывах между пульками за милую душу уплели гору блинчиков. Мама с утра встала, посмотрела на пустой таз и, как обычно, ничего не сказала, только тяжело вздохнула.

Но я отвлёкся. Мы ходили в кинотеатр «Спартак», в то время это был главный кинотеатр города. Довоенный, с богатой историей, расположенный в центре Витебска, он, конечно же, получал для проката лучшие фильмы.

Впрочем, лучшие советские фильмы (а импортных тогда почти не было) нас заинтересовали позже, а пока мы ходили на первый сеанс, который начинался в девять утра. Крутили на этом сеансе фильмы для детей, обычно патриотические про войну или ре-



**АРКАДЗЬ ШУЛЬМАН**

Нарадзіўся ў 1953 г. у Віцебску. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (1976). Працаваў у газетах, рэкламных агенцтвах, прэс-цэнтры Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». З 1995 г. — галоўны рэдактар Міжнароднага яўрэйскага часопіса «Мішпоха». Аўтар больш як дваццаці кніг прозы, публіцыстыкі. Яго кнігі выдаваліся ў перакладах на нямецкую і англійскую мовы. Аўтар і складальнік фотаальбомаў, выдавец, аўтар відэафільмаў, арганізатар і ўдзельнік фотавыстаў, браў удзел у стварэнні шэрагу музеяў. Артыкулы і расказы А. Шульмана публікаваліся ў газетах, часопісах, зборніках, што выходзілі ў Беларусі, Расіі, Ізраілі, Германіі, ЗША на іўрыце, рускай, беларускай, англійскай, нямецкай мовах.

волюцию. И я толкал локтём брата, он старше меня на четыре года, и спрашивал: «Это наши или немцы?» Когда шли фильмы про войну, это было понятно, но когда про революцию, брат возмущался и зло отвечал: «Какие тебе немцы?»

В кино мы ходили по выходным или во время каникул. Обычно это происходило так. Брат слышал на улице от своих друзей про какой-то «зэкенный» фильм. Он приходил домой и начинал просить отца, чтобы тот позвонил в кинотеатр, где директором был его друг по фамилии Крикун, и тот пропустил бы его бесплатно. Отец обычно соглашался, но с одним условием: чтобы брат взял меня в нагрузку. Ему это не очень хотелось: во-первых, за руку тащить меня через дорогу, потом объяснять, где наши, а где немцы, а ещё, не дай бог, во время фильма я захочу в туалет. Он предупреждал меня, что «лучше тебе обосцацца», но иногда меня так припирало, что я начинал ёрзать на кресле, и тогда он со злостью говорил: «Ладно, пошли», одного меня родители запретили отпускать в туалет.

Конечно, ему лучше было бы одному пойти в кино или с кем-нибудь из одноклассников, но в этом вопросе батя был твёрдый: «Возьмёшь его, — он показывал на меня, — пойдёшь в кино. А нет, звонить не буду». А без звонка надо было покупать билет, как сейчас помню, на утренний сеанс он стоил десять копеек. Где же их возьмёшь? И брат соглашался идти в кино со мной.

Однажды, когда у брата были весенние каникулы, я ещё в школу не ходил, мы отправились в кинотеатр. Как назывался фильм, не помню. Почему-то запомнил свой первый увиденный фильм, там Рашид Бейбутов, был такой популярный азербайджанский певец, пел песню «Я встретил девушку, полумесяцем бровь…». А этого фильма не помню. Наверное, про войну. На углу нашей улицы, там, где на горушке стояла парикмахерская, мы встретили Игоря, одноклассника брата. «Куда идёте?» — спросил он. «Кино смотреть», — выскочил я. Игорь переспросил, тот ли фильм мы идём смотреть, и глаза у него загорелись. Все мальчишки хотели посмотреть этот фильм. «Меня возьмёте?» — спросил он. К Крикуну в «Спартак» по батиным звонкам мы ходили не раз. И никогда нам никто не задавал вопросы, Крикун говорил, на какие места садиться, и мы отправлялись в зал. «Ладно, пошли», — сказал брат. И Игорь присоединился к нам. На Больничной мы встретили Димку. Он был не один, а с братом, который приехал к нему из деревни. Узнав, что мы идём в кино, он сказал, что уже видел этот фильм, а вот брат его ни разу в кино в городе не был. И стал канать, чтобы мы взяли его брата в кино. А когда получил согласие, сказал, что отпустить его одного не может. Мобильников, как теперь, не было, да и телефонов-автоматов тоже. И хотя у нас дома стоял телефон, единственный на улице, отцу как корреспонденту поставили, позвонить и предупредить мы не могли.

Прошли шагов десять, и нас догнал Колька-рыжий. Мы никуда его брать не хотели, Игорь даже сорвал с него фуражку и перекинул её через забор садика. Но Колька-рыжий перелез через забор, достал фуражку и снова пошёл за нами.

В кинотеатр мы пришли к самому началу сеанса. Попросили у билетёра позвать Крикуна. Она подозрительно посмотрела на нас, но всё же, громко назвав его по имени-отчеству, сказала: «К вам пришли».

Крикун подошёл к столику билетёрши и недоуменно посмотрел на нас. Тогда он казался мне стариком. Теперь я понимаю, что на самом деле ему было чуть больше пятидесяти лет. «Что хотели, молодые люди?» — спросил он. Брат толкнул меня локтём, и я стал лепетать. Это был отработанный приём: когда надо было что-то просить, просил я. И не потому, что был маленьким и этим хотели вызвать жалость, а потому что был младше и обязан был делать всякую черновую работу. «Папа сказал, чтобы мы подошли к вам», — сказал я. В дверях нас толпилось пять человек и плюс Колька-рыжий, который не отставал, мы перегородили дорогу тем, кто опаздывал на сеанс. Крикун отвёл нас в сторону и переспросил: «Чтобы все подошли ко мне?» — «Конечно», — тут же ответили Игорь и Димка. «И я тоже», — вставил Колька-рыжий и получил от Игоря локтём под бок.

«Ну хорошо, стойте здесь», — сказал Крикун и подошёл к столику билетёрши, на нём стоял телефон. Он поднял трубку и попросил девушку соединить его с номером, как сейчас помню, 8—10.

«Лёва, — спросил он. — Сколько у тебя сынов? Ты же говорил два», — у Крикуна чувствовался, как я сейчас понимаю, южноеврейский акцент. Наверное, он был из Молдавии или южной Украины. Не сомневаюсь, что батя подтвердил Крикуну, что у него действительно двое сыновей. «Я тебе поздравляю. У тебя шесть мальчиков: трое с чёрными волосами, двое с белыми и один с рыжими».

Крикун положил трубку, посмотрел на нас и сказал: «Пошли ко мне в кабинет, возьмёте стулья. Будете сидеть на стульях».

И мы радостные понесли стулья в темноту зрительного зала.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

**ТАЦЦЯНА ДУБОЎСКАЯ**

## Творчы вітраж Стасі Наркевіч

Стася Наркевіч — віцебская паэтка, празаік, аўтар казак для дзяцей. Да таго ж — прафесійны журналіст ды мастак-графік.

Нарадзілася ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна. Вёска, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва будучай пісьменніцы, аказала відавочны ўплыў на ўсю яе творчасць. Вобраз малой радзімы як калыскі, дзе пачалося духоўнае і творчае сталенне Стасі Наркевіч, з'яўляецца скразным у яе паэзіі:

Праз сцяну гадоў
У дзяцінства прарвацца
Мне хочацца.
Расу-пацеркі збіраць белыя,
З пеўнем дражніцца
І слухаць, як кажуць,
Што я смелая.
А потым на печы
Забіцца ў цёмны куточак
І слухаць бацькавы казкі,
Наймудрэйшыя ў свеце.



**ТАЦЦЯНА ДУБОЎСКАЯ**

Нарадзілася 24 сакавіка 1987 г. у в. Папшычы Глыбоцкага раёна. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава па спецыяльнасці «Беларуская літаратура». У 2015 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю. Займаецца даследаваннем сучаснай айчыннай паэзіі і з'яўляецца вядоўцай курсаў «Мова нанова Віцебск».

І так заснуць на аўчыне.
Як добра той басаногай дзяўчыне… [3, с. 51]

Родны кут у пісьменніцы асацыюецца не толькі з вёскай, але найперш з бацькоўскай хатай, вясковым садам, роднай грушай, рамонкавымі лугамі, самабытнымі аднавяскоўцамі і камічнымі сітуацыямі, у якія тыя траплялі, з кляновым лісцем, на якіх выпякалі ў сям'і хлеб:

Не тапчыце лісце клёна,
Не паліце ў кастрах.
Лісце пахне маім домам
У маленькіх Куляшах.
Яно пахне свежым хлебам,
Што пячэцца на паду.
Не тапчыце, людзі, лісце,
Падніміце на хаду [3, с. 27].

Паэтычны зборнік «Ты зразумей мяне такую…» — гэта шчырая споведзь аўтаркі пра асабістыя пачуцці, пра ўласны лёс і лёс сваёй малой радзімы. Вершы, змешчаныя ў кнізе, набліжаюцца да фальклорных песень. За іх знешняй, на першы погляд, прастатой хаваецца неверагодная глыбіня аўтарскіх перажыванняў:

Цябе шукала — не знайшла,
Хоць вельмі хацела.
Цела халодным было,
А сэрца гарэла.
І вусны іскрыліся,
Бы тое вуголле…
У адчаі крычала
На ўсё наваколле
Ад кахання нязбытага.
А ў сэрцы — стрэмка глыбока забітая… [3, с. 65]

Кніга лірычных мініяцюр пад назвай «Пыркі» — гэта своеасаблівае гарманічнае перапляценне прозы і паэзіі. Невялікія па памерах празаічныя ўрыўкі вылучаюцца незвычайнай маляўнічасцю, метафарычнасцю, эмацыйнасцю: «Туман, які ўсю ноч спаў на стажку сена, пацягнуўся і пачаў расці, падымацца ўверх, круціцца клубочкамі. Гэта сонейка яго за пятку стала казытаць» [2, с. 73]; «Жанчына ішла са спаткання па падмерзлай лістоце таполяў, якая ўслала ўсю дарожку. Яна ад шчасця ўсміхалася, а лісце гарэзліва шапталася. Во ўжо аматаркі пляткарыць» [3, с. 40]; «Люты сёрбаў смоль зімовай ночы з каўша Малой Мядзведзіцы. Спяшаўся, відаць, баяўся, што поўня адбярэ» [2, с. 87]. Некаторыя вобразы здзіўляюць адначасова сваёй нечаканасцю і трапнасцю, выяўляюць адносіны пісьменніцы да рэчаіснасці: «Сполах зары хацела ўбачыць на малой радзіме, а калі дабралася да родных мясцін — спалохалася ад убачанага. // Бацькавай хаціны не было. Адзін падмурак хаваўся ў траве, быццам баяўся кагосьці» [2, с. 47]; «У хаце, дзе

каліські жыла, жанчыну даймалі пахі, якія аднекуль даносіліся ды перамешваліся з водарам, што вырываўся з пасівелых кубачкаў памяці. Памяці яе дзяцінства» [2, с. 63].

Чытаючы пырскі, мы адчуваем і прыкра-гаркаваты водар мяты, і пах часночных цыбукоў, бачым і халодныя слёзы восені, і бляск першага сонечнага промня, чуем і мелодыю сцюжы, і пошчак дажджу… Пырскі — часцінкі чулай паэтычнай душы Стасі Наркевіч, якімі яна шчодра дзеліцца са сваімі чытачамі. У прадмове да аднайменнай кнігі пісьменнік Анатоль Казлоў трапна зазначыў: «Які ж гэта трэба мець талент, каб двума-трыма сказамі стварыць цэльную панараму, краявід, перадаць перапоўненасць душы радасцю альбо смуткам, насыціць наваколле пахам вясновых кветак і адчуць на скуры такату восеньскага дажджу…» [2, с. 4].

Кніга сатырычна-гумарыстычных апавяданняў «Камп'ютарны путанчык» — гэта рэальныя жыццёвыя сітуацыя, падгледжаныя пісьменніцай у асяродку сяброў, знаёмых, суседзяў, калег па працы, а таксама гісторыі, што здарыліся з самой Стасяй Наркевіч. Непераўзыдзенае пачуццё гумару аўтаркі, далікатнае высмейванне ёю людскіх заганаў, сакавітая, жывая народная мова — адметныя рысы стылю творцы. Смех для Стасі Наркевіч — гэта і сродак стварэння камічнага ў творах, і найлепшыя бясплатныя лекі для душы.

Трапныя, каларытныя замалёўкі персанажаў — своеасаблівыя карыкатуры, дзякуючы якім дасягаецца эфект камічнага ці сатырычнага ў апавяданнях. Так, у апавяданні «Праверка» пісьменніца тыпізуе вобраз начальніка, адначасова даючы яму адметную характарыстыку: «…Пачынаў часаць язык і ўводзіць у курс спраў сам галоўны бухгалтар Язэп Ахрэмавіч Трыбушкін. Ён досыць часу пражыў на гэтым свеце і мог рабіць заўвагі, як і абмяркоўваць не толькі паводзіны сваіх падапечных, але суседзяў, сваякоў. Калі ж яму пачыналі пярэчыць, чалавек злаваўся. Ураз абразаў гамонку, быццам лазу вінаграду, і пераводзіў яе ў іншае рэчышча. Любіў яшчэ стары бухгалтар кпіць з маладых і сціплых дзяўчат. Пасмяяцца з іх паводзін, нават з рыс твару. А сам жа быў падобны, як кажуць у народзе, на чортавага тату ў свята. Нос што ў свінні, выпуклыя вочы, якія бясконца мігалі, быццам фары сапсаванага аўтамабіля, і жывот. Яму нават пасавала яго прозвішча — Трыбушкін. Бо ён перад сабою не адно, а тры брушкі насіў, пасярэдзіне якіх тарчаў пуп, што пакаёвая антэна» [1, с. 123]. У гаваркіх імёнах кнігі «Камп'ютарны путанчык» ужо закадзіраваны пэўныя рысы характару ці асаблівасці знешняга выгляду персанажаў: Пётр Пятровіч Залацішкін, Савось Ігнатавіч Хвастун, Любачка Вясёлкіна, Ганна Віктараўна Шубкіна, Міхась Бульбачкін, Ігнась Тручачкін, Спірыдон Спіртавіч, Муся Вішнябокая, Іван Круцельнікаў, Маркізета Іванаўна Міхайчык, Славік Бірулькін, Іван Іванавіч Трапешкін і інш.

Казка-размалёўка «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце», як і «Віялета, бабулечка і чароўны дроцік», «Як Васілёк выратаваў каралеўства», — новы ідэйны накірунак творчасці Стасі Наркевіч. Акрамя неверагоднага сюжэту, кніга мае прыгожыя ілюстрацыі, якія пісьменніца-казачніца разам з віцебскай мастачкай Аленай Сянько прапаноўвае дзеткам размалёўваць. Такім чынам аўтарка заклікае дзетак да сутворчасці — праявіць сваю

фантазію ў выбары колераў для тых ці іншых малюнкаў, самастойна прачытаўшы ці паслухаўшы казку ад бацькоў. Кніжка-размалёўка разлічана для дзяцей пачатковых класаў, аднак яна будзе цікавай і для хлопчыкаў і дзяўчынак дашкольнага ўзросту, якім бацькі ад нараджэння прывіваюць любоў да роднай мовы і культуры.

Сама назва — «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце» — падказвае дзеткам, што казка па сваім жанравым вызначэнні фантастычная. І такая разнавіднасць казкі надзвычай актуальная сёння ў сувязі з пашырэннем жанру фантастыкі ў розных кірунках мастацтва. Чарадзейнае, незвычайнае, загадкавае заўжды прыцягвае, вабіць чалавека.

Асаблівасць усіх казак Стасі Наркевіч у тым, што іх галоўнымі героямі з'яўляюцца дзеткі, дзякуючы чаму маленькія чытачы, захапіўшыся сюжэтам, могуць уявіць сябе на месцы герояў, суперажываюць ім, фантазіраваць пра тое, як бы яны паступілі ў той ці іншай сітуацыі.

Яшчэ адна адметнасць казак — гэта мілагучныя, «цёплыя» імёны станоўчых герояў: робат Тоська, фея Пярынка, дзяўчынка Волька. Выбар такіх імёнаў у новай казцы можна патлумачыць характарам самой казачніцы: яе жыццярадаснасцю, дабрадушнасцю, душэўнасцю.

Галоўная гераіня — адважная дзяўчынка Волька. Разам з робатам Тоськам яна вызваляе каралеўскіх сыноў ад закляцця злога чараўніка і вяртае іх бацьку зрок. Для гэтага ёй давялося пераадолець многія перашкоды і адшукаць на чужой планеце спілаванае дрэва, у лісточках якога былі «закадзіраваны» трыццаць два зярняткі. Здабыўшы зерне, Волька саджае іх у зямлю, яны прарастаюць галінкамі дрэў і ператвараюцца ў літары, што падказваюць, як разбудзіць сыноў і вярнуць каралю зрок. Трыццаць два зярняткі ў казцы, безумоўна, сімвалізуюць трыццаць дзве літары беларускага алфавіту. Такім чынам, казачніца сцвярджае, што толькі той, хто будзе імкнуцца да ведаў і будзе нераўнадушным да чужой бяды, зможа пераадолець усе жыццёвыя цяжкасці.

Творчасць Стасі Наркевіч — гэта жыццёвы вітраж, у якім гарманічна спалучаюцца светлая настальгія і дзівосна багатая фантазія, жыццярадасныя фарбы і журботная палітра, шчырае суперажыванне і жартоўнае высмейванне. Творы пісьменніцы — адбіткі яе ўнутранага і знешняга свету, што поўніцца выключна любоўю да жыцця.

**Літаратура**

1. Наркевіч, С. Камп'ютарны путанчык : сатырычна-гумарыстычныя апавяданні / С. Наркевіч. — Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2014. — 136 с.

2. Наркевіч, С. Пырскі : мініяцюры / С. Наркевіч ; уступ. арт. А. Казлова. — Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2014. — 104 с.

3. Наркевіч, С. Ты зразумей мяне такую… : вершы / С. Наркевіч. — Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2014. — 104 с.

## ІРЫНА САМАТОЙ

## Праявы камізму ў творчасці Уладзіміра Папковіча

Беларуская гумарыстычна-сатырычная творчасць (сукупнасць твораў розных родаў і відаў жартоўнага напрамку) мае сваю багатую і павучальную гісторыю, якая пачалася з фальклору — жартоўных прыказак, прымавак, загадак, песень, прыпевак, жартаў і інш. Гумар, як і сатыра, абумовіў своеасаблівасць многіх твораў старажытнай беларускай літаратуры. Моцна выражаныя гумарыстычныя тэндэнцыі назіраюцца ў паэмах «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, А. Паўловіча, К. Крапівы. Сярод шэрагу гумарыстаў XX стагоддзя несумненна вылучаюцца У. Корбан, Э. Валасевіч, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, П. Макаль, У. Правасуд, В. Лукша, М. Маляўка, М. Скобла і інш. Гумар — адна з вызначальных рысаў натуры, таленту віцебскага паэта Уладзіміра Папковіча.

Сярод творчых індывідуальнасцей пасляваеннага пакалення, якое прыйшло ў літаратуру ў 60-х гадах мінулага стагоддзя, сваёй адметнасцю і непаўторнасцю вылучаецца постаць віцебскага паэта, перакладчыка У. Папковіча. Нарадзіўся творца 25 сакавіка 1935 года ў вёсцы Дварэц на Вілейшчыне. Перажыў ваеннае ліхалецце, арышт бацькі па лжывым даносе, цяжкія гады сіроцтва. Вучыўся ў Ільянскай сярэдняй школе Вілейскага раёна, а ў 1953 годзе стаў студэнтам факультэта нямецкай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Пасля заканчэння інстытута працаваў выкладчыкам нямецкай мовы і перакладчыкам тэхнічнай літаратуры ў розных навучальных і дзяржаўных установах Мінска. З 1966 года жыве і працуе ў Віцебску. З 1982 года — старшы выкладчык, пазней загадчык кафедры нямецкай мовы ВДУ імя П. М. Машэрава. У дадзены час знаходзіцца на заслужаным адпа-



**ІРЫНА САМАТОЙ**

Нарадзілася ў 1961 г. у мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. Жыве і працуе ў Віцебску. Літаратуразнаўца. Аўтар артыкулаў па сучаснай беларускай літаратуры.

чынку. Друкавацца пачаў з 1962 года на старонках рэспубліканскіх часопісаў «Нёман», «Маладосць», «Полымя», альманахах «Далягляды», «Братэрства» і інш. Аўтар паэтычных зборнікаў «На досвітку» (1978), «Зерне» (1982), «Самы кароткі цень» (1988), «На тым стаю» (2004), «Рэшта» (2010), «Пасля свята» (2013), «Як ёсць» (2015), «На шалях лёсу» (2017). Перакладаў з нямецкай мовы на беларускую творы Ё. Бэхера, Р. Крафта, Ф. Шылера, Э. М. Рэмарка, Ш. Цвайга, В. Гаўфа і інш. Перастварыў на нямецкую мову паэму К. Веранібцына «Тарас на Парнасе» (2003). Разнастайная па праблематыцы, багатая па настраёвасці, шчырая і спавядальная па гучанні, творчасць паэта захапляе перш за ўсё жыццёвай мудрасцю і асаблівай назіральнасцю, пільнай увагай да нюансаў чалавечага быцця.

Асаблівае месца ў паэзіі У. Папковіча займаюць гумарыстычныя творы, да якіх ён звярнуўся ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Гумар, або добры смех, выкарыстоўваецца для весялосці, з мэтай пасмяяцца з чаго-небудзь без з'едлівасці і крытыкі. Сведчаннем паэтычнага дару віцебскага творцы служыць зборнік гумару «Вы будзеце смяяцца…» (2008) пад псеўданімам Ахрэм Нядбайла. Выкарыстоўваючы прыём эстэтычнай правакацыі, аўтар свядома выбраў гаваркі псеўданім, нібы падкрэсліваючы бязладнае і пустое жыццё галоўнага героя гумарыстычных вершаў. На самай справе Ахрэм Нядбайла — усмешлівы аптыміст і жыццялюб, чалавек з добрым, адкрытым для людзей сэрцам, які добразычліва, нязлосна жартуе з недахопаў уласнага характару, паводзін людзей. «Смех кожнага з нас робіць роўным сярод людзей, трошачкі ўзвышае над часам» [1, с. 4], дапамагае выстаяць у складанай сітуацыі:

Нічога так зло не баіцца,
Як смеху — ён валіць з ног.
Не трэба змагацца і біцца.
Засмейся —
І ты перамог! [1, с. 14]

Гумарыстычная творчасць У. Папковіча ў адзначаным зборніку прадстаўлена наступнымі жанравымі мадыфікацыямі: гумарыстычны верш, прыпеўка (чатырохрадкоўе), паэтычная карацелька (двухрадкоўе), «ахрэмінка» (аўтарская жанравая форма).

У гумарыстычных вершах адлюстроўваюцца грамадскія, бытавыя, сямейныя бакі жыцця, праблемы мастацкай творчасці. З гумарам расказвае У. Папковіч пра сучаснага змагара за праўду, які рэзка памяняў свае погляды, калі «яго начальнічкам зрабілі / І крэсельца яму далі» [1, с. 11]. Жартаўліва-павучальна паэт дзеліцца сакрэтам сямейнага шчасця:

Для жонкі ў хаце рай стварай,
Не задзірайся,
Райся. Старых грахоў не паўтарай
І новых не цурайся [1, с. 14].

Асобныя вершы маюць свайго адрасата: «Паэт», «Вучоны», «Крытыку», «Дарадцам я заўсёды рад», «Заклік» і інш. Спачувальна аўтар раіць пасрэднаму маладому паэту прымусова не пісаць вершы:

А лепей ты дзяўчыну палюбі.
Калі не верш,
Дык хоць дзіця народзіцца [1, с. 7].

Немалаважным выглядае і тое, што, развіваючы традыцыі беларускай гумарыстычнай паэзіі, У. Папковіч пераймае імпульсіўнасць і няўрымслівасць барадулінскай натуры. Зварот да пісьменніцкай творчасці прысутнічае і ў гумарыстычных творах Р. Барадуліна. Так, у вершы «Пытанне аднаму паэту» аўтар задае пытанне ўсім гора-паэтам:

Задумайся ў журбе,
Пастой, —
Чытаць унук ці будзе твой
Цябе ў арыгінале? [13, с. 161]

Творчае асэнсаванне народна-паэтычных традыцый ярка адлюстроўваецца ў аўтарскіх прыпеўках (чатырохрадкоўях) з выразным рытмам, тэматыка якіх ахоплівае самыя разнастайныя з'явы жыцця, ад любоўных заляцанняў да грамадска-палітычных падзей. Дасціпна гучаць прыпеўкі на тэму сямейных узаемаадносін: «Мілы спіць на тапчане», «Мой Валодзя быў на сходзе», «Пасля татавай зарплаты» і інш. Выкарыстанне лірычна-эмацыянальнага і грубавата-экспрэсіўнага гаваркога слова сведчыць пра жыццелюбівую натуру аўтара:

Каб узяла цябе халера,
Мужыка-функцыянера!
Быў, гаворыць, на нарадзе,
Сам па вушы ў памадзе [1, с. 18].

Найбольшую цікавасць у зборніку, у плане праяўлення камічнага, выклікаюць «ахрэмінкі» — гумарыстычныя, па словах аўтара, імгненнарэактыўныя вершы. Галоўны персанаж — тутэйшы жыхар Ахрэм, на першы погляд, аматар прыгод, гультаяваты, слабы чалавек:

Ахрэм, лайдак, падаўся ў бізнес,
Тавараў розных накупіў.
Затым усё са склада вынес,
Забыўся, што сваё. Прапіў [1, с. 75].

Але за маскаю блюзнерства хаваецца іншы чалавек:

Ахрэм — узорны сем'янін,
Не п'е, не курыць, не дурэе,
Уласнаручна склаў камін,
Зімой сядзіць, што трэба грэе» [1, с. 74].

Праз смешныя і цікавыя выпадкі раскрываецца жыццёвы досвед персанажа ў сяброўстве, каханні, выхаванні дзяцей, літаратурнай творчасці, навуцы. У вобразе Ахрэма ўвасобіўся жывы народны характар, насмешлівы, невынішчальны, стойкі ў любых нягодах.

Гумарыстычнай філасафічнасцю прасякнуты паэтычныя карацелькі (двухрадкоўі) У. Папковіча, у якіх пранізлівы гумар часам перарастае ў афарыстычную мадэль: «Не будзь зласліўцам у чужой бядзе. / Павер мне — і табе перападзе» [1, с. 34], «Здаецца мне: мы Богу замінаем, / Калі яго так часта ўспамінаем» [1, с. 73], «Праўда ў мове і ў слове. / А найперш — у душы, панове» [1, с. 74].

Двухрадкоўі носяць павучальны характар, утрымліваюць у сабе народныя матывы і асабісты вопыт, прымушаюць сур'ёзна задумацца над сваімі паводзінамі і станам грамадства: «Жыццё, як той трамвай: / Заціснулі — трывай!» [1, с. 56], «Ад даўніх дзён, ад сівізны вякоў, / Народ не крыўдзіў п'яніц, жабракоў» [1, с. 47], «Начальства трэба ўсёй душой любіць — / На гэтым можна добра зарабіць» [1, с. 45].

Заўважым і тое, што ў гумарыстычных творах аўтара раскрыццё пэўнай сітуацыі дасягаецца праз народную моватворчасць: фразеалагічныя спалучэнні («хапіў ты цераз край» [1, с. 30], «хоць трэсні, хоць лясні» [1, с. 10], «не вяжа лыка» [1, с. 34], «на забавы ласы» [1, с. 42]), народныя выслоўі («Адзін ляны, другі п'яны» [1, с. 53], «Страх па пятах бегае за мной» [1, с. 31], «Навукі грыз да ачмурэння» [1, с. 43]) і інш.

Такім чынам, даследуючы гумарыстычную паэзію У. Папковіча як разнавіднасць камічнага, можна зрабіць наступныя вывады. Смех творцы — гэта выяўленне аўтарскай пазіцыі, мастацкі прынцып пазнання і адлюстравання рэчаіснасці. Для ўсёй смехавой творчасці паэта, прадстаўленай такімі жанравымі мадыфікацыямі, як гумарыстычны верш, прыпеўка (чатырохрадкоўе), паэтычная карацелька (двухрадкоўе), «ахрэмінка» (аўтарская жанравая форма), характэрныя шырыня погляду, дасціпнасць, аптымізм, натуральнасць, эмацыянальнасць, сувязь з фальклорам, народнымі традыцыямі. Праз нязмушаны гумар аўтар змог паказаць маральна-этычныя, сацыяльныя праблемы сучаснага жыцця, характар, звычаі беларусаў, пры гэтым нікога не асуджаючы. Найважнейшай асаблівасцю гумарыстычных твораў У. Папковіча з'яўляецца тое, што яны не пакідаюць чытача раўнадушным.

**Літаратура**

1. Барадулін, Р. Мудрэц са ступаю / Р. Барадулін. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1988. — 272 с.

2. Нядбайла, А. Вы будзеце смяяцца / А. Нядбайла. — Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2008. — 77 с.

# ВІТОЛЬД ЕРМАЛЁНАК

## Сядзіба ў Міжрэччы

Да Другой сусветнай вайны на Мёршчыне было шмат арыгінальных шляхецкіх сядзібаў, але большасць з іх была знішчана пасля вайны нядбайнымі адносінамі савецкай улады. Такі лёс напаткаў і сядзібу Мірскіх-Аскеркаў у Міжрэччы, хоць у даваеннай Польшчы яна лічылася помнікам архітэктуры дзяржаўнага значэння і ўсялікія перабудовы яе гаспадарам былі забаронены.

Паселішча Міжрэчча ў дакументах упершыню згадваецца яшчэ ў XV ст. Праўда, называлася яно тады Дуброўка, належала славутаму роду Сапегаў. Менавіта ад іх у XVI ст. уладанні набыў Багдан Валасоўскі. З таго часу Дуброўка і пачала называцца Міжрэччам. Другі набыты фальварак гаспадар назваў у свой гонар Багданавам. Яго ўладанні сталі спадчынай сыну Ігнату, жанатаму з Брыгідай Мірскай. Паколькі ў іх не было дзяцей, то маёнткі перайшлі да сястры Ігната Валасоўскага Канстанцыі, якая выйшла замуж за Томаша Мірскага. Таксама спадчына перадалася другой сястры Казіміры, жонцы Аляксандра Лапацінскага, а Чамяры і Міжрэчча дасталіся Мірскім.

У 1852 г. Міжрэчча атрымаў у спадчыну Віктар Мірскі. Пасля яго смерці ў 1892 г. тут гаспадараць пяць дачок. Адна з іх, Ядвіга, выйшаўшы замуж за Вацлава Аскерку, сплаціла сваім сёстрам кошт маёнтка і стала паўнаўладнай уласніцай Міжрэчча, дарэчы апошняй. Муж памёр у 1905 г., а яна ў 1940 г. Яе сын Альгерд Аскерка з'яўляўся сябрам Браслаўскага павятовага камітэта трох выбараў, быў добрым гаспадаром, асабліва любіў гадаваць коней. Па ўспамінах браслаўскага старасты Зэліслава Янушкевіча, ён заўсёды клапаціўся пра развіццё конегадоўлі ў павеце.

Старадаўняя сядзіба ў Міжрэччы пабудавана з дубу. Месцілася яна на маляўнічым схіле, вакол якога бліскучай стужкай бруілася



**ВІТОЛЬД (ВІТАЎТ) ЕРМАЛЁНАК**

Нарадзіўся ў 1954 г. у в. Жэймяны Браслаўскага раёна. Скончыў гістфак ГДПІ імя Я. Купалы. Настаўнік гісторыі, стваральнік музеяў у СШ № 3 г. Мёры: гістарычнага (1986), кнігі і друку (2009), этнаграфічнага «Сялянская хата» (2015), адукацыі Мёршчыны (2017). З 1976 г. нязменны кіраўнік створанага ім археолага-краязнаўчага гуртка «Арганаўты мінулага». Арганізатар экскурсій па Мёрскім, Браслаўскім, Верхнядзвінскім і Шаркаўшчынскім раёнах. Аўтар звыш 450 публікацый. Адзін з аўтараў кніг «Памяць» Мёрскага, Браслаўскага, Глыбоцкага раёнаў, аўтар кніг «Цярністы шлях паўстанца-скульптара» (2013), «Чароўных вандровак пярсцёнкі» (2017), «Паляўнічыя за таямніцамі» (2017). Галоўны рэдактар і выдавец газеты «Мёрская даўніна».



рака Вята. Будынак узводзіўся і дапрацоўваўся на працягу амаль двух з паловай стагоддзяў. Першы яго паверх закончаны у канцы XVI ст., другі паверх і іншыя пабудовы завершаны ў канцы XIX ст. Ніжні паверх мураваны і атынкаваны. Перад уваходам, які з боку ракі, на значнай адлегласці адна ад адной стаялі дзве вычасаныя з каменю калоны. Напэўна, раней на іх трымаўся дах. А з дабудовай другога паверха яны сталі падтрымліваць рызаліт.

Матэрыялам для другога паверха паслужылі дубовыя бярвёны. З яго ўзвядзеннем перанесены і галоўны ўваход на супрацьлеглы бок. На рызаліце галерэя з маленькіх калон, крытая дошкамі. З боку ракі, але на той самай вышыні, месцілася лоджыя. Дах высокі, пад гонтай. Праз усе паверхі праходзілі два вялікія коміны. Унізе размясціліся кухня, пякарня, склеп, гаспадарчыя памяшканні. Наверсе сталовая памерамі 8 на 5 м, салон 7 на 5 м. Па абодвух баках калідора па тры пакоі. Ля лоджыі яшчэ два пакоі. Прыхожая аздоблена пад натуральнае дрэва. Вокны выраблены нібы з дзвюх частак: ніжняя прастакутная, верхняя нагадвала паўкруглы вітраж.

У даўнія часы пакоі былі абабітыя тканінай, у міжваенны час іх абклеілі шпалерамі. Цікавымі з'яўляліся вялікія грубкі з бронзавай, белай, жоўтай кафлі XVIII–XIX стст., упрыгожанай арнаментам. Падлога з паркету розных узораў. Цудоўнай кавальскай работай вызначаліся жалезныя клямкі ў дзвярах, такіх больш нідзе немагчыма сустрэць. Адзін з пакояў насіў назву масонскага, таму што Томаш Мірскі, колішні ўладальнік сядзібы, з'яўляўся членам Віленскай масонскай ложы, масонам лічыўся і яго швагра Канстанцін Валасоўскі. Сам Томаш Мірскі — генерал, адзін з кіраўнікоў віленскага ўрада падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

У пакоях шмат старадаўняй мэблі, часткова выробленай мясцовымі майстрамі, прадметаў, прывезеных з Італіі. Захаваўся дакумент пачатку XIX ст., які пацвярджаў выплату 100 дукатаў за карціны еўрапейскіх мастакоў. Частка каштоўных рэчаў падзелена яшчэ ў канцы XIX ст., нейкая колькасць падчас рэвалюцыі вывезена ў Лявонпаль, дзе і загінула пры пажары палаца Лапацінскіх.

Асабліва шкада багатага архіва, дзе былі нават каралеўскія граматы і прывілеі ўладальнікам Міжрэчча, лісты XVII–XVIII стст., газеты часоў паўстання Т. Касцюшкі. Усё гэта знікла ў гады вайны і ў пасляваенны час.



Паблізу дома, направа, знаходзілася яшчэ адна пабудова — лямус, напэўна таксама XVII ст. Як і дом, ён быў двухпавярховы. На ніжнім, мураваным, паверсе змяшчаліся лядоўня, склеп, а на верхнім, драўляным, знаходзіўся склад для сушэння сыроў. Гэты будынак таксама крыты гонтай, існавалі сляды галерэі, якая акружала лямус на вышыні паўпаверха.

Перад домам красавалі вялікія газоны. Дарога ад ракі абсаджана дэкаратыўнымі кустамі. Да самой сядзібы вяла кіламетровая алея надвіслянскіх таполяў. Пірамідальныя таполі і старыя каштаны вельмі прыгожа аздаблялі ўезд. Налева ад дома цягнуўся сад у бэзе. Дарога паміж домам і садам вяла да ракі, праваруч яе парк для прагулак са шматлікімі сцежкамі, алеямі з дэкаратыўнымі кустамі, серабрыстымі і бальзамічнымі таполямі, чаромхай. Адсюль маляўнічая сцежка ў даліну векавых дубоў і ліп.

Сядзібная пабудова ацалела падчас вайны. Але неўзабаве мясцовы калгас прыстасаваў сядзібу пад млячарню, а пазней будынак і зусім быў разабраны. Засталіся толькі велічныя цагляныя скляпенні. Нягледзячы на разбурэнне сядзібы, яе адметныя руіны захапляюць турыстаў. Ад векавых алей яшчэ захавалася частка магутных дрэў. А на вясковых могілках у вёсцы Сташулі дзякуючы клопату мясцовых жыхароў захаваліся прыгожыя помнікі на магілах колішніх уладальнікаў маёнтка Міжрэчча.

# ДЗЕЦЯМ

## ГАННА НАВАСЕЛЬЦАВА

### Як на грошы небагаты, то хто ж вінаваты?
*Казка*

Жыў ды быў сабе адзін чалавек. Не лянівы і не старанны, не надта каб сярдзіты, але і не дужа спагадны, не сказаць, каб задужа кемлівы, але ж і не зусім дурань. А так, цярплівы, просты, пра сябе дбайны… Што яшчэ пра яго ўспомніць, дык і цяжка. З суседзямі надта не сварыўся, пра сяброў асабліва не клапаціўся. Жыў, як усе жывуць. Такая-сякая хатка, невялікая, але ж свая. Такая-сякая гаспадарка, хоць і клопаты, але ж у радасць. І так дзень на дзень падобны, а пасля такая-сякая вячэра — і спаць. Гэтак спакойна ўсё і вялося, зацішна жылося. І не сказаць, каб той чалавеча незадаволены быў.

Туды-сюды пасунецца, папрацуе, адпачне, зноў трошкі папрацуе. З суседам слоўцам перакінецца. На палоску жыта сваю замілаваным вокам гляне: цягнецца ўгору, як спелай сілай наліваецца. У хаце на таго-сяго пасварыцца, ката з цёплай коўдры прэч прагоніць, каб усюды парадак быў. Ведама, калі непарадак — тое нядобра… Але ці кот на гаспадара пакрыўдзіўся, ці суседзі чала-



**ГАННА НАВАСЕЛЬЦАВА**

Нарадзілася 11 мая 1983 г. у Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава і аспірантуру пры ім. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт, працуе на кафедры літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава. Аўтар міфалагічнай аповесці «Святло зямлі Неўрыда» (2011), друкавалася ў абласных перыядычных выданнях, часопісах «Маладосць», «Полымя», штотыднёвіку «ЛіМ», калектыўных зборніках. Аўтар кнігі міфалагічных апавяданняў «І чарам сніцца чалавек…» (2016). Лаўрэат Віцебскай абласной літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі.

веку моцна пазайздросцілі, ці так нягода ліхая здарылася, ды адной цёмнай ноччу нехта настойліва тук-тук-тук…

— Адчыняй, гаспадар, дзверы!

Знянацку спалохаўшыся, адчыніў. Глядзіць чалавек, аж стаіць пад парогам адзін такі, сам карузлік з кокаць, а барада — з локаць. Вочы лупатыя па яблыку. Ад злосці як не ўвесь чырванню наліваецца. Як гыркне гэты карузлы:

— Ану! Перанясі мяне праз парог!

Знанацку спалохаўшыся, перанёс. У кут гасцінны пасадзіў, ручнік найпрыгажэйшы паслаў. Ды няма плёну з такога клопату. Карузлы ж раве на ўсю хату:

— Кармі мяне, гаспадар, а то цябе самога з'ем!

Знянацку спалохаўшыся, падае ежу малому. А той два боханы хлеба глынуў, місай капусты закусіў, чыгунок заціркі кульнуў, ладны кавалак сала ўваліў ды ўжо гуркамі хрумстае. Яшчэ сабе спажывы патрабуе, на гаспадара крычыць-сварыцца, а то і пагражае:

— Нясі, гаспадар, чаго яшчэ, а то з'ем і тваю скаціну, і цябе!

Тут ужо палохайся ці не палохайся, а носіць чалавеча ўсё ядомае з клеці. На стол стаўляе, а карузлы ўсё падмятае ды яшчэ гаспадара бэсціць:

— Век пражыў, а багацця не нажыў! Была б хаціна якая людская! А то ж халупа халупай! Кут як след не прыбраны, ручнік добра не вышываны! Ды і сам ходзіш у зрэб'і!

Слухае папрокі гаспадар, баіцца, але ж і дзівіцца. Хата ж сапраўды маленькая, як ёсць так ёсць. І кут, і ручнік, і адзенне ягонае маглі б і лепшымі быць. А хто ў тым вінаваты?

— Хто вінаваты? — у куце не сядзіць, а ўжо тупаціць па хаце карузлік. — Той, хто пра багацце не дбаў, грошы не збіраў! Ніколі не шукаў выгодаў, цямця-лямця!

Непакоіцца з такой звягі гаспадар, але ж сапраўды ён цямця-лямця. Грошай кот наплакаў, так і жыў беднавата, колькі сябе памятае. Нехта ведае, як на дабрабыт такі-сякі ўзбіцца, а ён таго аніяк не патрапіць. А хто ў тым вінаваты?

— Хто табе вінаваты?! — наліваецца злосцю малы, скачучы па хаце. — Сціплы, палахлівы. Ніколі слова ўпоперак не скажаш! І цяпер маўчыш! Застануся ў цябе жыць… Буду ежу ўсю адбіраць, а цябе ў чорным целе трымаць, каб месца сваё ведаў.

З такога шчасця засумаваў чалавеча. Як жа гэта выходзіць? Ён у хатцы сваёй не гаспадар? А што далей будзе?.. Глянуў так і сяк на карузлага. Малы, а крыклівы, злосны. І скуль столькі пыхі ўзялося?.. Ды гэта яшчэ хай сабе, але ж усё ядомае са стала падмяце, як з такім ужывешся?.. Дык праўду кажа, з'есць самога жыўцом. А што паробіш?

Думае так сабе, што рабіць, — і розуму не прыкладзе. Зірнуў мімаходзь на венік у куце, які большы за карузлага будзе. «А што, як гэты венік ухапіць

ды карузлага за парог вытурыць?» — так сабе разважае. Трэба ж хоць раз у жыцці быць рашучым…

Хапае венік — ды за карузлым. А той як падскочыць! Вырваў венік з рук ды самога гаспадара — за парог. І дзверы клямкай бразнулі.

Упаў на зямлю чалавеча ды з таго раптоўна прахапіўся. Глядзіць, аж ён у сваёй хатцы, карузлага ані звання. Ядомае нечапана, венік на сваім месцы.

— І трэба ж такому сасніцца… — сам дзівіцца.

Пакрысе абвёў вачыма хату. Нейкая яна быццам нялюдская. Кут жа гісцінны не прыбраны, ручнік як след не вышываны. Грошай як кот наплакаў. Зусім ён цямця-лямця!

І стаў чалавеча з таго часу багаццяў шукаць, грошы збіраць. Пра іншае ані не дбаць, а пыхлівасць сваю казаць.

## Як сцізорык зламаўся…

*Казка*

— Любіць пан чароўны срэбраны сцізорык. Беражэ яго, нібы зрэнку вока. Пад замкамі вялікімі трымае. Скуль узяўся такі ў гнеўнага ды крыўдлівага — невядома. А вось бы той сцізорык ды скрасці…

— Зладзюга ты, зладзюга! І не сорамна табе?

— Дурню ты, дурню. І што з тым панскім сцізорыкам рабіць?

— Няхай я зладзюга і дурань, але ж цікаўны. А вось вы — лайдакі абыякія… Адно вам лынды біць.

— Якое біць? Дзень і ноч працуем на пана!

— Гора гаруем! Дзе ўжо нам сцізорык красці…

— Вось таму і трэба скрасці! Ён жа чароўны! Мабыць, не будзем дзень і ноч працаваць, але і крыху адпачываць… Кажуць жа, што той сцізорык шчасце ў хату прынаджвае!

— Добра, калі так…

— Калі так, добра…

Абы-як сабраліся, туды-сюды павярнуліся, што-ніштo ўведалі, а сцізорык панскі як быццам скралі. Дык і ўчынілася з таго ляда, што хоць плач, хоць галасі…

Радасна ўсміхаецца той, хто зладзюгам названы:

— Пан, паночак…

— Чаго табе, дурню, трэба?

— Сцізорык чароўны зламаўся…

— Чаго?!

— Выжла ваш любімы, кажу, лапы выпруціў!

— Чаго ты чаўпеш, дурню?!

— Выжла ваш здох!

— Як здох? З чаго здох? А каб ты сам лапы выпруціў!

— Ваду ж на ім вазілі!

— Дурню ты! Хто ж возіць ваду на сабаку?!

— То здаровы ж быў, нібы конь! Мусіць, з таго і паблыталі!

Бядуе-лямантуе пан, кляне ўсіх дурняў на свеце, а той, хто зладзюгам названы, радасна ўсміхаецца:

— Пан! Паночак!

— А каб цябе, дурню! Чаго табе яшчэ?

— Сцізорык чароўны зламаўся.

— Чаго?!

— Жарабок у яблыкі, дарагі, куплёны, капыты адкінуў!

— Чаго ты чаўпеш, дурню?!

— Конь ваш любімы, кажу, скапыціўся!

— Як? Чаго? А каб цябе…

— Мясам жа яго кармілі!

— Дурню ты! Хто ж каня ды корміць мясам?!

— А злосны быў, наравісты, нібы той выжла, дык з таго, мабыць, і паблыталі!

Бядуе-лямантуе пан, жадае, каб усе дурні на той свет правалiліся, а на гэтым адзін зладзюгаваты радасна ўсміхаецца:

— Пан! Паночак!!!

— А каб цябе, дурню! Прэч пайшоў! Зусім ад мяне адкасніся!

— Не магу! Сцізорык чароўны зламаўся!

— Чаго?! А каб ты вадой падавіўся!

— Я не падавіўся, а вось сцізорык зламаўся дык зламаўся!

— Чаго ты чаўпеш, дурню?!

— Пакоі новыя згарэлі, нібы свечка!

— Як? Чаго?

— Дык балю рабілі і, каб гасцям святлей было, цяпельца на даху расклалі.

— Дурню ты! Хто ж так паліць?!

— А ў навамодных пакоях тых печаў ані звання, адно коміны, дык чорт ведае, як тыя коміны паліць!

Бядуе-лямантуе пан, жадае, каб дурні на гэтым свеце зусім не нараджаліся, адзін жа, ужо дарослы, радасна ўсміхаецца, аж зубы скаліць:

— Пан! Паночак!!!

— Змоўкні, дурню!!!

— Не магу маўчаць, як панскі сцізорык зламаўся!

— Чаго?! А каб ты злякаўся!

— А злякнуўся, як сцізорык чыста зламаўся!

— Чаго ты спужаўся, дурню?!

— А зайшоў панскі свіран прыбраць, дзе дабро ўсялякае, а там ляда лядам: дзежкі парожнія, мяхі пустыя, скрыні ўсе павынеслі… І следу няма!

— Як? Чаго? Чаму следу няма?

— То, мабыць, панскія госці ў ботах шыкоўных хадзілі, ахайныя былі і слядоў не пакінулі.

— Дурню ты! Што ж іх не пыніў, не лупіў, дабро маё не ратаваў?

— Што ты, паночку! Гэтыя ж госці на панскай балі скакалі, срэбраныя лыжкі хапалі, усё ядомае глыталі. Пан жа сам загадаў ім слугаваць! То ж я і слугаваў, замкі ўсе паадчыняў!

Бядуе-лямантуе пан, крычыць нема, кідаецца біцца. Але ж не дурны яму дурань патрапіўся: уцякае як дужы, а яшчэ шчыра пану спачувае ды ўсміхаецца спагадна ад усёй душы:

— Пан! Паночак!!!

— Злаўлю! Заб'ю!

— Не зловіш, не заб'еш, бо панскі сцізорык увесь зламаўся!

— Чаго?! Каб ты не дажыў!

— Як-небудзь дажыву, а вось як пан жыць будзе без любенькай жонкі і без чароўнага сцізорыка?

— А дзе ж мая жонка падзелася, дурню?

— А кароў у полі пасвіць!

— Чаго? Ніколі ў жыцці не паверу! Ды каб мая вытанчаная красуня ды ў такой бруднай працы…

— Э, не журыся, пане! Колькі было той працы! Можа, з якую гадзінку!

— Якую гадзінку?

— Эге ж, пасвіла. Не так пасвіла, як гнала!

— Куды мая жонка кароў гнала? Чаго пляцеш, дурню?

— Ды гнала проста да дарогі, туды, дзе недалёка карэта стаяла!

— Як? Чаго? Дзе падзеліся мае каровы?

— Не турбуйся, пане! Як да ўзбочыны дарогі прыгнала, то ў карэту села разам з тваім аканомам. Я за імі дзверы зачыніў! І пакаціліся сабе, аж пыл закурэў!

— Каровы пакаціліся?

— Якія каровы, чаго чаўпеш, пане! Жонка з аканомам! А смачна гэтак цалаваліся! Сам бачыў!

— А каровы?

— А каровы прыстойна паводзіліся, нават і не думалі цалавацца, сам бачыў!

— Вось жа карова!

— Ды што ж ты ўсё пра кароў! Тэпалі за карэтай слухмяна, куды тая паедзе, туды яны ідуць! Ты пра іх не турбуйся! Аканом іх добра прадаў твайму суседу, якраз таму, якога ты надоечы ў карты хітра падкузьміў, то назад ён каровак аніяк не верне!

— А каб цябе, дурню! Што ж ты жонкі маёй дадому не гнаў, а кароў паважна не спыніў?!

— Як можна! То ж панскія каровы і панская жонка! Непавагу выказаць — гэта ж нявыхавана! Так сам пан казаў!

— Маўчы, дурню! А то заб'ю!

— Як сам пан пра нешта пытаецца, то як ёсць кажу. А як маўчаць загадаў, то не скажу!

— Пра што не скажаш?!

— Як пра што? Пра тое, што сцізорык чароўны зламаўся, нібы чапяла аб калена!

— Сам ты чапяла! Маўчы лепей! — выгукнуў пан і пабег глядзець на свой сцізорык.

Зладзюкаваты — за панам услед, ні на крок не адстане. Прыбег пане, запыхаўся, вялікія замкі адамкнуў. Сцізорык срэбраны ў рукі схапіў, мацае ды крычыць на ўсю галаву:

— Маўчы, дурню! Бачыш, цэлы мой чароўны сцізорык! Цэлы!!!

— Бачу, пане! Цэлы чароўны сцізорык, цэлы!

І цоп яго ў пана з рук ды наўцёкі. Толькі яго і бачылі.

## СОФ’Я НЕСЦЯРУК

* * *

Рано утром без сапожек
По дорожке топал ёжик

В серой шубке, нараспашку,
Лишь пофыркивал мордашкой.
Поклонился низко мне.
Я спросила: «Вы ко мне?»

— «Нет», — ответил мне колючий. —
Встреча эта — просто случай.
У меня других хлопот,
Скажем прямо, полон рот.

В лес спешу я за грибами,
Отнесу быстрей их маме,
А потом пять раз подряд
Побегу в соседний сад.

Там есть яблоки и груши,
Моя мама их посушит,
Потому что в зиму
Нужны витамины».

Вот такая встреча
Была на дорожке.
И пошли далече
Маленькие ножки.



**СОФ’Я НЕСЦЯРУК**

Нарадзілася ў 1948 г. у в. Барадзілова Чашніцкага раёна. Вучылася ў Пінскім саўгас-тэхнікуме, дзе атрымала спецыяльнасць «Заатэхнія». Вершы пачала пісаць яшчэ ў дзяцінстве. Друкавалася ў газеце «Лепельскі край». З’яўляецца ўдзельніцай народнага літаратурна-музычнага клуба «Выток» (г. Лепель). Неаднаразова выступала на абласных паэтычных фестывалях, была дыпламантам абласнога свята паэзіі «Песні сунічных бароў» (2014).

С радостной улыбкой
Я вослед смотрела,
Но об этой встрече
Вовсе не жалела.

## В детский сад

Я сегодня в детский сад
Понесу своих котят,
Пускай мама кошка
Отдохнёт немножко.

## Лесной Айболит

На сосёнке — тук-тук-тук!
Кто уселся там на сук?
Это дятел — Айболит,
Проверяет, где болит.

Если треснула кора —
Пролечить её пора.
Значит, там завёлся жук.
Ищет дятел — тук-тук-тук.

Всё проверит и полечит —
И сосёнке станет легче.

## * * *

Мой дружочек пёс Барбос
Громко лает на мороз.
У него замёрзли лапки:
Он забыл обуться в тапки.

## Почему?

Почему на небе тучки, почему?
Почему чернила в ручке? Почему?
Почему на небе солнце,
Зайчик солнечный в оконце? Почему?

Почему на небе птица,
А мне дома не сидится? Почему?
Почему же я досужий
И нельзя ходить по луже? Почему?

Где же мне найти ответ,
Кто хороший, а кто нет?
Почемучкам мой совет:

В книжках есть на всё ответ —
Кто научится читать,
Будет очень много знать!

## АЛЯКСАНДР ПІШЧЫК

* * *

Я спросил вчера у папы:
— Зачем нужны медведю лапы?
Ответил папа мне:
— Сынок,
Они медведю вместо ног,
Они медведю вместо рук,
Они медведю вместо ложки!
Теперь сходи, мой юный друг,
И принеси ведро с картошкой.

Я спросил вчера у мамы:
— Зачем барсук копает ямы
И почему осёл упрямый?
Смеясь, ответила мне мама:
— Ведёт животное упрямо
Себя затем и потому,
Что это нравится ему.
Ну а барсук копает норы,
Чтоб их использовать как дом!
Несите с папой помидоры
И будем ужинать потом.

— А я, а я зачем вам нужен?
— Помогать готовить ужин!



**АЛЯКСАНДР ПІШЧЫК**

Нарадзіўся 8 лістапада 1986 г. у в. Аболь Сенненскага раёна. Скончыў інжынерна-будаўнічы факультэт Беларуска-Расійскага ўніверсітэта ў г. Магілёве. Жыве і працуе па спецыяльнасці ў Віцебску. Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школе, у асноўным жартоўныя. Сёння ў творчасці Аляксандра дамінуе лірыка: любоўная, пейзажная, гарадская, філасофская. Упершыню быў надрукаваны ў альманаху «Ратуша».

* * *

Корова мне мычит «му-му»,
Но я корову не пойму.
Корова снова «му-му-му»,
А мне ни сердцу ни уму!
Пойду сейчас, нахмурив брови,
И выучу язык коровий!

Собачка мне навстречу «гав»,
Я ей ответил, не солгав,
Что не могу её понять,
Собачка «гав-гав-гав» опять
И покатилась, словно мячик.
Пойду учить язык собачек!

Но мне ворона сверху: «Каррр,
Сначала выучи букваррр!»

* * *

В центре старенького сквера
Плачет маленькая Вера:
— У мальчишек есть манера
С силой дёргать за косички
И дразнить обидной кличкой!
Неужели им не видно,
Как мне горько и обидно?!.
Я за них отвечу лично:
— Значит, ты им симпатична!

* * *

Чудной, доверчивый и робкий,
На сцену вышел из коробки
Человек смешного роста
И, с аппетитом съев два тоста,
Тем самым вызвав волны смеха,
Сказал, что он Эдита Пьеха!
Но мы-то с вами знаем, кто он?
Конечно, это добрый клоун!

* * *

Возле очень тихой речки
И её спокойных вод
Веселились три овечки
И водили хоровод
Целый год!
Но одна из них устала,
Может быть, ей плохо стало,
Веселиться перестала
И, присев на бережок,
Голову повесила.
К ней подружки, мой дружок,
Раз прыжок и два прыжок —
И опять ей весело!

* * *

Папа пилит на куски
Три огромные доски,
В опилках кеды и носки.
А я на меньшие кусочки
Пилю две маленьких досочки,
В опилках кеды и носочки.
Мы вместе с папой строим дом
Своим физическим трудом,
В котором будут жить скворцы,
И мама скажет нам потом,
Что мы большие молодцы.
А птицы будут благодарны,
Весной вселяясь календарной.

# КАСТУСЬ СЕВЯРЫНЕЦ

*ГАРЭЗЫ З ЛЕСУ*
*Вершы ў кароткіх штоніках*

## Верабейка

Верабейка, верабей,
Птушачка-маляўка,
Дзе скарынку падзяўбе,
Дзе зярнятка прыграбе,
Дзе пап'е з канаўкі.

Па падворку скок-паскок
У чародцы жвавай,
Дзюбай тыцкае ў пясок,
Паглядзі, які малёк,
А ўвесь дзень пры справах.

Ён прывычны да ўсяго,
Ды не лае долю.
Не гані з двара яго,
Дай наесца ўволю.

## Сінічка

Асцярожна і нясмела,
(Гэта вам не верабей!)
На акно сінічка села,
Шыбу дзюбачкай дзяўбе.
Барабаніць не са злосці:



**КАСТУСЬ СЕВЯРЫНЕЦ**

Нарадзіўся 4 верасня 1952 г. у в. Унорыца на Гомельшчыне. Скончыў філфак БДУ. Настаўнічаў у вясковай школе, працаваў у мясцовых і рэспубліканскіх газетах, уласным карэспандэнтам па Віцебскай вобласці БелТА-ТАСС, рэпарцёрам на Беларускім радыё. Выдаў паэтычныя зборнікі «Пакуль дыхаю», «Пакуль квітнее бэз», «Паліфанія», кніжку вершаў для дзяцей «Там, дзе жыве вясёлка». Лаўрэат літаратурнай прэміі часопіса «Флорыда» (Маямі, ЗША, 2008) і міжнародных паэтычных фестываляў «У сценах сярэбранага веку» (Васільеўка, Украіна, 2015) і «Зорка Раства» (Запарожжа, Украіна, 2017). Жыве ў Віцебску.

— Пакармі, ціў-ціў, прашу…
Як магу, прывечу госцю,
Бліна з хлебам пакрышу.
Назаву сваёй сястрычкай…
У марозны снегавей
Прылятай часцей, сінічка,
Зімаваць удвух цяплей!

## Сустрэча

Клыпаў з вудаю рыбак,
А насустрач поўз чарвяк.
Разысціся-размінуцца
Не выходзіла ніяк.
— Ой, рыбак… — здранцвеў чарвяк.
— О-о-о, чарвяк! — крычыць рыбак.
Што было пасля і як,
Пэўна, ведае… шчупак.

## Павук

Павуціну тчэ павук.
Да яго падходзіць жук:
— Чым займаешся, сусед?
— Падключаю інтэрнэт!
Паблукаць хачу па свеце,
Паказаць яго сынам…
Кажуць людзі, ў інтэрнэце
Мухі роўныя сланам!

## VIP-персона

Гэта што за VIP-персона
Пад дажджом без парасона
Па балоце важна ходзіць,
На жабоцькаў страх наводзіць?

## Страус

Маняць: пхае страус-птаха
Галаву ў пясок са страху.
Ён, як вой, ірвецца ў бой
З галавою-булавой!

## Дзяцел

Не арол ён і не сокал.
Задзяўбаў усіх навокал:
Кожны дзень каханцы ў лес
Шле марзянкай СМС.

## Яшчэ пра дзятла

Вось што я скажу табе,
Мой унучак любы:
Дзяцел дзюбай дуб дзяўбе —
Добра будзе дубу!

## Малпачка

Не ката і не сабаку,
Завяду сабе макаку!
З весялухай-малпачкай
Скруха мне — да лямпачкі!

## Какаду

Я іду і какаду
На вяровачцы вяду.
А куды яго вяду,
Я вам не распавяду.

## Хамяк

Што ні дам я хамяку,
Ён хавае за шчаку.
Кажуць, любяць хамякі
Ласавацца з-за шчакі.

## Чарвякі

Кожны ведае чарвяк:
Чарвяку чарвяк — сваяк,
Чарвяку чарвяк — зямляк,
А па-іншаму — ніяк!

## Жукі

Лапкай тыцнуў жук жука:
— Рады бачыць дружбака!
І не журацца жукі:
Ёсць сябры — не жабракі.

## Рысь

Рысь пабачыш — сцеражыся:
Кіпці ўчэпістыя ў рысі!
Пацярпела шмат звяроў
Ад драпежных кіпцюроў.

# ПЕРАКЛАДЫ

## КАРЛІС КАЛВІШ

* * *

Акно адчыню ды гляджу я
Як людзі на ходніках слізкіх
І рукі і ногі ламаюць
Відаць што яны пэўна кожны
Узростам трыццаткі не маюць
Як жаль завалодае мною
Не мёд маладосць іх такая
Ў грудзёх падскрабу тады жменьку
Ды попелам лёд пасыпаю

* * *

Складкі клопатаў у скронях цягнуць час
Толькі б не пабачыць той мінуты
Дзе жыццё прыцісне пад абцас
Ды на вагі кіне тваё брута
— Кім ён быў? — зацяты вершаў раб
Мо без маскі й не было паэта
Змочыць вусны ў зелле сябра каб
Трапіла у кубак маё нета.

* * *

Як могілкі гораду ўсклалі аброк
Цяжкі ды няўмольны як путы
Сплацілі усё і застаўся куток
Мо з вулачак трох некрануты
Ды большасць не стала ні выць ні рыдаць

На пустках пайшлі размнажацца
Хоць ведалі ўсё давядзецца аддаць
Як прыйдуць за доўг расквітацца
Сягоння ў тым горадзе люду гурма
Бо нешта расплата марудзіць
І просяць спагады хоць жалю няма
Заплоцяць што лёс ім прысудзіць

*Пераклаў з латышскай Антон Бубала*

## ОТФРЫД ПРОЙСЛЕР

### Маленькая ведзьмачка

Жыла-была маленькая ведзьмачка, і было ёй сто дваццаць сем год, але для сапраўднай ведзьмы гэта зусім не ўзрост.

Яна жыла ў доме, які стаяў пасярод густога-густога лесу. Гэты дом, як і гаспадыня, быў невялічкім. Але маленькай ведзьмачцы было ўтульна ў ім, яна не жадала сабе лепшага дома, хоць дах і комін пакрывіліся ад ветру, а аканіцы рыпелі. За домам была пабудавана печка. Печка — гэта самае галоўнае, бо без яе дамок не быў бы сапраўдным жытлом маленькай ведзьмачкі.

Разам з маленькай ведзьмачкай жыў крумкач, які ўмеў гаварыць. Звалі яго Абрахас. Ён мог гаварыць не толькі «Добрай раніцы!» і «Добры вечар!», як і ўсе вучоныя крумкачы, ён мог гаварыць усё. Маленькая ведзьмачка вельмі яго паважала, бо ён быў вельмі мудрым крумкачом, шмат чытаў і шмат у чым кеміў.

Прыкладна па шэсць гадзін у дзень маленькая ведзьмачка вучылася вядзьмарыць. Вядзьмарства — не просты занятак! Каб дасягнуць поспеху, трэба не ленавацца. Спачатку трэба развучыць простыя вядзьмарскія прамудрасці, а потым і складаныя. Неабходна вывучыць агромністую кнігу заклінанняў, старонку за старонкай, не прапусціць ніводнага практыкавання.

Маленькая ведзьмачка была толькі на дзвесце трынаццатай старонцы гэтай кнігі, вучылася, як выклікаць дождж. Яна сядзела на зэдліку каля печкі, паклаўшы падручнік з заклінаннямі на каленкі, і вядзьмарыла. Крумкач Абрахас сядзеў побач; выглядаў ён вельмі засмучаным.

— Табе неабходна выклікаць дождж! — дакорліва груганіў Абрахас. — А ты што робіш? У першы раз пасыпаліся белыя мышкі, у другі раз — жабкі, у трэці раз — шышкі! Цікава, ці атрымаецца ў цябе выклікаць сапраўдны дождж?!



**АРЦЁМ АРАШОНАК**

Нарадзіўся 27 ліпеня 1981 г. у Віцебску. Скончыў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава па спецыяльнасці «Нямецкая і англійская мовы». Друкаваўся ў перыёдыцы і калектыўных выданнях. Аўтар кніг «Сэнр'ю» (2007) і «Суткі без цябе» (2008). Пераклаў на беларускую мову кнігу Германа Гесэ «Сідхартха» (2007), паасобныя творы Эрыха Фрыда, Эрыха Марыі Рэмарка, Генрыха Бёля, Імы фон Бадмерсгоф, Рамоны Лінке, Ханса Крупы і іншых. Уласныя творы перакладзены на англійскую, польскую і рускую мовы. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Наталлі Арсенневай (2003) Беларускага ПЭН-цэнтра. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

І маленькая ведзьмачка паспрабавала выклікаць дождж у чацвёрты раз. Яна загадала з'явіцца на небе хмарцы, падвабіла трошку бліжэй і, калі хмарка спынілася над Абрахасам, крыкнула: «Дожджык-дожджык!»

Хмарка грымнула, і на зямлю палілося кіслае малако.

— Кіслае малако! — спужана прагруганіў Абрахас. — Ты што, блёкату аб'елася?! Што выклічаш ты наступным разам? Можа, дождж з прышчэпак? Ці з чаравікавых цвікоў? Эх, каб гэта быў дождж з хлебных мякішаў ці разынак, тады іншая справа!

— Напэўна, я дзесьці наблытала ў заклінанні, — сказала маленькая ведзьмачка. Такое здаралася з ёй і раней, але каб чатыры разы запар! Неверагодна!

— Наблытала! — прабурчаў Абрахас. — Я хачу табе сказаць, у чым твая блытаніна. Ты абсалютна няўважлівая! Калі пры заклінанні думаць пра ўсё на свеце, то абавязкова наблытаеш! Табе трэба трошку засяродзіцца!

— Думаеш, з-за гэтага? — спытала маленькая ведзьмачка і раптам згарнула кнігу. — Але ты маеш рацыю! — крыкнула яна разгневана. — Правільна, я абсалютна не думаю пра заклінанне. І ведаеш чаму? — яна зірнула на крумкача Абрахаса. — Неадчэпная думка не дае мне спакою.

— Неадчэпная думка? — перапытаў Абрахас. — А пра што ты думаеш?

— Пра свае непрыемнасці, — адказала маленькая ведзьмачка, — а яшчэ сёння Вальпургіева ноч! Сёння на гары Блоксберг усе ведзьмы збяруцца на танцы!

— І што?

— А яны кажуць, што я вельмі маленькая для танцаў! Яны не жадаюць, каб я прыляцела і патанцавала разам з усімі!

Крумкач Абрахас спрабаваў суцешыць яе:

— Ведаеш, табе толькі сто дваццаць сем год і ты не можаш патрабаваць. Вось падрасцеш, тады…

— Ах вось як! — крыкнула маленькая ведзьмачка. — Але я хачу сёння танцаваць разам з імі! Разумееш?

— Калі нельга рабіць, трэба пра гэта забыць, — прагруганіў крумкач. — Ці зменіцца што з-за тваёй злосці? Будзь разумнічкай! Але… што ты збіраешся рабіць?

— Я ведаю, што зраблю, — адказала маленькая ведзьмачка. — Я сённяшняй ноччу палячу на Блоксберг!

Крумкач Абрахас спужаўся:

— Паляціш на Блоксберг? Але дарослыя ведзьмы забаранілі табе! Яны бачыць цябе не жадаюць!

— Ха! — усміхнулася маленькая ведзьмачка. — Шмат што забаронена! Але калі яны мяне зловяць…

— Яны зловяць цябе! — прарочa каркнуў Абрахас.

— Глупства! — запярэчыла маленькая ведзьмачка. — Я з'яўлюся, калі ўсе ведзьмы ўжо будуць кружыць у віхры танцу… А перад самым канцом палячу дадому. У вэрхале, які сённяшняй ноччу будзе на Блоксбергу, ніхто мяне не заўважыць.

## Ура, Вальпургіева ноч!

Прароцтвы крумкача Абрахаса зусім не напужалі маленькую ведзьмачку, і яна ноччу паляцела на гару Блоксберг.

Калі яна была на месцы, там ужо весяліліся дарослыя ведзьмы. З ускудлачанымі валасамі, у спадніцах уразлёт таньчылі яны вакол вогнішча. Тут сабраліся ўсе ведзьмы — іх было пяцьсот альбо шэсцьсот: горныя ведзьмы, лясныя, балотныя ведзьмы і тумановыя, маланкавыя і ветравыя, зёлкавыя і шумавыя. У дзікім танцы гойсалі яны адна праз адну і размахвалі сваімі мётламі.

— Вальпургіева ночка прыйшла! — спявалі ведзьмы. — Ура! Вальпургіева ночка прыйшла!

Яны скавыталі, каркалі, рагаталі, пры гэтым гарэзліва кідаліся маланкамі і градам.

Маленькая ведзьмачка незаўважна далучылася да танцаў.

— Ура! Вальпургіева ноч! — крычала яна што ёсць моцы і, зачараваная, у карагодзе каля вогнішча моўчкі разважала: «Калі б Абрахас зараз бачыў мяне! У яго б вочы ад здзіўлення былі, як у ляснога савяняці!»

Безумоўна, усё скончылася б добра і ніхто б не заўважыў маленькую ведзьму, калі б яна ў танцы не перайшла дарогу сваёй цётухне Румпумпэль. Цётухна Румпумпэль не разумела жартаў і была вельмі пагардлівай, злой ведзьмай.

— Гляньце! — закрычала яна, калі трапіла ў карагодзе на пляменніцу. — Што ты тут забыла? Ану, адказвай! Ты што, не ведаеш, што сённяшняй ноччу маладым ведзьмачкам забаронена з'яўляцца на Блоксбергу?

— Калі ласка, не выкрывай мяне! — спужана папрасіла маленькая ведзьмачка.

— Яшчэ чаго! — не сунімалася цётухна Румпумпэль. — Цябе трэба пакараць! Нахабнае дзяўчо!

Іншыя ведзьмы з цікаўнасцю абступілі абедзвюх. Ведзьма Румпумпэль злым голасам распавяла ім пра ўсё, а потым пацікавілася, што рабіць з парушальніцай.

— Яна павінна адплаціць за сваё парушэнне! — закрычалі тумановыя ведзьмы.

— Трэба адвесці яе да Галоўнай ведзьмы! На суд да Галоўнай ведзьмы! — завішчалі горныя.

— Згода! — закрычалі астатнія. — Хапай яе! Цягні да Галоўнай ведзьмы!

Маленькай ведзьмачцы не дапамаглі ні просьбы, ні жальбы.

Цётухна Румпумпэль схапіла яе за каўнер і пацягнула да Галоўнай ведзьмы. Яна сядзела на троне з агромных пячных вілачнікаў. Зморшчыўшы лоб, яна выслухала скаргу маланкавай ведзьмы, а потым загаварыла сваім грымотным голасам:

— І ты адважылася ў такую ноч прыляцець на Блоксберг? Ты што, не ведаеш, што ведзьмачкам твайго ўзросту гэта рабіць забаронена?! Як увогуле прыйшла табе такая шалёная думка?!

— Не ведаю, — маленькая ведзьмачка трымцела ад страху. — Мне проста вельмі-вельмі захацелася патанцаваць… Я села на мятлу і прыляцела сюды.

— Тады зрабі нам ласку і ляці дадому! — загадала Галоўная ведзьма. — Знікні адсюль! Неадкладна! А то я раззлуюся!

Маленькая адступніца адчула, што Галоўная ведзьма трошкі палагаднела і з ёй можна было пагаварыць.

— Можна, я тады на наступны год прылячу патанцаваць? — спытала маленькая ведзьмачка.

— Хм, — задумалася Галоўная ведзьма. — Я табе не магу зараз гэтага абяцаць. Калі ты да гэтага часу зробішся добрай ведзьмачкай, тады… магчыма… У наступным годзе акурат перад Вальпургіевай ноччу зладзім табе экзамен. Паглядзім, як ты яго вытрымаеш. Заданні будуць няпростыя!

— Дзякую табе, — адказала маленькая ведзьмачка, — дзякуй табе! Абяцаю ў наступным годзе стаць добрай ведзьмачкай. — яна села на мятлу і сабралася ляцець дадому, але тут да Галоўнай ведзьмы звярнулася цётухна Румпумпэль:

— Ты што, не пакараеш гэтае нахабнае дзяўчо?

— Пакарай! Пакарай! — закрычалі астатнія.

— Павінен быць парадак, — згадзілася Галоўная ведзьма. — Хто прылятае на танцы без дазволу, павінна запомніць пра гэта на ўсё жыццё!

— Давайце гэтую нахабную гадаўку трошку падсмажым на вогнішчы, — прапанавала цётухна Румпумпэль.

— А можа, — дадала шумавая ведзьма, — заперці яе на пару тыдняў у маім гусятніку? Ён усё адно пустуе…

Тут загаварыла адна з балотных ведзьмаў:

— У мяне ёсць лепшая прапанова. Аддайце яе мне! Пасаджу яе ў дрыгву па самыя вушы!

— Не-не, — запярэчылі зёлкавыя ведзьмы, — трэба раздрапаць ёй твар!

— Гэта занадта! — зашумелі ветравыя ведзьмы. — Але абавязкова трэба даць ёй дубцоў!

— Вербалозавых! — прашыпелі горныя ведзьмы.

— Адбярыце ў яе мятлу! — крыкнула цётухна Румпумпэль.

Маленькая ведзьмачка спужалася.

— Ціха! — прамовіла Галоўная ведзьма, калі астатнія выказаліся. — Калі вы патрабуеце пакараць маленькую ведзьмачку…

— Мы патрабуем! Мы патрабуем! — загарлалі ў адзін голас усе ведзьмы, але гучней за ўсіх галасіла цётухна Румпумпэль.

— Прапаную наступнае… — працягнула Галоўная ведзьма. — Мы адбяром у яе мятлу. І няхай яна вяртаецца дадому пешкі! Тры дні і тры ночы будзе ісці яна да свайго дома! Гэтага дастаткова!

— Гэтага недастаткова! — крыкнула маланкавая ведзьма Румпумпэль, але астатнія яе не падтрымалі, яны адабралі ў маленькай ведзьмачкі мятлу і кінулі з рогатам у вогнішча, а потым на развітанне пажадалі шчаслівай дарогі.

### План помсты

Цяжкім і доўгім было вяртанне. Маленькая ведзьмачка ішла тры дні і тры ночы. Раніцай чацвёртага дня вярнулася яна дадому са сцёртымі нагамі, у разбітых чаравіках.

— Нарэшце ты вярнулася! — сустрэў яе крумкач Абрахас, які сядзеў на коміне і ўважліва глядзеў удалячынь, чакаючы, калі з'явіцца маленькая непаслухмяніца. Калі ён убачыў на даляглядзе ведзьмачку, нібы камень зваліўся з яго крумкачовай душы, ён расправіў крылы і паляцеў насустрач.

— Цікавая гісторыя атрымоўваецца, — загрuганіў ён. — Некалькі дзён бадзяешся невядома дзе, а я дома сяджу і не ведаю, што з табой здарылася! А як ты выглядаеш! Твая спаднічка ўся запылілася! І чаму ты кульгаеш? Чаму ідзеш пешкі? У цябе ж мятла была!

— Была мятла, — цяжка ўздыхнула маленькая ведзьмачка.

— Як гэта — была? — прагрuганіў Абрахас. — Што гэта значыць?

— Гэта значыць, што яе больш няма…

— Больш няма?..

— Ага, больш няма, — паўтарыла маленькая ведзьмачка.

Мудры крумкач адразу здагадаўся, ён схіліў галаву набок:

— Значыць, яны злавілі цябе? Я ж цябе папярэджваў! Было б дзіўна, калі б яны не злавілі цябе. Ты не паслухалася…

Але маленькай ведзьмачцы было ўжо абыякава. «Спаць, толькі спаць», — стомлена думала яна.

— Эх-эх-эх! — цяжка ўздыхнуў Абрахас. — Ты хаця б пыльную спаднічку здымі!

Але маленькая ведзьмачка ціхенька захрапела.

Яна праспала, як сурок, да наступнай раніцы. Калі ведзьмачка прачнулася, Абрахас цярпліва сядзеў на ложку.

— Выспалася?

— Трошачкі, — адказала маленькая ведзьмачка і пазяхнула.

— Можа, ты распавядзеш, што з табой здарылася?

— Спачатку паснедаем! — адказала маленькая ведзьмачка. — На галодны страўнік нічога не распавядзеш.

Удосталь і смачна паснедаўшы, яна адставіла талерку ўбок і распавяла, што здарылася з ёй на гары Блоксберг.

— Табе яшчэ пашанцавала з тваёй легкадумнасцю, — сказаў мудры крумкач, калі яна завяршыла. — Цяпер толькі не забудзь, што на наступны год табе трэба зрабіцца добрай ведзьмачкай!

— Буду старацца, — паабяцала яна. — Буду займацца ў заклінаннях не па шэсць гадзін, а па сем. А яшчэ!.. Акрамя гэтага… я зраблю штосьці вельмі-вельмі важнае!

— А што менавіта?

Маленькая ведзьмачка насупіла бровы. Панура яна паглядзела ўдалячынь і сцішана прамовіла з націскам на кожным складзе:

— Я а-ба-вяз-ко-ва ад-пом-шчу ёй!

— Каму «ёй»?!

— Маёй цётухне Румпумпэль! Сапраўдная звяруга! Гэта яна ва ўсім вінаватая! Гэта яна мяне выкрыла! З-за яе я нацерла да мазалёў ногі і стаптала чаравікі! Гэта яна падбухторвала іншых супраць мяне! Гэта яна гучней за ўсіх крычала, каб Галоўная ведзьма пакарала мяне!

— Вядома! — адказаў крумкач. — Гэта неверагодная подласць з яе боку! Але помсціць?!

— Я зраблю ёй замест носа свінячае рыла! — прашыпела маленькая ведзьмачка. — Прыляплю асліныя вушы, начарую цялячыя капыты! У яе вырасце казлячая барада… А ў дадатак прышпілю ёй хвост ад каровы!

— Хвост каровы і казлячую бараду? — цяжка ўздыхнуў Абрахас. — Хіба ты гэтым раззлуеш Румпумпэль?! Яна такая ж ведзьма, як і ты, — адным махам рукі пазбавіцца яна ад тваіх прыдумак!

— Думаеш? — маленькая ведзьмачка засумнявалася, што асліныя вушы і цялячыя капыты былі добрай ідэяй. — Абяцаю, я прыдумаю штосьці лепшае — штосьці, што будзе не па сіле цётухне Румпумпэль! Ты мне верыш?

— Магчыма, — кіўнуў Абрахас. — Але я баюся, каб ты потым не пашкадавала, што зробіш нешта дрэннае цётухне Румпумпэль…

— Чаму? — здзівілася маленькая ведзьмачка.

— Ты ж паабяцала Галоўнай ведзьме, што зробішся добрай. А добрыя ведзьмы нічога дрэннага не робяць! Запомні гэта!

— Ты сур’ёзна? — маленькая ведзьмачка няўпэўнена зірнула на крумкача.

— Абсалютна, — адказаў Абрахас. — На тваім месцы я б вельмі добра падумаў.

## У краме з мётламі

Што робіць маленькая ведзьмачка, калі націрае ногі? Яна гатуе на вогнішчы мазь з ікры жабак, мышынага памёту і расцёртых зубоў кажаноў. Потым яна намазвае гэтую мазь на мазалі і чытае заклінанне з вялікай вядзьмарскай кнігі. У імгненне вока гояцца ногі!

— Вось так! Гэта мы зрабілі! — з палёгкай прамовіла маленькая ведзьмачка, калі мазь і заклінанне пачалі дзейнічаць.

— Цяпер не будзеш кульгаць? — спытаў Абрахас.

— Вось паглядзі! — крыкнула маленькая ведзьмачка і пусцілася басанож у прыпляску гойсаць па доме, а потым апранула панчохі і чаравікі.

— Куды ты сабралася? — здзівіўся крумкач.

— Я іду ў вёску. Хадзем са мной, — прапанавала маленькая ведзьмачка.

— Гэта ж далёка, — прамовіў крумкач Абрахас. — Не забывай, што ў цябе няма мятлы! Прыйдзецца зноў ісці пешкі!

— Вось-вось, няма! Але я больш не хачу хадзіць пешкі! А калі я не хачу больш хадзіць пешкі, трэба ісці пешкі ў вёску!

— Ты што, смяешся з мяне?

— З чаго гэта? Проста хачу купіць сабе новую мятлу. Канечне, калі ты не супраць.

— Тады іншая справа! — сказаў Абрахас. — Безумоўна, я пайду з табой! Не хачу, каб ты зноў знікла на некалькі дзён!

Дарога ў вёску вяла праз лес, цераз карчагі і валуны, паваленыя дубы і калючыя ажынавыя гушчары. Крумкача Абрахаса не пужала гэта, ён утульна сядзеў на плячы маленькай ведзьмы і толькі глядзеў, каб яе па шчацэ не ўдарыла якая-небудзь галінка. Маленькая ведзьмачка час ад часу спатыкалася аб карчагі і чаплялася крысом спадніцы за калючае вецце.

— Не дарога, а гора! — бурчала яна. — Адзінае суцяшае: назад паляцім на мятле.

Так яны дайшлі да вёскі і апынуліся ў краме гандляра Балдуіна Пфэфэркорна. Спадар Пфэфэркорн абсалютна не здзівіўся, калі перад ім з'явілася маленькая ведзьмачка з крумкачом на плячы. Хоць ён ніколі не бачыў ведзьм у сваім жыцці, ён прыняў яе за звычайную бабульку з суседняй вёскі.

Ён павітаўся, маленькая ведзьмачка павіталася ў адказ.

— Што я магу вам прапанаваць? — ласкава пацікавіўся спадар Пфэфэркорн.

Маленькая ведзьмачка купіла чвэрць фунта цукерак і працягнула кулёк крумкачу:

— Калі ласка, частуйся!

— Дзякуй вялікі! — прагрунаніў у адказ Абрахас.

І гэтаму спадар Пфэфэркорн абсалютна не здзівіўся.

— Якая вучоная птушка! — з павагай сказаў ён. — Што-небудзь яшчэ жадаеце?

— У вас прадаюцца мётлы? — спытала маленькая ведзьмачка.

— Канечне! Ёсць змятачкі, венікі і мётлы. Магу прапанаваць швабры. Калі трэба, ёсць і пер'евыя мяцёлачкі…

— Не. Дзякуй. Мне трэба звычайная мятла…

— З палкай? Альбо без яе?

— З палкай, — адказала маленькая ведзьмачка. — Палка — гэта самае галоўнае. І яна не павінна быць занадта кароткай.

— Такая вам падыдзе? — паслужліва пацікавіўся Пфэфэркорн. — З больш доўгімі палкамі на дадзены момант мы распрадалі.

— Думаю, падыдзе, — адказала маленькая ведзьмачка. — Я бяру яе.

— Можа, вам закруціць у абгортку? Так будзе зручней несці…

— Вы вельмі ўважлівы, — адказала маленькая ведзьмачка. — Але не трэба.

— Як пажадаеце, — спадар Пфэфэркорн падлічыў грошы і правёў маленькую ведзьмачку да дзвярэй. — Для мяне будзе гонар бачыць вас зноў, ваш пакорлівы…

«Служка», — хацеў ён дадаць, але яму перахапіла дыханку. Ён убачыў, як пакупніца села на мятлу, нешта прамармытала, і шу-у-у-сь! — мятла ўзляцела ў неба разам з маленькай ведзьмачкай і крумкачом.

Спадар Пфэфэркорн не паверыў сваім вачам.

«Барані мяне Божа! — падумаў ён. — Гэта адбываецца наяве альбо мне сніцца?»

## Добрыя намеры

Неўтаймаваным віхрам паімчала маленькая ведзьмачка ўвысь на новай мятле. Яна ляцела над дахамі вёскі, валасы пад хусткай ускалмаціліся, крумкач Абрахас сядзеў на плячы і што ёсць моцы трымаўся кіпцюрамі за кофту.

— Асцярожна! — закрычаў ён. — Званіца!

Маленькая ведзьмачка вокамгненна павярнула мятлу, яшчэ б трошачкі — і яны б засталіся вісець на спічастай вежы. Жы-ы-ы-х!.. І палова фартуха засталася ў дзюбе жалезнага пеўніка-флюгера.

— Ляці павольней! — прагрuганіў крумкач. — На гэтай шаляніцы ты сабе шыю зломіш! Ці ты звар’яцела?

— Ні кропелькі! — крыкнула маленькая ведзьмачка. — Усё з-за мятлы! Яна мяне не слухаецца!

Новая мятла нібы маладая кабылка: трэба спачатку ўтаймаваць яе і аб’ездзіць. Калі ты пры гэтым адарвеш сабе фартух, лічы, што пашанцавала.

Маленькая ведзьмачка была вельмі кемлівай і скіравала мятлу ў шырокае поле, там не было за што зачапіцца.

— Пабрыкайся, пабрыкайся! — крычала маленькая ведзьмачка мятле. — Пабрыкайся! Стомішся брыкацца — паразумнееш! Гойса-гойса!

Мятла ўсякім чынам спрабавала скінуць новую гаспадыню: скакала ўверхуніз, уздымалася на дыбы, падала, але нічога не дапамагала. Маленькая ведзьмачка трымала мятлу моцна.

У рэшце рэшт мятла стамілася і зрабілася паслухмянай. Яна падпарадкоўвалася кожнаму слову маленькай ведзьмачкі: «Хутка! Павольна! Налева! Направа! Напрасткі!»

— Ну нарэшце! — задаволена сказала маленькая ведзьмачка. — Адразу б так!

Яна паправіла валасы пад хусткай, спагадліва паляпала далонькай мятлу і няспешна паляцела над лесам.

Мятла зрабілася паслухмянай, нібы ягня. Яны павольна кружлялі над вершалінамі дрэў, далёка ўнізе праплывалі скалы і ажынавыя гушчары. Маленькая ведзьмачка ўсмешліва гайдала ножкамі ў паветры — радавалася,

што больш не трэба хадзіць пешкі. Яна махала далонькай у знак вітання зайцам і казулям, якіх бачыла ў густым лесе, лічыла лісіныя норы.

— Глядзі! Паляўнічы! — прагруганіў крумкач Абрахас і паказаў сваёй доўгай дзюбай на сцяжыну ў лесе.

— Бачу яго, — адказала маленькая ведзьмачка. Яе вусны скрывіліся. — Цьфу! — яна плюнула акурат паляўнічаму на капялюш.

— Што ты робіш? — здзівіўся Абрахас.

Яна хіхікнула:

— Хачу пазабавіцца! Хай думае, што пачаўся дождж!

Крумкач нахмурыўся.

— Так не робяць! — асуджальна сказаў ён. — Добрыя ведзьмачкі не плююць на капелюшы!

— Ай ну! Перастань! — капрызліва адказала маленькая ведзьмачка.

— Калі ласка, — пакрыўджана прагруганіў Абрахас. — Твая цётухна Румпумпэль толькі ўзрадуецца такім «жартам» і будзе кпліва пляскаць у ладкі.

— Маланкавая ведзьма? Ёй якая справа да гэтага?

— Вялікая! — крыкнуў крумкач. — Ты толькі ўяві, як яна будзе скакаць ад шчасця, калі ты наступным годам не здасі экзамен добрай ведзьмачкі! Ты хочаш даць ёй такую магчымасць?!

Маленькая ведзьмачка адмоўна заматляла галавой.

— Так і будзе, калі ты не зменішся, — сказаў Абрахас і замаўчаў.

Маленькая ведзьмачка прыцішылася. Словы мудрага Абрахаса прымусілі задумацца яе. Яна зрабілася змрочнай і паглыбілася ў разважанні: як ні круці, але крумкач Абрахас меў рацыю.

Калі яны прыляцелі дадому, маленькая ведзьмачка сказала:

— Ты правільна гаворыш. Я павінна зрабіцца добрай ведзьмачкай. Толькі такім чынам я магу нашкоднічаць гэтай Румпумпэль! Няхай яна пазелянее ад злосці!

— Так і будзе! — прагруганіў Абрахас. — Але з сённяшняга дня ты павінна рабіць толькі добрыя справы.

— Не хвалюйся! Недахопу ў добрых справах не будзе! — паабяцала маленькая ведзьмачка.

## Ураган

Маленькая ведзьмачка цяпер вучылася не па шэсць, а па сем гадзін у дзень. Да наступнай Вальпургіевай ночы яна мусіла дасканала ведаць кнігу заклінанняў. Вучэнне давалася ёй без цяжкасцяў, бо яна была вельмі малодзенькай ведзьмачкай. У хуткім часе яна вывучыла на памяць усе самыя важныя вядзьмарскія прамудрасці.

У вольны ад вучобы час маленькая ведзьмачка рабіла невялічкія падарожжы — пасля добрай навукі можна было і адпачыць. І хоць у яе была но-

вая мятла, але яна любіла прайсціся пешкі па лесе, бо ёсць вялікая розніца паміж тым, калі цябе прымушаюць ісці пешкі і калі ты сам гэтага жадаеш.

І вось аднойчы, калі маленькая ведзьмачка блукала разам з Абрахасам на плячы па лесе, яна сустрэла трох бабулек. Яны неслі за плячыма вялізныя кошыкі, апусціўшы вочы долу, быццам шукалі штосьці.

— Што вы тут шукаеце? — пацікавілася маленькая ведзьмачка.

— Мы шукаем сухое галлё і бяросту, — адказала адна бабулька.

— Але нам не шанцуе, — цяжка ўздыхнула другая. — Лес быццам мятлой вымелі.

— І даўно шукаеце? — спытала маленькая ведзьмачка.

— З самага ранку, — адказала трэцяя бабулька. — Мы ўсё шукаем і шукаем, але нават і паўкошыка яшчэ не назбіралі. Чым жа мы будзем паліць зімой нашы печкі?

Маленькая ведзьма зазірнула ў кошыкі: на донцы ляжала толькі тонкае вецце.

— Цяпер разумею, чаму ў вас такія невясёлыя твары, — сказала маленькая ведзьмачка. — Але ў чым прычына такога няўдалага збірання?

— У ветры.

— У ветры? — здзівілася маленькая ведзьмачка. — Але пры чым тут вецер?

— Ён абсалютна не хоча дзьмуць, — адказала адна бабулька.

— А калі ён не дзьме, з дрэў нічога не падае.

— Ні галінкі, ні бяростачкі! Чым нам напоўніць нашы кошыкі?!

— Ах вось у чым справа! — адказала ведзьмачка.

Бабулькі заківалі, а адна з іх працягнула: «Эх, калі б я ўмела вядзьмарыць! Я б абавязкова выклікала вецер! Але я не ўмею вядзьмарыць…»

— Так, — пагадзілася маленькая ведзьмачка. — Ты не ўмееш вядзьмарыць.

Тры бабулькі вырашылі вяртацца дадому. Яны сказалі:

— Няма сэнсу больш шукаць. Пакуль не будзе ветру, мы нічога не знойдзем… Да пабачэння!

— Да пабачэння! — адказала маленькая ведзьмачка.

— Мы ім не зможам дапамагчы? — ціхенька спытаў Абрахас.

— Зараз! — засмяялася маленькая ведзьмачка. — Толькі трымайся, каб цябе вецер не садзьмуў!

Для маленькай ведзьмачкі было забавай выклікаць вецер. Яна свіснула — і ў імгненне вока пачаўся ўраган! Ды яшчэ такі моцны! Ён прамчаўся па лесе, гайдаючы векавыя камлі, зрываючы на зямлю сухое галлё і бяросту.

Бабулькі завішчалі і схілілі галовы ад страху, аберуч што ёсць моцы прытрымлівалі свае спадніцы. Яшчэ б імгненне — і ўраган знёс бы і іх. Але маленькая ведзьмачка не дазволіла гэтага: «Досыць! — закрычала яна. — Хопіць!»

Ураган падпарадкаваўся заклінанню і адразу ж сціх. Бабулькі спужана азірнуліся па баках. Паўсюль валялася сухое галлё і бяроста. «Шчасце

якое! — узрадваліся яны ў адзін голас. — Столькі галля на зіму! Гэтага хопіць нашым печкам на некалькі тыдняў!»

Яны згрэблі ўсё ў кошыкі і радасна пайшлі дадому.

Маленькая ведзьмачка, усміхаючыся, глядзела ім услед.

Нават крумкач Абрахас радаваўся, што з ім рэдка здаралася. Ён пяшчотна дзюбнуў маленькую ведзьмачку ў плячо і сказаў: «Някепска для пачатку! Здаецца мне, што ў цябе ўсё ёсць, каб зрабіцца добрай ведзьмачкай».

**Наперад, мой сынку!**

Цяпер маленькая ведзьмачка клапацілася, каб бабулькі заўсёды вярталіся з поўнымі кошыкамі дадому. Знаёмыя збіральніцы, сустракаючы ў лесе маленькую ведзьмачку, усміхаліся ад радасці і гаварылі: «У гэтым годзе збіранне дроў — адна асалода! Лес шчодры на галлё!»

Але аднойчы маленькая ведзьмачка вельмі здзівілася, калі сустрэла заплаканых бабулек з пустымі кошыкамі. Учора вечарам яна выклікала вецер, па ўсім лесе было шмат сухога галля і бяросты.

— Хто б мог падумаць, — усхліпнулі бабулькі. — Новы ляснік забараніў збіраць нам галлё! Мы назбіралі поўныя кошыкі, а ён узяў і ўсё высыпаў назад на зямлю. Наступным разам ён абяцаў нас адправіць у турму!

— Нічога лепшага не прыдумаў! — адказала маленькая ведзьмачка. — Як толькі яму ў галаву такое прыйшло?

— Бо ён вельмі злы, — закрычалі бабулькі. — Былы ляснік не меў нічога супраць, каб мы збіралі сухое галлё. А гэты новы!.. Ух! Ты ўявіць сабе не можаш, які ён дзярыгорла! Цяпер нам назаўсёды забаронена збіраць дровы для нашых печак!

Бабулькі зноў пачалі плакаць. Маленькая ведзьмачка суцяшала іх:

— Гэтага новага лесніка я правучу! — сказала яна. — Ён паразумнее!

— Як ты гэта зробіш? — пацікавіліся бабулькі.

— Гэта мае турботы! Ідзіце дадому і не хвалюйцеся. Заўтра новы ляснік сам назбірае для вас галля столькі, колькі вам будзе трэба.

Тры бабулькі павольна пайшлі дадому. Маленькая ведзьмачка хуценька начаравала поўны кошык сухога галля, паставіла яго на лясной сцяжыне, а сама села побач, нібы стомленая бабулька. Доўга чакаць не прыйшлося, на сцяжыне з’явіўся новы ляснік. Маленькая ведзьмачка адразу пазнала яго па зялёным пінжаку, дубальтоўцы і скуранай паляўнічай торбе.

— Ага! — крыкнуў ляснік — Яшчэ адна! Што ты тут робіш?

— Адпачываю, — адказала маленькая ведзьмачка. — Кошык такі цяжкі, што сіл больш няма.

— Ты што, не ведаеш, што збіраць галлё забаронена?!

— Не, не ведаю. Адкуль мне ведаць?

— Цяпер ведаеш! — шалёна закрычаў ляснік. — Высыпай кошык і вяртайся дахаты!

— Высыпаць кошык? — перапытала маленькая ведзьмачка. — Дарагі спадар новы ляснік, няўжо няма ў вас шкадавання, няўжо вы пакрыўдзіце старую жанчыну?!

— Я табе пакажу, што такое крыўда! — зароў ляснік. Ён схапіў кошык, каб высыпаць назбіранае, але маленькая ведзьмачка сказала:

— Гэта вам не ўдасца!

— Я цябе ў турму адпраўлю, — шалёна крыкнуў ляснік і зноў схапіўся за кошык, але раптам прамовіў: — Тысячу прабачэнняў, мне проста хацелася пажартаваць. Безумоўна, ты можаш пакінуць гэтае галлё сабе…

«Што ж гэта адбываецца? — падумаў збянтэжаны ляснік. — Хацеў сказаць адно, а сказаў іншае…»

Ён жа не ведаў, што на яго падзейнічалі заклінанні маленькай ведзьмачкі.

— Вось бачыш, мой сынку, ты навучыўся ветлівасці! — сказала маленькая ведзьмачка. — Эх, каб мой кошык быў не такі цяжкі!

— Можа, табе дапамагчы? — спытаў ляснік. — Давай я табе аднясу кошык дадому…

Маленькая ведзьмачка захіхікала.

— Сапраўды, мой сынку? Так пачціва з твайго боку! Такі ветлівы малады чалавек!

«Ушчыкніце мяне хто-небудзь! — падумаў ляснік. — Што я вярзу? Нешта я не пазнаю сябе! Насуперак сваёй волі зараз павалаку цяжкі кошык!»

— Матулечка! — раптам прамовіў ён. — Калі ты стамілася, дык сядай на кошык зверху, а я данясу!

— Сур'ёзна?

— Канешне-канешне, — працягваў ветліва адказваць ляснік. — Сядай!

Маленькая ведзьмачка не прымусіла ўпрошваць сябе. У імгненне вока ўскочыла яна на кошык, а крумкач Абрахас сеў ёй на плячо.

— Усё, пайшлі! Наперад, сынку!

Ляснік хацеў шпульнуць кошык з ведзьмачкай і крумкачом куды-небудзь за далягляд, але замест гэтага паслухмяна пакрочыў, як вослік, па лясной сцяжыне.

— Заўсёды наперад! — крыкнуў Абрахас. — Шпарчэй, вослік, шпарчэй! Інакш я дзюбну цябе ў азадак!

Новага лесніка кідала то ў спёку, то ў холад, але ён усё ішоў і ішоў. Пот цёк ручаямі. Язык вываліўся. Спачатку ляснік згубіў зялёны капелюш, потым скураную паляўнічую торбу. Дубальтоўку ён таксама згубіў. Шпарка крочыў ён праз гушчар.

— Налева! — камандаваў Абрахас. — За ярам павярні направа, а потым далей — у горы!

Калі яны дайшлі да ведзьмачкінай хаткі, ляснік ледзь трымаўся на нагах ад стомы. Маленькая ведзьмачка спытала яго без аніякага шкадавання:

— Можа, сынку, пасячэш галлё мне на дровы?

— Пасяку, ахапкамі перавяжу і складу каля дроўні, — цяжка дыхаючы, адказаў ляснік і адразу схапіў сякеру.

Калі ён скончыў працу, а прайшло шмат часу, маленькая ведзьмачка сказала:

— Цяпер можаш ісці дадому. Дзякуй табе, сынку! Такога ветлівага лесніка я ўпершыню бачу ў сваім жыцці! Вось узрадуюцца бабулькі! Думаю, ты не адмовіш ім у дапамозе. Згода?..

Ляснік моўчкі, хістаючыся ад знямогі, пакрочыў дадому. У будучыні ён за кіламетр абыходзіў бабулек, якія збіралі галлё ў лесе.

Маленькая ведзьмачка пазней часцяком успаміНала з усмешкай свае хітрыкі над леснікам. Яна прызналася Абрахасу:

— Цяпер я заўсёды буду так рабіць! Я буду дапамагаць добрым людзям, а дрэнных караць. Мне гэта падабаецца!

— Інакш ты не можаш? — запярэчыў крумкач. — Добрае можна і па-іншаму рабіць. Але без тваіх гарэзлівых хітрыкаў.

— Ах, гэта вельмі сумна! — адказала яна.

— Ты ж не спрабавала! Адкуль ты ведаеш? — спытаў Абрахас.

**Папяровыя кветкі**

Аднойчы маленькай ведзьмачцы вельмі захацелася злятаць у горад і пабываць на кірмашы.

— Цудоўна! — узрадаваўся Абрахас. — І я з табой! У нашым лесе так самотна — шмат дрэў і мала людзей, а ў горадзе, асабліва на кірмашы, акурат усё наадварот!

Але ляцець да самой кірмашовай плошчы было немагчыма, пачаўся б вялікі вэрхал, людзі нават, магчыма, выклікалі б паліцыю. Таму маленькая ведзьмачка і Абрахас прызямліліся на гарадскім ускрайку і схавалі мятлу ў жытнім полі.

На кірмашовай плошчы сабралася шмат народу — каля прылаўкаў тоўпіліся хатнія гаспадыні і служанкі, сялянкі і кухаркі. Гандляркі на розныя галасы вабілі да свайго тавару, мужчыны, нібы ў адзін голас, туралі ім: «Купляйце боскапскія яблыкі! Самыя смачныя мядовыя грушы!» Жонкі рыбакоў імкнуліся найхутчэй прадаць засоленых селядцоў, мяснік — гарачыя сасіскі, ганчар — гліняныя жбаны і місы, раскладзеныя на саламянай посцілцы. «Квашаная капуста! Квашаная капуста!» — чулася з аднаго канца плошчы, «Салодкія кавуны! Гарбузы! Калі ласка!» — гучала з другога.

Але гучней за ўсіх вабіў да свайго тавару Якаб Дзешавяк. Ён стаяў пасярод плошчы, на самай высокай прыступцы калодзежа, стукаў драўляным малатком па латку, што вісеў у яго на плячах, і гарлаў на ўвесь голас:

— Купляйце, спадарства, купляйце! Сёння ўсё дзёшава! У мяне зніжкі і вялікі распродаж! Усё аддам за паўцаны! Шнуркі, нюхальная табака, падцяжкі! Брытвы, зубныя шчоткі, заколкі! Прыхваткі, абутковыя шчоткі, часночны соус! Не праходзьце міма, шаноўнае спадарства! Купляйце, купляйце! Якаб Дзешавяк заўсёды да вашых паслуг!

Маленькая ведзьмачка радавалася, што апынулася ў людскім гушчары, павольна ішла разам з вялікім натоўпам. Яна пачаставалася мядовымі грушамі і квашанай капустай з бочкі. За некалькі крэйцараў яна купіла ў Якаба Дзешавяка запальніцу, а ў падарунак атрымала шкляны пярсцёнак.

— Вялікі дзякуй! — пакланілася маленькая ведзьмачка.

— Калі ласка! — адказаў Якаб і зноў пачаў пастукваць драўляным малатком. — Не праходзьце міма, шаноўнае спадарства! Купляйце, купляйце! Якаб Дзешавяк заўсёды да вашых паслуг!

У самым далёкім, цёмным закутку плошчы моўчкі стаяла худзенькая дзяўчынка з поўным кошыкам папяровых кветак. Людзі, нібы не заўважаючы яе, праходзілі міма — ніхто не хацеў купляць у яе.

— Было б добра, калі б ты дапамагла ёй, — сказаў Абрахас. — Горка глядзець на гэтае дзяўчо.

Маленькая ведзьмачка праціснулася праз натоўп і спытала дзяўчынку:

— Не можаш прадаць кветкі?

— Ах, — адказала дзяўчынка. — Хто купіць летам папяровыя кветкі? Мама зноў будзе плакаць. Калі вечарам не прынясу грошы, мы не зможам купіць хлеба. А ў мяне сямёра братоў і сястрычак, тата памёр мінулай зімой. Адзінае, што мы ўмеем рабіць, гэта толькі папяровыя кветкі. Але іх ніхто не купляе.

Маленькая ведзьмачка слухала са спачуваннем. Яна задумалася на хвіліну, як жа дапамагчы дзяўчынцы, і раптам цудоўная ідэя прыйшла ёй у галаву:

— Не разумею, чаму людзі не купляюць тваіх кветак! У іх такі чароўны водар!

У вачах дзяўчынкі з’явіўся недавер:

— Водар?! Папяровыя кветкі могуць пахнуць?

— Так-так, — на поўным сур’ёзе адказала маленькая ведзьмачка. — Іх водар чароўнейшы за водар сапраўдных кветак! Ці ты яго не адчуваеш?

Папяровыя кветкі сапраўды пахлі чароўна! Гэты водар адчула дзяўчынка і ўсе людзі на плошчы. Усе пачалі шморгаць насамі. «Што гэта так чароўна пахне? — пыталіся яны адзін у аднаго. — Неверагодна! Кажаце, папяровыя кветкі! Дзе магчыма купіць? Я абавязкова куплю! Ці дорага каштуюць яны?»

Усе, хто меў нос і ногі, памкнулі да закутка, дзе стаяла дзяўчынка з кошыкам. Шпарка беглі хатнія гаспадыні і служанкі, сялянкі і кухаркі. Жонкі рыбакоў пакідалі селядцоў у бочкі, мяснік забыў пра сваю печку з сасіскамі, а гандляркі садовымі дарамі — кавуны і гарбузы. Усе-ўсе беглі да гандляркі папяровымі кветкамі. Нават Якаб Дзешавяк прыбег са сваім латком на плячах. Па прычыне, што ён быў апошнім, ён узняўся на цырлы і закрычаў праз натоўп: «Гэй! Мілая дзяўчынка з папяровымі кветкамі! — махаў ён рукамі. — Ты мяне чуеш? Гэта я, Якаб Дзешавяк! Пакінь мне абавязкова адзін букецік! Самы-самы маленькі! Чуеш мяне? Самы маленькі!»

— Ніякіх выключэнняў! Нават для Якаба Дзешавяка! — закрычалі незадаволена людзі, што стаялі ў першых шэрагах. — Прадавай кветкі па чарзе!

«Пашанцавала нам, што мы першыя», — думалі людзі.

Безумоўна, кветак на ўсіх не хапіла б, але дзяўчынка прадавала, прадавала і прадавала, а кошык усё не пусцеў. Усе атрымалі па букецiку — нават Якаб Дзешавяк.

— Проста не верыцца! Як гэта ўсім хапіла? — пацiскалі людзі плячыма ад здзіўлення.

Дзяўчынка таксама была ў здзіўленні. Усё растлумачыць змагла б маленькая ведзьмачка, але яна разам з Абрахасам знікла — яны ўжо крочылі ціхімі вуліцамі за горад. Трэба было яшчэ адшукаць мятлу ў жытнім полі.

Маленькая ведзьмачка ўсё яшчэ думала пра дзяўчынку, на яе твары з’явілася ўсмешка. Крумкач Абрахас дакрануўся дзюбай да шчакі ведзьмачкі і паказаў крылом на чорную хмарку, што імкліва ляцела па небе. Нічога дзіўнага ў гэтым не было б, калі б з хмаркі не паказалася мятла.

— Глядзі! — крыкнуў Абрахас. — Цётухна Румпумпэль! Старая нягодніца сачыла за табой?

— Усё ёй трэба ведаць! — буркнула маленькая ведзьмачка.

— І няхай ведае! — адказаў мудры крумкач. — Няма чаго хаваць ад яе! А тое, што ты зрабіла сёння, тым больш!

**Добрая навука**

Некалькі дзён запар дождж ліў без перапынку. Маленькай ведзьмачцы не заставалася нічога іншага, як сядзець дома і, пазяхаючы, чакаюць добрага надвор’я. Каб прагнаць самоту, яна час ад часу трошку вядзьмарыла. Скалка і качарга танцавалі на пліце вальс, шуфлік кувыркаўся, а бочка з алеем, нібы драўляная галава, каталася па падлозе. Але гэта ўсё ёй хутка надакучыла. Калі зноў заззяла сонца, маленькая ведзьмачка ні хвілінкі не хацела заставацца дома.

— Свабода! — узрадавана крыкнула яна. — Ляцім праз трубу! Трэба паглядзець, магчыма, дзесьці ёсць над чым павядзьмарыць!

— Так-так, для добрых спраў можна і павядзьмарыць! — нагадаў Абрахас.

Імгненне — і яны ўжо ляцелі над лесам, над лугам. Паўсюль зіхацелі лужыны. Дарогу размыла, і сяляне павольна шлёпалі па калена ў гразі.

Дарога ў горад таксама ператварылася ў роствань. Па ёй марудна ехала павозка з піўнымі бочкамі. Пара коней ледзь цягнула па калюжы цяжкі груз. Яны, потныя, знямоглыя, пакорліва крочылі па бездарожжы. Вознік, які сядзеў у развалку на козлах, крычаў на коней:

— Но! Цягніце, нягоднікі! — зноў і зноў бязлітасна падганяў ён іх пугай.

— Якая несправядлівасць! — загрувганіў Абрахас. — Нелюдзь! Ён лупцуе конікаў, нібы скуралупных спраў майстар! Хіба магчыма спакойна глядзець на гэта?

— Супакойся, — адказала маленькая ведзьмачка. — Ён зараз ад гэтага адвучыцца.

Ведзьмачка і Абрахас пайшлі следам за павозкай, пакуль яна не спынілася ў вёсцы каля карчмы «У льва». Вознік выгрузіў пару бочак піва, перакаціў іх праз двор у падвал і пайшоў да карчмара паабедаць. Змучаных коней ён пакінуў зацугланымі стаяць на вуліцы. Ні жмутка сена, ні прыгаршчы аўса ён ім не даў.

Маленькая ведзьмачка падчэквала за свірнам, калі вознік зойдзе ў карчму, потым выскачыла з-за вугла, падбегла да коней і загаварыла на іх мове:

— Ён над вамі заўсёды так лютуе?

— Заўсёды, — адказалі коні. — Але бачыла б ты яго, калі ён п’яны, калі ён шалее… Ён б’е нас тады пугаўём. Паглядзі на шнары на нашых спінах, ты зразумееш, які ён…

— Трэба, каб гэты малойчык запомніў на ўсё жыццё, — сказала маленькая ведзьмачка. — Ганьба за тое, што робіць ён з вамі! Вы мне дапаможаце яго правучыць?

— Добра… А што ад нас патрабуецца?

— Калі ён вернецца і сядзе на козлы, вы як статуі павінны стаяць на месцы! Ні падковы наперад!

— О, ты зашмат ад нас патрабуеш! — цяжка ўздыхнулі коні. — Пабачыш, ён саб’е нас на горкі яблык!

— Абяцаю: ніякай шкоды ён вам не зробіць, — адказала маленькая ведзьмачка.

Яна падышла да павозкі, узяла пугу і завязала на ёй маленькі вузельчык. Усё! Цяпер са спакойнай душой яна вярнулася за свіран і стала чакаць, калі вернецца вознік.

Праз хвіліну ён выйшаў з карчмы — добра падпіўшы, смачна паеўшы. Ад асалоды насвістваючы немудрагелістую мелодыю, ён прайшоў па двары і залез на козлы, у левую руку ўзяў лейцы, а правай, па звычцы, пацягнуўся за пугай.

— Но! — крыкнуў ён і прыцмокнуў языком. — Паехалі!

Коні не зварухнуліся, і гэта яго раззлавала.

— Чакайце, лянівыя чучкі, я вам пакажу зараз! — зароў ён і замахнуўся пугай.

Але прамахнуўся! Пуга зрабіла ў паветры дугу над спінамі коней і з усяго маху ўдарыла возніка па вуху!

— Чорт! — вылаяўся ён і зноў махнуў пугай, але і на гэты раз прамахнуўся.

Вознік пачырванеў ад злосці. Ён ускочыў. Як ашалелы, махаў ён пугай, спрабуючы ўдарыць па конях, але пуга не слухалася і біла яго — то па шыі, то па галаве, то па руках, то па жываце, то па азадку.

— Пярун з маланкамі! — зароў ён. — Так не пойдзе!

Ён з усёй злосці схапіўся за пугу і што ёсць моцы размахнуўся, але трапіў сабе па носе. Пацякла кроў. Пуга выпала ў яго з рук, уваччу пацямнела, усё вакол захісталася. Трошку апрытомнеўшы, ён убачыў побач з павозкай маленькую ведзьмачку.

— Яшчэ раз возьмеш пугу, — пагразіла яна кулаком, — атрымаеш тое ж самае, што і зараз! Зарубі сабе гэта на носе! А цяпер едзь адсюль! Но!..

Яна махнула рукой, і коні пакорліва рушылі наперад. На развітанне яны павярнулі свае галовы і па-сяброўску заржалі: «Дзякуй табе вялікі! Дзякуй!»

Пахмурнелы вознік сеў на козлы. Цяжка ўздыхнуўшы, ён прамармытаў сабе пад разбіты нос: «Больш ніколі ў жыцці не вазьму пугу ў рукі!»

### Пятнічныя госці

Пятніца для ведзьмаў — гэта тое самае, што для звычайных людзей нядзеля. У нядзелю людзі не працуюць, а ведзьмы ў пятніцу не вядзьмараць. За вядзьмарства па пятніцах прадугледжана пакаранне.

І маленькая ведзьмачка сумленна прытрымлівалася гэтага правіла, хоць вельмі спакуслівым было жаданне яго парушыць. У чацвер вечарам яна замкнула мятлу на ключ, а кнігу заклінанняў паклала ў шуфлядку. Мала што здарыцца…

Усю пятнічную раніцу яна праспала. Бо што рабіць, калі вядзьмарыць нельга? Пасля сняданку яна звычайна рабіла невялікія вандроўкі па лесе альбо адпачывала, седзячы каля печкі.

— Была б адна пятніца на два месяцы, і дастаткова! — час ад часу бурчала яна.

Гэта гісторыя адбылася ў пятніцу ў канцы лета. Маленькая ведзьмачка, як заўжды, сядзела каля печкі і сумавала. Ёй вельмі-вельмі хацелася павядзьмарыць.

Раптам пачуліся крокі і ў дзверы нехта пастукаў.

— Так-так! — адгукнулася маленькая ведзьмачка. — Зараз іду!

Яна ўскочыла і з цікаўнасцю пабегла паглядзець, хто гэта завітаў да яе ў госці.

Перад яе домам стаялі хлопчык і дзяўчынка. Яны трымаліся за рукі і, калі ўбачылі маленькую ведзьмачку, хорам павіталіся: «Добры дзень!»

— Добры дзень! — адказала маленькая ведзьмачка. — Што вы жадаеце?

— Мы хацелі спытаць цябе пра дарогу ў горад, — адказаў хлопчык. — Мы заблукалі ў лесе.

— Мы шукалі грыбы, — дадала дзяўчынка.

— Так-так, — паўтарыла маленькая ведзьмачка. — Шукалі грыбы.

Яна запрасіла дзяцей у дом, пасадзіла за стол, прыгатавала ім каву і дала кожнаму па кавалку пірага. Потым маленькая ведзьмачка спытала, як іх клічуць. Хлопчык называўся Томас, а дзяўчынка — Вроні. Яны былі братам і сястрой. Іх бацькі былі гаспадарамі гасцініцы, а таксама карчмы «Два быкі», што месцілася ў горадзе на Рынкавай плошчы, насупраць калодзежа.

— Ведаю гэтую карчму, — сказала маленькая ведзьмачка.

— А ты? — спытаў Томас і зрабіў глыток кавы. — Хто ты?

— Адгадай!.. — хіхікнула ведзьмачка.

— Адкуль мне ведаць? Скажы, калі ласка…

— Я ведзьмачка, а гэта мой утульны дамок.

— Ой! — спужалася дзяўчынка. — Ты… ты — сапраўдная ведзьма? І ўмееш вядзьмарыць?

— Не пужайцеся, — супакоіў іх Абрахас. — Яна добрая ведзьмачка і нічога дрэннага вам не зробіць.

— Безумоўна, не зраблю, — дадала маленькая ведзьмачка, даліла ім кавы, а потым запытала: — Можа, вам што-небудзь навядзьмарыць?

— Стой! — крыкнуў Абрахас. — Ты што, забыла, што сёння пятніца? Не думай вядзьмарыць!

Маленькая ведзьмачка трошку паразважала:

— А мы зачынім аканіцы і дзверы, ніхто нічога і не даведаецца, — адказала яна і пасунула засоўку.

Пачалося вядзьмарства. На стале з’явіліся марская свінка, хамяк і чарапашка. Хамяк з марской свінкай узняліся на заднія лапкі і закружыліся ў танцы. Чарапашка танцаваць не захацела.

— Давай, патанцуй трошкі! — прыкрыкнула маленькая ведзьмачка.

Воляй-няволяй прыйшлося танцаваць і чарапашцы.

— Цудоўна! — узрадваліся Томас і Вроні. — Ты сапраўды гэта ўмееш!

— Гэта толькі пачатак, — адказала маленькая ведзьмачка.

Марская свінка, хамяк і чарапашка зніклі. Вядзьмарства працягвалася. Маленькая ведзьмачка прачытала заклінанне — і печка заспявала, у кафейніку выраслі кветкі, а на паліцы пад столлю пачаўся лялечны спектакль, у якім усе ролі выконвалі драўляныя лыжкі і чарпалкі. Дзеці не маглі наглядзецца на ўсё гэта.

— Яшчэ што-небудзь! Яшчэ… — прасілі яны зноў і зноў.

Маленькая ведзьмачка вядзьмарыла дзве гадзіны запар без перапынку, а потым сказала:

— Усё! Хопіць! Вам трэба вяртацца дадому.

— Ужо?

— Так. Самы час. Вы ж не жадаеце ноччу прыйсці дадому, праўда?

Толькі цяпер дзеці заўважылі, што пачало вечарэць. Яны ўзялі свае кошыкі.

— Ух ты, — здзіўлена прамовіў Томас. — За ўвесь дзень мы назбіралі толькі некалькі лісічак, а цяпер у нашых кошыках адны баравікі!

— Чаго толькі не бывае! — быццам здзіўленая, усміхнулася маленькая ведзьмачка.

Потым яна праводзіла дзяцей да дарогі ў горад.

— Дзякуй вялікі! — сказала на развітанне Вроні. — Можа, ты калі-небудзь прыйдзеш да нас у госці? Мы паказалі б табе нашу гасцініцу з карчмой, і кухню, і падвал, і быка Карбініяна.

— А хто гэта? — спытаў Абрахас.

— Гэта наш любімчык! — радасна адказаў Томас. — Паслухмяны бык, на якім можна нават пакатацца. Прыходзь абавязкова!

— Мы прыйдзем, — адказала маленькая ведзьмачка. — Калі вам будзе зручна?

— У нядзелю, праз два тыдні, — прапанаваў Томас. — Будзе свята стральцоў. Давайце сустрэнемся на святочным лузе!

— Дамовіліся, — адказала маленькая ведзьмачка. — У нядзелю, праз два тыдні. Ну, а цяпер бяжыце!

Томас і Вроні ўзяліся за рукі і пабеглі ў горад, а маленькая ведзьмачка пайшла па сцяжыне да свайго ўтульнага дома. «Эх, каб так хутка пралятала кожная пятніца!» — падумала яна.

Калі яна вярнулася, над комінам дома вісела чорная, як дзёгаць, хмара.

— Глядзі! — загруганіў Абрахас. — Маланкавая ведзьма Румпумпэль сачыла за намі. Напэўна, праз комін.

— А можа быць, гэта звычайная чорная хмара, — адказала маленькая ведзьмачка. — Ніякай мятлы я не бачу.

Але на душы з'явіўся неспакой. А што, калі гэта была сапраўды цётухна Румпумпэль? Што за няўдача! Яна абавязкова паскардзіцца Галоўнай ведзьме.

— Пабачым, што будзе, — сцішана сказала маленькая ведзьмачка.

Яна чакала дзень, чакала другі, трэці, чакала тыдзень, але нічога не адбывалася, яе не выклікалі да Галоўнай ведзьмы.

З палёгкай падумала маленькая ведзьмачка: «Значыць, гэта была не цётухна Румпумпэль!»

## Трошку вядзьмарства на святе стральцоў

Звінелі званы, грымелі петарды, на святочным лузе сярод вясёлага люду яблыку не было дзе ўпасці. Маленькая ведзьмачка паўсюль шукала Томаса і Вроні. Яна павольна праціскалася скрозь натоўп. Крумкач Абрахас ледзь шыю сабе не вывіхнуў ад пошукаў у гэтай цісканіне.

Дзе ж схаваліся брат і сястра?

Яны сядзелі, журботна паглыбленыя ў свае думкі, каля вялікага святочнага шатра. Там іх і знайшла маленькая ведзьмачка пасля працяглых пошукаў.

— Ну і ну! — заківала галавой маленькая ведзьмачка ад здзіўлення. — Такія журботныя вочы! Што за журба на святе стральцоў?!

— Такая вось, — адказаў Томас. — Наш бацька ў якасці галоўнага прыза стральцам аддае нашага быка.

— Быка Карбініяна? — спытала маленькая ведзьмачка.

— Так, — усхліпнула Вроні. — Самы трапны стралец атрымае нашага быка.

— І гэты шчаслівчык заб'е і засмажыць яго, — дадаў Томас. — А потым усе стральцы яго з'ядуць!

— А калі ніхто не выйграе? — сказала маленькая ведзьмачка. — Такое ж можа здарыцца…

— Такога не бывае, — запярэчыў Томас. — Не бывае свята стральцоў без пераможцы!

— Ах, шмат усякага бывае! — адказала маленькая ведзьмачка, прыдумаўшы добры план. — Хадзем следам за мной. Усё будзе добра!

Брат і сястра нерашуча пайшлі за ведзьмачкай на луг. Там ужо роўнымі шыхтамі крочылі стральцы. Наперадзе з шабляй нагало маршыраваў галоўны стралец; у канцы калоны плёўся бык Карбініян, упрыгожаны стракатымі стужкамі і бантамі.

— Ура! — гарлалі людзі, усім хацелася пабачыць, хто са стральцоў выйграе быка.

— Атрад, стой! — скамандаваў галоўны стралец і загадаў аркестру граць туш.

— Ціха! Галоўны стралец выступіць з прамовай! — пачулася ў натоўпе.

— Для мяне вялікі гонар, — пачаў галоўны стралец, — вітаць усіх прысутных на сvяце стральцоў! Наша асаблівая падзяка спадару карчмару «Двух быкоў», які ласкава ахвяраваў нам у якасці галоўнага прыза жывога быка.

— Ура! — яшчэ гучней закрычалі людзі. — Доўгіх год жыцця карчмару! Віват высакароднаму мецэнату!

Галоўны стралец махнуў шабляй і сказаў:

— Аб’яўляю наша свята стральцоў адкрытым!

На ўскрайку лугу стаяў высокі слуп з драўляным арлом на вяршыні — у яго і павінны былі патрапіць стральцы.

Галоўны стралец стрэліў першым — прыкры промах.

— Бывае, — сказалі людзі.

Галоўны стралец сарамліва адышоўся назад.

Цяпер спрабаваў сцяганосец, ён прыцэліўся і стрэліў, але зноў міма.

Людзі пачалі ціхенька пасміхацца, а потым усе зарагаталі. Калі хтосьці са стральцоў не можа трапна цэліць, дык такое бывае, але каб усе стральцы давалі маху, дык гэта смех дый годзе. Хіба такое можа быць?

— Неверагодна! — прабурчаў галоўны стралец і закусіў свой доўгі вус. Ён быў гатовы скрозь зямлю ад такой ганьбы праваліцца. Ён жа не ведаў, што маленькая ведзьмачка наслала чары на ўсе іх дубальтоўкі. Але Томас і Вроні здагадаліся, у чым справа! Яны радаваліся, калі чарговы стрэл ляцеў міма. «Цудоўна! — крычалі яны. — Цудоўна!»

Калі стрэліў апошні стралец, маленькая ведзьмачка сказала Томасу:

— А цяпер ты паспрабуй!

— Я? Што я павінен рабіць?

— Страляць!

Хлопчык пагадзіўся. Ён праціснуўся праз натоўп і апынуўся на стрэльбішчы.

— Я саб’ю арла са слупа!

— Ты, хлопча? — крыкнуў галоўны стралец і хацеў прагнаць смельчака. Але людзі незадаволена зашумелі:

— Дазволь! Няхай паспрабуе! Мы жадаем паглядзець на гэта!

Усе думалі, што гэта яшчэ больш павяселіць усіх.

Галоўны стралец сказаў раздражнёна:

— З мяне досыць… Пабачым, які ён шчаслівчык.

Томас схапіў дубальтоўку, прыклаў яе да пляча, як дасведчаны стралец, і прыцэліўся.

У людзей перахапіла дыханне. Яны ўзняліся на цырлы і ўважліва глядзелі на драўлянага арла.

Стрэл, дым! Імгненне — і драўляны арол зваліўся на зямлю. Томас выйграў, яго абʼявілі пераможцам!

— Ур-р-р-а! — закрычалі ўсе і замахалі капелюшамі. — Гонар і доўгіх год жыцця Томасу! Томас — сын карчмара выйграў быка! Віншуем з узнагародай!

Людзі падбеглі да стрэльбішча, узнялі на рукі ўдалага стральца і загарлалі:

— На быка яго! На быка!

— І мяне таксама! — крыкнула Вроні.

— Давай руку! — сказаў Томас. — Гэта ж і твой бык!

Яны б пасадзілі побач з сабой на спіну быка Карбініяна і маленькую ведзьмачку, але яна не захацела. Томас і Вроні вярхом на быку паехалі ў горад.

Наперадзе ішоў аркестр стральцоў і граў вясёлыя маршы адзін за другім. За імі, апусціўшы галовы, крочылі галоўны стралец і сцяганосец. Людзі ўзрадавана махалі ім і крычалі: «Брава! Слава новаму каралю стральцоў!»

Скрозь натоўп праціснуўся карэспандэнт з газеты, выцягнуў занатоўнік з алоўкам і спытаў у Томаса і Вроні:

— Калі будзеце смажыць быка?

— Мы ніколі яго не будзем смажыць, — адказаў Томас. — Ён вяртаецца на сваю стайню і застанецца там жыць.

Звінелі званы, грымелі петарды, і ніхто не заўважыў, як за вялікім шатром маленькая ведзьмачка села на мятлу і паляцела над лугам.

— Яшчэ адна добрая справа табе ўдалася! — пахваліў яе Абрахас. — Думаю, табе даруюць вядзьмарства ў пятніцу.

**Гандляр іспанскімі клёцкамі**

Надышла зіма. У лесе віхрыла завіруха, снегу намяло пад самыя аканіцы. Маленькая ведзьмачка сумавала, седзячы дома. Дні напралёт яна грэлася каля кафлянай печкі, на нагах былі апрануты лямцавыя пантофлі. Час ад часу яна пляскала ў далонькі — кожны раз, як яна гэта рабіла, паленца само выскоквала з вязанкі і ляцела ў печку. Калі ёй хацелася зʼесці печанага яблыка, дастаткова было шчоўкнуць пальцамі — і адразу з кладоўкі выкотваліся яблыкі і заскоквалі самі на гарачую пліту.

Абрахасу падабалася такія няспешныя дні, ён увесь час паўтараў: «Хоць і зіма, а ў нас цёпла і ўтульна!»

Але маленькай ведзьмачцы паступова надакучыла гультайскае жыццё. Аднойчы яна сказала панура:

— Усю зіму сядзець каля печкі і грэць ножкі? Мне трэба рухацца, мне неабходна свежае паветра. Давай, Абрахас, палятаем трошкі!

— Што?! — здзівіўся Абрахас. — Кім ты мяне лічыш? Я ж не палярная сава! Гэты сабачы холад не для маіх крылаў! Дзякуй табе вялікі за прапанову! Давай лепш застанёмся дома, каля цёплай печкі!

— Ну і добра, як хочаш! Можаш заставацца дома, — адказала маленькая ведзьмачка. — Тады я палячу адна. Мароз мяне не пужае. Я цёпла апрануся.

Маленькая ведзьмачка апранула сем спадніц адна на адну, павязала вялізную шарсцяную хустку, абула валёнкі, а на рукі нацягнула дзве пары рукавічак. Апранутая, яна села на мятлу і вылецела праз комін на вуліцу.

Ну і сцюдзёна было ў лесе! Зіма ўпрыгожыла дрэвы бялюткімі кажушкамі, ухутала снегам каменне і мох. Між высокіх сумётаў блыталіся сцяжынкі звяроў і сляды лыжнікаў.

Маленькая ведзьмачка накіравалася ў бліжэйшую вёску. Дамы замяло снегам, а царкоўную званіцу ўпрыгожыла пухнатая іскрыстая шапачка. З усіх комінаў валіў густы дым. Маленькая ведзьмачка ляцела і чула, як у свірнах сяляне з парабкамі малолі жыта: жых-жых-жых — аднастайна гудзелі жорны.

На ўзгорку за вёскай чуўся вясёлы смех — дзеці каталіся на санках, лыжах. Маленькая ведзьмачка з цікаўнасцю глядзела на іх, як шпарка яны навыперадкі спускаліся па заснежаных схілах. Па вуліцы ехаў снегаачышчальнік, зацугляны ў пару мажных коней. Маленькая ведзьмачка накіравалася следам за ім, а потым далучылася да зграі крумкачоў, што ляцелі ў горад.

«Трэба і ножкам працы даць трошкі. Тады і сагрэюся. Пайду ў горад пешкі», — падумала маленькая ведзьмачка.

Нягледзячы на сем спадніц і дзве пары рукавічак, мароз прабіраў да слёз.

На гэты раз мятлу можна было не хаваць. Маленькая ведзьмачка ўзяла яе пад пахі. Ведзьмачка выглядала як звычайная бабулька, якая ішла чысціць снег. Мінакі абсалютна не здзіўляліся, калі бачылі яе, яны спешна праходзілі міма, хутаючыся ў высокія каўняры.

Маленькай ведзьмачцы вельмі хацелася зазірнуць у вітрыну крамы, але за марознымі ўзорамі на шыбе нічога не было відаць. Вада ў гарадскім калодзежы замерзла, а пад шыльдай карчмы віселі вялікія ледзякі.

Пасярод Рынкавай плошчы стаяла вузкая зялёная будка. Перад ёй была выстаўлена невялікая жалезная печка. Каля печкі, прытуліўшыся да будкі, стаяў маленькі, зморшчаны чалавечак. Ён быў апрануты ў рамізніцкі кажух і валёнкі. Каўнер быў узняты, шапка-аблавуха насунута на бровы. Час ад часу чалавечак чхаў. З кожным чыхам печка пачынала шыпець.

— Што ты тут робіш? — спытала чалавечка маленькая ведзьмачка.

— Ты што не бачыш? Я… А-а-а-пчхі! Я гатую іспанскія клёцкі.

— Іспанскія клёцкі? Што гэта?

— Гэта каштаны, — растлумачыў чалавечак. Ён зняў накрыўку патэльні і запытаўся: — Хочаш пакаштаваць? Дзесяць пфенінгаў — маленькі пакецік, дваццаць — вялікі. А-а-а-пчхі!

Маленькая ведзьмачка адчула водар смажаных каштанаў:

— Я б пакаштавала, але ў мяне з сабой няма грошай.

— Тады вазьмі парачку каштанаў бясплатна, — адказаў чалавечак. — У такі сабачы холад табе абавязкова трэба з'есці што-небудзь гарачанькае. А-а-а-пчхі! Праўду кажу!

Чалавечак зняў рукавічку і высмаркаўся. Потым ён набраў жменьку каштанаў, паклаў у пакецік з карычневай паперы і аддаў маленькай ведзьмачцы:

— Трымай! Але перад тым, як пакласці каштан у рот, пачысці яго ад лупінак.

— Дзякуй вялікі! — адказала маленькая ведзьмачка і надкусіла каштан. — М-м-м, смаката! — прамовіла яна, зажмурыўшыся ад асалоды, а потым дадала: — Ведаеш, табе можна пазайздросціць! Лёгкая ў цябе праца, стой цэлы дзень каля печкі ды грэйся.

— Не гавары гэтак, — запярэчыў чалавечак. — Калі стаіш цэлы дзень на марозе, дык холад да касцей працінае і ніякая печка не дапаможа. А ў дадатак яшчэ пальцы можна абпаліць, калі з патэльні бярэш гарачыя іспанскія клёцкі! А-а-а-пчхі! А яшчэ ў мяне ногі зрабіліся як два ледзякі! І нос таксама! Бачыш, пачырванеў, нібы калядная свечка! Насмарк зусім замучыў… Сіл больш няма!

Чалавечак з усёй сілы высмаркаўся. Ад гэтага драўляная будка падскочыла, рэхам адгукнулася на Рынкавай плошчы.

І тут маленькай ведзьмачцы прыйшла выдатная думка!

— Чакай! — яна прамармытала заклінанне, а потым спытала: — Ну, а цяпер? Пальцы на нагах не мерзнуць?

— Марозу як не бывала, — адказаў чалавечак. — І нос таксама не мерзне. Што за дзіва?

— Не пытайся мяне, — сказала маленькая ведзьмачка з усмешкай. — Мне трэба ляцець дадому.

— Ляцець дадому?!

— Я сказала «ляцець»? Напэўна, табе пачулася.

— Можа быць, — усміхнуўся чалавечак. — Да пабачэння!

— Да пабачэння! — сказала маленькая ведзьмачка. — Вялікі-вялікі дзякуй!

— Калі ласка! Калі ласка! Няма за што!

Раптам на Рынкавую плошчу з крыкам выбеглі два хлопчыкі: «Хутчэй! Хутчэй! Гандляр іспанскімі клёцкамі! Зрабі нам па пакеціку за дзесяць пфенінгаў!»

Гандляр схапіўся за патэльню.

Упершыню за доўгае жыццё ён не абпаліў сабе пальцы, ён увогуле іх больш ніколі не абпальваў. І больш ніколі не мерзлі пальцы на нагах. І нос таксама. А самае галоўнае — насмарк больш ніколі не дакучаў яму. А чхаў

зараз гандляр іспанскімі клёцкамі не ад насмарку, а толькі ад добрай панюшкі табакі.

### Сем спадніц і адно заклінанне

Калі маленькая ведзьмачка вярнулася дадому, крумкач Абрахас адразу пачаў распытваць яе пра падарожжа. Але ў маленькай ведзьмачкі зуб на зуб не трапляў ад холаду:

— Па-па-пазней рас-рас-распавяду табе, т-т-трэба спачатку выпіць га-га-гарбаты. Мне так хо-хо-ла-ладна, нават язык за-за-замерз.

— Вось бачыш! — прагруганіў Абрахас. — А я табе гаварыў, што не варта лётаць у такі сабачы холад! Ты мяне не паслухалася!

Маленькая ведзьмачка заварыла сабе вялікі кубак зёлкавай гарбаты, падсаладзіла яе цукрам і зрабіла глыток. Цеплыня разлілася па ўсім целе, сілы вярнуліся. Яна зняла ўсе сем спадніц, сцягнула боты, панчохі, апранула лямцавыя пантофлі і прамовіла:

— Я да касцей змерзла, гэтага не аспрэчыць. Але шчыра табе скажу, Абрахас, падарожжа атрымалася ўдалым, незабывальным!

Яна села на зэдлік каля печкі і пачала распавядаць пра свае прыгоды. Крумкач Абрахас моўчкі слухаў яе. Як толькі яна завяршыла гісторыю пра гандляра іспанскімі клёцкамі, крумкач перапыніў яе і занепакоена загруганіў:

— Ведаеш, я абсалютна нічога не разумею! Гэтага гандляра ты выратавала ад холаду сваім вядзьмарствам, а пра сябе зусім забыла? Што застаецца сказаць у такім выпадку разважліваму крумкачу?..

— Што ты хочаш сказаць? — спытала маленькая ведзьмачка.

— А што гаварыць? Калі б я быў маленькай ведзьмачкай і ўмеў вядзьмарыць, мне не спатрэбілася б зараз піць зёлкавую гарбату, каб сагрэцца! Я б не даў холаду замарозіць сябе!

— Але я зрабіла ўсё, што магла! — адказала маленькая ведзьмачка. — Я апранула дзве пары рукавічак, валёнкі, цёплую хустку і сем спаднічак…

— Ах вось яно што! — закрычаў Абрахас. — Але я ведаю сродак супраць холаду, лепшы за сем спадніц!

— Лепшы за сем спадніц?

— Нашмат лепшы! Не быць мне крумкачом Абрахасам!

Маленькая ведзьмачка ўсё яшчэ не разумела яго.

— Скажы, калі ласка, — папрасіла яна. — Я, напэўна, згубіла ніць тваёй думкі, але не магу ўцяміць, што ты маеш на ўвазе. Ты можаш гаварыць без загадак?

— А хіба я гавару загадкамі? — перапытаў Абрахас. — Усё вельмі проста! Калі ты ўмееш вядзьмарыць і можаш дапамагчы гандляру іспанскімі клёцкамі, дык чаму не абараніць і сябе ад холаду немудрагелістым заклінаннем?

— Ах, праўда! — схапілася за галаву маленькая ведзьмачка. — Як я раней да гэтага не дадумалася? Ты маеш рацыю! Для гэтага ж і створана вядзьмарства!

— Вось-вось, — адказаў Абрахас. — Часам мне здаецца, што ты забываеш пра гэта… Але добра, што ў цябе ёсць той, хто табе пра гэта нагадвае!

Маленькая ведзьмачка пагадзілася з яго словамі і ўзрушана працягнула:

— Так-так, ты сапраўды самы мудры крумкач з усіх, што калісьці вылуплiваліся з яйка! Я паслухаюся тваёй парады. І калі хочаш, я скарыстаюся гэтым заклінаннем і для цябе, каб ты не мерз і не сядзеў дома, калі я лятаю ў горад.

— Дамовіліся, — адказаў Абрахас. — Ты можаш і для мяне зрабіць штонебудзь добрае.

І маленькая ведзьмачка адразу прачытала заклінанне. Цяпер, калі яны лёталі разам нават у самую лютую сцюжу, яны абсалютна не адчувалі холаду. Ім не трэба было больш цёпла апранацца, але пасля падарожжаў яны ўсё адно выпівалі па кубку смачнай зёлкавай гарбаты.

Яны выпраўляліся цяпер у падарожжы кожны дзень, абсалютна не баючыся ні насмарку, ні кашлю.

## Смелы снегавік

Быў сонечны, пагодны зімовы дзень. Неба зіхацела празрыстым блакітам. Снег быў бялюткім і чыстым, нібы навюткі льняны ручнік. Маленькая ведзьмачка і крумкач Абрахас грэліся на сонейку, седзячы на ўскрайку лесу. Раптам яны пачулі паблізу дзіцячую гаману і вясёлы смех. Маленькая ведзьмачка адправіла Абрахаса паглядзець, што адбываецца. Па вяртанні ён паведаміў:

— Дзеці, карапузы гадоў шасці-сямі. Лепяць снегавіка. Там, на лузе, за агароджай.

— Трэба паглядзець, — сказала маленькая ведзьмачка.

Да лугу было недалёка, таму яна пайшла пешкі.

Снегавік быў амаль гатовы. Нос яму зрабілі з даўжэзнай морквы, а вочы — з вугалькоў. Замест капелюша ў яго быў стары, прапалены чыгунок. У правай руцэ ён з гонарам трымаў мятлу.

Дзеці не заўважылі маленькую ведзьмачку, калі яна з'явілася з-за агароджы. Трымаючыся за рукі, яны весела танцавалі ў карагодзе вакол снегавіка і спявалі:

Снегавік, снегавічок,
Са сняжынак кажушок!
Чыгунок на галаве
І мяцёлачка ў руцэ,
З доўгай моркаўкі твой нос,
Не страшны табе мароз?

Маленькая ведзьмачка радавалася за цудоўнага снегавіка і за дзятву. Як ёй хацелася патанцаваць з імі ў карагодзе!

Але з лесу нечакана з'явіліся дарослыя хлопчыкі — усяго іх было сямёра. Яны з крыкамі кінуліся на снегавіка і разбурылі яго. Чыгунок яны ўтапталі ў снег, мятлу разламалі напалам, а потым кінуліся на дзяцей і пачалі націраць іх тварыкі снегам. Невядома, да чаго б яны яшчэ дадумаліся, калі б не маленькая ведзьмачка.

— Гэй вы, бэйбусы! — крыкнула яна раззлавана. — Ану, пакіньце дзяцей у спакоі! А то мятлой па спіне атрымаеце!

Дарослыя хлопчыкі разбегліся ў розныя бакі. Але прыгожы снегавік быў разбураны. Дзеці стаялі засмучана, апусціўшы галовы. Маленькая ведзьмачка разумела іх. Ёй захацелася суцешыць іх.

— А ці не зляпіць новага снегавіка?! — параіла яна ім. — Што думаеце?

— Ага, злепім новага снегавіка, а гэтыя хлопчыкі прыйдуць і зноў разбураць, — адказалі дзеці. — І да таго ж мятлы ў нас няма. Яны ж яе напалам разламалі.

— Вам толькі здаецца, што яна разламаная, — сказала маленькая ведзьмачка і схілілася над мятлой. — Вось глядзіце!

І тут дзеці ўбачылі, што мятла была цэлая.

— Спакойна ляпіце новага снегавіка, — супакоіла іх маленькая ведзьмачка. — Не бойцеся гэтых бэйбусаў! Калі яны з'явяцца зноў, яны атрымаюць ад мяне на арэхі! Абяцаю вам!

Дзеці супакоіліся і пачалі ляпіць новага снегавіка. Ён атрымаўся яшчэ прыгажэйшым, маленькая ведзьмачка таксама дапамагала.

Калі снегавік быў амаль гатовы — прайшло няшмат часу, — з лесу зноў выбеглі сямёра гарланістых бэйбусаў. Дзеці спужаліся і хацелі пусціцца наўцёкі.

— Не бойцеся! — крыкнула маленькая ведзьмачка. — Глядзіце, што зараз адбудзецца!

Хуліганы не здагадваліся, што іх чакала.

Снегавік смела пайшоў насустрач бэйбусам, трымаючы мятлу ў руцэ. З першага хлопца ён збіў шапачку, другога ўдарыў левай рукой па носе, трэцяга і чацвёртага падняў за каўнер і стукнуў ілбамі, пятага перакінуў праз шостага, ды так моцна, што яны яшчэ і сёмага павалілі з ног.

Калі ўсё бэйбусы ляжалі на снезе, снегавік схапіў мятлу і намёў над імі высачэзны сумёт.

Такога яны не чакалі!

Яны хацелі паклікаць на дапамогу, але снег трапляў ім у рот. Моўчкі цялёпкаліся яны ў сумёце. Калі яны нарэшце, абяссіленыя, выкараскаліся з сумёта, то адразу кінуліся ад жаху ў розныя бакі наўцёкі.

Дзеці радаваліся: цяпер бэйбусы ніколі не будуць перашкаджаць ім. Радавалася з імі і маленькая ведзьмачка, яна так смяялася, што слёзы паліліся з вачэй. Крумкач Абрахас нават трошку спужаўся:

— Супакойся! Супакойся! — груганіў ён. — А то ты зараз трэснеш ад смеху!

**Б'емся аб заклад!**

Як трапілі на заснежаную вясковую вуліцу двое негрыцянят? І з якіх часоў тут з'явіліся туркі і індзейцы? Туркі ў чырвоных фесках і шырокіх шараварах, індзейцы з размаляванымі тварамі і вострымі дзідамі!

— Напэўна, яны з цырка, — прагруганіў Абрахас.

Але негрыцяняты былі не з цырка, туркі і індзейцы — таксама. І маленькія кітаянкі, і людажэр, і эскімосы, і арабскі шэйх з важаком гатэнтотаў прыйшлі дакладна не з шапіто. Проста ў вёсцы святкавалі масленіцу! А на масленіцу дзецям не трэба ісці ў школу, таму яны пераапрануліся і пайшлі гурбою на вясковую плошчу.

Туркі запускалі рознакаляровыя серпанцінавыя стужкі. Важак гатэнтотаў гарланіў: «У-а-а-а! У-а-а-а!» Людажэр роў што ёсць сілы: «Жэрці! Жэрці! Хто хоча быць маім абедам?» Кітаянкі шчабяталі па-кітайску, эскімосы — па-эскімоску, каўбоі стралялі з лялечных пісталетаў. Трубачыст махаў картонным цыліндрам, Касперль* ляпаў бразготкай аб цюрбан арабскага шэйха, а разбойнік Ярамір корчыў такія грымасы, што яго прылепленыя вусы ўвесь час адвальваліся.

— Бачыш там маленькую ведзьмачку? — раптам спытаў Абрахас.

— Дзе там?

— Вунь там, перад домам са спічастым дахам! З мятлою стаіць!

— Ага, сапраўды! — узрадвалася маленькая ведзьмачка. — Трэба паглядзець бліжэй на яе!

Яна падбегла да масленічнай ведзьмачкі і павіталася: «Добры дзень!»

— Добры дзень! — адказала масленічная ведзьмачка. — Ці не мая сястра ты?

— Магчыма, — адказала сапраўдная маленькая ведзьмачка. — А колькі табе год?

— Дванаццаць. А табе?

— Сто дваццаць сем з паловай.

— Цудоўна! — узрадвалася масленічная ведзьмачка. — Трэба запомніць! Цяпер, калі ў мяне будуць пытацца пра ўзрост, я буду казаць, што мне дзвесце пяцьдзясят дзевяць гадоў і тры чвэрці!

— Але мне сапраўды столькі гадоў!

— Безумоўна! Веру табе! І вядзьмарыць ты ўмееш, і на мятле лётаць!

— Канечне, умею! — адказала сапраўдная маленькая ведзьмачка. — Б'емся аб заклад?

---

* Камічны персанаж нямецкага фальклору.

— Не, лепш не трэба, — адказала масленічная маленькая ведзьмачка. — Ты ж не ўмееш вядзьмарыць!

— Дык б'емся аб заклад? — спытала яшчэ раз сапраўдная маленькая ведзьмачка.

Тут масленічная ведзьмачка засмяялася:

— Гэй, кітаянкі-сяброўкі, негрыцяты-дружбакі і вясёлыя туркі, хадзіце сюды! Хадзіце ўсе сюды! Шэйх, эскімосы, людажэр! Хадзіце сюды! З'явілася маленькая ведзьмачка, якая ўмее лётаць на мятле!

— Неверагодна! — сказаў Касперль.

— Умее, умее! — крыкнула масленічная ведзьмачка. — Яна б'ецца аб заклад са мною! Няхай пакажа, праўда гэта ці не!

Дзеці абступілі абедзвюх ведзьмачак з усіх бакоў. Трубачыст, разбойнік Ярамір, Касперль і індзейцы, важак гатэнтотаў, туркі і негрыцяняты сабраліся ў гаманлівую, рагатлівую гурбу.

— Не трымай нас за дурняў! — крыкнулі эскімосы.

— Інача́й мы прывяжам цябе да ганебнага слупа! — прыгразіў індзеец Крывавая Хмара.

— Падманеш, — зароў людажэр, — я цябе з'ем! Чу-у-уеш мяне? Бойся мяне, мне хочацца жэрці!

— З'еш мяне, калі ты такі галодны, — адказала маленькая ведзьмачка, — але спяшайся, бо я хутка знікну!

Людажэр хацеў схапіць ведзьмачку за каўнер, але яна яго апярэдзіла, ускочыла на мятлу — шу-у-у-сь — і памчала высока па небе.

Людажэр ад страху плюхнуўся на азадак. Негрыцяняты, туркі, кітаянкі і эскімосы языкі праглынулі. У арабскага шэйха зваліўся з галавы цюрбан, разбойнік больш не корчыў грымасы, а смелы індзеец Крывавая Хмара стаяў збялелы, як снег. Негрыцяняты таксама збялелі ад страху, але гэтага ніхто не заўважыў, бо іх твары былі вымазаны пячной сажай.

Маленькая ведзьмачка прамчала, усміхаючыся, над вясковай плошчай, прызямлілася на дом са спічастым дахам і адтуль памахала дзятве рукой. Крумкач Абрахас падскочыў у яе на плячы і загруганіў:

— Гэй, вы, там, унізе! Цяпер верыце, што яна ўмее лётаць?

— І вядзьмарыць таксама! — дадала маленькая ведзьмачка. — Людажэр такі галодны…

Яна шчоўкнула пальцамі і нешта прамармытала сабе пад нос. І адразу на плошчу пасыпаліся ласункі: піражкі з павідлам, мядовыя пернікі! Дзятва з радаснымі крыкамі накінулася на пачастункі. Нават людажэр не адмовіўся ад піражка з павідлам, хоць ласункі не былі яго звычкай.

Толькі масленічная ведзьмачка нічога не з'ела. Яна глядзела ўслед маленькай ведзьмачцы і думала: «Не! Дзіва ўсё гэта… Але ёй, сапраўды, напэўна, сто дваццаць сем з паловай год!»

## Масленіца ў лесе

— Масленіца! Масленіца — цудоўнае свята! — прагруганіў крумкач Абрахас, калі яны вярнуліся дадому і чакалі, калі спякуцца яблыкі. — Шкада толькі, што ў нашым лесе яе не святкуюць!

— Масленіца ў нашым лесе? — перапытала маленькая ведзьмачка і адклала вязальныя спіцы ўбок. — Чаму гэта ў нашым лесе немагчымая масленіца?

— Не ведаю, — адказаў Абрахас. — Чаго няма, таго няма. Нічога не зменіш.

Маленькая ведзьмачка нічога не адказала, толькі ўсміхнулася: ёй прыйшла на розум цудоўная ідэя. Яна ўзнялася з зэдліка, паклала печаныя яблыкі на талеркі. Толькі пасля вячэры яна зноў загаварыла:

— Даражэнькі Абрахас, у мяне да цябе ёсць просьба… Ляці заўтра раніцай у лес і запрашай усіх звяроў, якіх сустрэнеш, да нашага дому!

— Абавязкова зраблю, як ты просіш, — адказаў Абрахас. — Але звяры будуць пытацца, чаму ты іх запрашаеш. Што мне ім адказаць?

— Адкажы, што я запрашаю іх на святкаванне масленіцы, — прамовіла маленькая ведзьмачка.

— Праўда?! — не паверыў сваім вушам Абрахас. — Ты сказала: на масленіцу?!

— Так-так, — паўтарыла маленькая ведзьмачка. — Я запрашаю ўсіх на масленіцу — на масленіцу ў лесе!

Узрушаны Абрахас пачаў задаваць адно пытанне за другім: якія цікавосткі яна прыдумала і ці будуць эскімосы з індзейцамі?

— Чакай, Абрахас! — сказала маленькая ведзьмачка. — Калі я табе зараз пра ўсё распавяду, заўтра будзе нецікава.

Наступнай раніцай Абрахас паляцеў у лес і запрасіў усіх звяроў у госці да маленькай ведзьмачкі.

— Чым больш прыйдзе звяроў, тым лепш, — сказаў Абрахас.

Пасля абеду лясныя жыхары памкнулі з усіх бакоў: вавёркі, казулі і зайцы, пара аленяў, тузін трусоў, чароды мышак.

Калі ўсе сабраліся, маленькая ведзьмачка прамовіла:

— Давайце святкаваць масленіцу!

— А як гэта робіцца? — прапішчалі мышкі.

— Сёння кожны павінны быць не тым, кім ён ёсць насамрэч, — растлумачыла маленькая ведзьмачка. — На вас не апранеш касцюмы кітайцаў ці туркаў, але я начарую вам не менш цікавае!

Яна трошку паразважала і пачала вядзьмарыць.

Аленям яна начаравала заечыя вушы, а зайцам — аленевыя рогі. Мышак яна павялічыла да памераў трусоў, а трусоў зменшыла да памераў мышак. Казулям яна расфарбавала поўсць у чырвоныя, блакітныя і зялёныя колеры, а вавёркам начаравала крумкачовыя крылы.

— А мяне? — крыкнуў Абрахас. — Спадзяюся, мяне не забудзеш?

— Безумоўна, не забуду! — адказала маленькая ведзьмачка. — Вось табе вавёрчын хвост!

Сабе яна начаравала агромныя савіныя вочы і конскія зубы. Цяпер яна выглядала гэтак жа агідна, як цётухна Румпумпэль.

Калі ўсе пераўтварэнні завяршыліся, можна было пачынаць святкаванне масленіцы. Але раптам за печкай пачуўся сіплы голас:

— Дазвольце і мне пасвяткаваць з вамі разам.

Звяры са здзіўленнем заазіраліся, і тут з-за печкі з'явіўся ліс.

— Мяне ніхто не запрашаў, — сказаў ён. — Але спадзяюся на добразычлівасць ляснога спадарства, што яно дазволіць мне паўдзельнічаць на масленіцы.

Зайцы спужана затрэслі рагамі, вавёркі ўскочылі на дах ведзьмачкінай хаткі, а мышкі, шукаючы паратунку, схаваліся за спінай маленькай ведзьмачкі.

— Ганіце яго! — закрычалі трусы. — Яго толькі тут не хапала! Ведаем мы хітрыкі гэтага прахвоста! Зараз ён асабліва небяспечны, бо мы зрабіліся вельмі маленькімі!

Ліс зрабіў выгляд, што пакрыўдзіўся:

— Лясное спадарства, хіба я недастаткова па-святочнаму апрануты? — віхляючы хвастом, ён звярнуўся да маленькай ведзьмачкі: — Дазволь мне застацца на свяце!

— Калі ты абяцаеш, што нікога не пакрыўдзіш.

— Абяцаю, — адказаў ён лісліва. — Даю слова. Калі я не стрымаю яго, усё жыццё буду грызці бульбу з буракамі!

— Гора-небарака! Мы не дапусцім такога! — прамовіла маленькая ведзьмачка.

Ніхто не верыў лісавым словам, таму маленькая ведзьмачка ў імгненне вока начаравала лісу качкаву дзюбу. Цяпер усе звяры маглі быць спакойныя, бо пры ўсім жаданні руды хітрун не зможа іх з'есці. Нават трусы яго больш не баяліся.

Святкаванне масленіцы цягнулася да позняга вечара. Вавёркі гулялі ў салкі, крумкач Абрахас лётаў над рознакаляровымі казулямі і гарэзліва кранаў іх сваіх пухнатым хвастом, трусы весела вадзілі карагоды акурат перад дзюбай ліса, а мышкі ўздымаліся на заднія лапы перад аленямі і пішчалі: «Не задавайцеся, вы не нашмат большыя за нас!» Але аленяў гэтыя словы не засмучалі, яны махалі сваімі заечымі вушамі і разважалі: «Масленіца ёсць масленіца!»

На небе з'явілася поўня, і маленькая ведзьмачка сказала:

— Прыйшоў час завяршаць наша свята. Але перад тым, як вы пойдзеце дадому, я пачастую вас святочнай вячэрай!

Яна начаравала аленям і казулям стог сена, вавёркам — поўны кошык лясных арэхаў, мышкам — зярнятак, а трусам і зайцам — палову качана капусты на кожнага. Перад вячэрай маленькая ведзьмачка вярнула ўсім звярам іх звычайнае аблічча, толькі ліс сядзеў з качынай дзюбай.

— Прабачце! — кракнуў ліс. — Пазбаўце мяне гэтай дзюбы! Казулі з аленямі частуюцца, а я галодны сяджу…

— Цярпі, — адказала маленькая ведзьмачка. — Не так хутка. Няхай усе пачастуюцца, а потым ты. Ведаеш з-за чаго…

Ліс мусіў чакаць. Нарэшце маленькая ведзьмачка вярнула і яму ранейшае аблічча. Узрадаваны ліс шчоўкнуў зубамі і накінуўся на каўбасы.

— Смачна? — пацікавілася маленькая ведзьмачка.

Ліс быў настолькі галодны, што набіў поўную пашчу каўбас — ні слова не мог вымавіць і толькі жмурыў ад асалоды вочы.

**Гулец у кеглі**

Сонейка пусціла зіму па сакавіцкай горцы. На рэчках раставаў лёд, на палях — снег. У лагчынах з'явіліся вясновыя кветкі. Вербачкі ўпрыгожылі срэбныя каташкі, а бярозавыя пупышкі ператварыліся ў зялёныя лісцінкі.

Таму не дзіва, што ўсе, каго сустракала маленькая ведзьмачка, мелі радасныя ўсмешкі на твары. Людзі радаваліся прыходу вясны, яны думалі: «Як цудоўна, што нарэшце скончылася зіма! Ну і намучаліся мы з ёй!»

І вось аднойчы маленькая ведзьмачка пайшла гуляць у поле. На ўскрайку яна заўважыла жанчыну — яна самотна сядзела і ледзь не плакала.

— Што ты тут робіш? — пацікавілася маленькая ведзьмачка. — Надвор'е цудоўнае, але ў цябе такі спакутаваны твар. Вясна прыйшла! Хіба не радасць?

— Вясна? — тужлівым голасам перапытала жанчына. — Ах! Сапраўды… Маеш рацыю. Але мне абыякава: зіма на двары ці вясна. Толькі турботы і сваркі ў маім жыцці. Лепш бы мне памерці і спачыць у гэтым полі.

— Ну… Што ты такое кажаш? Думаць пра смерць у такім маладым узросце! — крыкнула маленькая ведзьмачка. — Лепш распавядзі мне, што турбуе цябе, а там паглядзім, як табе дапамагчы.

— Ты мне не дапаможаш, — цяжка ўздыхнула жанчына. — Але я распавяду табе пра маё жыццё. Уся справа ў маім мужы. Ён цясляр. Гонтай і дранкай багацця не нажывеш, але і з голаду б сям'я не памерла, калі б мой муж не прайграваў усе зробленыя грошы на кеглях! Цэлы дзень зарабляе ён грошы не разгінаючы спіны, а потым спускае ўсё з дружбакамі ў карчме. Мне з дзецьмі ні грошыка не застаецца! Сіл больш няма! І думкі мае чорныя, як зямелька.

— А ты спрабавала пагаварыць з ім, растлумачыць? — спытала маленькая ведзьмачка.

— Гаварыла, упрошвала! Але валун лягчэй растапіць, чым яго сэрца! Кажаш яму — як аб сценку гарох!

— Словы не дапамагаюць, тады пойдзем іншым шляхам, — сказала маленькая ведзьмачка. — Прынясі мне, калі ласка, заўтра пасмачку валасоў твайго мужа. А там паглядзім…

Жонка цесляра зрабіла ўсё, як загадала маленькая ведзьмачка. Наступнай раніцай яна прыйшла на поле, аддала маленькай ведзьмачцы пасмачку валасоў і сказала:

— Сёння, калі мой муж спаў, я адрэзала гэтыя валасы. Вось, трымай! Але не разумею, што ты з імі будзеш рабіць.

— Ні ты, ні я нічога з імі не будзем рабіць, — адказала загадкавым голасам маленькая ведзьмачка. — Вяртайся дадому і адпачывай. Пазней пабачыш: не будзе больш твой муж гуляць у кеглі! Праз тыдзень скончацца яго паходы ў карчму!

Жанчына вярнулася дадому, не ведаючы, што яе чакае ў будучыні. Маленькая ведзьмачка пачала чараваць: яна зарыла на наступным скрыжаванні дарог валасы цесляра, прачытала заклінанне, а потым на пяску накрэсліла вядзьмарскі знак.

— Гатова! Цяпер жыццё цесляра зменіцца, — сказала маленькая ведзьмачка крумкачу Абрахасу.

У гэты ж вечар цясляр зноў накіраваўся ў карчму. Разам з іншымі гульцамі ў кеглі ён выпіў піва, а потым спытаў:

— Ну што, пачнём?!

— Пачнём! — загарлалі ўсе ў адказ.

— Хто будзе кідаць першым?

— Хто пытае, той і пачынае!

— Добра, — сказаў цясляр і ўзяў у рукі шар. — Зараз адным кідком саб'ю ўсе кеглі. Роўненька яны ўпадуць, глядзіце ўважліва!

Трапны прыцэл, кідок… Шар пакаціўся па кегельбане. Пачулася грукатанне, нібы стрэл гарматы — ба-бах! Ба-ба-ба-бах! Кегельбан нахіліўся, кеглі разляцеліся ў розныя бакі! Шар пакаціўся далей і прабіў вялізную дзіру ў сцяне.

— Гэй, цесля! — закрычалі ўсе гульцы. — Што ты робіш?! Хочаш кегельбан зламаць?!

— Дзіва нейкае, — прабурчаў цясляр. — Шар нейкі няправільны. Вазьму іншы.

Калі прыйшла яго чарга зноў рабіць кідок, атрымалася яшчэ горш, хоць ён і ўзяў самы лёгкі шар. Кеглі разляцеліся на аскепкі, з шумам праляцелі над галавой і прабілі яшчэ адну дзіру ў сценцы.

— Слухай, хлопча! — крыкнулі гульцы цесляру. — Кідай акуратней, інакш для цябе гульня будзе скончана!

— Я паспрабую! — прыцішана паабяцаў цясляр.

У трэці раз кінуў ён шар з такой асцярожнасцю, быццам гуляў першы раз у жыцці. Двума пальцамі штурхнуў ён шар па кегельбане. Бац-трах-бах! Шар праімчаў паміж кегляў і з усёй хуткасці ўрэзаўся ў слуп. Слуп надламіўся!

Пачуўся грукат! Трэскі ад слупа разляцеліся ва ўсе бакі. Столь абвалілася. Пасыпаліся бэлькі, дошкі, планкі, карнізы і цэгла. Было адчуванне, што пачаўся землятрус.

Гульцы ў кеглі, пасівелыя ад страху, пераглянуліся. Калі яны ўсвядомілі, што адбылося, яны схапілі са стала свае куфлі і з крыкамі накінуліся на цесляра: «Досыць! Пайшоў прэч адсюль! Мы не жадаем мець спраў з тым, хто шар у руках трымаць не можа! Гуляй у кеглі ў іншым месцы, але не з намі!»

Падзеі гэтага вечара паўтарыліся на заўтра і ў іншай карчме. Цясляр пайшоў у іншую вёску, але і там адбылося тое ж самае — пасля трэцяга кідку столь абвалілася. Піўныя куфлі і праклёны ляцелі ўслед цесляру-небараку. Мінуў тыдзень, ніводнай карчмы не засталося, адкуль бы не гналі цесляра. Дзе б ён ні з'явіўся, усюды чуў толькі: «О божухна! Збірайце кеглі і шары! Не падпускайце цесляра да кегельбана, а то будзе бяда!»

У рэшце рэшт нічога іншага не засталося цесляру, як назаўсёды забыць пра гульню ў кеглі. Цяпер па вечарах ён не хадзіў у карчму, а сядзеў дома. Спачатку яму гэта не падабалася, але паступова ён пачаў цаніць хатні дабрабыт. Закліналне маленькай ведзьмачкі падзейнічала.

Жонка і дзеці цесляра больш не галадалі — на душы маленькай ведзьмачкі была радасць.

### Заклінанне пад вязам

Крумкач Абрахас быў перакананым халасцяком, ён заўсёды любіў гаварыць: «Халасцяком жыць зручна. Па-першае, не трэба гняздо будаваць. Па-другое, не трэба сварыцца з жонкай. Па-трэцяе, не трэба з году ў год клапаціцца пра галодных крумкачанят. Корміш іх усё лета, а потым яны разлятаюцца ў розныя бакі. Я гэта ведаю ад маіх братоў і сясцёр, якія даўно ажаніліся і павыходзілі замуж, але нікому з іх я не зайздрошчу».

Любімага брата Абрахаса звалі Крэксам. Жыў ён у гняздзе на раскідзістым вязе, які рос на беразе Качынай сажалкі ў суседняй вёсцы. Абрахас лятаў да яго ў госці раз на год — паміж Вялікаднем і Тройцай. У гэты перыяд жонка Крэкса выседжвала яйкі, Абрахас мог спакойна пагаварыць з братам, пазней яму будзе не да размоў, усе думкі будуць занятыя толькі тым, як накарміць вечна галодных птушанят.

Але на гэты раз Абрахас вярнуўся ад брата расхваляваны — маленькая ведзьмачка заўважыла гэта і пацікавілася:

— З тваім братам Крэксам усё добра?

— На шчасце, пакуль што добра… — адказаў Абрахас. — Але мой брат з жонкай вельмі заклапочаныя. Па ваколіцах ужо некалькі дзён бадзяюцца два хлопцы, яны лазяць па дрэвах і разбураюць гнёзды. Пазаўчора яны скінулі на зямлю гняздо драздоў, а ўчора — гняздо сарок. Яйкі яны забіраюць сабе, а гнёзды выкідваюць у сажалку. Крэкс абсалютна разгублены. Калі гэта будзе працягвацца, то чарга дойдзе і да яго гнязда.

— Няхай брат Крэкс не хвалюецца! Ляці да яго і перадай ад мяне прывітанне! — сказала маленькая ведзьмачка. — Калі хлопцы пачнуць ускарасквацца

на яго вяз, няхай неадкладна паведаміць мне! Гэтыя гультаі атрымаюць ад мяне па заслугах!

— Сапраўды? Абяцаеш? — крыкнуў Абрахас. — Ты сапраўды добрая ведзьмачка! Галоўная ведзьма парадуецца за цябе! Я неадкладна палячу да Крэкса і ўсё распавяду!

Прайшло некалькі дзён, усё было спакойна. Маленькая ведзьмачка ўжо і не ўспаміналa пра двух разбуральнікаў гнёздаў. Але аднойчы ў канцы тыдня, пасля абеду, прыляцеў запыханы брат Крэкс.

— Яны там! Яны там! — груганіў ён з вышыні. — Неадкладна ляці за мной, маленькая ведзьмачка! Інaчай будзе позна!

Маленькая ведзьмачка ў гэты момант сядзела на зэдліку і малола каву. Яна паставіла кававы млынок на стол, ускочыла на мятлу і памчала з хуткасцю ветру да Качынай сажалкі. Браты Крэкс і Абрахас ледзьве паспявалі за ёй.

Хлопцы ўжо караскаліся па галінах старога лёма. Да крумкачовага гнязда можна было дастаць рукой. Жонка Крэкса закрыла гняздо крыламі і трымцела ад страху.

— Гэй вы, двое! — крыкнула маленькая ведзьмачка. — Што вы там робіце? Спускайцеся на зямлю!

Хлопцы спужаліся. Але потым яны ўбачылі, што пад дрэвам стаяла толькі нейкая маленькая бабулька. Адзін хлопец паказаў ёй язык, а другі скрывіў свінячую морду.

— Спускайцеся, я вам кажу! — прыгразіла маленькая ведзьмачка. — Інaчай будзе горш!

Хлопцы засмяяліся, а адзін з іх нахабна крыкнуў:

— Сама лезь сюды, калі зможаш! Мы будзем тут сядзець, пакуль нам не надакучыць! Бэ-э-э!

— Добра! — крыкнула ў адказ маленькая ведзьмачка. — Па мне дык заставайцеся наверсе!

Яна заклінаннем прыклеіла хлопцаў да дрэва. Цяпер яны не маглі караскацца ні ўніз, ні ўверх, яны замерлі на сваіх месцах, нібы прыраслі да галін.

Абрахас, яго брат Крэкс і жонка наляцелі на хлопцаў, яны білі іх крыламі, драпалі кіпцюрамі, шчыпалі дзюбамі, жывога месца на хлопцах не засталося! Ад адчаю разбуральнікі гнёзд так енчылі, што на іх крыкі збеглася палова вёскі.

— Божачкі, адкуль гэтыя крыкі? — спужана пыталіся людзі. — А, гэта ж сын краўца Фрыц і сын шаўца Зеп! Хацелі разбурыць крумкачовае гняздо? Вось няхай і атрымаюць па заслугах! Будзе ім навука! Нельга разбураць птушыныя гнёзды!

Ніхто не спачуваў хлопцам. Людзі дзівіліся, чаму Фрыц і Зеп не спускаюцца на зямлю, хоць крумкачы пакінулі іх у спакоі.

— Гэй вы, героі, спускайцеся ўніз! — крычалі людзі.

— Мы не можам! — заенчыў Зеп, а Фрыц зароў: — У-у-у, ай! Мы прыраслі да дрэва! Мы не можам зварухнуцца!

Нічога не заставалася рабіць, як выклікаць пажарную дружыну. Пажарныя прыставілі да вяза даўжэзныя лесвіцы і спусцілі абодвух небарак на зямлю. І пажарным гэта ўдалося вельмі лёгка толькі таму, што маленькая ведзьмачка зняла свае чары.

**На савеце ведзьм**

Па вядзьмарскім календары блізіўся канец года, а значыць, хутка будзе Вальпургіева ноч. Маленькая ведзьмачка зрабілася вельмі сур'ёзнай: дзень і ноч паўтарала яна ўсё, чаму навучылася. Яшчэ раз старонку за старонкай перачытала яна кнігу заклінанняў. Спраўна яна ўмела вядзьмарыць!

За тры дні перад Вальпургіевай ноччу прыляцела цётухна Румпумпэль. Яна спусцілася з чорнай хмары і сказала:

— Я прыляцела па даручэнні Галоўнай ведзьмы. Запрашаю цябе на савет ведзьм, які адбудзецца паслязаўтра апоўначы. Будзе экзамен. Ты павінна чакаць на перакрыжаванні за чырвоным валуном. Можаш і не прыходзіць!.. Падумай, ці трэба гэта табе!..

— А што тут думаць? — адказала маленькая ведзьмачка.

— Хто ведае? — паціснула плячыма цётухна Румпумпэль. — Магчыма, больш разумным будзе застацца дома. Я з задавальненнем перадам тваё выбачэнні Галоўнай ведзьме.

— Што? — закрычала маленькая ведзьмачка. — Я не сумняваюся! Але я не такая дурніца, як ты думаеш! Мяне не напужаеш!

— Хто не слухае парады, таму не дапамагчы, — адказала цётухна Румпумпэль. — Тады да паслязаўтра!

Крумкач Абрахас вельмі хацеў быць побач з маленькай ведзьмачкай на экзамене. Але савет ведзьм гэтага не дазваляў. Абрахас мусіў застацца дома. На развітанне ён пажадаў ёй шчаслівай дарогі.

— Не давай напужаць сябе! — крычаў ён ёй наўздагон. — Ты зрабілася добрай ведзьмачкай, а гэта самае галоўнае!

Дакладна апоўначы маленькая ведзьмачка стаяла на перакрыжаванні каля чырвонага валуна. Савет ужо сабраўся. Акрамя Галоўнай ведзьмы там сядзелі ветравая, лясная, тумановая ведзьмы, а таксама па адной ад іншых стыхій. Маланкавыя ведзьмы дэлегавалі цётухну Румпумпэль. Маленькая ведзьмачка была ўпэўненая ў сваіх сілах і моўчкі падумала: «Яна трэсне ад злосці, калі я здам экзамен і мне дазволяць патанцаваць на Блоксбергу!»

— Пачынаем! — грымнула Галоўная ведзьма. — Паглядзім, чаму навучылася маленькая ведзьмачка!

Ведзьмы па чарзе пачалі задаваць задачкі: яны прасілі начараваць вецер, маланку, перанесці чырвоны валун з поля, выклікаць лівень з градам — але ўсё гэта было вельмі лёгка. Маленькая ведзьмачка ніводнага разу не памылілася.

Нават калі цётухна Румпумпэль сказала: «Начаруй тое, пра што напісана на старонцы трыста дваццаць чатыры!», яна не разгубілася, бо ведала кнігу заклінанняў на зубок.

— Калі ласка! — спакойна адказала яна і начаравала тое, пра што было напісана на старонцы трыста дваццаць чатыры: навальніцу з шаравой бліскавіцай.

— Дастаткова! — грымнула Галоўная ведзьма. — Ты даказала, што ўмееш чараваць. Я дазваляю табе, хоць ты і вельмі маладая, танцаваць разам з усімі ў Вальпургіеву ноч… Ці на нашым савеце ёсць іншыя меркаванні?

Усе ведзьмы адмоўна заматлялі галовамі, і толькі цётухна Румпумпэль запярэчыла:

— Я супраць!

— У чым твая нязгода? — пацікавілася Галоўная ведзьма. — Цябе не пераканала яе вядзьмарскае майстэрства?!

— Справа не ў майстэрстве! Хачу засведчыць перад усімі прысутнымі, што яна — дрэнная ведзьма! — цётухна Румпумпэль выцягнула з кішэні фартуха сшытак. — Цэлы год я цішком назірала за ёй. У мяне ўсё запісана, чым яна займалася. Зараз я вам прачытаю…

— Можаш чытаць! — крыкнула маленькая ведзьмачка. — Мне няма чаго баяцца, калі ты не напрыдумляла!

— Зараз усё высветліцца! — адказала цётухна Румпумпэль і пачала зачытваць перад саветам пра ўсе ўчынкі маленькай ведзьмачкі, якія яна здзейсніла на працягу года: як яна правучыла злога лесніка і дапамагла бабулькам у лесе, пра дзяўчынку з папяровымі кветкамі, пра возніка каля карчмы і пра гандляра каштанамі, як выратавала ад смерці быка Карбініяна, не забыла цётухна Румпумпэль і пра снегавіка, і пра разбуральнікаў гнёзд.

— Распавядзі яшчэ пра цесляра! — крыкнула маленькая ведзьмачка. — Як змянілася яго жыццё!

Яна спачатку падумала, што цётухна Румпумпэль будзе гаварыць пра яе толькі дрэннае, але яна занатавала ў сшытак толькі добрае.

— Гэта праўда? — спытала Галоўная ведзьма, калі цётухна Румпумпэль згарнула свой сшытак.

— Безумоўна! Чыстая праўда! — з гонарам выпаліла маленькая ведзьмачка.

Ад радасці яна не заўважыла, што Галоўная ведзьма робіцца ўсё больш строгай і строгай. Не заўважыла яна, што астатнія ведзьмы ўсё больш задумліва хіталі галовамі. Таму маленькая ведзьмачка і напужалася, калі Галоўная ведзьма абурана ўскочыла і пачала крычаць:

— І вось гэтую нягодніцу заўтра я павінна дапусціць на гару Блоксберг?! Цьфу! Плюгаўка! Такой дрэннай ведзьмачкі свет не бачыў!

— Чаму дрэнная?! — спытала маленькая ведзьмачка са здзіўленнем. — Я рабіла толькі добрыя ўчынкі!

— Вось-вось! — прашыпела Галоўная ведзьма. — Добрымі ведзьмамі могуць звацца толькі тыя, якія заўсёды робяць дрэнныя ўчынкі! А ты са сваімі добрымі ўчынкамі — дрэнная ведзьма!

— А яшчэ… — лісліва працягнула цётухна Румпумпэль, — яна вядзьмарыла ў пятніцу! Яна зачыніла ўсе вокны, але я ўсё адно падглядала праз комін!

— Што?! — закрычала Галоўная ведзьма. — Яшчэ і гэта!

Яна схапіла маленькую ведзьмачку сваімі пацучынымі пальцамі і адцягала за валасы. Тут яшчэ з дзікімі крыкамі на маленькую ведзьмачку наляцелі астатнія ведзьмы і пачалі біць мётламі, пакуль іх не спыніла Галоўная ведзьма:

— Досыць! Я прыдумала лепшае пакаранне для яе!

Яна схілілася над маленькай ведзьмачкай і злым голасам прашыпела:

— Заўтра ты назбіраеш дроў для нашага вогнішча! Ніхто табе не будзе дапамагаць! Апоўначы ўсё павінна быць падрыхтавана. Потым мы прымацуем цябе да дрэва і ты будзеш стаяць і глядзець, як мы вяселімся ў карагодзе!

— Патанцуем, патанцуем! — дадала цётухна Румпумпэль. — А потым мы ператворымся ў маленькіх жабак і выскубем усе валасы на тваёй галаве! Вось будзе пацеха! Ад душы пазабавімся! Гэтую Вальпургіеву ноч ты надоўга запомніш!

**Хто смяецца апошнім…**

— Бядотны я крумкач! — прастагнаў Абрахас, калі маленькая ведзьмачка распавяла яму пра савет ведзьм. — Гэта я ва ўсім вінаваты! Я і толькі я! Гэта я табе раіў рабіць толькі добрыя ўчынкі! Ах, калі б я мог табе дапамагчы!

— Я сама ўсё зраблю, — адказала маленькая ведзьмачка. — Але я яшчэ не ведаю як… Толькі я ведаю, што прымацаваць мяне да дрэва ім не ўдасца!

Яна пабегла ў спальню, выцягнула з шуфлядкі кнігу заклінанняў і хутка пачала гартаць старонкі.

— А мяне возьмеш з сабой? — пацікавіўся Абрахас.

— Куды?

— На гару Блоксберг! Мне не хочацца адпускаць цябе адну.

— Дамовіліся, вазьму, — адказала маленькая ведзьмачка. — Але пры адной умове: дзюбу на замок і не перашкаджай мне!

Абрахас змоўк. Маленькая ведзьмачка ўважліва чытала кнігу заклінанняў. Час ад часу яна нешта мармытала сабе пад нос. Крумкач ні слова не разумеў, але баяўся спытаць.

Гэта працягвалася да вечара. Нарэшце маленькая ведзьмачка ўзнялася з зэдліка і прамовіла:

— Цяпер я ўсё ведаю! Ляцім на Блоксберг!

Калі яны прыляцелі, на гары не было ніводнай ведзьмы. Яны прыляцяць дакладна апоўначы. Гэты час замацаваны вядзьмарскім звычаем Вальпургіевай начы.

Маленькая ведзьмачка села на вяршыню гары і звесіла ножкі.

— Можа, пачнеш? — спытаў Абрахас.

— Пачынаць? — перапытала маленькая ведзьмачка. — З чаго?

— Трэба назбіраць дроў! Табе ж трэба сабраць цэлую гару дроў!

— Часу хапае! — адказала маленькая ведзьмачка і ўсміхнулася.

Абрахас не сунімаўся:

— Гадзіна засталася! На вежавым гадзінніку ў вёсцы прабіла адзінаццаць разоў!

— Хоць адзінаццаць з паловай! — адказала маленькая ведзьмачка. — Супакойся, вогнішча будзе падрыхтавана!

— Спадзяюся! — прагруганіў Абрахас.

Спакой маленькай ведзьмачкі яго здзіўляў. Ох, галоўнае, каб усё было добра!

Гадзіннік на вежы прабіў палову на дванаццатую.

— Спяшайся! — усхвалявана сказаў Абрахас. — Засталося трыццаць хвілін!

— Мне хопіць і пятнаццаці! — адказала маленькая ведзьмачка.

Без чвэрці на дванаццатую яна ўскочыла на ногі.

— Вось цяпер збіраем дровы! — сказала яна і прачытала заклінанне.

З усіх бакоў пачулася пырханне. Нешта заляскатала, забразгатала, забахкала. Нешта залётала кувырком, стрымгалоў пасыпалася з неба і вырасла на гары ў гурбу.

— Ого! — крыкнуў Абрахас. — Што я бачу! Гэта ж мётлы!

— Так-так, мётлы… Мётлы старэйшых ведзьм! Я іх усе сабрала тут сваім заклінаннем! Вось гэтая самая даўжэзная мятла належыць Галоўнай ведзьме!

— Што?.. Што гэта ўсё значыць? — спужана спытаў Абрахас.

— Я падпалю іх! — адказала маленькая ведзьмачка. — Убачыш, як яны ўспыхнуць! А цяпер мне спатрэбіцца і папера!

Яна прамовіла другое заклінанне.

У небе зноў зашумела, зашамацела. Нібы агромністая зграя кажаноў, залётала нешта над лесам, уздымаючыся вышэй і вышэй да вяршыні гары.

— Сюды! — крычала маленькая ведзьмачка. — Хутчэй! На вогнішча!

Гэта былі кнігі заклінанняў старэйшых ведзьм. Маленькая ведзьмачка ўсе іх сабрала.

— Што ты робіш?! — з жахам спытаў Абрахас. — Старэйшыя ведзьмы пакараюць цябе!

— Наўрад ці! — адказала маленькая ведзьмачка і прачытала трэцяе заклінанне.

Гэтае заклінанне было самым галоўным! Яно пазбавіла старэйшых ведзьм вядзьмарскай сілы! Цяпер яны нічога не змаглі зрабіць! І ніколі не навучыцца ім больш вядзьмарству, бо ўсе кнігі заклінанняў ляжалі на вогнішчы.

Гадзіннік прабіў апоўнач.

— Вось, цяпер можна пачынаць! — задаволена сказала маленькая ведзьмачка. — Ура! Вальпургіева ночка прыйшла!

Яна чыркнула запальніцай, якую купіла ў Якаба Дзешавяка, і падпаліла кнігі.

Лепшага вядзьмарскага вогнішча ў свеце і быць не магло! Языкі полымя з трэскам і шумам узняліся да самага неба!

Да рання танцавала маленькая ведзьмачка разам з Абрахасам вакол іскрыстага вогнішча. Цяпер яна была адзінай ведзьмай на зямлі. Толькі яна ўмела вядзьмарыць. Учора яшчэ дарослыя ведзьмы смяяліся з яе, а цяпер прыйшла яе чарга пасмяцца з іх.

— Вальпургіева ночка! — крычала ад радасці маленькая ведзьмачка. — Ура! Вальпургіева ночка!

*Пераклаў з нямецкай Арцём Арашонак*

# ГУМАР

## ФЕЛІКС БЕЙНЕР

### О вреде упоительности

Всё это восхитительно, друзья,
Как упоительны в деревне вечера…
*Лилия Забавленко*

Как упоительны в деревне вечера,
Я помню эти «чудные мгновенья»,
Как будто было всё вчера:
Картошка в печке — объеденье,
Ты — «мимолётное виденье»,
Мой «гений чистой красоты»…
Но обалденно пьян был ты,
Сказав, что нет меня желанней,
Ты вдруг «бежал быстрее лани»,
Как мышь от «Белого орла»,
А я… согласная была.



**ФЕЛІКС БЕЙНЕР**

Нарадзіўся 3 студзеня 1947 г. у в. Верхняе Крывіна Бешанковіцкага р-на. У 1968 г. скончыў фізмат Віцебскага педінстытута. Амаль 40 гадоў працаваў на Віцебскім заводзе электравымяральных прыбораў. Друкаваўся ў віцебскіх газетах, «Літаратурнай газеце», альманаху «Ратуша». Аўтар чатырох зборнікаў пародый: «По Сенькам шапка» (2010), «Фелькина грамота» (2012), «Сор из избы» (2014) и «Приглашение к улыбке» (2015). Жыве ў Віцебску.

## Дурная примета

Жемчужно светел в небе Млечный,
К чужому мужу я иду…
Не зря я в серый шёлк оделась,
Что отливает голубым…
*Наталья Литвинова*

Как сто пудов легло на плечи,
Я со свидания бреду.
Луна на небе, светел Млечный,
И соловьи поют в саду.

Мне не до звёзд и не до песен,
Не продохнуть, болит живот.
И лифчик вроде бы не тесен,
И юбка в поясе не жмёт.

Был ухажёр искусен в ласке,
Но, страсть мою разбередя,
На ухо, знать, боясь огласки,
Шепнул немного погодя:

«Ты не грусти, забудь обиду,
Прости, что юбка не снята.
Мужчина я, но только с виду —
Ориентация не та».

Ну как не верить мне приметам,
Я и не верила бы им…
Пиджак был серый, но при этом
Ведь отливал он голубым.

## Сделал дело — думай смело

О, блаженство — лежать на прокосе,
Запрокинув глаза в синеву,
И забыть про грядущую осень,
И не знать, для чего я живу!
Пусть плыву, взглядом падая в небо,
Дайте мне хоть чуть-чуть подремать…
*Станислав Сиволобов*

Не кошу, а лежу на прокосе,
С головою ушёл в синеву,

Потому как неясность в вопросе —
Для чего я на свете живу.

Прояснив это наполовину,
Я уснул, обнимая прокос.
А жена применила дубину,
По-житейски решая вопрос.

Для чего я живу, мне не ясно
Даже после побоев и сна.
Знаю только, что дрыхнуть опасно,
Если рядышком косит жена.

## Что помешало танцорке

…В лесу под звёздами, одна, танцую —
И надо мною кружится сова.
…Все для меня в лесу проснулись птицы,
Поют и просят: «Потанцуй ещё!»
…И ждут меня с тревогой домочадцы,
С испугом грустным караулят дверь.
*Наталья Соловьёва*

Во мне с зачатья была тяга к танцам,
Талант от Бога, стало быть, во мне.
Я с тягой этой не могу расстаться —
Пляшу и днём, и по ночам во сне.

Для куража частушки распеваю,
Где много, так сказать, народных слов,
И вот уже на пике мастерства я —
Чечётку сбацать — пара пустяков.

Бывает, недовольны домочадцы,
Таких без разговоров я — взашей.
Но тут соседи стали возмущаться,
В особенности с нижних этажей.

И я решила: к чёрту все раздоры,
Уйду в леса, где птицы да зверьё,
И там, в лесу, под птичьи разговоры
Явлю я миру мастерство своё.

Но вот удел великого таланта:
Непонятым и жить, и умереть…

В лесу сказали: «Раз пришла — и ладно,
На Лысую гору ходи ты впредь».

Не принесли мне счастья в жизни танцы,
Сова подохла, смотрит волком зверь…
И ждут меня с тревогой домочадцы,
С испугом грустным караулят дверь.

## Современный дикарь

Нелепая ревность сжигала меня…
Сипел я от злости, как в печке янтарь…
Бесился я, как первобытный дикарь…
*Анатолий Корчевский*

Сиплю я от злости, бешусь, как дикарь,
В руках непомерная сила,
Сейчас ты расскажешь, любимая тварь,
Про то, как ты мне изменила.

# МІХАСЬ МІРАНОВІЧ

*АПРАНУТАЯ ПРАЎДА*

## Апранутая праўда

З праўдаю
Заўсёды так трывае —
Асаблівасць
У яе адна:
Праўда
Толькі голаю бывае,
Апранецца —
Гэта ўжо мана.

## Жанчыны-натхняльніцы

Жанчыны нас
Заўсёды акрыляюць,
І нездарма ж
Асанну ім пяюць!..
Адны з іх нас
На подзвігі натхняюць,
Другія ж нам
Іх здзейсніць не даюць!..

## Не цэліўся...

Не запалохаюць
Напасці,



**МІХАСЬ МІРАНОВІЧ**

Нарадзіўся 18 лютага 1948 г. у в. Старына на Ушаччыне. Скончыў Вялікадолецкую сярэднюю школу і факультэт радыёфізікі Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Франко. Аўтар зборніка сатыры і гумару «Міранізмы» (2002), зборнікаў «Жартачкі» ў трох кнігах (2013, 2014, 2015), літаратурных пародый «Перасмешкі» (2016), іранічных мемуараў «Згадкі» (2017). Перакладае з украінскай і польскай. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Кандрата Крапівы за творы сатыры і гумару. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Я не звярну
З пуці свайго!..
У рай мне, мабыць,
Не папасці,
Ды я й не цэліўся
Ў яго!..

## Верш і проза

Верш злятае з пяра
На адзіным дыханні,
Верш ігрыстым бывае,
А проза — цвярозай.
Вершам звычна здаўна
Прызнавацца ў каханні.
А даносы
Пісаліся прозай…

## Бацькі і вуліцы

Усё, што лепшае
Ў дзіцяці, —
То гэтае
Ад бацькі з маці.
Ад вуліц — горшае:
З вякоў
У нас больш вуліц,
Чым бацькоў.

## Другое пакаленне

Дні пражытыя
Не бачны ў аддаленні,
Не вярнуць назад,
Заві ці не заві…
Падрастае ўжо
Другое пакаленне,
Што не ведала
Да партыі любві…

## Пераканаць жанчыну

Сябры-мужчыны,
Так стаіць пытанне,
І пра яго
Хачу пагаварыць:
Пераканаць жанчыну
Мы не ў стане —
Яе мы можам
Толькі ўгаварыць!..

## Разумны сумняваецца

Праходзяць гады,
І стагоддзе мінае,
Толькі ў жыцці
Усё так адбываецца:
Дурань заўсёды
Усё цвёрда знае,
Разумны нярэдка
У чымсь сумняваецца…

## Як любім?..

Згадзіцца з намі
Мусіш, ягамосць, —
Упэўнена пра гэта
Заяўляем:
Жанкі нас любяць гэткімі,
Як ёсць,
А мы ж — такімі іх,
Як уяўляем!..

## ДЗМІТРЫЙ РУБАНІК

### Как художник в столицу уезжал
*Рассказ из серии «Приветъ изъ Витебска»*

Капашов неспешно передвигался в направлении вокзала, вялым дефиле оправдывая фамилию.

До отхода шайтан-машины, коя в чреве своём утянет его в столицу, оставалось ровно семьдесят семь минут. И всю эту вечность от него требовался лишь один подвиг — пребывать в трезвости.

Подобную самоотверженность не в силах сыграть какой-нибудь Бельмондо. Как истово пьющий живописец, Капашов сей момент считал ренегатством, лишавшим его нервного здоровья. Но — слово дал в пыточной Союза художников. И пребывал в подвижничестве.

На нём ноне красовались новые штаны, в которых ещё плохо соображал, перекладывая из зепи в кишень липкий билет на поезд «Витебск — Народная-любовь-и-признание». В иссиня-чёрных кримпленовых брюках, похрустывая, призывно томилась командировочная наличность.

Вчера его макнули в глазурь сказки и посыпали шоколадом обещаний. Он облизнулся, но воспротивился уверованию.

Посудите: ещё третьего дня его обзывали маляром, понапрасну портящим холсты и переводящим краску, ныне на нём сверкают портки и приглашает сам Машеров. Давеча Машеров блуждал по выставке рисованых партизан. Тех застали врасплох: в землянках, в бою, в засаде, с конём, чисто портрет.

Остановился аккурат супротив партизана, талантливо зафиксированного Капашовым в масле. Далее — разночтения. То ли он потребовал доставить художника в резиденцию для совместного поедания копчёных куропаток под коньяк, то ли приказал нака-



**ДЗМІТРЫЙ РУБАНІК**

Нарадзіўся 7 траўня 1972 г. Аўтар зборнікаў «Просто стихи», «Одиночество по умолчанию», «Ничего слишком», зборніка апавяданняў «Приветъ изъ Витебска», «День чуда» і серыі кніг для дзяцей «Мася и Суня». Жыве ў Віцебску. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

зать мерзавца внеочередной выставкой. Поговаривают, употребил уйму модальных глаголов.

«Люди в сером» взяли под козырёк и разоблачили высокохудожественного негодяя. Искусствоведы тут же с отвращением обнаружили в камашовских сюжетах торжество колористики и силу линейных ритмов. Далее: спешно обзавели мастерской, обещали решить жилищный вопрос, картины втиснули в изысканный багет. И облачили в новёхонькие штаны. И это — за один день!

Капашов приближался к вокзалу, теребя незнакомые карманы.

На перроне поглядывал на часы глава городского художественного безобразия, пыхтел сизиф, загружая картины в купе, беззвучно чертыхалась бухгалтер, партбилетом отвечавшая за отправку тела. И «человек в сером», чья служба была не видна, но опасна, незримо режиссировал посадочную мизансцену…

Капашов неумолимо перебирал ногами.

На подходе к привокзальной площади полоснул взглядом глупое слово «рюмочная», что некстати зря тут зачем, и как-то само получилось, что он уже идёт дальше, унося внутри себя два по пятьдесят коньячка.

И переходит дорогу сообразно световому сигналу.

Остаётся каких-то сто метров до отправки в счастье, но упирается его слегка помутневший глаз бровью в телефонную будку. А в будке фиглярствует прямо в трубку невозможный кубический супрематист Соколов! Супрематисты недооценивают декадентствующих постмодернистов, но преломлению вина это не мешает.

Монолог Соколова прерывается, они сканируют друг друга. Соколов оттаивает и начинает изъясняться на хинди, деепричастный смысл сводится к обнаружению гардеробной метаморфозы. Капашов вскидывает указательный палец в небо и скромно выкладывает, кто оплачивает светский раут. Для усиления шокового эффекта извлекает из кармана кило банкнот.

Соколов ставит в известность, что билет, не прошедший процедуру макания в портвейн, недействителен. А лёгкое амбре усиливает свойства мазков станковой живописи. Но если в сей момент не возлить цекубы в горловую полость патрицию, то отгрести трюфелей по сусалу всё ж придётся. Дескать, порушен ритуал и нормы богонравия.

Капашов соглашается, церемония расставания не была досконально соблюдена. Не по протоколу. В привокзальном буфете они крупной купюрой пугают женщину за прилавком.

…чрез полчаса пред светлы очи возникает второй четвертак…

…через двадцать минут ещё один…

…и ещё…

# ЗМЕСТ

## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА

## ГУМАР

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# РАТУША

*Літаратурны альманах. Віцебск. 2018*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 09.07.2018. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 11,08. Ум. друк. арк. 19,44.
Наклад 200 асобнікаў. Зак. 271.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.